1930 г. № 25



# ПРАЦЫ

## Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

# ТРУДЫ

## Белорусского Государственного Университета.



# LES ANNALES

## de l'Université de la Blanch-Russie.

ФАКУЛЬТЭТ САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА і ПРАВА.

Выданьне Праўленьня Б. Д. У.
Менск — 1930

Праф. М. Канаплін.

# Прынцыпы пабудовы „карпарацыйнае“ дзяржавы.

## 1. Арганізацыйныя прынцыпы.

Уся структура „карпарацыйнае“ дзяржавы і яе арганізацыйныя прынцыпы выцякаюць беспасрэдна з вучэньня фашызму аб сучасным грамадзкім арганізьме, пабудаваным на ідэі нацыянальнай супольнасьці і адмаўленьні клясавае барацьбы. Успрымаўшы прынцып іерархізму, як сыстэму сувязі паасобных зьвеньняў арганізаванае свае магутнасьці, фашыстоўская тэорыя дзяржавы высоўвае гэты прынцып у аснову разьвіцьця дзяржаўнага кіраўніцтва. Трэба адзначыць, што гэты іерархізм мысьліцца, як іерархізм абраных элемэнтаў нацыі, іерархізм сацыяльных каштоўнасьцяй, што ажыцьцяўляюць сыстэму падпарадкаваньня менш складаных больш складаным і адказным адзінкам, на чале якіх знаходзіцца сам правадыр. Але, з тае прычыны, што нацыя павінна сваю актыўнасьць праяўляць у арганізаванай дзейнасьці, неабходна мець нейкую сілу, якая магла-б ажыцьцявіць розум і волю нацыі. Гэтаю сілаю і зьяўляецца фашыстоўская партыя, якая знаходзіцца на службе нацыі, але і адначасова зьяўляецца нацыянальнаю міліцыяю. Пры такіх суадносінах сіл, зразумела, партыя павінна цалкам супадаць з нацыяю, павінна цалкам яе прадстаўляць і кіраваць дзяржаваю. Уся арганізацыйная структура фашыстоўскае дзяржавы пабудавана паводле гэтага прынцыпу зрастаньня партыі і дзяржаўнага кіраўніцтва. Дыктатура фашыстоўскай партыі выпучваецца на кожным кроку. Усе вытворчыя, палітычныя і іншыя інтарэсы краіны падпарадкаваны выключна інтарэсам невялічкае кучкі людзей, якія ўсю сваю палітыку зьвязалі з лёсам разьвіцьця буйнага капіталу, якія ўсё прыносяць яму ў афяру.

Але гэты прынцып яднаньня партыі з дзяржаваю як нельга лепей выяўляе клясавую сутнасьць апошняе. Колькі разоў называючы сябе і партыю „кіруючаю клясаю“ і „мозгам краіны“, кіраўнікі фашызму гэтым самым ідэнтыфікуюць сябе з пануючаю клясаю. Сумнявацца ж у клясавым характары гэтага панаваньня не прыходзіцца, як не прыходзіцца сумнявацца і ў тым, што фашызм вельмі відавочны прыклад зрастаньня буржуазнае дзяржавы з гаспадаркаю. Гэта зусім адпавядае прынцыпу: „усё ў дзяржаве, нічога па-за дзяржаваю“. Але гэта адначасова азначае і тое, што ўсе грамадзяне—і капіталістыя, і пралетарыі—працуюць над дасягненьнем аднае і тае самае мэты,—павялічэньня багацьця і магутнасьці вытворцаў. Тутака, зразумела, без некаторых канфліктаў абыйсьціся нельга. Вырашаць гэтыя канфлікты прызвана дзяржава, інтарэсам якой падпарадкаваны ўсе інтарэсы як нацыі, так і паасобных індывідаў. Такім чынам, дзяржава павінна выступаць у жыцьці ў якасьці арбітра, узгадняючага інтарэсы розных груп грамады, інтарэсы якіх, аднак, паводле вучэньня фашызму, не павінны быць узаемна процілеглы. У гэтай справе грамадзе лепш за ўсё можа дапамагчы формула „карпарацыйнае“ дзяржавы, якая арганізуе інтарэсы розных вытворчых сындыкатаў, падпарадкаваных рашэньням прадстаўнікоў фашыстоўскай партыі, што стаяць на чале названых сындыкатаў. Гэта адзяржаўленьне прафэсыянальных саюзаў заканчвае круг ідэолёгічных прадпасылак, пакладзеных у аснову фашыстоўскай тэорыі дзяржавы.

* * *

Прайшоўшы шэраг акрэсьленых этапаў дзяржаўнага будаўніцтва, фашызм, як выразная дзяржаўна-праўная сыстэма, асnone на паказаных вышэй ідэолёгічных прадпасылках, аформліваецца толькі ў 1927-1928 г. г.

Дзеля таго, каб утварыўся ідэальны тып „карпарацыйнага ладу“, фашызму патрабавалася цэлае пяцігодзьдзе вельмі лютае рэакцыі, якая зьнішчыла ўсякую бачнасьць палітычнай апазыцыі, клясавыя прафсаюзы, рэвалюцыйныя арганізацыі, парлямантарызм з яго фармальна-дэмакратычнымі прынцыпамі. Толькі апошнія гады далі магчымасьць канчаткова ліквідаваць усякія канстытуцыйныя ільлюзіі, застаunion непарушнымі ў першыя гады панаваньня фашызму.

Першыя крокі фашызму робяцца ў рамках існуючай каралеўскай канстытуцыі, і фармальна ажыцьцяўляюцца мэ-

тады палітычнага панаваньня на аснове парлямантарнай сыстэмы. Трэба толькі ўспомніць абставіны прыходу да ўлады Муссоліні, каб уявіць сабе гэты першы этап разьвіцьця фашыстоўскае дзяржавы на аснове права і „законнасьці". Стары ўрад сам „выходзіць" у адстаўку, кароль „назначае" Муссоліні прэм'ерам, які таксама „канстытуцыйна" ўтварае габінэт міністраў, прычым урад зьявіўся коаліцыйным, а парлямант выразіў апошняму даверра. Усё на аснове дзеючай канстытуцыі. Фармальна „фашыстоўская рэвалюцыя" адбылася зусім бяскроўна і паводле чыннага права.

Вось чаму, паміж іншым, шэраг аполёгэтаў фашызму і Муссоліні ў розных краінах ня спыняюць гутарку аб праўнай ідэі фашызму, аб барацьбіту за захаваньне парадку і законнасьці ў краіне.

Так, нядаўна, пры абгаварэньні пытаньня аб зьмене польскай канстытуцыі, дэпутат сойму ад „Народнага Клюбу" — праф. Комарніцкі заявіў, што ідэя фашызму мае пад сабою вельмі многа рэальных умоў. Перш за ўсё фашызм—ідэя народная, а потым,—як-бы да гэтай ідэі не адносіцца—яна не адмаўляе праўных адносін. Комарніцкі ў падцьвярджэньне сваіх довадаў прыводзіць прамову Муссоліні ў італьянскім парляманце за 8/XI-1928 г., дзе ён адзначыў, што „сучасная дзяржава павінна быць моцнаю дзяржаваю, але моц павінна грунтавацца на праве і справядлівасьці". Бяз гэтае формулы Муссоліні не разумее ўрадавае палітыкі.[1])

Ня менш узьнёслыя дыфірамбы фашыстоўскай „справядлівасьці" і „шляхетнасьці" пяюцца нямецкім прафэсарам Мэліс.[2])

Калі першы пэрыяд панаваньня фашызму не ўяўляе сабою нічога характэрнага і арыгінальнага і захоўвае фармальна прынцыпы парлямантарызму, то ўжо далейшыя кро[illegible] новых дзяржаўных кіраўнікоў хуткім тэмпам вядуць да зьнішчэньня старых прынцыпаў дзяржаўнай структуры.

Трэба адзначыць, што ўжо хутка пасьля прыходу да ўлады, Муссоліні вельмі лёгка дабіўся пашырэньня праў ураду. Гэтае пашырэньне выразілася ў тым, што ўрад атрымаў права карыстацца надзвычайнымі паўнамоцтвамі для правядзеньня законаў у па-за парляманцкім парадку. Права выдаваць „закон - дэкрэты" (decreti—leggi) значна абмежавала правы парляманту, які сам санкцыянаваў гэтае права легальнага заканадаўства фашыстоўскаму ўраду. Атрымаўшы

---

[1]) „Gazeta Warszawska" № 17—1929 г.
[2]) Prof. G. Mehlis. „Die Idee Mussolinis". Leipzig. 1928 г. стр. 7.

„законным“ шляхам вельмі шырокія заканадаўчыя паўнамоцтвы, урад пачынае актыўна праводзіць палітыку санаваньня краіны. Парлямант, ператварыўшыся ў Маўра, зрабіў яшчэ адзін афіцыяльны жэст—ён дастаў працяжны „адпачынак“.

З гэтага часу пачынаецца імпэтны паход Муссоліні да дыктатарскіх паўнамоцтваў, канчаткова падарваўшых традыцыі старое дзяржаўнасьці.

Усё ж такі становішча фашызму аж да 1923 г. было не зусім устойлівым, што тлумачыцца досыць моцнаю яшчэ апазыцыяю з боку лібэральнай буржуазіі і некаторай часткі сацыялістых. Апроч таго, і ў самой фашыстоўскай партыі ў гэты час назіраецца некаторая тэндэнцыя да расколу, выкліканая адносінамі розных аб‘яднаных фашызмам груп да пытаньня аб канстытуцыяналізьме. Зьнішчыць усякую няўпэўненасьць у пытаньнях кіраўніцтва дзяржаваю павінен быў новы выбарчы закон 1923 г., на падставе якога Муссоліні ў 1924 г. правёў выбары, забясьпечыўшыя фашыстоўскаму ўраду толькі фармальную большасьць, але ня зьнішчыўшыя апазыцыі ў парляманце. Паводле гэтага закону тая партыя, якая сабрала на выбарах адносную большасьць галасоў, але ня менш 25% усіх галасоў, атрымоўвала не прапарцыянальна колькасьці галасоў, а $^{2}/_{3}$ парляманцкіх мейсц. Такім чынам фашыстыя вельмі лёгка забясьпечылі сабе 356 мандатаў з агульнае колькасьці 535 парляманцкіх месц. Дабіўшыся ажыцьцяўленьня фашыстоўскай дыктатуры і ў парляманце, Муссоліні паступова ад пазыцыі абараняльнай пераходзіць у наступленьне, усё больш захапляе галоўнейшыя вышыні ў дзяржаве і легалізуе свае рэпрэсіі і гвалт. „Фашыстоўская рэвалюцыя“ заканчваецца поўнасьцю ў канцы 1924 г. і ў пачатку 1925 г. Галаўнейшыя пасады ў дзяржаўным апараце, у арміі, у судзе, прафэсарскія катэдры ачышчаюцца ад апазыцыйных элемэнтаў і займаюцца фашыстымі. У кожнае міністэрства накіроўваецца сакратар, дэлегаваны фашыстоўскаю партыяю. Сам Муссоліні канцэнтруе ў сваіх руках усё больш і больш міністэрскіх партфэляў. Адбываецца „чыстка“ і адпаведная рацыяналізацыя дзяржаўнага апарату. Такое прапітваньне дзяржавы фашызмам ішло побач з шэрагам заканадаўчых мер, накіраваных на ўзмацненьне панаваньня буйнага капіталу. Усе гэтыя мерапрыемствы былі накіраваны, галоўным чынам, супроць лібэральнае дзяржавы, якую фашыстыя мелі намер перабудаваць бяз зьмены яе асноў. Але досыць цяжкі крызіс фашызму ў сувязі з забойствам Матэотті ў 1924 г. які зацягнуўся да 1925 г., прымусіў Муссоліні перайсьц да,

рашучага наступленьня па ўсяму палітычнаму фронту і прысьпешыць правядзеньне радыкальнай рэформы сыстэмы дзяржаўнага кіраўніцтва.

1925 год зьяўляецца годам канчатковага ўмацаваньня фашызму і рашучае яго згоды з буйнай буржуазіяй. У гэты-ж час пачынаецца афармленьне дзяржавы на „карпарацыйных" асновах.

Яшчэ ў пачатку году (студзень 31) спэцыяльным дэкрэтам прэм'ер-міністра была арганізавана спэцыяльная камісія з 18 чалавек для выпрацоўкі праекту перабудаваньня дзяржавы. У зьвязку з тым, што ў камісію ўвайшлі найвядомыя тэарэтыкі фашызму, рашэньні яе маюць вельмі буйнае значэньне, як для разьвіцьця фашыстоўскай дактрыны, так і для вывучэньня крыніц сучаснага буржуазнага дзяржаўнага ладу.

Распрацаваны камісіяю мэмарандум зачапляў, галоўным чынам, дзьве групы пытаньняў: 1) аб арганізацыі выканаўчай і заканадаўчай улады і 2) аб прафсаюзнай арганізацыі грамады і яе адносінах да дзяржавы. Гэты мэмарандум у далейшым лёг у аснову рэформ, праведзеных фашыстоўскаю дзяржаваю. Пачнем з другое групы пытаньняў. Да больш важных з іх належаць наступныя акты: 1) закон за 3/IV-26 г. аб праўнай арганізацыі каляктыўных працоўных адносін (Disciplina giuridica dei rapporti colletivi del lavoro) 2) дэкрэт за 2/VII-26 г. аб устанаўленьні міністэрстваў і карпарацый, 3) „Хартыя Працы" за 21/IV-27 г. (Carta del Lavoro). Гэта група законаў складае касьцяк „карпарацыйнага" ладу і зьмяшчае ў сабе асноўныя прынцыпы зрастаньня фашпрафсаюзаў з дзяржаваю.

Што-ж уяўляе сабою гэты „карпарацыйны" лад? Асноваю яго зьяўляюцца прадпрыемніцкія і рабочыя прафэсіянальныя саюзы (сындыкаты). Для атрыманьня юрыдычнага прызнаньня рабочаму саюзу досыць аб'яднаць адну дзесятую частку рабочых данае прафэсіі альбо вытворчасьці, а прадпрыемніцкаму—досыць аб'яднаць групу наймальнікаў, у якіх працуе адна дзесятая частка рабочых данае галіны прамысловасьці. Выбары службовых асоб гэтых прафарганізацый і самі саюзы пастаўлены пад суровы кантроль мясцовай і цэнтральнай улады. Законна прызнанымі саюзамі зьяўляюцца толькі фашыстоўскія сындыкаты, якім належыць выключнае права вядзеньня перагавораў і заключэньня каляктыўных згод (арт. 3 закону аб прафсаюзах). Усе законна прызнаныя саюзы маюць права загадаць ня толькі членам фашыстоўскіх сындыкатаў, але і не ўваходзячым у склад іх

асобам данай катэгорыі вытворчасьці плаціць штогодны ўзнос. Гэты апошні не перавышае для работадаўцаў разьмеру аднадзеннае заработнае платы ўсіх работнікаў, занятых у яго прадпрыемстве, а для рабочых і асоб, што займаюцца вольнаю прафэсіяю, ня больш заработнае платы аднаго рабочага дня. Сабраныя сумы ўносяцца ў мясцовыя дзяржаўныя скарбніцы і разьмяркоўваюцца па погляду дзяржавы, прычым 10% усяго фонду павінна пайсьці на патрэбы дзяржавы (арт. 5).

Структура фашыстоўскіх прафсаюзаў выражаецца ў наступным: утвораныя паводле абшчыннага, акруговага, правінцыяльнага, абласнога, міжабласнога і нацыянальнага прынтыпу аб'яднаньні, разьмяркоўваюцца па ступенях: 1) прафсаюзы, 2) фэдэрацыі прафсаюзаў, 3) конфэдэрацыі фэдэрацый і 4) конфэдэрацыі конфэдэрацый (карпарацый). Альбо прасьцей: сындыкаты яднаюць рабочых альбо работадаўцаў у мясцовым маштабе, фэдэрацыі—у абласным маштабе, канфэдэрацыі—у нацыянальным альбо агульнадзяржаўным. Нацыянальныя прафэсіянальныя фэдэрацыі групуюцца ў 13 конфэдэрацый (карпарацый), у лік якіх уваходзяць: 6 прадпрыемніцкіх і 6 рабочых у залежнасьці ад ліку 6 галін гаспадаркі. Трынаццатая карпарацыя ўстанаўляецца для асоб вольных прафэсій і работнікаў мастацтваў. Закон за 1 ліпеня 1926 г. паказвае падрабязнае разьвіцьцё арганізацыі гэтых карпарацый з аналізам іх палітычнае і эканамічнае існасьці.

Застаючыся вернымі прынцыпу іерархізму, аўтары закону не забыліся поўнасьцю падпарадкаваць ніжэйшыя арганізацыі вышэйшым. Карпарацыі ўтвараюцца паводле спэцыяльнага дэкрэту міністэрства карпарацый і разглядаюцца, як дзяржаўны адміністрацыйны орган, беспасрэдна падпарадкаваны міністэрству карпарацый, прычым міністр карпарацый можа скасаваць любое рашэньне саюзу. Побач з карпарацыямі пры міністэрстве функцыянуе Савет Карпарацый, які мае ў сваім складзе ня толькі прадстаўнікоў саюзаў, але і прадстаўнікоў ад розных міністэрстваў і некаторых фашыстоўскіх партыйных і грамадзкіх арганізацый. Натуральна, што ў рамках фашыстоўскай дыктатуры гэты міжведамсьцьвены орган робіцца моцным кулаком пануючае клясы.

Прыбраўшы да сваіх рук прафсаюзы, фашызм загадвае ім выкананьне вельмі адказных функцый дзяржаўнага парадку. Уласнасьць абвяшчаецца сацыяльнаю функцыяю, а праца—абавязкам індывіда ў адносінах да дзяржавы. Ад-

сюль на фашпрафсаюзы ўскладаецца: 1) абавязнасьць дапамагаць патрыятычнаму выхаваньню членаў саюзу, 2) прыміраць інтарэсы рабочых і прадпрыемцаў, 3) клапаціцца аб тэхнічным і арганізацыйным працэсе вытворчасьці (што значыць дапамагаць эксплятатацыі рабочых), 4) змагацца супроць лёкаутаў і забастовак. Гэткія арганізацыі як нельга лепей адпавядаюць патрэбам сучаснага буйнага капіталу. Яны аснова для ўтварэньня „міру ў прамысловасьці", яны апора нацыянальнае дзяржавы, зацікаўленае ў разьвіцьці „вытворчых тэндэнцый народу". Прасьцей кажучы, гэтыя сындыкаты і карпарацыі дазваляюць фашыстоўскай дзяржаве ажыцьцяўляць сваю эксплятататарскую палітыку і зьдзяйсьняць мерапрыемствы для ўзмацненьня свае загніваючае гаспадаркі. Яны-ж дапамагаюць палітычнай уладзе ўсё больш зрастацца з гаспадаркаю. Гэта выражана, паміж іншым, і ў залежнасьці сындыкату і яго дзейнасьці ад дзяржаўных органаў. Пачынаючы з зацьверджаньня старшыні сындыкальнага саюзу і канчаючы разглядам канфліктаў, узьнікаючых паміж рабочымі і работадаўцамі, усё залежыць ад рашэньня дзяржаўнага апарату. Фашызм ня хоча заставацца бесстаронным гледачом у дзяржаве, дзе клясавыя арганізацыі зацікаўлены ў зьмене існуючага ладу. Ён (фашызм) пераапраноўваецца ў тогу нацыянальнага судзьдзі, ліквідуе клясавыя прафсаюзы, душыць усе рэвалюцыйныя арганізацыі рабочае клясы і выступае актыўным збаўцаю разлагаючаеся капіталістычнае гаспадаркі.

З ня меншаю паступовасьцю і яшчэ з большаю перакапальнасьцю прынцыпы карпарацыйнага сындыкалізму запісаны ў памянутай вышэй „Хартыі Працы". Гэты дакумэнт фашыстоўскімі ідэолёгамі часта завецца „комплексам асноўных прынцыпаў рабочага права". У „Хартыі", выданай пазьней першых законаў аб прафсаюзах, заканчваецца праўнае і тэарэтычнае афармленьне фашыстоўскага сындыкалізму. У ёй асабліва яскрава выражан прынцып падпарадкаваньня клясавых інтарэсаў інтарэсам нацыянальнае дзяржавы і характар карпарацыйнае дзяржавы. Паміж іншым, тэкст „Хартыі" пачынаецца з падзагалоўку: „аб карпарацыйнай дзяржаве і яе арганізацыі". Карпарацыі ўтвараюць адзіную арганізацыю вытворчых сіл і поўнасьцю прадстаўляюць інтарэсы работадаўцаў і работнікаў і забясьпечваюць праўную іх роўнасьць (§ 6). Канкрэтнае-ж выражэньне салідарнасьці паміж рознымі фактарамі вытворчасьці можна знайсьці ў калектыўным працоўным дагаворы ў форме прымірэньня супроцьлеглых інтарэсаў работадаўцаў і работнікаў і падпарадка-

ваньне іх вышэйшым інтарэсам вытворчасьці (§ 4). Аб характары гэтай салідарнасьці і нават аб сутнасьці праўнае роўнасьці асоб, што ўваходзяць у карпарацыі, можна судзіць па § 23 „Хартыі", які надае права наймальнікам пры найме рабочае сілы выбіраць з ліку зарэгістраваных у бюро па найму, прычым перавага павінна давацца членам фашыстоўскай партыі і фашыстоўскіх сындыкатаў. Калі-ж дадаць да гэтага, што бюро па найму арганізуюцца на парытэтных падставах і падлягаюць кантролю карпарацыйных органаў, то стане зусім зразумелы сэнс „адзінства нацыянальных інтарэсаў", якія ахоўваюцца карпарацыямі. У гэтым карпарацыйным прынцыпе фашыстыя бачаць ажыцьцяўленьне вышэйшага прынцыпу калякктывізму і разьвіцьця духоўных сіл нацыі. Гэты „карпарацыйны дэмакратызм" альбо „інтэрнацыянальны сындыкалізм" павінен замяніць прынцыпы старога лібэралізму. Ідэя вольнасьці павінна ўступіць ідэі адказнасьці; іерархія павінна стаць на мейсца роўнасьці, братэрства павінна ўступіць сваё мейсца дысцыпліне.[1])

Не пералічаючы іншых прынад гэтага „карпарацыйнага ладу", трэба адзначыць, што буржуазія Італіі ўжо ў дастатковай меры ацаніла значэньне карпарацый і іх канстытуцыю—„Хартыю Працы".

І сапраўды, як не ацаніць рэформы, якая канчаткова разграміла клясавыя прафсаюзы, забараніла пад страхам астрогу забастоўку, зьнішчыла фабзавкомы, анулявала выгодныя для рабочых калектыўныя дагаворы, заключаныя клясавымі прафсаюзамі і г. д.

* * *

Ідэя карпарацыйнай арганізацыі грамады не зьяўляецца выпадковым элемэнтам тэорыі фашызму, зьявіўшымся толькі ў апошнія гады дзяржаўнага будаўніцтва капіталістычнай сыстэмы. Думка аб утварэньні спэцыяльных „нацыянальных і тэхнічных саветаў", у якіх маглі-б аб'яднацца прадстаўнікі разумовай і фізычнай работы, прамысловасьці, гандлю і землеробства, Муссоліні была выказана яшчэ ў 1919 годзе на арганізацыйным сходзе „фашы". Але тутака адбіваецца, пакуль што, уплыў звычайных сындыкалісцкіх тэндэнцый, пад чарамі якіх Муссоліні знаходзіўся досыць значны час. Асабліва глыбокае ўражаньне робіць на яго зьявіўшыйся

[1]) Bodrero Vittorie. „Dottrinali del Fascismo". 1927 г. стар., 34 і наст.

хутка дакумэнт, што зрабіўся на некаторы час канстытуцыяю фашызму —(la Carta di Carnaro) карнарская хартыя (альбо канстытуцыя Карнаро), напісаная д' Аннунцыо для Фіумэ, які ў той час знаходзіўся ў руках фашыстых. Гэты дакумэнт зьяўляецца цікавым таму, што ў ім, у агульным, запісаны ўсе прынцыпы, якія пазьней леглі ў аснову заканадаўства аб „карпарацыйным“ ладзе, і ў паасобку, „Хартыі Працы“. Важна адзначыць, што ў гэтым дакумэнце прыватная ўласнасьць прызнаецца „адною з карысных сацыяльных функцый“, праца разглядаецца, як вышэйшая форма грамадзкай дзейнасьці, вытворчыя-ж інтарэсы нацыі падпарадкоўваюць сабе індывідуальныя волі. Дзяржава таксама ўяўляе сабою шэраг вытворчых карпарацый. [1])

Да пытаньня аб арганізацыі „нацыянальных тэхнічных саветаў“ Муссоліні зьвяртаецца неаднакраць і пасьля захопу ўлады. Больш таго, гаворачы аб утварэньні нацыянальнае дзяржавы, у якой інтарэсы ўсіх вытворцаў былі-б аднолькава прадстаўлены, Муссоліні высоўвае ідэю „сындыкалісцкае дзяржавы“ (lo stato sindicale). Выпрацоўваецца нават часовы статут фашыстоўскіх сындыкатаў.

Конфэдэрацыя канстатуе, што грамадзкі парадак і лад можа разьвівацца толькі на аснове прафсаюзаў (sindicati); гэтыя-ж саюзы ўтвараюць аднолькавае прадстаўніцтва ўсіх кляс і катэгорый работнікаў: яны (саюзы) складаюць спэцыфічную сетку гаспадарчых і праўных адносін, якія адбіваюць усё ясьней агульныя сацыяльныя функцыі (арт. 5). Сындыкаты ўжо тады разглядаліся, як „справа ўсяе нацыі, гэтага вышэйшага сінтэзу ўсіх матар'яльных і духоўных каштоўнасьцяй расы“. Зразумела, што гэтым сындыкатам прысвойваюцца адміністрацыйна-дзяржаўныя функцыі (арт. 12). Усё настойлівей падкрэсьліваецца думка аб дзяржаўным „аматар'яльваньні“ карпарацыйных арганізацый. Шэраг дакумэнтаў начальнае эпохі панаваньня фашызму ідэнтыфікуе гэтыя арганізацыі з нацыяю. У аднэй з сваіх дэкларацый за 21/II-1924 г. Муссоліні адзначыў, што „як толькі карпарацыйныя арганізацыі атрымаюць канчатковае юрыдычнае афармленьне, не выключаецца магчымасьць утварэньня спэцыяльнага інстытуту, у якім будзе ажыцьцяўляцца сталае супрацоўніцтва з урадам“.

Адначасова наглядаецца ў літаратуры тэндэнцыя ўвязаць ідэю сучаснае карпарацыйнае дзяржавы з праўнымі

[1]) Marschak. „Der korporative und hierarchische Gedanke im Faschismus“. Archiv für Sozialwissenschaft und Sozialpolitik“. B. 52. S. 704—705.

і грамадзкімі інстытутамі сярэднявякоўя. У гэтым імкненьні знайсьці апраўданьне сучаснага ладу ў мінулым вялікасьці рымскай імпэрыі выражан імпэрыялістычны характар буржуазіі, якая ўзмоцнена культывуе думку аб давядзеньні сучаснай Італіі да межаў яе былога вялічча.

Ажыцьцявіць гэтую ідэю могуць толькі карпарацыі, асноўнаю задачаю якіх зьяўляецца выхаваньне вытворнікаў краіны ў духу новай агульнанацыянальнай маралі, г. ё. маралі адмаўленьня ад клясавай барацьбы.

Аднак пытаньне аб сутнасьці, арганізацыйных прынцыпах і юрыдычным значэньні сындыкатаў і карпарацый канчаткова ўрадам не вырашаўся да апошняга часу. Больш таго—неаднакраць ён ставіўся пад сумненьне, бо буйныя прадпрыемцы супярэчылі супроць некаторых праў і функцый гэтых сындыкатаў, мысьлячы, што новыя „прафсаюзныя“ аб‘яданьні будуць у некаторай ступені абмяжоўваць права эксплёатацыі капіталістымі. Патрабавалася досыць шмат часу і вельмі пераканальная актыўнасьць фашыстоўскага рэжыму, каб буржазія пераканалася ў бяскрыўднасьці новых аб‘яданьняў, хаця, як гэта ўбачым ніжэй, сапраўднага карпарацыйнага ладу няма яшчэ і да гэтай пары.

## 2. Рэформа сыстэмы кіраўніцтва.

Далейшы працэс фашызацыі дзяржавы шчыльнейшым чынам зьвязаны з памянутымі вышэй прынцыпамі „карпарызацыі“ інтарэсаў нацыі. Усе перабудаваньні цэнтральных і мясцовых органаў падпарадкаваны гэтай агульнай ідэі карпарацыйнасьці. Утвараючы універсальную інтэгральную сыстэму кіраўніцтва, фашызм праследуе дзьве мэты. Папершае, такая сыстэма дазваляе яму падпарадкаваць ўсе вытворчыя інтарэсы, а па-другое, палегчвае барацьбу з антыфашыстоўскімі тэндэнцыямі. Фашызм, адмаўляючы ўсякі дэмакратызм, дапушчае да дзяржаўнай сыстэмы толькі найбольш праверавых і надзейных асоб. Прычым гэтыя подступы да дзяржаўнага апарату павінны прайсці праз шэраг іерархічных ступеняк. Новая сыстэма дзяржаўнага кіраўніцтва таму павінна быць у дастатковай ступені простаю і даваць гарантыю палітычнага кіраўніцтва фашызму. Гэта сыстэма перш за ўсё павінна адбіваць ідэю моцнай нацыянальнай дысцыпліны, адзінства інтарэсаў і, нарэшце, падпарадкаваньне ўсёй палітыкі самому „дучэ“—носьбіту найвышэйшай волі дзяржавы.

Падобны тып дзяржаўнага кіраўніцтва зусім адпавядае сучаснай эпосе разьвіцьця монополістычнага капіталізму. Олігархіі капіталу павінна адпавядаць і палітычная олігархія, выражаная ў фашыстоўскай дзяржаве клясычнага тыпу ў зусім адкрытай форме цэнтралізацыі ўлады ў руках лепшых абранцаў акул капіталу. У такой дзяржаве можна нават адмовіцца ад гульні ў парлямантарызм. Тутака цэнтральнае і мясцовае кіраўніцтва павінна быць толькі прыдаткам кіраўнічай групы, прысвоіўшай выключную монополію палітычнага панаваньня. Ніякіх кампрамісаў, ніякіх ільлюзій. Рукі прадстаўнікоў „моцнай улады“ павінны быць зусім разьвязаны. Ніякіх перашкод у ажыцьцяўленьні крывавай оргіі разлагаючагася капіталізму. Апарат павінен быць скарыстаны прыстасоўна да інтарэсаў умацаваньня хістаючыхся падвалін існуючага ладу. А дзеля гэтага ўсе мэтады і ўсе сродкі добрыя. Вось чаму, пераходзячы да формаў адкрытай дытатуры з усімі яе вынікамі, буржуазія ў некаторых краінах ажыцьцяўляе вельмі цынічна і брутальна ліквідацыю парляманцкіх традыцый „добрага мінулага часу“.

* * *

Пачаўшы свой гістарычны шлях, як рух, які апіраецца на дробную буржуазію, фашызм у пачатку ня ставіў пытаньня аб зьмене сыстэмы дзяржаўнага кіраўніцтва і не рабіў спэцыяльных захадаў супроць італьянскага парлямантарызму. Больш таго. У першыя гады свайго панаваньня Муссоліні неаднакраць падкрэсьліваў неабходнасьць захаваньня канстытуцыі 1848 г., якая юрыдычна існуе і зараз. Неаднакраць прадстаўнікі фашыстоўскае дзяржавы заяўлялі аб тым, што „фашызм не злоўжывае сваёю ўладаю“. Але ўжо ў летку 1923 г. Муссоліні зьвярнуў увагу „фашыстоўскай нацыі“ на неабходнасьць зьмены існуючых парляманцкіх традыцый, не адмаўляючыся ад самога парляманту. Гэтая зьмена, па думцы правадыра, павінна была выразіцца ў тым, што ўрад у далейшым не павінен быць на повадзе ў парляманта. У кожным разе, гэта пакуль што толькі нашчупваньне глебы для далейшых мерапрыемстваў. Чым далей, тым больш выразнымі рабіліся фармулёўкі галавы ўраду. Асабліва рэзкія закіды супроць старое сыстэмы пачаліся ў 1924 г. і ў пачатку 1925 г., калі фашызм перажыў досыць сэр'ёзны крызіс. Канец 1925 г. адзначыўся законам аб абавязнасьцях і прэрогатывах галавы ўраду (Capo del governo). Гэты закон фактычна передае ўсю ўладу ў дзяржаве прэм'ер-міністру,

г. з., Муссоліні, і гэтым самым парлямант, як орган заканадаўчы, набывае другараднае значэньне,—з ім можна ўжо сэр'ёзна не лічыцца. Адсюль адзін толькі крок да скасаваньня адбыўшага сваю службу прадстаўнічага органу. Названы закон дае галаве ўраду права ставіць на павестку дня пасяджэньняў абедзьвюх палат любое пытаньне. Больш таго,—ніводная справа ня можа быць пастаўлена на гэтую павестку дня без яго дазволу. Галава ўраду апроч таго мае права патрабаваць, каб заканапраект, адкінуты аднэю з дзьвюх палат, быў ізноў пастаўлены на галасаваньне пасьля таго, як з часу першага галасаваньня прайшло, прынамсі, тры месяцы. У такім разе прыняцьце заканапраекту вырашаецца бяз спрэчак, тайным галасаваньнем (арт. 6).

Прэм'еру-ж дадзена права патрабаваць, каб заканапраект, адкінуты аднэю з палат, быў перададзены на разгляд і галасаваньне ў другую палату (арт. 6).

Заключны артыкул па сутнасьці касуе існуючую канстытуцыю, заяўляючы аб тым, што „ўсе пастановы, што супярэчаць гэтаму закону,касуюцца“ (арт. 10). Усьлед за выданьнем названага закону 31 студзеня 1926 г. зьяўляецца другі закон, які значна пашырае прэрогатывы выканаўчай улады, надаючы апошняй права выдаваць юрыдычныя нормы. Прычым асаблівую важнасьць набываюць нормы альбо правілы, якія маюць сілу закону. Гэтыя правілы папярэдня павінны быць абмяркованы ў габінэце міністраў; яны-ж маюць сілу ў двух выпадках: 1) калі ўрад упаўнаважаны на гэта законам і ў межах гэтых паўнамоцтваў і 2) у выключных выпадках, калі гэта патрабуецца неадхільнаю і безумоўнаю неабходнасьцю (арт. 3).

Зусім зразумела, што гэты закон дае неабмежаваную ўладу выканаўчай уладзе над заканадаўчай, асабліва, калі ўзяць пад увагу, што 1) галава ўраду адначасова зьяўляецца і прызнаным нацыяю правадыром, які не выбіраецца і нікім не назначаецца, а паводле права дужага займае становішча кіраўніка дзяржавы і 2) што італьянскі парлямант у сучасны момант (калі гэты орган наогул можна назваць парлямантам) зьяўляецца загадзя падабраны сінкліт фашыстоўскай арганізацыі, які таксама беспасрэдна падпарадкоўваецца дучэ і з ім заўсёды салідарны.

Такім чынам аб існаваньні старое канстытуцыі з яе парляманцкімі традыцыямі ўжо не прыходзіцца гаварыць. Альбо вярней, трэба гаварыць аб грунтоўнай зьмене старое канстытуцыі і аб яе фашызацыі.

І сапраўды: прэм'ер-міністр назначаецца і адклікаецца каралём і не зьяўляецца адказным перад парлямантам за агульную палітычную лінію сваёй дзейнасьці; галава ўраду ўжо ня першы сярод роўных, а галава кіраўніцтва, вярней— галава дзяржавы, які мае права знаходзіцца на чале шэрагу міністэрстваў. У яго руках, такім чынам, можа быць сканцэнтравана неабмежаваная ўлада. [1]) Да гэтых пор італьянская канстытуцыйная практыка ведала выпадкі, калі прэм'ер альбо іншы міністр замяшчалі толькі адзін партфэль, а зараз гэтае права сумяшчэньня і сумяшчэньне неабмежаванае колькасьці партфэляў дадзена выключна Capo del governo; ён-жа нясе ўсю адказнасьць за палітыку дзяржавы і не прызнае жаднае салідарнае адказнасьці.

Рэформа дзяржаўнае сыстэмы ідзе паралельна са зьменаю характару сыстэмы мясцовага самакіраўніцтва і ў бок узмацненьня выканаўчае ўлады.

Перш за ўсё гэта выразілася ў тым, што акруговая прэфэктура [2]) атрымала пашыраныя правы. Закон 3 красавіка 1926 г. так і называецца—„пашырэньне праў прэфэктаў (estensione delle attributioni dei prefetti). У студзені 1927 г. гэты закон яшчэ больш разьвіваецца і адначасова ўдакладняюцца абавязкі прэфэктаў. Прэфэкт з гэтага часу зьяўляецца самым высокім аўтарытэтам дзяржавы ў сваёй акрузе і, як такі, павінен у адпаведнасьці з агульным палітычным напрамкам цэнтральнага ўраду, сачыць за выкананьнем дырэктыў цэнтру. Да паслуг прэфэктаў, як належыць у карпарацыйнай дзяржаве, заўсёды гатовы, так званыя, акруговыя гаспадарчыя саветы, якія даюць адміністрацыйнай уладзе вытворчую аснову. Кантроль прэфэкта над усімі арганізацыямі і паасобнымі грамадзянамі ў акрузе паўнейшы—ён павінен цікавіцца ўсімі выяўленьнямі нацыянальнага інтарэсу на сваёй тэрыторыі. Гэтаму-ж уважліваму кантролю падлягаюць і муніцыпальныя саветы, арганізаваныя замест існаваўшых да гэтага муніцыпальных установаў, якія выбіраліся на аснове прынцыпаў буржуазнай дэмакратыі. Падобныя абшчынныя ўстановы паказаліся кіраўнікам фашыстоўскае дзяржавы недазвольна лібэральнымі і адарванымі ад агульнай сыстэмы адміністрацыйнага кіраўніцтва. Апроч таго, пасьляваенныя годы паказалі вельмі моцную апазыцыйнасьць, асабліва сельскіх абшчын. І ня толькі апа-

---

[1]) У свой час Муссоліні стаяў на чале наступных міністэрстваў: унутраных спраў, замежных спраў, ваенных, авіяцыі і карпарацый. Апроч таго, ён стаіць на чале „нацыянаьнай фашыстоўскай міліцыі".

[2]) Уся Італія падзелена на 92 акругі (правінцыі).

зыцыйнасьць. Неаднакрацьнамячаліся спробы гэтых органаў самакіраўніцтва весьці сваю ўласную палітыку, арганізоўваць навакол сябе рэвалюцыйна настроеныя слаі працоўных, усіх незадаволеных існуючым ладам. Але што асабліва трывожыла ўрад і адміністрацыйнае кіраўніцтва, дык гэта тое, што ў гэтых органах вельмі часта з вялікае колькасьці выпадкаў атрымоўвалі на выбарах большасьць не прадстаўнікі фашыстоўскай партыі, а прадстаўнікі рэвалюцыйнага пралетарыяту.

У зьвязку з гэтым і ў выніку агульнай фашызацыі усёй дзяржаўнай сыстэмы, урад выдае два дэкрэты (люты і верасень 1926 г.) аб увядзеньні подэстальнай сыстэмы, якая дае некаторым аўтарам права гаварыць нават аб подэстальнай канстытуцыйнай сыстэме. [1]) Гэта сыстэма значна абмяжоўвае ўплыў абшчынных органаў самакіраўніцтва, бо, паводле закону аб подэстах, абшчыны з насельніцтвам менш за 5000 чалавек пазбаўлены права абраньня муніцыпальнага савету. Пытаньне аб неабходнасьці апошняга ў такіх абшчынах вырашаецца самім прэфэктам акругі. Некалькі маленькіх абшчын, якія не налічваюць разам 5000 жыхароў, кіруюцца даным подэстам.

Якія-ж функцыі і праўнае становішча подэста?

Яны, перш за ўсё, не зьяўляюцца выбранымі органамі італьянскай абшчыны, страціўшай, такім чынам, сэнс самакіруючайся адзінкі. Ідэя цэнтралізацыі ўлады прымусіла пануючую клясу „інтэграваць“ сыстэму мясцовага самакіраўніцтва і цэнтральнага палітычнага кіраўніцтва ў асобе назначаемых дзяржаўных „абшчынных“ чыноўнікаў—подэста (podesta). Подэста назначецца каралеўскім дэкрэтам тэрмінам на 5 год. Ён можа быць зацьверджаны і на наступную пяцігодку. Подэста поўнасьцю замяняе функцыі ранейшых абшчынных стараст, гарадзкіх галоў (sindaco). Але гэтыя функцыі выконваюцца пад непаслабным наглядам і ў адпаведнасьці з дырэктывамі памянутых вышэй прэфэктаў. У абшчынах, дзе насельніцтва перавышае 20.000 чал., міністэрства ўнутраных спраў можа назначыць у дапамогу подэста да двух віцэ-подэста. Усе застаўшыяся на працы пасьля роспуску выбарных абшчынных органаў абшчынныя сакратары абвешчаны дзяржаўнымі чыноўнікамі, падпарадкаванымі кантролю акруговых прэфэктаў. У Нэаполі і Рыме замест подэста назначаюцца губэрнатары са значна боль-

---

[1]) Dr. Gerhard Leibholz. „Zu den Problemen des faschistischen Verfassungsrechts“. Leipzig. 1928 г., стар. 34.

шымі правамі. Перш за ўсё гэта выражаецца ў характары прадстаўніцтва ўлады. У той час, як подэста падсправаздачны мясцовай акруговай уладзе, губэрнатар падпарадкаван беспасрэдна цэнтральнаму ўраду. Подэста спэцыяльнае пэнсіі не атрымоўвае, што гаворыць аб тым, што гэты дзяржаўны чыноўнік павінен быць досыць матар'яльна забясьпечаным чалавекам. На пасаду подэста можа быць назначаны ўсякі італьянскі грамадзянін, які ня мае за сабою судзімасьці і адпавядае шэрагу ўмоў. Перш за ўсё ён павінен мець дыплём сярэдняе альбо вышэйшае навучальнае ўстановы. Калі-ж у кандыдата няма неабходнага адукацыйнага цэнзу, то трэба мець наступныя даныя для назначэньня: 1) служба ў арміі ў эпоху сусьветнай вайны у якасьці афіцэра альбо унтэр-афіцэра, 2) нясеньне на працягу апошніх 6 месяцаў абавязнасьцяй гарадзкога галавы альбо прэфэкта. Усё гэта дае фашыстоўскай сыстэме дзяржаўнага кіраўніцтва магчымасьць падабраць найдзены чалавечы матар'ял.

Адначасна с выданьнем закону аб увядзеньні подэста (4/II-1926 году) устанаўляецца яшчэ другі інстытут—муніцыпальны савет альбо консульта (consulta municipale). Консульта арганізуецца на правох абавязковага дарадчага інстытуту ў абшчынах з колькасьцю большаю за 20.000 чал. У абшчынах з меншаю колькасьцю насельніцтва яны арганізуюцца па погляду прэфэкта. Кандыдаты ў члены консульта выбіраюцца мясцовымі сындыкальнымі саюзамі, якія выдзяляюць па 3 чалавекі ад кожнага саюзу. Лік членаў консульта вызначаецца альбо прэфэктам, альбо міністрам унутраных спраў, у залежнасьці ад колькасьці насельніцтва данай абшчыны. Так, у абшчынах да 100.000 чал. насельніцтва назначаецца да 6—24 членаў муніцыпальнага савету, а ў вялікіх гарадох—24—40 чалавек. Консульта альбо муніцыпальныя саветы нібы дэмакратызуюць спэцыфічную сыстэму фашыстоўскага „самакіраўніцтва". Па сутнасьці-ж яны яшчэ раз падкрэсьліваюць зрастаньне вытворчасьці з дзяржаваю і ліквідацыю былога прынцыпу вольна самакіруючайся італьянскай абшчыны. Гэта асабліва відаць з палажэньня, што пры разнагалосьсях паміж подэста і консульта апошняе рашаючае слова належыць прэфэкту—дзяржаўнаму чыноўніку, свайго роду губэрнатару. Падобнаю арганізацыяю мясцовых органаў улады дасягаецца і адзін з важнейшых прынцыпаў фашыстоўскай сыстэмы—прынцып іерархізму. Гэта асабліва лёгка ажыцьцявіць, калі адмовіцца ад прынцыпу выбарнасьці. Утвараецца дысцыплінаваны дзяржаўны апарат, які не падпадае дэзарганізуючаму ўплыву партыйнае

барацьбы дэмакратычных рэспублік і наогул краін з парлямантарнаю сыстэмаю. Вялікая перавага для сучаснай эпохі фінансавага капіталу. У зьвязку з гэтаю традыцыяю іерархізму і ўстанаўленьнем прынцыпу „абранае меншасьці“ (проста стаўленікаў фашызму) павінна зьмяніцца і ўяўленьне аб сувэрэнітэце. Калі ў краінах „дэмакратычных“ сувэрэнітэт афіцыяльна знаходзіцца ў руках „народу“, то паводле фашыстоўскай тэорыі дзяржавы ён павінен перайсьці ў рукі гэтае „абранае меншасьці“ (élite). Асабліва гэта перамяшчэньне сувэрэнітэту адбіваецца, як мы ўбачым ніжэй, у новай сыстэме выбарчага права.

Дзеля таго, каб замацаваць „перамогу“ новай сыстэмы, неабходна было разьвіць актыўнае заканадаўства па зьнішчэньні ўсякае „ўнутранае зрады“, а потым ужо перайсьці да канчатковага афармленьня новага дзяржаўнага ладу. Адзін за другім выдаюцца законы, якія моўчкі падцьвярджаюцца „парлямантам“.

* * *

У лістападзе 1927 г. вялікі савет фашыстоўскай партыі распрацаваў новы закон аб „нацыянальным прадстаўніцтве“. Сэнс гэтае рэформы заключаецца ў тым, што новы парлямант ужо не зьяўляецца выбарнаю арганізацыяю, а складаецца вельмі камбінаваным спосабам. Яшчэ 26 мая 1927 г. Муссоліні ў сваёй прамове заявіў, што ён ня мае намеру канчаткова пахаваць усеагульнае выбарчае права. Гэтае абяцаньне ён далей і выканаў. Закон 17 мая 1928 г. аб „рэформе палітычнага прадстаўніцтва“ заканчвае шэраг этапаў па ліквідаваньні старога парляманту. Гэты закон пакуль яшчэ не гаворыць адчынена аб рэформе парляманту, а мае на ўвазе толькі р э ф о р м у в ы б а р ч а г а з а к о н у.

Новы закон уводзіць сваёасаблівую мажорытарную сыстэму выбараў, паводле якой „усё каралеўства складае адну нацыянальную выбарчую акругу, з лікам дэпутатаў ад усяго каралеўства ў 400 чалавек. (арт. 1). В ы б а р ы - т р о х с т у п е н н ы я: 1) па прапанове нацыянальных конфэдэрацый, юрыдычных асоб і асацыяцый, прызнаных законам, 2) па назначэньні нацыянальнага вялікага фашыстоўскага савету і 3) з ухваленьня выбарчага корпусу (арт. 2, 3 і 4).

*Першы этап.* Трынаццаць фашыстоўскіх конфэдэрацый прапануюць агульны сьпіс кандыдатаў у падвойным ліку супроць падлягаючых абраньню дэпутатаў. Прапановы кандыдатаў па кожнай конфэдэрацыі робяцца адпаведным генэ-

ральным альбо нацыянальным саветам. Сходы для абгаварэньня высоўваемых кандыдатаў адбываюцца ў Рыме. Выбраным лічыцца кандыдат, які атрымаў найбольшы лік галасоў.

Пратакол сходу і вынікі галасаваньня складаюцца каралеўскім натарыусам (арт. 3).

Характэрным у зазначаным палажэньні зьяўляецца тое, што тутака адсутнічае выбаршчык. Замест яго ўдзельнічаюць арганізацыі, якія зрасьліся з дзяржаваю. Заканчвае справу гэтага першага этапу дзяржаўны натарыус, які сымбалізуе добранамернасьць і добранадзейнасьць дзеяньняў конфэдэрацый.

Лік кандыдатаў, якіх кожная нацыянальная конфэдэрацыя можа прапанаваць на 100 сваіх кандыдатаў, разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Нацконфэдэрацыя | сельскіх гаспадароў | 12 | чал. |
| 2. | „ | служ. і рабочых сел. гаспадаркі . . . | 12 | „ |
| 3. | „ | прамыслоўцаў . . | 10 | „ |
| 4. | „ | служ. і рабочых прамысловасьці . . . | 10 | „ |
| 5. | „ | гандляроў . . . . | 6 | „ |
| 6. | „ | служачых і рабочых гандлю . . . . . | 6 | „ |
| 7. | „ | прадпрыемцаў у галіне марскога і паветранага транспарту. | 5 | „ |
| 8. | „ | служ. і рабочых гэтых відаў транспар. | 5 | „ |
| 9. | „ | прадпрыемцаў па сухаземнаму і ўнутран. транспарту . | 4 | „ |
| 10. | „ | служ. і раб. гэтага віду транспар. . . | 4 | „ |
| 11. | „ | ўласьнікаў банкаў . | 3 | „ |
| 12. | „ | банкаўскіх служ. . | 3 | „ |
| 13. | „ | асоб вольных праф. | 20 | „ |

Прыведзеная табліца далучана да закону за 17 мая 1928 г. і падпісана „паводле распараджэньня яго каралеўскае вялікасьці“ прэм'ер-міністрам Муссоліні [1]).

Гэтае „карпарацыйнае“ прадстаўніцтва і павінна замяніць поўнасьцю інтарэсы ўсяго насельніцтва і ўстанавіць адзінства

[1]) Dr. G. Leibholz. назв. твор. стар. 92.

рознародных супярэчных клясавых інтарэсаў. Так падсумоўваецца каляктыўны інтарэс вытворцы, так апошні ператвараецца ў афіцыяльнага абаронцу інтарэсаў капіталістычнае гаспадаркі.

Паказаным, аднак, не абмяжоўваецца права прапановы кандыдатаў у новы фашыстоўскі „парлямант“. Гэта права прызнаецца і за „юрыдычнымі асобамі і асацыяцыямі, што прасьледуюць мэты культуры, выхаваньня, узаемадапамогі і прапаганды“ (арт. 4). Фашыстыя, якія вядуць вельмі рэальную клясавую палітыку, якія прадугледжваюць усякія магчымасьці, унесьлі ў гэты артыкул палажэньне аб тым, што спэцыяльны дэкрэт, які надае права прапанаваць кандыдатаў названым вышэй „юрыдычным асобам і асацыяцыям“, падлягае перагляду кожнае трохгодзьдзе.

Характэрна, што ўжо з самых першых крокаў правядзеньня выбараў над апошнімі ўстанаўляецца беспасрэдны дзяржаўны кантроль. Яны набываюць дзяржаўны характар. Перш за ўсё, сходы для абгаварэньня кандыдатур адбываюцца т о л ь к і ў Рыме. Пратакол сходу і адбыўшагася на ім галасаваньня складаецца каралеўскім натарыусам (арт. 3).

Гэтыя папярэднія дзеяньні забясьпечваюць, так сказаць, бесьперашкоднае выкананьне важнейшай палітычнай функцыі і падрыхтоўваюць „чыстату і добранадзейнасьць“ складу будучага „народнага прадстаўнічага органу“.

Ня менш характэрным зьяўляецца тое, што намячэньне кандыдатаў адбываецца без удзелу выбаршчыка, без каляктыву. У законе агаварваецца права выбарчага корпусу прымаць удзел у выбарах толькі на трэцім этапе правядзеньня выбараў (арт. 11).

*Другі этап.* На гэтым этапе адбываецца асьвяшчэньне дзеяньняў першага этапу і адначасова праводзіцца фільтр кандыдатаў. Апроч таго, другі этап асабліва павінен падкрэсьліць зрастаньне дзяржавы з фашыстоўскаю партыяю і падпарадкаваньне ўсёй палітыкі фашызму „абранай меншасьці“.

Практычна гэта праводзіцца наступным чынам. Усе кандыдацкія сьпісы, прапанаваныя карпарацыямі, перадаюцца ў сакратарыят вялікага фашыстоўскага савету для складаньня аднаго сьпісу кандыдатаў у альфабэтным парадку, прычым побач з кожным імя кандыдата паказваецца высунуўшая яго ўстанова. Але савет н я т о л ь к і с к л а д а е сьпіс назначаных кандыдатаў, — ё н в ы б і р а е і х п а с в а й м у п о г л я д у з агульнага ліку кандыдатаў (каля 1000 чалавек), а т а к с а м а п а-з а г э т а г а с ь п і с у, к а л і г э т а в ы м а г а е ц ц а не-

абходнасьцю ўключыць у яго асоб, набыўшых вядомасьць у галіне навукі, літаратуры, мастацтва, палітыкі і ваеннае справы, але не папаўшых у лік кандыдатаў (арт. 5). Абгаварэньне кандыдатаў у дэпутаты адбываецца на тайным пасяджэньні савету. На гэтым-жа пасяджэньні складаецца канчатковы сьпіс 400 будучых дэпутатаў. У лік гэтых 400 павінны ўвайсьці 200 дэпутатаў з „заслужоных" фашыстых мінулага парляманту. Апошняя акалічнасьць у законе 17/V-1928 г. не адзначана. Гэта — ужо практыка апошніх выбараў, што адбыліся вясною 1929 г. Пасьля такое стараннае падрыхтоўкі будучага складу фашыстоўскага парляманту закон намячае наступны, *трэці этап выбараў*.

Гэты этап па сутнасьці і зьяўляецца фармальным працэсам выбараў. Чым гэты працэс робіцца і што ён сабою ўяўляе, можна пераканацца з наступнага. Перш за ўсё трэба вызначыць корпус выбаршчыкаў. Да мінулых выбараў было дапушчана каля 12½ мільёнаў чалавек. Паводле новага закону (арт. 11) „правам голасу... карыстаюцца ўсе італьянскія грамадзяне старэйшыя за 21 год, а таксама асобы маладзейшыя за 21 г., але старэйшыя за 18 год—жанатыя і маючыя дзяцей". Як тыя, так і другія павінны адпавядаць аднаму з наступных патрабаваньняў:

а) плаціць узносы ў фашыстоўскія карпарацыі, альбо зьяўляцца адміністратарамі альбо членамі таварыства ці другое ўстановы, што выплачвае сындыкальны ўзнос;

б) выплачваць штогодна па меншай меры 100 лір простых падаткаў, альбо быць уласьнікам аблігацый і атрымоўваць рэнту з іх у 500 лір штогод;

в) атрымоўваць пэнсію альбо заробак ці іншую якую ўзнагароду сталага характару і

г) належаць да каталіцкага чорнага альбо белага духавенства ці быць сьвяшчэнаслужыцелямі іншага якога-небудзь прызнанага ў дзяржаве вызнаньня.

Зусім зразумела, што ўсе гэтыя ўмовы павінны былі адхіліць ад выбараў досыць значныя кадры працоўных. Паводле паведамленьняў буржуазнага друку ў гэтым годзе прынялі ўдзел у выбарах толькі 8 з паловаю мільёнаў чалавек.

Якім-жа спосабам адбываецца само „ўсенароднае галасаваньне?" Арт. 6 закону дае адказ на гэтае пытаньне вельмі лаканічна: „галасаваньне праводзіцца праз падачу карткі са знакам ліктарскага пучку (фашыстоўскі гэрб. М. К.) і надпісамі: „Ці зацьвярджаеце вы сьпіс дэпутатаў, намечаных вялікім фашыстоўскім саветам?" Галасаваньне адбываецца

праз прыпіску на надпісу „але“ ці „не“. З першага погляду ўсё нібы і ў парадку. Але калі расшыфраваць тэхніку выбараў, то атрымаецца вельмі цікавая карціна.

А. Кіарыні прыводзіць парадак выбараў, які практыкаваўся вясною 1929 г. Выбаршчык падыходзіць да старшыні выбараў данага мейсца і атрымоўвае ад яго два блянкі, на якіх напісана паказанае вышэй пытаньне аб сьпісе дэпутатаў. Зацьвярджальны адказ пішацца на блянку з нацыянальнымі колерамі, на белым-жа блянку можна пісаць „не“. Запоўнены блянк выбаршчык апушчае у урну, а застаўшыйся ён зьвяртае старшыні[1]). Праводзячы такую сыстэму „тайнага“ галасаваньня, фашыстоўскі дзяржаўны апарат адразу-ж ставіць выбаршчыка перад альтэрнатываю. альбо „але“—і тады вызваліцца ад усякіх наступных непрыемнасьцяй рэжыму, альбо „не“, пасьля чаго пазнаёміцца з усімі прыгожасьцямі фашыстоўскай дыктатуры. Таму зусім зразумела, чаму апошнія выбары зацьвярджальных блянкаў далі каля 8 мільёнаў штук, адмоўных жа адказаў аказалася толькі 140 тысяч. І то прыходзіцца яшчэ дзівіцца сьмеласьці гэтых нязгодных, падкрэсьліўшых зусім адкрыта свае адносіны да „ўсенародна“ абранага „парляманту“ і да ўсяе фашыстоўскае дзяржаўнае сыстэмы.

Чым пахне адмаўленьне ад прызнаньня сьпісу, зацьверджанага вялікім фашыстоўскім саветам, можна пераканацца з пасланьня Муссоліні да членаў фашыстоўскай партыі. „Той, хто не згаджаецца на такі характар выбараў, — гаворыцца ў пасланьні,—хто ня любіць пучка розгаў і сякеры рымскага ліктара і фашыстага, хай галасуе са статкам нашых супрацоўнікаў. Чорныя кашулі! Я ўпэўнены, што ў гэтых жорсткіх словах вы даведаецеся аб фашыстоўскай загартоўцы“ [2]).

Пры такой сыстэме выбараў урад здольны ўтварыць слухняную прыладу дзеля націску на рабочую клясу. Гэты новы „парлямант“ на мове фашыстых завецца „прадстаўніцтвам арганізаваных працоўных мас“.

Можна ўявіць сабе, што гэта за прадстаўніцтва, калі сам вялікі савет заявіў, што на маладыя фашыстоўскія саюзныя арганізацыі нельга яшчэ пакуль што ўскласьці прадстаўніцтва нацыі.

### 3. Нацыянальная фашыстоўская партыя.

Дзеля таго, каб ідэя зрастаньня дзяржавы з фашызмам была ідэальна прадстаўлена, а прынцып іерархізму даведзены

---

[1]) „Коминтерн“ № 15 1929 г., стар. 14.
[2]) Там сама, стар. 14.

да кульмінацыйнага пункту, неабходна паставіць на чале дзяржаўнага апарату і прафсаюзаў нацыянальную фашыстоўскую партыю, якая заклікана паводле статуту „ажыцьцявіць вялікасьць італьянскага народу“. Як гэтая „вялікасьць“ практычна ажыцьцяўляецца, вядома кожнаму працоўнаму. Фашыстоўская партыя адначасова заклікана быць „выяўнікам і ахоўнікам нацыянальнага духу“. У сувязі з гэтым галоўнымі функцыямі фашыстоўскае дзяржавы „зьяўляюцца функцыі палітычнага і юрыдычнага парадку“. Дзеля таго, каб гэтую асноўную сацыяльную функцыю ўсімі мерамі зьдзейсьніць, трэба мець асобую арганізацыю і асобую сілу, якая магла-б ажыцьцявіць розум і волю нацыі. Вось чаму фашыстоўская партыя ўбірае ў сябе „ўсе матар‘яльныя і духоўныя сілы нацыі“. Разам з тым, фашыстоўская партыя „падпарадкоўваецца ў сваіх паасобных палітычных устанаўленьнях духоўным і матар‘яльным інтарэсам нацыі, успрыймаючы яе ў сучасным і ў яе гістарычнай будучыні“. Значыцца, паколькі дзяржава ўтоежсамліваецца з нацыяю, паколькі нацыя ідэнтыфікуецца з вышэйшаю сацыяльнаю каштоўнасьцю, фашыстоўская партыя разглядаецца, як жывая нацыянальная і дзяржаўная сіла, якая вырастае з нетраў нацыі і мае права гаварыць і дзейнічаць ад імя нацыі. Лёзунг — хто не фашысты, той не належыць народу“—зрабіўся пануючым лёзунгам сучаснай фашыстоўскай філёзофіі. Каб больш канкрэтызаваць гэтае палажэньне, статут фашыстоўскай партыі ў самым пачатку, у разьдзеле „сымбаль веры“, заяўляе: „фашызм зьяўляецца міліцыяю, што знаходзіцца на службе нацыі“. Яго мэта: „ажыцьцявіць вялікасьць італьянскага народу“. І сапраўды— хіба ня вораг „народу“ той, хто асьмеліцца пайсьці супроць названае мэты? Хіба не адмаўляецца служыць „нацыі“ той, хто з гэтаю мэтаю ня згодны?

Усьведамляючы сваю „гістарычную місію“, разумеючы сваю клясавую сутнасьць і неабходнасьць барацьбы супроць пралетарыяту і працоўных мас, фашызм заяўляе, што ён „з моманту свайго ўзьнікненьня... заўсёды лічыў сябе ў стане вайны: раней—з мэтаю барацьбы супроць тых, хто прыдушаў волю нацыі, потым — з мэтаю абароны і разьвіцьця магутнасьці італьянскага народу“.

Гэта ваяўнічая рэакцыя італьянскай буржуазіі асабліва яскрава выражана ў словах аднаго з кіраўнікоў фашыстоўскага руху: „маральныя трупы супрацiўнікаў фашызму трэба зрабіць трупамі фізычнымі“. Ня вельмі вобразна, але затое клясава вытрымана.

Фашыстоўская партыя імкнецца падняць палітыку на належную вышыню дзеля таго, каб грамадзкая і прыватная мараль перастала знаходзіцца ў супярэчаньні з жыцьцём нацыі. Партыя патрабуе ад ураду краіны вышэйшай адвагі, імкненьня да аднаўленьня этычнага разуменьня, якое патрабуе кіраваньня грамадзкаю справаю не ў інтарэсах партыі, а „у імя вышэйшых інтарэсаў нацыі“.

Яна-ж (партыя) павінна дапамагчы аднавіць „прэсьціж нацыянальнае дзяржавы..., якая перастае быць раўнадушным сьведкаю таго, як сарваўшыяся з ланцугу і зарваўшыяся сілы пасягаюць на яе адзінства... яна робіцца пільным вартаўніком... (Курсыў мой. М. К.).

Усё гэта досыць ясна паказвае, наколькі сама ідэя арганізацыі фашыстоўскай партыі шчыльна зьвязана з прынцыпамі пабудовы фашыстоўскае дзяржавы. Прыведзеныя мейсцы праграмы нацыянальнае фашыстоўскае партыі як нельга лепей сьведчаць аб характары зрастаньня партыйных інтарэсаў фашызму з інтарэсамі нацыянальнае фашыстоўскае дзяржавы.

Гэта зрастаньне фашызму з дзяржаваю Муссоліні ахарактарызаваў наступным чынам: „Уся ўлада належыць усяму фашызму“. Гэта трэба разумець так: увесь фашызм выражан у праграме партыі і ў іерархічнай пабудове самой партыі, на чале якой стаіць „дучэ“, значыцца, уся ўлада належыць партыі, увабраўшай у сябе ўсю нацыянальную волю.

У гэтай канцэпцыі асабліва зразумелым робіцца тэзіс статуту партыі аб тым, што „фашызм зьяўляецца міліцыяю, якая знаходзіцца на службе нацыі“.

Зьяўляючыся партыяю ўрадаваю і адзіна легальнаю, яна, зразумела, прасякае ўсе сітавіны дзяржаўнага апарату і грамадзкага жыцьця. Дысцыплінавая армія „чорных кашуль“ і фашыстоўскай міліцыі складае касьцяк, на якім трымаецца беспасрэдна фашыстоўская сыстэма. Зусім зразумела, што пры адчыненай дыктатуры клясы, якою зьяўляецца фашызм, неабходна захаваць складную сыстэму супадпарадкаваньня і бясспрэчнага падпарадкаваньня ніжэйшых органаў вышэйшым, аж да прызнаньня галавы дзяржавы нязьменным, дабрачынцаю і кіраўніком нацыі і дзяржавы. Яшчэ ў 1923 г. Муссоліні пісаў у сваім часопісу „Іерархія“, што замест вольнай барацьбы поглядаў і партыйных уплываў неабходна перад чалавецтвам высунуць новую формулу, якая выражаецца ў трох словах: „парадак, іерархія, дысцыпліна“. Фашыстоўская дыктатура, як рэальная дыктатура буйнай буржуазіі, перш за ўсё ажыцьцяўляе сваю палітыку праз дыктатуру

свае партыі, якая зьяўляецца адзіна праверанаю партыяю „парадку“, дысцыпліны і іерархіі. Фашызм адмаўляе рознароднасьць інтарэсаў грамады. Ён адмаўляе клясавую барацьбу, ён за салідарнасьць інтарэсаў. Пры такой устаноўцы вельмі мэтазгодна высунуць ідэю падпарадкаваньня інтарэсаў усяе нацыі волі найвышэйшага правадыра, дадзенай самім правідзеньнем народу. Для дзяржаўнай сыстэмы сучаснай імпэрыялістычнай буржуазіі падобны цэзарызм зьяўляецца вельмі выгоднаю акалічнасьцю. Распыленая, дэцэнтралізаваная, зьядаемая многапартыйнасьцю сыстэма палітычнага кіраўніцтва не адпавядае патрэбам буйнага капіталу. Кіраваць хутка, рашуча, мець гібкі, але моцны ўрадавы кулак, які можа ўтварыць у цяжкія дні эпохі загніваньня капіталізму хаця-б часовы „парадак“ у краіне, дысцыплінаваць волю да змаганьня супроць усякае зрады—вось ідэал урадавае сыстэмы сучаснае буржуазіі. Муссоліні, бясспрэчна, давёў аб сваіх здольнасьцях у справе прыдушэньня рабочае клясы і ратаваньня капіталістычнае гаспадаркі. У падзяку за гэта буржуазія цалкам падтрымлівае яго мерапрыемствы па ўтварэньні фашыстоўскай іерархіі, на чале якой бясспрэчна павінен стаяць „лепшы грамадзянін народу“—збаўца буржуазіі. Для часова выратаванае ад пралятарскае рэвалюцыі італьянскае буржуазіі Муссоліні зьяўляецца чалавекам выключных талянтаў і магутнае волі. Больш таго, ён далучаецца да рангі надчалавекаў.

Гэта палажэньне як нельга лепш выражана ў статуце партыі. „У люты час іспытаў,—гаворыцца там,—шэрагі партыі былі злучаны неабходнасьцю барацьбы, і народ пазнаў правадыра па прыметах яго волі, яго сілы і яго працы“.

Вось чаму „дучэ“, ён-жа галава ўраду, не абіраецца і нязьменны. У гэтым і заключаецца вышэйшае праяўленьне іерархізму альбо бязумоўнае падпарадкаваньне нацыі свайму правадыру.

Гэты іерархізм альбо прынцып строгае цэнтралізацыі пры безумоўным і абсалютным падпарадкаваньні „дучэ“ вельмі пэўна выражан у статуце фашыстоўскай партыі. „Нацыянальная фашыстоўская партыя ажыцьцяўляе свае дзеяньні пад найвышэйшым кіраўніцтвам правадыра фашызму і паводле дырэктыў, што ўстанаўляюцца вялікім фашыстоўскім саветам“ (арт. 1). Іерархія Н. Ф. П. пабудавана наступным чынам: 1) правадыр, 2) генэральны сакратар Н. Ф. П., 3) сакратар баявога фашыстоўскага саюзу. Апроч паказаных ступеняй Н. Ф. П. мае яшчэ наступныя вышэйшыя органы: 1) нацыянальная дырэкторыя і 2) нацыянальны савет.

Найвышэйшым-жа органам фашызму зьяўляецца вялікі савет (Gran Consiglio). На чале яго, у якасьці старшыні, стаіць правадыр фашызму (Duce). Вялікі савет устанаўляе дырэктывы дзеяньняў, якія партыя павінна ажыцьцявіць ва ўсіх галінах нацыянальнага жыцьця (арт. 2).

Па аб'ёму функцый і па прынцыпах яго арганізацыі можна гаварыць аб тым, што вялікі савет сапраўды зьяўляецца найвышэйшым органам, які ажыцьцяўляе фашыстоўскую палітыку.

Перш за ўсё, як найвышэйшы орган, ён не выбіраецца, бо не выбіраецца і яго старшыня—сам „дучэ“. Гэты орган у асноўным патрэбны для жыцьцяздольнасьці фашыстоўскага рэжыму. І калі ён (савет) на працягу шэрагу год афіцыяльна не лічыўся канстытуцыйным органам італьянскае дзяржавы, то, прыблізна, за год да апошніх парляманцкіх выбараў—у лютым 1929 г. вялікі савет сваёю-ж пастановаю надаў сабе правы дзяржаўнага органу, чым заканчваецца зусім афіцыяльна зрастаньне партыі з дзяржаваю.

Склікаецца савет яго старшынёю, г. ё. Муссоліні, і структура яго адпавядае тым задачам, ажыцьцяўляць якія вялікі савет заклікан. У яго склад уваходзяць міністры, члены нацыянальнай дырэкторыі партыі, памочнікі міністраў унутраных спраў і чужаземных спраў, фашыстоўскія сэнатары па выбару правадыра, галоўнакамандуючы міліцыяю і начальнік генэральнага штабу, генэральны сакратар загранічных фашыстоўскіх груп і інш. Па погляду-ж старшыні могуць заклікацца да ўдзелу ў вялікім савеце асобы, „якія далі высокі довад свае адданасьці справе фашызму і шляхетнага імпэту ў рабоце“. Калі-ж да гэтага дадаць яшчэ права вялікага савету назначаць генэральных сакратароў партыі, членаў дырэкторыі і ўстанаўляць агульную лінію работы, то можна атрымаць поўнае ўяўленьне аб шырыні ўлады галавы гэтае іерархічнае лесьвіцы Муссоліні. Характэрным тутака зьяўляецца і прысяга нанова прынятага члена, што даецца ім перад сакратаром у наступнай форме: „Клянуся выконваць без разважаньняў распараджэньні правадыра і служыць справе фашыстоўскай рэвалюцыі ўсімі маімі сіламі і, калі патрэбна, маёю крывёю“. Апроч вялікага савету пры правадыру функцыянуе яшчэ нацыянальная дырэкторыя, якая складаецца з 8 членаў, ня лічачы генэральнага сакратара партыі і генэральнага адміністрацыйнага сакратара. Нормы дзейнасьці дырэкторыі ўстанаўляе генэральны сакратар. Ён-жа і склікае нацыянальную дырэкторыю адзін раз на месяц.

калі ён лічыць гэта патрэбным. Усе распараджэньні дырэкторыі і дырэктывы для дзейнасьці партыі паведамляюцца ўсім фашыстым праз друк.

Наступнаю ступеньню фашыстоўскай іерархіі зьяўляецца нацыянальны савет, які склікаецца нацыянальнаю дырэкторыяю з мэтаю азнаямленьня з дзейнасьцю і жыцьцём партыі і для атрыманьня агульных кіруючых норм для выкананьня. У выпадку патрабаваньня дырэкторыі могуць склікацца таксама і абласныя сходы. Значыцца, сыстэматычна працуючым органам партыі, і то па скліканьні генэральнага сакратара, зьяўляецца толькі дырэкторыя. Усю-ж асноўную работу па кіраўніцтву партыяй праводзіць генэральны палітычны сакратар, беспасрэдна зьвязаны з „дучэ".

Апроч палітычнага і адміністрацыйнага сакратарыяту органамі партыі зьяўляюцца: друк, прапаганда, арганізацыя моладзі, жаночыя фашсаюзы, унівэрсытэцкія студэнцкія арганізацыі, арганізацыі спорту і адпачынку, прафсаюзы (сындыкаты), капэратывы і інш.

Такая-ж прыблізна іерархічнасьць існуе і ў адносінах да мясцовых арганізацый фашыстоўскай партыі. Фэдэральныя сакратары назначаюцца генэральным сакратаром, прычым першыя павінны поўнасьцю ажыцьцяўляць волю і дырэктывы вялікага савету і распараджэньні нацыянальнай дырэкторыі. Пры фэдэральным-жа сакратары, паводле яго выбару, складаецца правінцыяльная дырэкторыя з сямі чалавек. Апошнія абавязкова павінны быць зацьверджаны генэральным сакратаром. Іначай паўнейшая цэнтралізацыя і бюракратычная пабудова партыйнага апарату згары. Тутака таксама адзначаецца адсутнасьць прынцыпу выбарнасьці.

Правінцыяльная дырэкторыя кіруе жыцьцём партыі ва ўсёй правінцыі і сочыць за выкананьнем распараджэньняў нацыянальнай дырэкторыі. Ва ўсім іншым функцыі фэдэральных сакратароў і правінцыяльных дырэкторый падобны да функцый гэнэральнага сакратара і нац. дырэкторыі, толькі з меншым, чымся ў першых, аб'ёмам кампэтэнцыі.

Адным з асноўных абавязкаў фэдэральнага сакратара зьяўляецца права назначэньня сакратароў усіх баявых фашсаюзаў правінцыі, з нагляданьнем за тым, каб выходзячыя згары нормы жыцьця складалі адзіную дысцыпліну для ўсіх радавых членаў партыі. Кожны сакратар фашсаюзу падбірае сабе пяць супрацоўнікаў, якія, пасьля іх зацьверджаньня фэдэральным сакратаром, складаюць дырэкторыю фашсаюзу. Фашсаюз і складае першапачатковую ячэйку партыі. Арт. 25 статуту характарызуе яго наступным чынам: „Фашсаюз

зьяўляецца асноўным арганізмам партыйнага жыцьця і павінен зьбіраць навокал сваіх сьцягаў тых італьянцаў, якія найбольш выдаюцца ў сэнсэ розуму, сумленнасьцю, адвагаю". У адпаведнасьці з задачамі фашыстоўскай партыі і фашыстоўскае дзяржавы, на кожнага члена арганізацыі ўскладаюцца наступныя абавязнасьці: 1) адчуваць усю адказнасьць за маральную, эканамічную і сацыяльную дзейнасьць свайго саюзу (фашыо) і 2) праяўляць усімі мерамі якасьці фашыстоўскага духу, якія выяўляюцца ў веры, адвазе, працавітасьці, сумленнасьці.

Для праяўленьня названых якасьцяй і ажыцьцяўленьня сваіх абавязкаў ніякае, так сказаць, унутрыфашыстоўскае дэмакратыі не патрабуецца. За арганізацыю мысьліць і рашае строга цэнтралізаваны і згары назначаны партыйны апарат. Сходы фашсаюзу склікаюцца яго сакратаром у пачатку году, каб паведаміць і аб'ясьніць ім праграму, якую ён мае намер праводзіць. Праўда, на працягу году павінен адбыцца яшчэ адзін сход, але ў такі час, які будзе палічаны за найбольш спадручны.

Статут абумоўлівае права кожнага фашыстага абмяркоўваць пытаньні, што выносяцца на сходы. Аб праве пастанаўляць, рашаць, не згаджацца нічога не спамінаецца. Гэта зусім адпавядае той прысязе, якую дае кожны новы, хто ўваходзіць у арганізацыю.

Клапочачыся аб чыстасьці сваіх шэрагаў, партыйны апарат устанаўляе праз сакратароў фашсаюзаў спэцыяльны нагляд за сваімі членамі. Кожны сакратар фашыо павінен ведаць маральнае мінулае ўсіх радавых і сродкі іх існаваньня. Ня выканаўшы свайго абавязку падпадае допыту з боку дырэкторыі. Дысцыплінарнымі спагнаньнямі зьяўляюцца: вымова, выключэньне на пэўны і неазначаны час і поўнае выключэньне.

Усякі выключаны назаўсёды з шэрагаў партыі лічыцца зрадцаю справы фашызму і ставіцца па-за межамі палітычнага жыцьця. Зусім зразумела, што вельмі часта жыцьцё пастаўленага па-за межамі палітычнае дзейнасьці падпадае вялікай небясьпецы. Гісторыя разьвіцьця барацьбы ўнутры фашыстоўскай арганізацыі вельмі багата прыкладамі расправы з „нявыконваючымі і нявыканаўшымі свайго абавязку" людзьмі.

Доступ у партыю злучаны з вялікімі цяжкасьцямі. Усякі, хто сваімі паводзінамі альбо сувязямі давядзе, што ён яшчэ ня вызваліўся ад настрояў, якія ідуць супроць агульнай ідэалёгіі фашызму, хто пакажа, што яго прыватныя інтарэсы пераважаюць над інтарэсамі „нацыі", хто не давядзе

пра сумленны шлях набыцьця сродкаў для існаваньня, хто робіць учынкі, не адпавядаючыя годнасьці італьянца і фашыстага, а таксама, хто супроцьдзейнічае ажыцьцяўленьню задач карпарацыйнае дзяржавы, той ня можа быць дапушчаны ў фашыстоўскую партыю [1]).

Вельмі важнаю арганізацыяю, на якую можа абапірацца фашыстоўская сыстэма, зьяўляецца фашыстоўская нацыянальная міліцыя (Milizia nationale). Яна арганізавана з былых „сквадрыстых“ першай эпохі разьвіцьця фашызму. Фашыстоўская міліцыя („чорнакашульнікі“) пабудована па ўзору войска эпохі Рымскай Імпэрыі. Яна (міліцыя) беспасрэдна падпарадкоўваецца Муссоліні і бесьпярэчна выконвае яго волю. У сучасны момант нацыянальная міліцыя альбо „міліцыя нацыянальнай небясьпекі“ нясе асноўную работу па ахове ўнутранага парадку, падтрыманьні нацыянальнага духу сярод насельніцтва і па падрыхтоўцы будучых кадраў фашыстоўскай рэгулярнай арміі і займаецца ваенным выхаваньнем фашыстоўскай „авангардыі“.

На гэтым можна было-б скончыць разгляд мэханізму „карпарацыйнае“ дзяржавы.

Ужо ў выніку разгляду паказаных прынцыпаў можна было пераканацца, што па сутнасьці ніякага „карпарацыйнага“ ладу і няма, бо самі карпарацыі фактычна пазбаўлены ўсякага ўнутранага жыцьця. Яны існуюць толькі на паперы і самастойнай сваёй дзейнасьці не ажыцьцяўляюць. Ня могуць яны рэальна існаваць па той простай прычыне, што яны па ідэі заклікаыя ўстанавіць супрацоўніцтва кляс, прымірыць клясавыя супярэчаньні. Абставіны-ж разьвіцьця капіталізму выклікаюць усё больш глыбокія супярэчаньні і лютую клясавую барацьбу. Вось чаму і самі ідэолёгі фашызму ў апошнія часы ўсё галосьней заяўляюць аб немажлівасьці ў сучасных умовах разьвіцьця гаспадаркі да канца ажыцьцявіць ідэю „карпарацыйнага“ ладу. На справе дактрына клясавага супрацоўніцтва зрабілася арганізацыяю адчыненае дыктатуры фінансавага капіталу і буйнай прамысловасьці, дыктатуры, у рамках якой адбываецца поўнае падпарадкаваньне ўсякае індывідуальнае і калектыўнае энэргіі націску строга цэнтралізаванага апарату.

---

[1]) Са студзеня 1928 г. доступ у партыю наогул спынены. Прымаюцца толькі асобы, рэкамэндаваныя палітсакратарыятам фашыстоўскай партыі. Паводле афіцыяльных даных з 1 студзеня да жніўня 1928 г. прынята толькі 6 чалавек у якасьці ганаровых членаў партыі. „Гл. „Archiv... т. 60, вып. 3. Miechels. Назв. твор, стар. 559.

Дзеля таго, каб паказаць яшчэ адзін з мэтадаў утварэньня адзінага фронту фашыстоўскага карпаратывізму, трэба трохі спыніцца на прынцыпе зрастаньня царквы з дзяржаваю, альбо вярней—інкарпараваньне Ватыкану ў „карпаратыўную“ дзяржаву.

### 4. Узаемаадносіны паміж дзяржаваю і царквою.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што ў апошнія часы ўстанавіліся нармальныя адносіны паміж фашыстоўскаю дзяржаваю і „папскім прастолам“. Калі на працягу шэрагу гадоў адбывалася досыць сэр'ёзная скрытая барацьба паміж Ватыканам і Квірыналам, калі фашызм на пачатковай стадыі свайго разьвіцьця адносіўся досыць агрэсыўна да палітыкі Ватыкана, то ў апошнія часы наглядаецца значная перамена адносін, якая закончылася славутаю згодаю 11 лютага 1929 г., заключанаю паміж Ватыканам і італьянскаю дзяржаваю. Гэты акт палажыў канец, так званаму „рымскаму пытаньню“, узьнікшаму яшчэ ў 1870 г. Падрыхтоўка да гэтага акту вялася на працягу некалькіх апошніх год, у выніку чаго паступова ўстанавілася ўзаемнае разуменьне. Муссоліні яшчэ раней прызнаў каталіцтва дзяржаўнаю рэлігіяй. Гэтым самым Муссоліні зьвязаў лёс фашызму з клерыкальнымі коламі Італіі, што лішні раз выяўляе яго рэакцыйную сутнасьць. Муссоліні і Ватыкан знайшлі супольную мову. У ўзаемнай падтрымцы яны выявілі шмат выгодных бакоў. Ватыкан усімі мерамі падтрымліваў імкненьне Муссоліні да пашырэньня граніц Італіі, жадаючы скарыстаць гэтае тэрытарыяльнае пашырэньне ў мэтах умацаваньня ідэй каталіцызму. Самому-ж правадыру фашызму неабходна было благаславеньне Ватыкана з мэтаю зацьверджаньня ў сьвядомасьці насельніцтва ідэі аб нацыянальным адзінстве і вялікасьці італьянцаў і прызнаньня яго ўлады законнаю. Вельмі важна, каб фашыстоўскі тэрор асьвяшчаўся Ватыканам. У адзнаку ўдзячнасьці ўрад прызнаў абавязковым вывешваньне ў школах і ўрадавых установах адбітку расьпяцьця, увёў пасады духаўнікоў у войску і прымушаў салдат наведваць у нядзелі набажэнствы. Аднак, папе рымскаму ў пачатку ня было выгодным фашызавацца, як гэта зрабіў кароль. Ён лічыў сябе проста лёяльным і карыстаўся тымі прывілеямі, якія рэжым яму надаваў. Ён прызнаў фашызм таму, што апошні ўтварыў у краіне магчымасьць спакойнага разьвіцьця клерыкалізму.

Ускладненьне дзяржаўных функцый фашызму, абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяй у краіне, паглыбленьне

і пашырэньне эканамічнага крызісу—усё гэта выклікала патрэбу кансалідаваць усе сілы на барацьбу за ўзмацненьне капіталізму, за ўтварэньне хаця б часовай устойлівасьці загніваючае гаспадаркі. Тутака ўсе спосабы добрыя. Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што шырокія народныя масы ад падтрыманьня фашыстоўскае сыстэмы даўно адмовіліся, а каталіцызм мае досыць сэр'ёзны ўплыў на шырокія сялянскія і іншыя дробна-буржуазныя масы. У сваёй барацьбе супроць рэвалюцыйных арганізацый, фашызм прымушаны ўсё больш зьбліжацца з рэакцыйнымі сіламі краіны, сярод якіх адно з першых мейсц займае царква. З другога боку, Муссоліні разьлічвае абаперціся на Ватыкан для ажыцьцяўленьня сваіх агрэсыўных плянаў фашыстоўскай замежнай палітыкі. У гэтых адносінах дагаворанасьць з папаю рымскім можа мець вялікае значэньне, бо апошні ня менш агрэсыўны ў сэнсе пашырэньня свайго ўплыву ў іншых краінах, дзе католікаў налічваецца некалькі сот мільёнаў.

У чым жа, аднак, выражаецца названая згода? У чым сутнасьць так званага „рымскага пытаньня"? Гісторыя гэтага пытаньня пачынаецца з канфлікту 1871 г., г. ё. з часу арганізацыі ўнітарнай Італіі, якая адабрала ад папы землі, горад, дзяржаву. У 1870 г. нацыянальна-вызваленчы рух Італіі абярнуў папскі прастол, вярней—папскую дзяржаву, якая была адначасова і сьвецкаю дзяржаваю. Папская дзяржава зьяўлялася аднэю з тых самастойных дзяржаў, з якіх тады складалася Італія. Маючы пэўныя функцыі ў сярэднія вякі, у эпоху фэўдалізму альбо ў пэрыяд пасьпяваньня нацыянальнае дзяржавы, сьвецкая ўлада папы мела істотнае эканамічнае і палітычнае значэньне. Але ў эпоху поўнага зацьверджаньня нацыянальнае дзяржавы і разьвіцьця капіталізму гэты дзяржаўны сувэрэнітэт папы траціць усякі сэнс. Папскі прастол, зьяўляючыся выражэньнем альбо абалонкаю старых фэўдальных альбо паўфэўдальных адносін, павінен быў: альбо прыняць вярховенства новых капіталістычных вытворчых і грамадзкіх адносін, альбо, застаючыся на ранейшых сваіх пазыцыях, абвясьціць барацьбу новай сьвецкай уладзе. Ватыкан выбраў апошняе. Вуснамі папы Пія IX яшчэ ў 1862 годзе было сказана прынцыповае Non possumus (ня можам)—гэта адмаўленьне ўсякага міру альбо капромісу з ідэяю аб'яднаньня нацыянальнае італьянскае дзяржавы. З другога боку і маладая італьянская буржуазія не магла мірыцца з кансэрватыўнымі тэндэнцыямі папства і каталіцкае царквы, якія затрымліваюць тэмп разьвіцьця буржуазнай ідэалёгіі. Барацьба, значыцца, павінна была

прыняць характар, галоўным чынам, уплыву на сьвядомасьць мас. Да гэтае справы Ватыканам неаднакраць прыцягваліся ўсякія інтэрнацыянальныя рэакцыйныя сілы, неаднакраць папы спрабавалі аднавіць сваю сьвецкую ўладу пры дапамозе чужаземнай інтэрвэнцыі. Грамадзкая думка Італіі ўсё варожай пачала адносіцца да „яго сьвяцейшаства“ — папы рымскага. Утварыліся нібы ножніцы паміж нацыяналістычнымі тэндэнцыямі буржуазііі і яе рэлігійнымі пачуцьцямі. Вярней, італьянская буржуазія ўступіла ў канфлікт з сілаю, якая перашкаджала разьвіцьцю новых вытворчых адносін, якая змагалася супроць тэмпу разьвіцьця капіталістычных вытворчых сіл. Але паступова кантрасты пачынаюць зьмякчацца. Папства і каталіцкая царква ўсё шчыльней зьвязвае свой лёс з разьвіцьцём капіталістычнае дзяржавы. Парлямянцкія традыцыі, мэтады панаваньня сучасных буржуазных дзяржаў на аснове фармальнай дэмакратыі — усё гэта знайшло належнае выражэньне ў органах каталіцкае царквы, якая зрабілася адным з слупоў сучаснае эксплёататарскае дзяржавы. Варта ўспомніць ролю папы і ў часы імпэрыялістычнае вайны, калі цэнтральныя ўрады спрабавалі скарыстаць „рымскае пытаньне“, каб зрабіць ўплыў на Ватыкан. У апошнія гады Ватыкан стаяў у асяродку спрэчкі па пытаньні аб пашырэньні ўплыву каталіцызму ў розных калёніях. У гэтым пытаньні перапляталіся і пераплятаюцца інтарэсы розных краін (асабліва Італіі і Францыі), так што папскі прастол набывае значнае міжнароднае палітычнае значэньне. У гэтым канфлікце з-за ўплыву місіянэрства ў калёніях выяўляюцца антаганізмы шэрагу дзяржаў і агаляюцца іх імпэрыялістычныя тэндэнцыі. Пры такім становішчы, бясспрэчна, італьянскай дзяржаве вельмі патрэбна падтрыманьне з боку Ватыкана.

Мусоліні, як рэальны палітык, павінен быў усё гэта падлічыць і ўтварыць абставіны, спрыяючыя для разьвіцьця фашыстоўскае дзяржавы. Ён вельмі добра ўсьведамляе, што, пры выпадку, папа рымскі пастараецца вызваліцца ад не зусім прыемнага для яго (папы) суседа. Кампраміс, заключаны паводле Латэранскага дагавору, можа быць нядоўгавечным, бо Ватыкан па шэрагу пытаньняў вядзе сваю ўласную палітыку, далёка ня згоднаю з палітыкаю Мусоліні.

Але на даным адцінку часу, абое бакі, зразумеўшы ўтворанае становішча, палічылі мэтазгодным і рацыянальным ліквідаваць канфлікт, які цягнуўся 60 год. У той самы час папа рымскі яшчэ больш, чымся раней, схіляецца разглядаць фашыстоўскі рэжым, як часовае зьявішча, але разам

з тым Ватыкан неаднакраць падкрэсьліваў, што гэты рэжым яму даў больш, чымся ранейшыя ўрады. Ён усьведамляе таксама, што фашызм вельмі ўмела скарыстаў царкву, як сродак для большага дысцыплінаваньня народных мас і выхаваньня іх у духу падпарадкаваньня капіталістычнай эксплаатацыі. Гэта ніяк не супярэчыць сучасным імкненьням папскага прастолу і таму ён благаслаўляе Муссоліні на аднаўленьне старых рымскіх традыцый. Папа разумее, што другі—не фашыстоўскі ўрад, гэтулькі прывілей Ватыкану ня дасьць, і таму ён гарантуе ўсямерную маральную падтрымку сучаснаму італьянскаму ўраду.

Ліквідацыя канфлікту паміж царквою і дзяржаваю па сутнасьці азначае канец захаванага расколу ў лягэры італьянскай буржуазіі, перашкаджаўшай ёй консалідаваць свае сілы супроць нарастаючай пралятарскай рэвалюцыі. Фашызм у гэтых адносінах зрабіў велізарных крок наперад—ён злучыў у моцны кулак усе рэакцыйныя сілы пад адным сьцягам, на якім напісана: „абарона капіталістычнае грамады".

У 27 параграфах Латэранскага дагавору запісаны асноўныя пункты згоды. Ужо ў першым параграфе адзначаецца, што з гэтай пары ў Італіі дзяржаўнаю рэлігіяю зьяўляецца рымска-каталіцкая, чым аднаўляецца поўнасьцю першы артыкул канстытуцыі 4-га сакавіка 1848 году. У наступных параграфах зьмяшчаецца прызнаньне сувэрэнітэту Città del Vaticano (ватыканскі горад). Гэты сувэрэнітэт, аказваецца, належыць Ватыкану, „як па прыродзе сваёй, так і па традыцыі, а таксама і з прычыны сусьветнае місіі, якую выконвае апостальская сталіца. Што гэта за „сусьветная місія", ясна відаць з думкі, выказанай аднэю з фашыстоўскіх газэт пасьля заключэньня дагавору: „Трэба сказаць ясна і адчынена, што з сёньняшняга дня Італія ўсьведамляе тую рэлігійную місію, якая на яе ўскладаецца, як на адзінуювялікую каталіцкую дзяржаву ва ўсім сьвеце. Ні Францыя—каталіцкая краіна, але атэістычная рэспубліка, ні пратэстанцкая Гэрманія альбо Ангельшчына, і ні маленькія каталіцкія нацыі, якія ня маюць досыць аўтарытэту дзеля справы пашырэньня веры, але-менавіта Італія, Італія сьвятых, можа і павінна быць старэйшаю дачкою царквы. Для ўсякага ясна, што гэтая думка па сутнасьці прыкрывае ўсё пашыраючыяся замыслы фашызму.

У далейшых параграфах устанаўляецца права Ватыкана ў адносінах да сродкаў зносін і азначаецца кола падданых, а таксама азначаецца і міжнароднае становішча папскае дзяржавы. Гэтая дзяржава, разьмешчаная на тэрыторыі,

прыблізна, у 40 гэктарау і налічваючая 400 грамадзян, паводле § 12 дагавору мае права пасылаць сваіх дыплёматычных прадстаўнікоў. Апошнія карыстаюцца на тэрыторыі папскае дзяржавы правам экстэрытарыяльнасьці. Гэтае права пашыраецца і на часы вайны.

Для ўстанаўленьня нармальных дыплёматычных адносін паміж Італіяй і Citta del Vaticano адбываецца абмен дыплёматычнымі прадстаўнікамі, прычым папскі нунцый пры Квірынале павінен адначасова прызнавацца старастаю дыплёматычнага корпусу.

Дыплёматы, ватыканскія паслы, госьці Ватыкана ня маюць патрэбы ў візах італьянскага ўраду. Усякія тавары і пасылкі, якія прыходзяць з-за граніцы на імя Ватыкана вольны ад мытаў. Усім кардыналам у Італіі павінны быць прысвоены почасьці і прывылеі князёў царствуючага дому. Нарэшце (§ 26) згоды абвяшчае рымскае пытаньне канчаткова і назаўсёды ўрэгуляваным і прызнае італьянскае каралеўства пад уладаю Савойскай дынастыі з Рымам у якасьці сталіцы італьянскае дзяржавы. Італія-ж са свайго боку прызнае абсалютны сувэрэнітэт папы ў незалежнай дзяржаве, якая завецца Citta del Vaticano. Характэрна адзначыць, што ў выніку перагавораў, Муссоліні задаволіў Ватыкан у большым аб'ёме, чымся першапачаткова меркавалася. У кожным разе гэта належыць да тэрыторыі. Сам Ватыкан гаворыць аб Citta (горад), а не аб Stato (дзяржава). Але Муссоліні не шкадуе пакутаў і прадбачліва ідзе на „афяры". На наступны-ж дзень, 12 лютага, Муссоліні і кардынал Гаспары падпісалі яшчэ два дакумэнты, якія значна ўмацоўваюць пазыцыю каталіцкай царквы ў дзяржаве і паказваюць рэакцыйны сэнс ліквідацыі „рымскага пытаньня". Гэтыя дакумэнты—конкордат і фінансавая згода. Паводле конкордату ўрад прызнае абавязковасьць рэлігійнае адукацыі, як у першапачатковай, так і ў сярэдняй школе. У вышэйшых школах тэолёгічных факультэтаў няма. Конкордат гэтае пытаньне абыходзіць моўчкі. Хутчэй за ўсё — гэта часовая ўступка з боку Ватыкану. Але гэты прабел пакуль лёгка ліквідуецца магчымасьцю падрыхтоўваць кадры служыцяляў культу ў спэцыяльных епіскапальных сэмінарыях. Апроч таго выхаванцы названых сэмінарый залічаюцца студэнтамі адпаведных факультэтаў вышэйшых школ і, такім чынам, атрымоўваюць вышэйшую адукацыю. Адбываецца, так сказаць, смычка сьвецкае і духоўнае адукацыі.

Конкордат жа ўстанаўляе царкоўны шлюб для італьянцаў побач з сьвецкім.

Як адзначае карэспандэнт францускай газэты „Temps“— „фашызм прыняў названы пункт (царкоўны шлюб. М. К.) кананічнага права таму, што гэта зусім адпавядае інтарэсам фашыстоўскай палітыкі па рэгуляваньні насельніцтва. Кананічнае права палягчае браньне шлюбу. Яно ўстанаўляе для мужчын 16 гадовы, а для жанчын 14 гадовы шлюбны век. Згода бацькоў для бяручых шлюб больш не патрабуецца. Усе фашыстоўскія газэты, абмяркоўваючы гэтае пытаньне, гаварылі, паміж іншым, што паказаныя палажэньні кананічнага права могуць значна павялічыць прырост насельніцтва [1]).

Значыцца, царква можа ў даным выпадку зрабіць вялікую паслугу дзяржаве па вельмі сэр'ёзнаму для яго пытаньні—пытаньні рэгуляваньня насельніцтва.

Паводле фінансавае згоды Ватыкан атрымоўвае грашовую конвэнцыю, сваеасаблівае адступнае, у разьмеры 750 мільёнаў лір гатоўкаю і 1 мільярд лір у дзяржаўных банкнотах. Адначасна ліквідуецца т. з. „закон аб гарантыях“ 1871 г., які абмяжоўваў праўнае палажэньне сьвяцейшага прастолу.

У заключэньне можна з поўнаю ўпэўненасьцю сказаць, што вырашэньне „рымскага пытаньня“ па сутнасьці азначае консолідацыю міжнароднай фашыстоўскай рэакцыі. На гэтай глебе ўжо актывізуюцца розныя рэакцыйныя і кансэрватыўныя сілы ў розных дзяржавах[2]). Зьявілася цэлая літаратура, якая абмяркоўвае гэтае пытаньне і прыходзіць да вываду, аб неабходнасьці ўсімі мерамі падтрымліваць палітыку Мусоліні, якая прывяла да прызнаньня праў царквы.

Бясспрэчна, што Мусоліні скарыстае стварыўшыяся адносіны ня толькі для пашырэньня сацыяльнай базы фашызму, афармленьня імпэрыялістычных тэндэнцый, але і пастараецца пашырыць уплыў свае палітыкі на іншыя дзяржавы.

---

[1]) Grabowsky. „Nach der Lösung der Römischen Frage“. Zeitschrift für Politik. XVIII т. вып. 10. 1929 г. стар. 660.

[2]) Асабліва яскрава і адкрыта ў гэтых адносінах выражана рэакцыйная роля папы рымскага па пытаньні аб арганізацыі крыжовага паходу супроць СССР. (М. К.).

Дац. С. Берцінскі.

# Савецкае кіраўніцтва і мэтады яго вывучэньня [1]).

Падыходзячы да задачы вывучэньня савецкага кіраўніцтва, прыходзіцца зрабіць некалькі папярэдніх заўваг, з якіх можна ўлавіць прычыны таго асаблівага, менавіта палемічнага, характару, які няўхільна прымае курс, што ставіць сваёю мэтаю вывучэньне савецкага кіраўніцтва.

Мы перажываем выключную ў гісторыі чалавецтва эпоху нябачнага рэвалюцыйнага будаўніцтва, будаўніцтва сацыялізму. У гэтым вялікім працэсе пралетарыят у выніку таго, што ва ўмовах буржуазнае дзяржавы ён проста адкінут ад удзелу ў дзяржаўным будаўніцтве, ня мае ні вопыту, ні гатовых форм гэтага будаўніцтва. Таму перад пралетарыятам, як гаворыць Ленін, становяцца вялізарныя арганізацыйныя цяжкасьці. Перамагае гэтыя цяжкасьці пралетарыят таму, што ён надзвычайна крытычна адносіцца да вынікаў будаўніцтва; ён часта не задавольваецца гэтымі вынікамі; таму ён ня спыняецца перад тым, каб зламаць і зноў перабудаваць тое, што зьяўляецца недасканалым з пункту погляду тых мэтаў, да якіх ён імкнецца, мэтаў сацыялізму. Толькі дзякуючы гэтай строгай вымагальнасьці, якую пралетарыят прад'яўляе да сацыялістычнага будаўніцтва, хай будзе тое ў форме самакрытыкі, якая так шырока разгарнулася і якая дае такія добрыя вынікі, альбо ў іншай форме,

[1]) З курсу лекцый, чытаных у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце для студэнтаў III курсу Факультэту Права і Гаспадаркі 3 і 10 кастрычніка 1929 году.

Пры пабудове гэтае лекцыі прыходзілася выходзіць з наступных меркаваньняў: раней, чымся абгрунтаваць мэтадалёгію савецкага кіраўніцтва, трэба пачаць з крытычнай пастаноўкі пытаньня аб мэтадалёгіі т. зв. „савецкага адміністрацыйнага права“, вядомага паводле навучальнага пляну студэнтам менавіта пад гэтаю назваю курсу аб савецкім кіраўніцтве. (Выпраўлена і дапоўнена).

пралетарыят робіць вялізарныя посьпехі на шляху будаўніцтва сацыялізму.

Ідучы па шляху гэтага правіла самакрытыкі, мы кожны раз, калі ізноў бярэмся за якую-небудзь справу, павінны яшчэ і яшчэ раз пераглядзець, яшчэ раз крытычна аднесьціся да ўстаноўленага раней пляну работ. Гэты плян работы азначае плян той навукі, пры дапамозе якой мы імкнемся распазнаць і ўдасканаліць жывую сапраўднасьць, і нашыя крытычныя адносіны да пляну нашае работы азначаюць крытычныя адносіны да тэй сыстэмы навукі, у пляне якой вывучаецца савецкае кіраўніцтва. Гэтаю навукаю зьяўлялася навука савецкага адміністрацыйнага права.

Рэвалюцыйна-марксысцкая думка аб праве неаднакраць адзначала тое становішча, у якім знаходзіцца навука савецкага адміністрацыйнага права [2]). Прыходзіцца канстатаваць, што да гэтага часу мы ня маем нават некаторых спроб пабудовы сапраўднай марксысцкай сыстэмы навукі аб савецкім кіраўніцтве. Існуючыя курсы савецкага адміністрацыйнага права ня толькі не зьяўляюцца марксысцкімі, але і не пратандуюць на такое прызнаньне. Гэта прымушае будаваць наш курс такім чынам, каб можна было крытычна аднесьціся да тых немарксысцкіх падручнікаў, якія мімаволі прыходзіцца рэкамандаваць, бо менавіта ў іх можна знайсьці асноўны фактычны матар'ял. Здаровае крытычнае ўспрыйманьне таго матар'ялу, які даецца ў гэтых падручніках (Елистратов, Кобалевский) можа быць дасягнута толькі ў тым выпадку, калі ў курсе будзе ўзмоцнена яе мэтадалёгічная частка, прысьвечаная выразнай марксысцка-ленінскай пастаноўцы пытаньня аб савецкім кіраўніцтве, дзеля вырашэньня якой тэарэтычнай задачы неабходна выходзіць з тых дасягненьняў рэвалюцыйна-марксысцкай думкі аб праве наогул, якія мы маем у працах Сэкцыі Права і Дзяржавы Камуністычнай Акадэміі.

Важнейшаю хібаю асноўных прац па адміністрацыйнаму праву зьяўляецца тое, што ў іх савецкае кіраўніцтва цалкам уціснута ў фармальна-юрыдычныя канструкцыі. Між тым марксысцкая тэорыя права ня можа абмежавацца чыста фармальным аналізам, г. ё. аналізам надворных форм зьявішч, не датыкаючыся прычын, што выклікалі гэтыя фармальныя моманты. Для фармаліста-ж „форма ёсьць усё, а зьмест нічога“. Для фармаліста-юрыста, альбо юрыста-дагма-

---

2) Гл. журнал „Рев. Права“. Выд. Камун. Акадэміі. М.

тыка праўная форма ёсьць нешта полае, нібы поўны цыліндр, у які можна ўкласьці любы зьмест. Таму для яго форма можа быць вывучана незалежна ад яе зьместу. Выходзячы з чыста фармальных момантаў, г. ё. з таго, што мы бачым на паверхі зьявішч, і што можна адрозьніваць няўзброеным вокам, як напр., таго, што з аднаго боку сучасная імпэрыялістычная дзяржава ня можа ня мець у якасьці важнейшага свайго стрыжню пануючую буржуазную партыю, а з другога боку, што наш Сацыялістычны Саюз таксама ня мог-бы існаваць без адзінае камуністычнае партыі, на падставе гэтага некаторыя юрысты-фармалісты ўтожесамліваюць, становяць знак роўнасьці паміж „фашызмам“ і „бальшавізмам“, бо для іх ня мае значэньня, якая партыя, якое клясы, зьяўляецца гэтым стрыжнем; для іх, як яны гавораць, усё роўна, у чыіх руках знаходзіцца рэвальвэр, ці ў руках фашыста, ці бальшавіка: рэвальвэр, пад якім яны разумеюць права, ва ўсіх, як кажуць, выпадках страляе аднолькава.

У далейшым мы высьветлім, дзе карэньні таго ідэалёгічнага скажэньня жывое сапраўнасьці, карэньні фармальна-юрыдычнае пабудовы навукі аб савецкім кіраўніцтве.

Другая акалічнасьць, у сілу якой наш курс павінен будзе насіць палямічны характар, знаходзіцца ў наступным. Усё савецкае права, а значыцца і так званае савецкае адміністрацыйнае права, зьявілася на зьмену буржуазнага права, зьявілася як адмаўленьне буржуазнага права. Мы толькі тады выявім усе асаблівасьці савецкага адміністрацыйнага права, яго асаблівасьці, як права пралятарскай рэвалюцыі, калі мы паступова здолеем супроцьставіць адно другому ў цэлым і ў паасобных яго канструкцыях. Гэтае супроцьстаўленьне не павінна быць вузкім, фармальным, г. ё. толькі ў тым сэнсе, што да любога інсытуту буржуазнага адміністрацыйнага права досыць, як кажуць, прыставіць знак мінуса, як мы атрымаем адпаведны інстытут савецкага адміністрацыйнага права. Так разумеюць савецкае адміністрацыйнае права некаторыя буржуазныя юрысты, якія не разумеюць таго, што адпаведнасьці ніякае тут быць ня можа, ня можа быць аналёгіі, параўнаньня, бо савецкае права ёсьць новае права, права іншае якасьці, права, якое стала на мейсца зьнішчанага рэвалюцыяю буржуазнага права. Такі мэтад паступовага супроцьстаўленьня так званага савецкага адміністрацыйнага права буржуазнаму і зьяўляецца другою акалічнасьцю, у сілу якой курс наш прымае палямічны характар.

Каб падыйсьці да выяўленьня сутнасьці нашага прадмету, мы павінны ўлічыць наступнае важнейшае палажэньне аб праве наогул, менавіта, што права, а значыцца і паасобная галіна права, ёсьць надбудоўку над эканамічным базісам, ёсьць спэцыфічная форма грамадзкіх адносін, форма, што знаходзіцца ў дыялектычнай узаемазалежнасьці з зьместам грамадзкіх адносін.

Але з тае прычыны, што сама па сабе праўная форма знаходзіцца ў дыялектычнай узаемазалежнасьці са зьместам, у выніку ўсяго азначаючыся апошнім, то пазнаньне гэтае формы магчыма толькі праз выяўленьне зьместу грамадзкіх адносін. А адрозьніваць форму ад зьместу надзвычайна важна.

Такім чынам, першае пытаньне, якое мы перад сабою выразна ставім, гэта пытаньне аб сутнасьці так званага адміністрацыйнага права, як формы.

Пытаньне аб сутнасьці савецкай адміністрацыйна-праўнай формы мае ня толькі тэарэтычнае, але і глыбокае практычнае значэньне. На практыцы мы нярэдка можам спаткаць з аднаго боку досыць грэблівыя адносіны да самое юрыдычнае формы, да юрыдычнага афармленьня палітычнай, эканамічнай сутнасьці таго альбо іншага мерапрыемства, як да нечага другарадавага, няважнага, а з другога — вазьвядзеньне гэтага працэсу юрыдычнага афармленьня ў асобую спэцыяльнасьць, якою ўладаюць асобыя „праўныя камісары“, што анаходзяцца пры асобах цалкам адказных за ўстанову [3]). Такога роду адрыў юрыдычнага афармленьня ад самое палітычнае альбо эканамічнае сутнасьці мерапрыемства імсьціць самым лютым чынам тым, хто не разумее, што адрываць фому ад зьместу нельга, што юрыдычная форма ёсьць ня проста полая форма, у якую можна ўкласьці любы зьмест, ня проста „мундур“, а „кавалачак таго-ж зьместу“. Адрыў сацыяльна-клясавай, палітычнай, эканамічнай сутнасьці мерапрыемства ад праўнай формы вядзе да самых цяжкіх вынікаў, выражаючыхся ў тым, што, альбо мы становімся перад няжыцьцёвым фармалізмам мімаволі сказіўшым нашае правільнае па сутнасьці палітычнае альбо эканамічнае мерапрыемства, перад поўным бюракратычным скажэньнем альбо, што яшчэ горш, мы становімся перад нейкаю „юрыдычнаю сутнасьцю“, якая на справе аказваецца простаю палітычнаю сьвіньнёю, што была падсунута пад відам

---

[3]) Е. Пашуканис. Марксистская теория права и строительство социализма. „Сов. Право“ за 1927 г. № 3, стр. 14

так званага „юрыдычнага пункту гледжаньня“. Такім чынам, практычнае значэньне праблемы савецкай адміністрацыйна-праўнай формы заключаецца ў тым, што яна паказвае нам, у якіх выпадках і як мы павінны весьці юрыдычнае афармленьне дзяржаўных мерапрыемстваў, не скажаючы палітычнага і сацыяльна-эканамічнага сэнсу дзяржаўнай работы.

Дарма мы пачалі-б дашуквацца ў „савецкіх“ адміністратывістаў менавіта такое пастаноўкі пытаньня аб савецкім адміністрацыйным праве, пастаноўкі з пункту погляду формы і зьместу грамадзкіх адносін. Не выяўляючы ясна ніякага мэтадалёгічнага падыходу да прадмету, яны проста, з першых-жа радкоў даюць азначэньне прадмету. „Навука адміністрацыйнага права вывучае структуру і функцыі органаў дзяржаўнага кіраўніцтва, праўныя формы іх дзейнасьці і ўзаемаадносін з насельніцтвам. Адміністрацыйная арганізацыя, формы адміністрацыйнай дзейнасьці і ўзаемаадносіны органаў кіраўніцтва з грамадзянамі ў кожную гістарычную эпоху ўтвараюць пэўную сыстэму кіраўніцтва, што складаецца ў адпаведнасьці з інтарэсамі пануючае ў дануюэпоху грамадзкае клясы“ (Елістратаў) [4]). Альбо: „Адміністрацыйнае права ёсьць сукупнасьць норм, што рэгулююць дзяржаўную дзейнасьць у галіне ўнутранага кіраўніцтва і выцякаючыя з гэтай дзейнасьці юрыдычныя адносіны паміж уладаю і грамадзянамі“ (Кабалеўскі) [5]).

„Адміністрацыйным правам завецца сыстэма юрыдычных прынцыпаў, што рэгулююць дзяржаўную дзейнасьць, накіраваную на забесьпячэньне бясьпекі і дабрабыту, пераважна, працоўных у Савецкіх Рэспубліках“ (Еўціхіеў) [6]).

Ня цяжка бачыць тое супольнае, што ўласьціва ўсім гэтым азначэньням, менавіта: усе гэтыя азначэньні зводзяцца да таго, што адміністрацыйнае права разумеецца як сукупнасьць норм, што азначаюць узаемаадносіны паміж дзяржаўнаю ўладаю і грамадзянамі, насельніцтвам.

Ці можа нас задаволіць такое азначэньне?

Не, ня можа, бо, калі маюцца на ўвазе грамадзкія адносіны, што ўзьнікаюць на глебе дзяржаўнага кіраўніцтва, то казаць, што гэтыя адносіны ёсьць адносіны паміж дзяржаўнаю ўладаю і грамадзянамі наогул, значыць выха-

---

[4]) Проф. А. И. Елистратов. Админ, право. М. 1929 г., стр. 5.

[5]) Проф. В. Кобалевский. Сов. админ. право. Харьков. 1929 г., стр. 3.

[6]) Проф. А. Ф. Евтихиев. Основы совет. админ. права. Хар. 1925 г., стр. 6.

ласьціць клясавую сутнасьць дзяржаўнай дзейнасьці, дзеля таго, што дзяржаўная дзейнасьць ня можа быць нічым іншым, як рэалізацыяю панаваньня тае альбо іншае клясы, бо сама дзяржава ёсьць арганізацыя пануючае клясы. Упамінак, напрыклад, праф. Елістратава аб тым, што сыстэма адносін паміж дзяржаваю і насельніцтвам складаецца ў адпаведнасьці з інтарэсамі тае альбо іншае „грамадзкае клясы“ ні ў якой меры не азначае зацьвярджэньне клясавасьці самога адміністрацыйнага права, а служыць толькі прывескам да тае сутнасьці, якую ён укладвае ў разуменьне адміністрацыйнага права. Гэты ўпамінак выглядае нібы так, што клясавасьць права не адмаўляецца. А на справе, калі ўнікнуць у сказанае, атрымоўваецца толькі тое, што мы, праўда, маем пануючую клясу, але гэтае панаваньне ня ёсьць панаваньне над другою клясаю, народам. Толькі выходзячы з такога разуменьня сацыяльнага зьместу ўлады, як адносіны паміж пануючаю клясаю і „народам“, можна ўявіць адміністрацыйнае права як сыстэму адносін паміж дзяржаўнаю ўладаю і грамадзянамі. Такая выходная пазыцыя вельмі далёка ад сапраўднага клясавага пункту погляду, ад пункту погляду барацьбы паміж грамадзкімі клясамі, барацьбы, якая ня можа быць нічым іншым скончана ў працэсе свайго разьвіцьця, як толькі палітычнаю дыктатураю эканамічна пануючае клясы. Такая выходная пазыцыя, як пазыцыя праф. Елістратава, вядзе да выключнага скажэньня савецкага кіраўніцтва.

Для ільлюстрацыі такіх скажэньняў зьвернемся да найбольш тыповага з паказаных аўтараў, менавіта, праф. Кабалеўскага, і паглязім на прапануемыя ім вынікі аналізу савецкага кіраўніцтва з пункту погляду адносін дзяржавы і грамадзян.

Асноўнымі цэнтрамі, паміж якімі ўтвараюцца адміністрацыйна-праўныя адносіны, зьяўляюцца з аднаго боку дзяржава, а з другога—асоба. Асоба супроцьстаўляецца дзяржаве і гэтай асобе надаецца цэлы сьпіс праў. „Суб'ектыўнымі публічнымі правамі грамадзян,—піша праф. Кабалеўскі, зьяўляюцца: а) права на неўмяшаньне, альбо па іншай тэрміналёгіі, права на вольнасьць (сумленьня, саюзаў, сходаў, вуснага і друкаванага слова), б) права на паслугі з боку дзяржавы (права на сацыяльнае забясьпечаньне, народная асьвета, мэдычная дапамога і г. д.), в) публічнае рэчавае права, г. ё. права на карыстаньне публічнаю маемасьцю (вуліцы, пляцы, паркі, нацыяналізаваныя будынкі, нацыяналізаваныя землі, лясы, нетры і інш.) і г) правы палітычныя

альбо, што тое самае, права на ўдзел у дзяржаўнай дзейнасьці (актыўнае і пасыўнае выбарчае права)“ [7]).

Ужываньне вось такое сыстэмы праў асобы да савецкага адміністрацыйнага права робіцца пры гэтым з агаворкамі. Першая і самая важная, бадай, гэта тая, што гэтыя правы зусім не зьяўляюцца бязумоўнымі. Так, напр., „права на вольнасьць абмяжоўваецца прынцыпам дыктатуры“ [8]); такім чынам атрымоўваецца, што ў нас дыктатура ня клясавая, а над грамадзянамі, бо абмяжоўваецца ня другая кляса, а грамадзяне, „народ“. Паводле Кабалеўскага атрымоўваецца, што „гарантыі ад сваявольля ёсьць толькі (!) нешта ідучае побач з даным відам адміністрацыйнай дзейнасьці“, менавіта, „прымусовай дзейнасьці“ [9]). Ня лепш і з правамі на дзяржаўныя паслугі і рэчы. Гэтыя правы таксама не бязумоўныя, а карыстаньне імі ёсьць ня больш, як рэфлекс[10]), г. ё. як нешта адлюстраванае ад мэты, якую прасьледуе дзяржава, як такая, хаця гэтыя рэфлексы і прадстаўляюць выгоду „для больш альбо менш шырокіх пластоў насельніцтва“, набываючы такім чынам значэньне масавага зьявішча. Тутака зусім ігнаруецца тое, што гаспадарчая і культурная дзейнасьць савецкае дзяржавы мае беспасрэдную мэту задаваленьня патрэб найшырокіх мас працоўных. Раскласьці ўсю гаспадарчую і сацыяльна-культурную дзейнасьць органаў савецкага кіраўніцтва на так званыя дзяржаныя службы— з аднаго боку, а з другога—на публічна-рэчавыя правы грамадзян і зьвесьці ўсё гэта толькі да „рэфлексу“—ці можна прыдумаць больш дасканалы спосаб выхалашчваньня ўсяе сацыялістычнае сутнасьці савецкага кіраўніцтва?

Натуральна задаць сабе пытаньне, дзе прычына такога выключнага скажэньня савецкага кіраўніцтва? Нас, зразумела, павінны цікавіць прычыны, што грунтуюцца ня ў якасьцях данага аўтара, бо перад намі тыповы, найбольш да канца даведзены аналіз савецкага кіраўніцтва з вышэйпаказанага пункту погляду; іншага-ж выходнага пункту погляду мы сярод савецкіх адміністратывістаў не спатыкаем.

Гэтыя прычыны для нас будуць зусім ясныя, калі мы параўнаем гэты выходны пункт погляду з выходным пунктам погляду любога буржуазнага вучонага, што аналізуе б у р ж у а з н а е-ж адміністрацыйнае права. Дзеля гэтага нам

---

[7]) Проф. В. Кобалевский. Там сама., стар. 44.
[8]) Там сама, с. 130.
[9]) Там сама, с 34.
[10]) Там сама, с. 38-39.

ня прыдзецца зварачацца ні да якое іншае кнігі, як да кнігі таго-ж Кабалеўскага, дзе ён выкладае асноўныя буржуазныя школы адміністрацыйнага права. Але з тае прычыны, што Кабалеўскі, выкладаючы гэтыя школы, ня прыводзіць усё-ж такі ніводнага азначэньня адміністрацыйнага права, што даецца буржуазнымі вучонымі, хаця ня кожны вучоны [11]) лічыць за патрэбнае даваць такое азначэньне, то неабходна прывесьці першае папаўшаеся азначэньне, якое даецца вядомым рускім адміністратывістам Іваноўскім. „Пад імем навукі аб унутраным кіраўніцтве разумеецца тая галіна дзяржавазнаўства, якая мае сваёю задачаю вывучэньне ўсяе сукупнасьці дзяржаўных мерапрыемстваў, што ўжываюцца дзеля ўтварэньня ўмоў дабрабыту і бясьпекі грамадзян“ [12]).

З гэтага азначэньня відаць той-жа выходны пункт погляду, што ўжываецца і пры аналізе дзяржаўнага кіраўніцтва царскае Расіі. Наогул усе варыяцыі поглядаў, што спатыкаюцца ў буржуазнай навуцы адміністрацыйнага права, зводзяцца да дзьвюх школ: нямецкае, на чале з Отто Майерам, і францускае, найбольш яскравым выяўнікам якой зьяўляецца Бэртэлемі. Адрозьніваньне гэтых школ паміж сабою зьяўляецца ў канчатковым выніку ў тым, што, калі першая, нямецкая, будуе адносіны паміж дзяржаваю і асобаю такім чынам, што асобу нібы супроцьпастаўляе дзяржаве, то другая—францускал, імкнецца прадставіць гэтыя адносіны не як адносіны двух супроцьлеглых суб'ектаў, а як адносіны, па якіх асоба забясьпечана шэрагам дабра, з прычыны агульнакарыснасьці функцый дзяржаўнай улады. Першая школа будуецца на ідэі суб'ектыўных публічных праў, г. ё. праў, прызнаных за асобаю, другая-ж кладзе ў аснову вывучэньня мэтаў, задачы кіраўніцтва і спосабы іх ажыцьцяўленьня, зразумела, ня з пункту погляду інтарэсаў пануючае клясы, а з пункту погляду інтарэсаў той-жа асобы.

Відавочна, што гэтыя дзьве школы выходзяць з аднаго і таго-ж прынцыпу, а менавіта—інтарэсаў праў „асобы наогул“. Таму наш савецкі вучоны Кабалеўскі знайшоў магчымым лёгка аб'яднаць абедзьве школы і пабудаваць свой курс савецкага адміністрацыйнага права не пакрыўдзіўшы ні нямецкую, ні францускую школу. Елістратаў-жа і Еўціхіеў падзяліліся ў сымпатыях да гэтых школ: Елістратаў прытрымліваецца нямецкае школы, а Еўціхіеў—францускае. Такім

---

[11]) У паасобку—Жэз, Дюфур.

[12]) Проф. В. В. Ивановский. Учебник административного права. Казань 1191 г., стр. 3.

чынам, пры аналізе савецкага адміністрацыйнага права памянутыя савецкія адміністратывісты запазычваюць той-жа асноўны падыход, які ўжываецца буржуазнымі вучонымі да буржуазнага-ж адміністрацыйнага права, а запазычваючы гэты падыход, яны зусім натуральна пераносяць на савецкае кіраўніцтва і ўвесь вопыт навукі буржуазнага адміністрацыйнага права.

Ці правільна будзе пераносіць цалкам вопыт буржуазнае навукі адміністрацыйнага права на глебу савецкага кіраўніцтва вывучаючы грамадзкія адносіны, як адносіны паміж дзяржаваю і грамадзянамі?

Тутака неабходна папярэдня зазначыць, што ўсякая навука адпавядае свайму назначэньню толькі тады, калі яе пабудовы адпавядаюць сапраўднасьці, бо яе задача ёсьць пазнаць гэтую сапраўднасьць, а пазнаўшы законы сапраўднасьці скарыстаць гэтыя веды для ўдасканаленьня ўмоў жыцьця чалавецтва, умоў тэхнічных (вынаходніцтва), умоў грамадзкага жыцьця, дапамагаючы перабудове грамадзкіх адносін на вышэйшай аснове. Значыцца, паставіць пытаньне аб мажлівасьці перанясеньня вопыту буржуазнай навукі адміністрацыйнага права на глебу вывучэньня савецкага кіраўніцтва, гэта значыць выясьніць наступнае: што гэта за тыя рэальныя, аб‘ектыўныя, г. ё. грунтуючыяся ў сапраўднасьці, у быцьці падставы таго, што буржуазная навука адміністрацыйнага права будуе буржуазнае дзяржаўнае кіраўніцтва, як сыстэму адносін паміж дзяржаваю і асобаю, гэта—па-першае, а па-другое, ці застаюцца ў моцы гэтыя-ж аб‘ектыўныя падставы дзеля таго, каб савецкае кіраўніцтва вывучаць як сыстэму адносін паміж дзяржаваю і асобаю. Вось якую задачу мы перад сабою ставім.

Зьвернемся перш за ўсё да буржуазнай навукі адміністрацыйнага права і выясьнім рэальныя, аб‘ектыўныя падставы яе сыстэмы.

Знайсьці рэальныя, аб‘ектыўныя падставы буржуазнай навукі адміністрацыйнага права, гэта значыць знайсьці эканамічныя і клясавыя асновы таго, што гэта навука будуе сыстэму адносін, што ўзьніклі на глебе буржуазнага дзяржаўнага кіраўніцтва, на глебе рэалізацыі палітычнага панаваньня буржуазіі, як сыстэму адносін паміж дзяржаваю і асобаю.

Першае і самае лёгкае, хаця і зусім правільнае аб‘ясьненьне таго, што буржуазная навука ператварае адносіны паміж клясамі, г. ё. клясавую барацьбу ў адносіны паміж дзяржаваю і асобаю, складаецца з таго, што гэтым самым буржуазная навука прыкрывае, вэлюмуе клясавае панаваньне

буржуазіі ад узроку шырокіх эксплаатаваных мас. Але адно такое аб'ясьненьне нас ня можа задаволіць. Нельга-ж забываць, што пры дапамозе гэтай навукі буржуазія падрыхтоўвае кадры для сябе, падрыхтоўвае практычных работнікаў у галіне дзяржаўнага кіраўніцтва для рэалізацыі свайго панаваньня. Значыцца, калі-б буржуазная навука не насіла у сабе нейкіх рэальных аб'ектыўных элемэнтаў, то яна не магла-б служыць прыладаю для пазнаньня і перабудоўкі грамадзкіх адносін у адпаведнасьці са сваімі інтарэсамі, інтарэсамі эксплаатацыі працоўных. Гэтая акалічнасьць прымушае нас шукаць далейшыя аб'ектыўныя падставы для навуковага ўяўленьня буржуазнага адміністрацыйнага права, як сыстэмы адносін паміж дзяржаўнаю ўладаю і асобаю, альбо іначай—грамадзянамі, насельніцтвам.

Зьвернемся да эканамічных асноў буржуазнага адміністрацыйнага права. Дзе рэальныя, эканамічныя падставы таго, што цэнтральнымі фігурамі, выступаючымі суб'ектамі адміністрацыйна-праўнае адносіны, зьяўляецца асоба і дзяржава? Вядома, што „багацьце грамады, у якой пануе капіталістычны спосаб вытворчасьці, зьяўляецца ў выглядзе „нязьлічонага скапленьня тавараў“ [13]). Вядома таксама і наступнае: „каб супаставіць (гэтыя) рэчы як тавары, ахоўнікі тавараў павінны адносіцца адзін да другога, як асобы, воля якіх знаходзіцца ў іх рэчах, так што кожны толькі на падставе свае ўласнае волі і волі другога, абое значыцца на падставе іх супольнай волі, завалодваюць чужым таварам пры дапамозе таго, што адчужаюць свой“ [14]). Гэты прыватны ўласьнік зьяўляецца цэнтральнаю фігураю капіталістычнага рынку, яго асноваю. Гарантаваць капіталістычны спосаб вытворчасьці, гэта значыць забясьпечыць прыватнага ўласьніка такімі ўмовамі, у якіх ён мог-бы праявіць сябе, як удзельнік таварнага звароту. Важнейшаю такою ўмоваю зьяўляецца яго вольнасьць, вольнасьць распараджэньня сваёю ўласнасьцю, як таварам, г. ё. купляць і прадаваць, у тым ліку купляць і рабочую сілу для яе эксплаатацыі. Ён павінен быць вольным ад пасяганьня на яго з боку ня толькі іншых тавараўладароў, а асабліва такіх, адзіным таварам якіх зьяўляецца іх рабочая сіла, г. ё. пралятараў, але і з боку самое дзяржавы. Гэтая важнейшая ўмова таварнага звароту прымае ў сьвядомасьці буржуа значэньне такое ўмовы, без якое нямысьліма існаваньне ча-

[13]) Маркс. Капитал. Т. I, ст. 1.
[14]) Маркс. Там сама, с. 47.

лавецтва наогул, бо іншага грамадзкага спосабу вытворчасьці, апроч капіталістычнага для яго ня існуе. Таму вольнасьць асобы, як удзельніка звароту, г. ё. прыватная ўласнасьць, узводзіцца далей у натуральнае, неадыймальнае права чалавека наогул. Словам, „Сфэра звароту альбо абмену тавараў, у межах якой адбываецца продаж і купля рабочае сілы, прадстаўляе ў сапраўднасьці самы эдэм прыраджонага чалавечага права. Ніхто і нішто ня мае тутака ўлады, апроч вольнасьці, роўнасьці, уласнасьці і Бэнтама, якія пануюць у гэтай галіне беспадзельна. Вольнасьць! Таму што і купец і прадавец усялякага тавару, напр., рабочае сілы, ня зьвязаны ў сваіх дзеяньнях нічым і падпарадкоўваюцца толькі сваёй вольнай волі. Яны дагаварваюцца паміж сабою, як вольныя, юрыдычна роўнапраўныя асобы. Дагавор паводле якога яны ўваходзяць паміж сабою ў вольную згоду, ёсьць толькі юрыдычнае выражэньне іх волі. Роўнасьць! Таму што яны адносяцца адзін да другога толькі як адзін уладар тавару да другога такога-ж уладара тавару, і таму што яны мяняюць эквіваленты на эквіваленты. Уласнасьць! Таму, што кожны распараджаецца толькі тым, што належыць яму асабіста“ [15]).

Але хто можа гарантаваць гэтыя важнейшыя ўмовы таварнага звароту, ня будучы на баку таго альбо іншага ўласьніка? Ніхто іншы як дзяржаўная ўлада, менавіта яна зьяўляецца гарантам рыначнага абмену. „Усё далейшае ўдасканаленьне буржуазнае дзяржаўнасьці, якое рабілася і шляхам рэвалюцыйных выбухаў і шляхам міранага прыстасаваньня да манархічна-фэўдальных элемэнтаў, можна зьвесьці да аднаго прынцыпу, які гаворыць, што з двух, хто мяняецца на рынку, ніводзін ня можа выступаць у якасьці ўладнага рэгулятара менавое адносіны, але што для гэтага патрабуецца нехта трэці, хто ажыцьцяўляе ў сабе тую ўзаемную гарантыю, якую тавараўладары ў якасьці ўласьнікаў даюць адзін другому, і зьяўляецца, такім чынам, увасобленым правілам зносін тавараўладароў“ [16]). Выступаючы ў якасьці такога „трэцяга“, дзяржаўная ўлада тым самым выконвае ролю абароны ўсіх тавараўладароў; а з тае прычыны, што тавараўладаром можа быць усякі і кожны, бо няма такое рэчы ў капіталістычнай грамадзе, якая не магла-б быць таварам, аж да сумленьня і гонару, то дзяржаўная ўлада атрымоўвае значэньне абаронцы і ахоўніцы агульных інтарэсаў, пры да-

---

[15]) Маркс. Там сама. 129-130.
[16]) Пашуканис. Общая теория права и марксизм, с. 114.

памозе прымусовае сілы, выступаючы ў якасьці грамадзкай улады, робячыся „публічнаю ўладаю“, уладаю, што прасьледуе безасабовы інтарэс парадку“ [17]), і тая прымусовая функцыя, пры дапамозе якой ажыцьцяўляецца гэтая мэта, робіцца яе правам.

Побач з гэтаю публічнаю ўладаю, што абараняе „агульны“ інтарэс, і незалежна ад яе існуюць індывіды з іх прыватнымі інтарэсамі, якія зьяўляюцца на глебе іх эканамічнай дзейнасьці. Гэтая галіна адносін прыватных асоб паміж сабою выдзяляецца ў самастойную галіну правытнага права, якая аддзяляецца ад галіны адносін паміж дзяржаваю і асобаю, і гэтая галіна адносін завецца публічным правам. Такім чынам, асоба нібы раздвойваецца: з аднаго боку яна выступае, як удзельнік рыначнага звароту, а з другога—як удзельнік палітычнага жыцьця. Чалавек, піша Маркс, „у жыцьці вядзе падвойнае жыцьцё, нябеснае і зямное, жыцьцё ў палітычным агульнажыцьці, у якім ён выступае, як грамадзкая істота, і жыцьцё ў цывільнай грамадзе, у якой ён дзейнічае, як прыватная асоба“ [18]). Тая самая абстракцыйная асоба, у якую ператварылася рыначная пэрсона, таварауладар, у адносінах да дзяржавы робіцца „грамадзянінам“, які зьяўляецца надзвычайна чулым да ўсякага дзеяньня дзяржавы, бо пушчаючы ў ход усе свае сродкі прымушэньня дзяржава пагражае парушыць яго, грамадзяніна, натуральную вольнасьць, яго фізычную і духоўную істоту, ня кажучы ўжо пра яго эканамічную вольнасьць на рынку. Таму прыходзіцца адгранічваць сфэру дзейнасьці дзяржавы ад сфэры вольнай дзейнасьці грамадзяніна. Суадносіны паміж гэтымі сфэрамі прадстаўляюцца нават, як прапарцыянальнае: чым шырэй сфэра дзейнасьці дзяржавы, тым вужэй сфэра дзейнасьці асобы, і наадварот, чым вужэй сфэра дзейнасьці дзяржава, тым шырэй сфэра дзейнасьці асобы. Максымум сфэры дзейнасьці асобы і прадстаўляецца альбо ў форме сьпісу праў асобы—суб‘ектыўных публічных праў, якія кожны буржуазны вучоны так званае нямецкае школы лічыць сваім абавязкам вызначыць і ўдакладніць, альбо ў форме пералічэньня функцый па абслугоўваньні асобы, „службаў“, якія выконваюцца дзяржаваю, як гэта прадстаўлена францускаю школаю. Такім чынам, атрымоўваюцца нейкія праўныя сфэры дзейнасьці дзяржавы і асобы, а самыя адносіны паміж дзяржаваю і асобаю, як праўныя адносіны. Трэба толькі дзяр-

---

[17]) Пашуканис. Там сама, с. 100.
[18]) Маркс. К еврейскому вопросу. Лит. Насл., т. I, с. 361.

жаве пераступіць за сваю праўную сфэру дзейнасьці, як тым самым парушаецца праўная сфэра індывіда, і тады гэтыя праваадносіны ператвараюцца ва „уладаадносіны", як называе гэтыя адносіны францускі адміністратывіст Орыу, а за ім і большасьць буржуазных вучоных. Тады дзяржава зьяўляецца паліцэйскаю дзяржаваю, у адзнаку ад праўнае дзяржавы, якая не выходзіць з свае праўнае сфэры, што азначаецца законам. Так менавіта і азначаецца буржуазнымі вучонымі праўная дзяржава, як дзяржава, зьвязаная правам, законам, а таму і ўсякая дзейнасьць дзяржавы, якая служыць глебаю для адносін паміж дзяржаваю і асобаю,—як падзаконная дзейнасьць.

З тае прычыны, што дзейнасьць дзяржавы прадстаўляецца, такім чынам, як адносіны паміж дзяржаваю і індывідам, то гэтая дзейнасьць ня можа ня быць прывадзіма да аднаго паказьніка, менавіта да прымушэньня, бо дзяржаве супроцьстаўляецца ня проста індывід, але яго „натуральная вольнасьць": дзеля індывідуальнага „я" урэшце абыяка, ці прышчэмлена яго фізычная істота, альбо яго вольнасьць эканамічнай і духоўнай дзейнасьці. Таму дзяржаўная дзейнасьць як эканамічная, так і ідэолёгічная і, нарэшце, фізычны гвалт, усё гэта зьліваецца і разглядацца паасобна ня можа.

Самае выкананьне функцый прымушэньня, самае ажыцьцяўленьне прымушэньня атрымоўвае двоістую форму ў залежнасьці ад таго становішча, у якім знаходзіцца тая-ж асоба: альбо яна аказваецца перад простым, беспасрэдным прымусовым уплывам, альбо гэтае прымушэньне арганізуецца пры дапамозе суда. Перщая форма прымушэньня завецца адміністрацыйна-праўнаю формаю прымушэньня; другая-ж—крымінальна - праўнаю формаю. Адміністрацыйным прымушэньнем (Verwaltungszwang) узбройваюцца, такім чынам, органы дзяржаўнае ўлады для простага выкананьня сваіх патрабаваньняў (action direct).

Самыя меры прымушэньня, якімі карыстаюцца адміністрацыйныя органы, таксама прымаюць своеасаблівае, ізноў такі з пункту погляду інтарэсаў асобы, значэньне. Ідэя эквіваленту, пануючая на рынку, ідэя роўнага за роўнае, прыдае гэтым мерам прымушэньня значэньне адміністрацыйных спагнаньняў за парушэньне парадку.

Гэтым мы ўскрылі тыя прычыны, праз якія грамадзкія адносіны, што ўзьнікаюць на глебе дзяржаўнага кіраўніцтва, прымаюць форму пэўных адносін паміж дзяржаваю і асобаю. Мы ведаем цяперака, што гэтыя прычыны маюць свае карэньні ў капіталістычнай эканоміцы, у значэньні приват-

нага ўласьніка, як цэнтральнай фігуры рынку і дзяржавы, як гаранта рыначных адносін. Мы выявілі і ўсе тыя асноўныя асаблівасьці грамадзкіх адносін, якія ў сваёй сукупнасьці складаюць адміністрацыйна-праўную форму, а менавіта, што яна: а) ёсьць форма публічнага права, г. ё. той галіны адносін, якія ўзьнікаюць на глебе абароны буржуазнага парадку, б) устанаўляе ўсе тыя элемэнты, якія складаюць сфэру дзейнасьці грамадзяніна, менавіта суб'ектыўныя публічныя правы, в) зьмяшчае грань паміж сфэраю дзейнасьці грамадзяніна, як удзельніка палітычнага жыцьця, з аднаго боку, і сфэраю дзейнасьці дзяржавы—з другога боку, г) падводзіць усе дзеяньні дзяржавы пад адзіны паказьнік прымушэньня, д) дае бюракратыі гарантыі на ажыцьцяўленьне простых прымусовых дзеяньняў, з мэтаю папярэджаньня і спыненьня парушэньняў буржуазнага парадку, менавіта права адміністрацыйнага прымушэньня, е) прыдае, нарэшце, самім прымусовым мерам характар роўных спагнаньняў за роўнае па прычыненай шкодзе парушэньне буржуазнага парадку.

Але што прадстаўляе сабою гэты адміністрацыйна-праўны ўзор, які мы выявілі? Што гэта, мысьлімыя толькі адносіны, г. ё. не рэальныя адносіны, адносіны, уяўляемыя толькі ў сьвядомасьці людзей, альбо мы маем справу з рэальнымі грамадзкімі адносінамі?

Усё папярэдняе разважаньне гаворыць нібы за тое, што без утварэньня пэўнага мысьлільнага працэсу, мы не атрымалі-б перарабленьня рэальнага тавараўладара, гэтай цэнтральнай фігуры рынку, у грамадзяніна, з аднаго боку, і дзяржавы з яе зусім таксама рэальнымі сродкамі прымушэньня, войскам, паліцыяю, астрогамі, чыноўнікамі—у публічную ўладу. Тутака зусім бясспрэча сьвядомасьць адыгрывала вельмі важную ролю. Але, ці значыць гэта, што адносіна паміж дзяржаваю і асобаю ёсьць толькі прадукт сьвядомасьці, нерэальная? Не, ня значыць, бо і людзі і сама дзяржава рэальныя. Значыцца мы маем рэальныя грамадзкія адносіны. Але ці вычэрпваецца гэтымі грамадзкімі адносінамі ўвесь рэальны сацыяльны зьмест тых зьявішч, якія адбываюцца ў грамадзе на глебе гарантаваньня рыначнага міру, таго парадку адносін, які складваецца на капіталістычным рынку? Не, адносіны паміж дзяржаваю і асобаю не вычэрпваюць усяго сацыяльнага зьместу зьявішч. Не вычэрпваюць таму, што гэтыя грамадзкія зьявішчы, будучы праяўлены толькі, як адносіны паміж дзяржаваю і асобаю, не выяўляюць свае асноўнае сутнасьці грамадзкага зьявішча, клясавай

барацьбы, якая адбываецца ў грамадзе. Праяўленьне грамадзкіх адносін толькі як адносін паміж дзяржаваю і асобаю, ня толькі не вычэрпвае сутнасьці сацыяльнага зьявішча, але больш таго, такое праяўленьне скажае гэта зьявішча, бо ў гэтым адміністрацыйна-праўным узоры мы ня бачым ні барацьбы клясаў, ні дыктатуры буржуазіі, а зусім іншае. Дзяржава выяўлена не як арганізацыя дыктатуры буржуазіі, а як гарант усеагульнага міру, як публічная ўлада, як праўная дзяржава, а асоба выяўлена не як клясавая асоба, не як асоба, належачая тэй ці іншай клясе эксплятататараў альбо эксплятуемых,—бо ў клясавай грамадзе ня можа быць па-за клясавай асобы,—але як натуральны індывід, як чалавек наогул.

Толькі з клясавага пункту погляду робіцца зразумелым той ідэолёгічны туман, якім акутваецца дзяржава, як арганізацыя аховы грамадзкіх інтарэсаў. Абараняць „безасабовы інтарэс парадку“ гэта значыць падтрымліваць і ахоўваць умовы эксплятацыі буржуазіяю рабочае клясы на рынку і на фабрыцы, гэта значыць ахоўваць прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, гэта значыць трымаць у послуху эксплятуемыя масы. Што азначае падпарадкаваньне дзяржаўнай дзейнасьці патрабаваньням закону, што азначае праўная дзяржава? Калі для буржуазнага ідэолёга „пачатак законнасьці зьяўляецца простым вынікам унутранай функцыянальнай залежнасьці паасобных катэгорый публічна-праўных актаў“ [19]), такая, як кажуць, сама прырода актаў кіраўніцтва, то для Энгэльса ўзьвядзеньне гэтага прынцыпу ў натуру, у сьвятыню, азначае толькі наступнае: „Закон сьвяты для буржуа, таму што ён—яго ўласны твор, выдан з яго згоды, для яго карысьці і абароны. Буржуа ведае, што калі-б паасобны закон і рабіў яму шкоду, то ўся будова закону абараняе яго інтарэсы; больш таго, сьвятасьць закону, сьвятасьць парадку, устаноўленага актыўнаю воляю аднае часткі і пасыўна прыймаемага другою часткаю, ёсьць самая моцная апора сацыяльнага становішча буржуазіі. З тае прычыны, што ангельскі буржуа бачыць сябе адбітым у сваім законе, як і ў сваім богу, паліцэйская дубінка—у пэўнай меры, яго ўласная дубінка—мае на яго дзіўнае запакорліваючае дзеяньне. Але з рабочым справа абстаіць зусім іначай. Рабочы вельмі дабра ведае, вельмі добра адчуў, што закон—гэта жэзел, які буржуа падрыхтаваў для яго, і ня будучы

---

[19]) Проф. Елистратов А. Цытав. вышэй, с. 134.

прымушаны да таго, не апэлюе к закону". [20]) Зьвязанасьць дзяржавы правам, праўная дзяржава, таксама зьяўляецца нічым іншым, як формулаю мэтазгоднай арганізацыі панаваньня эксплятататараў: „права мацнейшага, гаворыць Маркс, пад іншымі формамі прадоўжвае сваё існаваньне і ў праўнай дзяржаве". [21])

А што азначае натуральная вольнасьць індывіда і пабудаваная на гэтым прынцыпе сыстэма суб'ектыўных публічных праў? Вось як выразна і дакладна азначае буржуазнае паняцьце вольнасьці Ленін: „Ваша вольнасьць, панове ангельцы, французы, амэрыканцы, ёсьць ашуканства, калі яна супярэчыць вызваленьню працы ад уціску капіталу. Вы драбніцу запамятавалі, панове цывілізаваныя. Запамяталі, што вашая вольнасьць напісана ў канстытуцыі, якая ўзаконьвае прыватную ўласнасьць. Вось у чым сутнасьць справы... Але вашая вольнасьць такая, што гэтая вольнасьць на паперы, а не на справе. Гэта значыць, калі ў вялікіх гарадох бываюць вялікія землі, накшталт гэтай, яны належаць капіталістам, абшарнікам... Вольнасьць сходаў, якая напісана ў канстытуцыі ўсіх буржуазных рэспублік, ёсьць ашуканства, таму што, каб зьбірацца ў цывілізаванай краіне, якая ўсётакі зімы ня зьнішчыла, пагоды не перарабіла, трэба мець памяшканьне для сходаў, а лепшыя будынкі—у прыватнай уласнасьці." [22])

Што азначае, нарэшце, права адміністрацыйнага прымушэньня? Гэта азначае толькі тое, што бюракратыі даецца рэальная магчымасьць карыстацца ўсімі маючыміся спосабамі прымушэньня працоўных мас і прыгнечаных народнасьцяй, і разьлічана гэтае права менавіта на тыя выпадкі, калі патрабуюцца хуткія і рашучыя дзеяньні, без усялякай судовай цяганіны, бо клясавая барацьба, нарастаючы па меры рэвалюцыйнае напружанасьці мас, патрабуе менавіта такога віду дзеяньняў. Калі ў такіх краінах, як Англія і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, буржуазная бюракратыя ў нармальных умовах, г. ё. тады, калі клясавая барацьба не даходзіць да адчыненых рэвалюцыйных выступленьняў, і не надзелена правам адміністрацыйнага прымушэньня, і арганізацыя прымушэньня ажыцьцяўляецца, хаця ў вельмі спрошчанай, але судовай форме, то досыць падняцца рэвалюцыйнай хвалі, як нармальныя законы замяня-

---

[20]) Энгельс. Положение рабочего класса в Англии, с. 185-186.

[21]) Маркс. Введение к критике политической экономии.

[22]) Ленин. Об обмане народа лозунгами свободы и равенства. Соб. соч. т. XVI.

юцца выключнымі, на моцы якіх адміністрацыя пачынае ажыцьцяўляць свае функцыі мэтадамі простых дзеяньняў. У такіх выпадках усё цяжкое „брэмя“ дзяржаўнага кіраўніцтва бяруць на сябе такія фігуры, як Хіксы, якія, калі ім удасца прыдушыць рэвалюцыйны рух, з дзіўным цынізмам пахваляюцца потым перад парлямантам, адлічваючыся ў сваіх крывавых справах.

Практыка прыдушэньня рэвалюцыйных выступленьняў пралетарыяту, натуральна, прымушае усё часьцей карыстацца мэтадамі прымусовых дзеяньняў. „У ангельскай літаратуры,—піша т. Гурвіч,—якая мае нахіл хутчэй прыкрываць, чымся агаляць балячкі гэтага роду, зрабіліся агульным мейсцам прызнаньні, накшталт наступнага: „ітак відавочна, што розьніца паміж нашаю краінаю, дзе мы доўга хвасталіся вярховенствам закону (the supremacy of the „rule of law“) і тымі краінамі, дзе выканаўчая ўлада можа апірацца на „адміністрацыйнае права“, якое растлумачваецца „адміністрацыйнымі трыбуналамі“, зрабілася некалькі менш востраю „за апошнія 15 год“. (І. A. R. Marriot. Englich Political Institution, 1925 р. XZIII)[23]). У тых жа краінах, дзе права адміністрацыйнага прымушэньня зьяўляецца нармальным правам адміністрацыі, як напрыклад, ва Францыі, Гэрманіі, там гэтае права настолькі шырокае па сваім аб'ёму, што яго ажыцьяўленьня зусім досыць дзеля таго, каб хутка і рашуча прыдушыць выступленьне пралетарыяту, што мы бачым, напр., з наступных слоў б. прэм'ер-міністра Брыяна, сказаных ім з прычыны прыдушэньня выступленьня чыгуначнікаў у 1910 г.: „Адміністрацыі ўдалося наданымі ёй законам спосабамі прыдушыць гэтае выступленьне. Я не спыняюся заявіць, што калі-б дзяржаўная неабходнасьць таго патрабавала, то адміністрацыя выйшла-б і за межы закону“.[24]) З гэтых слоў практычнага адміністратара відаць, што праву адміністрацыйнага прымушэньня па сутнасьці невядомы граніцы, азначальнасьць і ўстойлівасьць, і гэтая неазначальнасьць, як у выбары сродкаў прымушэньня, так і ў мэтадах іх ужываньня, атрымала ў буржуазнай навуцы адміністрацыйнага права навуковае прызнаньне, знаходзячы ў праве адміністрацыйнага прымушэньня элемэнты так званага адміністрацыйнага ўгледжаньня (freies Ermessen), альбо дыскрэцыйнай

---

[23]) Проф. Г. С. Гурвич. Политический строй современных государств. Англия. М.-Л. 1927 г., с. 144.

[24]) Цытав. у праф. А. Ф. Евтихиева, с. 11.

ўлады (pouvoir discrétionnair), абгрунтоўваючы тым самым сваявольле паліцэйскай улады пры прыдушэньні рэвалюцыйных мас.

Толькі цяперака мы вычарпалі ўвесь сацыяльны зьмест тых зьявішчаў, якія адбываюцца ў грамадзе на глебе гарантаваньня буржуазнага парадку. Мы бачылі, што тая сыстэма адносін, якая складаецца, як адносіны паміж дзяржаваю і асобаю, служыць ні чым іншым, як праяўленьнем адносін паміж клясам. Відавочна, што без такога праяўленьня адносіны паміж клясамі не маглі быць рэалізаваны; значыцца, тая сыстэма адносін паміж дзяржаваю і асобаю, якая і ёсьць адміністрацыйная праўная сыстэма, ёсьць форма рэалізацыі клясавага панаваньня, прытым форма рэалізацыі палітычнага панаваньня менавіта буржуазіі. Значыцца, адміністрацыйна-праўная форма ня проста адбівае ў сьвядомасьці клясавыя адносіны, але адыгрывае пэўную рэальную актыўную ролю, якая выражаецца у тым, што пры яе дапамозе буржуазія арганізуе сваё дзяржаўнае кіраўніцтва (Verwaltung, administration) і тым рэалізуе сваё палітычнае панаваньне. У гэтым і зьяўляецца рэальная роля адміністрацыйнага права (Verwaltungsrecht, droit administration). Такім чынам мы атрымоўваем нібы два рады грамадзкіх адносін; па першае—рэальныя адносіны паміж клясаю, і па другое—іх рэальнае праяўленьне, як сыстэма адносін паміж дзяржаваю і асобаю. Але праяўленьне гэтае асабістае, і асабістасьць гэтая ў тым, што грамадзкія адносіны праяўляюцца не такімі, якімі яны існуюць сапраўды, а нібы ў перавернутым відзе. Дзяржава выступае не як клясавая дзяржава, а як дзяржава, якая ахоўвае агульныя „публічныя“ інтарэсы і асобу, што ня можа ня быць асобаю, належачаю да тае альбо іншае клясы, аказваецца па-за клясаваю асобаю „асобаю, наогул“. Такое праяўленьне грамадзкіх адносін Маркс называе ідэолёгічным праяўленьнем, параўноўваючы гэтае праяўленьне, з праяўленьнем сапраўднасьці ў фатаграфічным апараце. „У кожнай ідэолёгіі, пісаў ён, людзі і іх адносіны прадстаўляюцца перавернутымі да гары нагамі, як у камэр-абскуры“ [25]). У даным выпадку мы бачым адміністрацыйна-праўную форму такога ідэолёгічнага праяўленьня грамадзкіх адносін. Але гэтая адміністрацыйна-праўная форма, як і ўсякая іншая праўная форма, будучы ідэолёгічнаю, не азначае, што яна зьяўляецца толькі прадуктам сьвядомасьці, але што яна ёсьць у той самы час формаю грамадзкага існаваньня. „Ідэолёгізм па-

[25]) Маркс. Немецкая идеология. Архив Маркса и Энгельса.

няцьцяў, гаворыць т. Пашуканіс, не зьнішчае рэальнасьці і матар'яльнасьці тых адносін, якія яно выражае" [26]). Вось чаму адміністрацыйнае права, як і права наогуль, ёсьць перш за ўсё сыстэма грамадзкіх адносін, а ня правіл, норм, законаў. Вось чаму буржуазнае адміністрацыйнае права ня ёсьць полая форма, у якую можна ўкласьці любы зьмест; гэтая форма непарыўна з пэўнымі адносінамі, менавіта з адносінамі, што выражаюць панаваньне буржуазіі; гэтая форма ёсьць самы кавалак жывое, пэўнае сапраўднасьці. Адрываць форму ад зьместу немагчыма. Менавіта ў такой сувязі і знаходзіцца дыялектычная ўзаемазалежнасьць паміж імі, якая выражаецца паводле азначэньня Гэгэля ў наступным: „зьмест не бясформены, але мае ў самым сабе форму, і ў той самы час гэтая форма для яго зьяўляецца нечым надворным... Тутака ў наяўнасьці абсалютная суадносіна зьместу і формы самой па сабе, менавіта—пераход аднаго ў другую, так што зьмест ёсьць ні што іншае, як пэратварэньне формы ў зьмест, а форма—пэратварэньне зьместу ў форму" [27]).

Вось тая самая акалічнасьць, што адміністрацыйна-праўная форма ёсьць спэцыфічная, гістарычная форма праяўленьня клясавых адносін, атрымоўваючая сваё найвышэйшае расьвіцьцё менавіта ў буржуазнай грамадзе, вось гэтую самую акалічнасьць і не разумеюць тыя, хто спрабуе ўкласьці ў гэтую форму зусім іншую сыстэму дзяржаўнага кіраўніцтва, г. ё. іншую сыстэму рэалізацыі клясавага панаваньня, менавіта—дыктатуру не буржуазіі, а рабочае клясы. Яны не разумеюць таго, што адміністрацыйна-праўная форма, як гістарычная форма, узьнікае, разьвіваецца і далей адмірае. Гістарызм адміністрацыйнага права разумеецца буржуазнымі вучонымі надзвычайна вузка, менавіта, як гістарычная зьмена паасобных адміністрацыйна-праўных канструкцый, інстытутаў, г. ё. што адны адміністрацыйна-праўныя канструкцыі замяняюцца другімі адміністрацыйна-праўнымі канструкцыямі; сама-ж па сабе адміністрацыйна-праўная форма застаецца жыць. Таму, да прыкладу, Кабалеўскі прызнае, што аб'ектыўнае значэньне праўных норм, якія рэгулююць савецкі дзяржаўны лад, патрабуюць ад адміністратывіста навых юрыдычных канструкцый" [28]). На першы погляд гэтае палажэньне выглядае нават рэвалюцыйна; у сапраўднасьці-ж такое сьцьверджаньне азначае ўвекавечаньне самое адмі-

---

[26]) Пашуканис. Общая теория и т. д, с. 32.

[27]) Цытав. у П. Стучки—Курс советского гражданского права. М. 1927 г., стар. 18.

[28]) Кобалевский. Цыт. вышэй, стар. 25.

ністрацыйна-праўнае формы, бо яно ня мысьліць сабе адмі-раньня адміністрацыйна-праўнай формы як такое. І няма нічога дзіўнага, што пры ўсіх спробах Кабалеўскага падыйсьці да савецкага кіраўніцтва з новымі адміністрацыйна-праўнымі канструкцыямі, атрымоўваецца ўсё-ж выключнае скажэньне сапраўднае сыстэмы савецкага кіраўніцтва. Вышэй мы ўжо пазнаёміліся з некаторымі такімі скажэньнямі. Цікавы яшчэ адзін зусім канкрэтны прыклад. Французскае права, кваліфікуючы суб'ектаў публічнага права, адрозьнівае сярод іх арганізацыі, што ўзьнікаюць з прыватнай ініцыятывы і прызнаны грамадзка-карыснымі (établissements d'utilité pullique), як напрыклад, публічныя бібліятэкі, таварыствы ўзаемадапамогі, канцэсіянэры, якіх ужо сам Кабалеўскі сюды далучае. Падыйшоўшы з тым самым фармальна-юрыдычны мэтадам вывучэньня да нашых савецкіх арганізацый, ён пад разуменьне étabbissement d'utilité public падводзіць наш прафсаюз, адзін з асноўных стрыжняў усяе савецкае сыстэмы, адзін з „прыводных раменьняў“, як назваў іх Уладзімір Ільліч, раменьняў, праз якія прыводзіцца ў дзеяньне ўся сыстэма дыктатуры пралетарыяту. Для Кабалеўскага, які канечна хоча юрыдызаваць савецкае кіраўніцтва, бо гэта адзінае яго прызнаньне, як „юрыста па прафэсыі“ (Маркс), прафсаюзы ўсяго толькі грамадзка-карысныя арганізацыі, па не грамадзка-патрэбныя. Такое скажэньне атрымалася, паўтараю, дзякуючы неразуменьню таго, што здарылася ня толькі з паасобнымі канструкцыямі буржуазнага адміністратыйнага права, але з адміністрацыйна-праўнай формай, як цакою.

Каб выявіць працэс, што адбываецца з адміністрацыйна-праўнаю формаю ва ўмовах пераходнага перыяду, зьвернемся да тых зьмен, якія адбыліся ў эканоміцы і ў клясавых адносінах у сувязі з устанаўленьнем дыктатуры пралетарыяту.

Перш за ўсё мы бачым, што важнейшы эканамічны корань, на якім вырасла адміністрацыйна-праўная форма, а менавіта, прыватны тавараўладар, уступіў сваё цэнтральнае мейсца на рынку другому тавараўладару—дзяржаўнаму прадпрыемству, якое зьлітована з самою дзяржаваю, зьяўляецца яго органам. Адсюль шэраг вынікаў для адміністрацыйна-праўнай формы.

Па-першае, галіна адносін паміж прыватнымі тавараўладарамі, якая, хаця яшчэ і ня страціла значэньня самастойнай галіны прыватнага права, адмяжоўваючыся ад публічнага права, значна звузілася і настолькі, што пуб-

лічнае права „падпарадкавала сабе прыватнае права“ [29]), так што самае супроцьстаўленьне прыватнага і публічнага права чым далей, тым усё больш робіцца малазначным у грамадзкім сэнсе. У зьвязку з гэтым пачынае траціць сваё значэньне і абстрактны індывід з усімі яго „натуральнымі“ якасьцямі, вытворнымі ад рыначнай пэрсоны, уласнасьцю, эканамічнай вольнасьцю, вольнасьцю наогул, г. ё. як грамадзянін, супроцьстаячы дзяржаве. Асоба „наогул“, грамадзянін, аказваецца ў становішчы звычайнага сьмяротнага, г. ё. асобаю, належачаю да тае ці іншае клясы, і тым самым клясавыя адносіны агаляюцца. Такое агаленьне клясавых адносін, адчынены характар дыктатуры пралетарыяту зусім зразумелы, бо пралетарыяту няма перад кім і няма чаго хаваць сваю сапраўдную ўладу, бо яму няма каго ашукваць, бо ён не зацікаўлены эксплёатаваць каго-небудзь. Наадварот, яго мэта — „зьнішчэньне эксплёатацыі чалавека чалавекам“, менавіта ў гэтым яго вызваленьне.

Супроцьстаўленьне асобы дзяржаве патолькі ня траціць свайго значэньня, паколькі яшчэ ёсьць меншасьць, супроцьстаячая па свайму клясаваму становішчу пралятарскай дзяржаве і пакольκі асоба часта аказваецца ў становішчы тавараўладара. Але пераважная большасьць насельніцтва належыць як раз да рабочых і асноўных мас сялянства, якія знаходзяцца ў саюзе і ажыцьяўляюць пад кіраўніцтвам пралетарыяту дзяржаўную ўладу, становішча-ж іх, як „тавараўладароў“ (продаж свае рабочае сілы, прадуктаў свае, а тым больш калектывізаванае гаспадаркі) таксама якасна адрозьніваецца ад тавараўладароў на капіталістычным рынку, бо ўсё гаспадарчае жыцьцё аказваецца пад плянава-рэгулюючым уплывам пралятарскае дзяржавы, якая, апроч таго, што зьяўляецца органам плянавага рэгуляваньня, таксама зьяўляецца і тым самым магутным гаспадарствуючым суб‘ектам, з якім пралетарыяту і сялянству ў першую чаргу прыходзіцца ўваходзіць у гаспадарчыя адносіны, прычым у такія адносіны, якія не зьяўляюцца адносінамі эксплёатацыі, бо сродкі вытворчасьці знаходзяцца ў руках не прыватнага ўласьніка, а рабочае дзяржавы, якая арганізавана перадае атрымоўваемы дадатковы прадукт і прыбытак „усім працоўным і толькі ім“ (Ленін). І вось тая самая акалічнасьць, што велізарная большасьць народу аказваецца сацыяльна-зьлітованаю з самою дзяржаваю, само супроцьстаўленьне прыватнага агульнаму, асобы наогул дзяржаве,

[29]) П. Стучка. Цыт. вышэй.

пачынае пераходзіць у сваю супроцьлежнасьць, а менавіта ў прынцып уцягненьня мас у дзяржаўнае кіраўніцтва. А гэта ўжо ёсьць аснова для адмаўленьня адміністрацыйна-праўнай формы, бо праўная форма грунтуецца менавіта на супроцьстаўленьні альбо прыватных інтарэсаў паміж сабою (прыватнае права), альбо прыватных і агульных (публічнае права), бо, калі няма супроцьстаўленьня, то няма і разьмежаваньня праўных сфэр дзейнасьці. У гэтым сьмерць праўнай формы. Вось чаму спроба юрыдызаваць, да прыкладу, адносіну паміж савецкаю дзяржаваю і прафсаюзамі, г. ё. формаю арганізацыі ўцягненьня мас у дзяржаўнае кіраўніцтва, прыводзіць, як мы бачылі, да поўнага скажэньня становішча прафсаюзаў у сыстэме савецкага кіраўніцтва.

І таксама мы ня маем падстаў гаварыць, што адносіны паміж дзяржаўнымі органамі і грамадзкімі арганізацыямі цалкам зьяўляюцца адносінамі праўнымі, таму што тутака паміж дзяржаўнымі органамі і грамадзкімі арганізацыямі адбываецца толькі разьмеркаваньне функцый не на аснове адасобленых, а наадварот, адзіных інтарэсаў. Досыць прывесьці, да прыкладу, такую ацэнку нашых грамадзкіх арганізацый, якую дае т. Рыкаў у сваім выступленьні на XV зьезьдзе партыі, каб у гэтым пераканацца: „Нам не абайсьціся без ускладненьня сыстэмы масавых арганізацый, не абайсьціся і без прыстасаваньня дабраахвотных таварыстваў для работы над вырашэньнем паасобных задач сацыялістычнага будаўніцтва“ [30]).

Таму адносіны паміж дзяржаўным органам і грамадзкай арганізацыяй могуць разглядацца толькі як адносіны супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі. [31]) Дзяржаўны орган уваходзіць у адміністрацыйна-праўныя адносіны з грамадзкімі арганізацыямі толькі ў пэўных выпадках, аб якіх гутарка будзе ніжэй.

Прыватны тавараўладар, згубіўшы сваё цэнтральнае мейсца на рынку, трацiць і сваё значэньне асобы наогул, як таго адзінага цэнтру, у адносінах да якога дзяржава ўтварае свае дзеяньні. Індывід перастае быць тым адзіным фокусам, які рэагуе на ўсякае дзеяньне дзяржавы, успрыймаючы яго як пануканьне, бо няма ўжо тае балючае чуласьці да ўшчамленьня яго, індывіда, эканамічнай і зьвязанай з гэтым ідэолёгічнай вольнасьці, інакш кажучы, яго праўнай

---

[30]) VX с'езд ВКП(б). Стенографический отчет. М.—Л. 1928 г., с. 782.

[31]) С. Берцинский. Советская демократия и наркомат. „Советское право“ за 1929 г. № 1.

сфэры, у сувязі з чым самая грань паміж яго сфэрай дзейнасьці і сфэрай дзейнасьці дзяржавы пачынае стушоўвацца. А калі гэтая грань стушоўваецца, то пытаньне аб тым, ці выходзіць альбо не выходзіць дзяржава з свае праўнае сфэры, ці зьвязана дзяржава праўнымі рамкамі, г. ё. законам, таксама траціць сваё значэньне, а значыцца падсякаюцца асновы буржуазнае „праўнае“ дзяржавы, трацяць сваё значэньне і элемэнты, што складаюць праўную сфэру індывіда—суб‘ектыўныя публічныя правы.

Балючая чуласьць грамадзяніна, які ўспрыймае дзеяньні дзяржавы толькі як пануканьне, грамадзкі прытупляецца таксама і таму, што рэальны аб‘ём прымушэньня скарачаецца. Гэтае скарачэньне адбываецца таму, што рэальнае прымушэньне прыходзіцца ўжываць не да большасьці эксплятуемых, а да меншасьці былых эксплятатараў.

Зразумела, што і сярод саміх працоўных ня могуць ня быць анамальныя ў клясавым сэнсе элемэнты, у адносінах да якіх пралятарская дзяржава прымушана ўжываць рэальныя прымусовыя меры. Але трэба мець на ўвазе, што ў адносінах да такіх элемэнтаў прымусовыя меры злучаюцца з цэлаю сыстэмаю мер культурна-выхаваўчага характару; па-другое—трэба мець на ўвазе разьвіцьцё самадысцыпліны сярод саміх працоўных, якія чым далей, тым выразьней у масе усьведамляюць сваю адказнасьць пануючае клясы; па-трэцяе—нарэшце, той натуральны люты пратэст, які выклікаецца ў шырокіх працоўных мас зусім натуральнымі-ж скажэньнямі, уласьцівымі савецкай дзяржаве менавіта бюракратычнымі скажэньнямі, гэты пратэст, які ў любой буржуазнай дзяржаве выклікаў-бы магчыма выключныя прымусовыя мерапрыемствы, у нас гэты пратэст зьяўляецца не пратэстам супроць дзяржаўнай улады, а самакрытыкаю, якая мала сказаць сябе апраўдала, але паказала ўсю сваю неабходнасьць, як мэтад аздараўленьня нашага дзяржаўнага апарату, як мэтад узмацненьня яго, як апарату сацыялістычнага кіраўніцтва.

Пануканьне, у выніку ўсяго гэтага дэфэтышызуецца, яно траціць значэньне агульнага паказьніка, пад які падводзіцца з індывідуальнага пункту погляду ўся сукупнасьць мерапрыемстваў дзяржавы. Гэтыя мерапрыемствы, прымаючы сваё сапраўднае значэньне грамадзкіх мерапрыемстваў, што праводзяцца пануючым пралетарыятам, цяперака не зьліваюцца паміж сабою у адно агульнае разуменьне пануканьня, а робяцца яснымі, як такія. Па іх мы пачынаем адрозьніваць рэальныя мэты, якія ставіць перад сабою пралетарыят,

а менавіта: узмацненьне свае дыктатуры і пабудаваньне сацыялістычнае грамады. Робіцца ясным сапраўдны характар гэтых мерапрыемстваў, ці будуць гэтыя мерапрыемствы ў галіне гаспадаркі, у галіне сацыяльна-культурнай альбо, нарэшце, у галіне абароны надворных умоў сацыялістычнага будадніцтва, г. ё. у галіне гвалтоўнага прыдушэньня контррэвалюцыйных выступленьняў клясавага ворага, які знаходзіцца па-за межамі альбо схаваўся ўнутры, а таксама абароны ад дэклясаваных і сацыяльна-анармальных элемэнтаў. Гэта апошняя задача як-бы яна не была важнаю ў параўнаньні з задачамі разьвіцьця вытворчых сіл на сацыялістычнай аснове, адступае на другі плян, а таму, як кажа Энгельс, кіраўніцтва людзьмі зьмяняецца кіраўніцтвам рэчамі, і асноўнымі функцыямі дзяржавы зьяўляюцца ня функцыі „ночнага вартаўніка“, а рэчавыя функцыі: сацыялістычнае плянаваньне, падлік, кантроль.

Толькі па меры рэальнага выпаўненьня функцый сацыялістычнага будаўніцтва, асоба набывае рэальную магчымасьць карыстацца ўсімі прадуктамі грамадзкае працы, набывае магчымасьць годнага чалавечага існаваньня, бо адным з важнейшых стымулаў да належнага выпаўненьня гэтых функцый зьяўляецца задаволеньне патрэб найшырокіх працоўных мас. Гэтым дэфэтышызуецца „вольнасьць асобы“, бо яе рэальнае ажыцьцяўленьне аказваецца ў простай залежнасьці ад належнага выпаўненьня функцый дзяржаўным апаратам. Тутака мы ізноў спатыкаемся з падставаю таго, што савецкаму праву зьяўляецца чужою сыстэма публічных суб‘ектыўных праў. Адсутнасьць гэтай „сыстэмы“ зусім ня значыць падпарадкаваньне асобы „уладаючым“, як гэта ўяўляюць буржуазныя вучоныя, а азначаецца тэю рэальнаю залежнасьцю, якая існуе паміж сапраўднай вольнасьцю асобы і станам вытворчых сіл. Буржуазнае-ж адміністрацыйнае права, уключаючы ў сябе „сыстэмы публічных суб‘ектыўных праў“ ня толькі ігнаруе гэтую рэальную залежнасьць, але і зацьвярджае найвялікшую ману, ператвараючы эксплятатацыю чалавека ў суб‘ектыўныя публічныя правы. Савецкая-ж дзяржава, выконваючы свае функцыі, тым самым забясьпечвае шырокім працоўным масам на справе ўсе тыя вольнасьці, якія буржуазіяю апавяшчаюцца як фармальныя прынцыпы. „Пасьля перамогі пралетарыяту“ цэнтр вагі перасоўваецца ад фармальнага прызнаньня вольнасьцяй (як было пры буржуазным парлямантарызьме) да фактычнага забясьпечаньня карыстаньня вольнасьцямі з боку працоўных, што скідваюць эксплятататараў, напр., ад прыз-

наньня вольнасьці сходаў да перадачы ўсіх лепшых саляў і памяшканьняў рабочым, ад прызнаньня вольнасьці слова, да перадачы ўсіх лепшых друкарняў у рукі рабочых і г. д.[32])

Адміністрацыйна-праўныя элемэнты губляюцца таксама і ў сувязі з разьвіцьцем сацыялістычнага плянаваньня. Аснова сацыялістачнага плянаваньня ў „кіраўніцтве рэчамі“ азначе замену праўнага рэгуляваньня мэтадам тэхнічнага рэгуляваньня. Калі праўнае рэгуляваньне дапушчае наяўнасьць паасобных самастойных цэнтраў, уваходзячых паміж сабою у адносіны, у залежнасьці ад тых розных мэтаў, якія ставіць перад сабою кожны з гэтых цэнтраў, і вынік суадносін гэтых цэнтраў атрымоўваецца аўтаматычны, то тэхнічнае рэгуляваньне тым і адрозьніваецца, што тутака загадзя ёсьць нейкі адзіны цэнтр, які сьвядома накіроўвае дзеяньні паасобных цэнтраў, якія ў адносінах да гэтага адзінага цэнтру не самастойны, хаця ў адносінах адзін да другога гэтыя паасобныя цэнтры, супрадпарадкаваныя адзінаму цэнтру, могуць быць і самастойнымі. Выходзячы з гэтага мы і адрозьніваем капіталістычную плянавасьць ад сацыялістычнай. Першая не дапушчае адзінага для ўсяе капіталістычнае гаспадаркі цэнтру кіраўніцтва, хаця паасобныя капіталістычныя цэнтры самі па сабе могуць быць і вельмі рэчавымі (концэрн), а таму ўзаемаадносіны паміж гэтымі цэнтрамі, як самастойнымі гаспадарчымі адзінкамі, дапушчаюць праўнае рэгуляваньне. Сацыялістычная-ж плянавасьць бязумоўна дапушчае адзіны цэнтр плянаваньня (Дзяржплян), якому супадпарадкаваны паасобныя цэнтры кіраўніцтва.

Таму адносіны па ўстанаўленьні плянавых заданьняў і спосабаў іх выкананьня паміж плянавым і плянаваным органам, хаця-б гэтым плянавым органам зьявілася і дзяржаўнае прадпрыемства, г. ё. орган, які выконвае свае функцыі шляхам удзелу ў грамадзянскім звароце (ВСНГ і трэст),—ня могуць быць прызнаны праўнымі, а толькі арганізацыйна-тэхнічнымі, хаця пры азначэньні гэтых узаемаадносін мы і ўжываем паняцьці праў і абавязнасьцяй. Гэтыя юрыдычныя тэрміны не павінны прымусіць нас прызнаць такія адносіны адміністрацыйна-праўнымі; мы ведаем, што Энгельс, аналізуючы адносіны першабытна-нявольніцкае грамады, у якой ён адмаўляў наяўнасьць праўных адносін, карыстаўся ўсё-ж такі паняцьцямі праў і абавязнасьцяй.[33])

[32] Ленин. Сбор. соч. Т. XV, стр. 161.

[33]) Энгельс. Происхождение семьи, частной собственности и государства.

Пытаньне аб правох паміж органамі, што знаходзяцца ў сувязі, асснованай толькі на плянавасьці і супапададкаваньні, па сутнасьці зьяўляецца пытаньнем аб разьмеркаваньні функцый, у залежнасьці ад характару якіх азначаецца і структура органаў.

Сацыялістычная плянавасьць, дапушчаючы адзіную мэту, якая ажыцьцяўляецца ўсімі органамі кіраўніцтва, узмацняе элемэнты мэтазгоднасьці ва ўсім савецкім кіраўніцтве.

Адным з выяўленьняў узмацненьня мэтазгоднасьці ў савецкім кіраўніцтве зьяўляецца сацыялістычная рацыяналізацыя апарату савецкага кіраўніцтва, якую таксама, як і плянавасьць, трэба адрозьніваць ад рацыяналізацыі буржуазнага дзяржаўнага апарату, бо рацыяналізацыя падпарадкавана тым мэтам, якія прасьледуе пануючая кляса.

Узмацненьне мэтазгоднасьці ў савецкім кіраўніцтве мае яшчэ і тое значэньне, што матывам мэтазгоднасьці падпарадкоўваюцца фармальныя рамкі законнасьці, падпарадкоўваюцца ўстаноўленыя агульныя правілы, разьлічаныя на нейкае сярэдняе, „нармальнае“ становішча. Інакш кажучы, па матывах мэтазгоднасьці можа быць прыстасованы ў паасобных канкрэтных выпадках ня той „маштаб“ (Маркс), які ўстаноўлен адміністрацыйна-праўнаю нормаю. Гэта таксама ёсьць выражэньне дэфэтышызацыі адміністрацыйна-праўнай формы, паколькі аснове фармальнай буржуазнай законнасьці, як фэтышу, супроцьстаўляецца адчыненая клясавая мэтазгоднасьць.

У паасобку аснове мэтазгоднасьці падпарадкоўваюцца і тыя гвалтоўныя мерапрыемствы, якія ўжываюцца савецкаю ўладаю па ахове рэвалюцыйнага парадку. Калі, мы бачылі вышэй, у буржуазнай дзяржаве гвалтоўныя мерапрыемствы дзяржаўнай улады у абарону буржуазнага парадку праяўляюцца як меры эквівалентных спагнаньняў за „правапарушэньне“, то ў савецкай дзяржаве гэтыя гвалтоўныя мерапрыемствы таксама дэфэтышызуюцца, выступаючы, як меры сацыяльнай абароны, што ўжываюцца не па прынцыпу прапарцыянальнасьці, а ў залежнасьці ад мэтазгоднасьці тае альбо іншае меры.

Такім чынам мы бачым, што ва ўмовах пераходнага перыяду адбываецца адмаўленьне старое адміністрацыйна-праўнае формы і разам з тым новыя адносіны клясавага пававаньня пралетарыяту пазбаўляюцца ідэолёгічнага пакрову.

Моманты, калі грамадзкія адносіны пачынаюць скідваць з сябе праўную форму, агаляючы клясавую барацьбу, вядомы

і буржуазнай дзяржаве, асабліва сучаснай імпэрыялістычнай дзяржаве, што зьяўляецца выражэньнем крызісу буржуазнай дзяржаўнасьці, крызісу, які адбываецца ў сувязі з узмацненьнем супярэчнасьцяй паміж прадукцыйнымі сіламі і капіталістычнымі вытворчымі адносінамі. Але гэта ня значыць, што буржуазная адміністрацыйна-праўная форма ўступіла ў стадыю адміраньня, бо яе эканамічныя карэньні—прыватны тавараўладар, як цэнтральная фігура рынку, і дзяржава, як гарант прыватнай уласнасьці, рыначнага міру—яшчэ цэлыя, а неабходнасьць вуаляваньня клясавага панаваньня буржуазіі яшчэ застаецца. Гэта азначае толькі крызіс буржуазнай адміністрацыйна-праўнай формы, крызіс, які служыць прадвесьнікам рэвалюцыйнага выбуху гэтай формы. Крызіс буржуазнай адміністрацыйна-праўнай формы мае мейсца тады, калі клясавая барацьба даходзіць да пэўнага напружаньня. Выражаецца гэты крызіс, напрыклад, у тым, што дзяржава аказваецца не адзіным гарантам „усеагульнага міру“: прыватныя дэтэктывы ў Амэрыцы, г. ё. наёмныя банды галаварэзаў, якія знаходзяцца на службе ў паасобных фабрыкантаў, заводчыкаў і ўступаюць у дзеяньне ў час выступленьня рабочых, каманды пешай і коннай паліцэйскай варты, сфармаваныя у 1905 годзе на сродкі рускай буржуазіі і якія абавязаны былі выконваць патрабаваньні ўладароў па ахове іх маёнткаў, нарэшце, фашыстоўскія арганізацыі, якія яшчэ ня ўсюды пасьпелі зрабіцца цалкам дзяржаўнымі, а покуль што займаюць палажэньне, дзякуючы сацыял-рэнэгатам, établissements d'utilité publique—арганізацыямі грамадзка-карыснымі, у спадзеўцы на тое, што яны ў хуткім часе зробяцца établissements publique, дзяржаўнымі арганізацыямі—вось прыклады крызісу буржуазнай адміністрацыйна-праўнай формы. Сапраўднае адмаўленьне гэтай формы пачынаецца толькі там і тады, дзе і калі важнейшыя эканамічныя яе карэньні вырываюцца пралятарскаю рэвалюцыяю, калі „б'е час капіталістычнай прыватнай уласнасьці“. Таму нальга блытаць крызіс праўнай формы ў буржуазнай дзяржаве, крызіс, што азначаецца такімі прычынамі і выражаецца ў такіх формах, якія ўласьцівы толькі буржуазнаму дзяржаўнаму ладу, з тым, што адбываецца з адміністрацыйна-праўнаю формаю ва ўмовах пераходнага перыяду. Такое блытаньне прыводзіць да памылковага прызнаньня, нібы савецкае права зьяўляецца завяршэньнем нейкіх тэндэнцый, што наглядаюцца ў буржуазным праўным парадку. Такі пункт погляду ня можа не прывесьці да таго, каб у канчатковым выніку фашызм зблытаць з „бальшавізмам“.

Але мы яшчэ ня вычарпалі таго працэсу, які адбываецца з адміністрацыйна-праўнай формай ва ўмовах пераходнага перыяду.

Да гэтых пор мы сачылі толькі за тым, што вядзе да адмаўленьня буржуазнай адміністрацыйна-праўнай формы, і толькі патолькі нас цікавілі ўноў нараджаючыяся грамадзкія адносіны, якія складаюць сыстэму савецкага кіраўніцтва.

Адбываючаеся, як мы бачылі, рэвалюцыйнае адмаўленьне буржуазнага адміністрацыйнага права яшчэ не азначае поўнага „скачку" ад буржуазнага адміністрацыйнага права да не-права, бо мы яшчэ ня можам абыйсьціся без некаторых адміністрацыйна-праўных форм арганізацыі пралетарыяту, без такога мэтаду кіраўніцтва.[34]) Мы падкрэсьліваем значэньне гэтых спэцыфічных форм арганізацыі, як пэўнага мэтаду арганізацыі, бо нельга ўтоежсамліваць адміністрацыйнае права з сыстэмаю арганізацыі наогул і ўзмацненьне значэньня арганізуючае асновы, з узрастаньнем значэньня права; пры цалкам разгорнутым сацыялізьме значэньне арганізацыйных пачаткаў будзе вялізарнае, значэньне-ж праўных мэтадаў арганізацыі будзе нязначнае. Гаворачы аб праўных формах савецкага кіраўніцтва, мы не фэтышызуем гэтыя формы, мы не прыдаем ім якога-небудзь містычнага значэньня, мы ім прыдаем толькі значэньне пэўнага арганізацыйнага мэтаду, але які адыгрывае пэўную ролю ў савецкім кіраўніцтве. „Калі нашая рэальная канстытуцыя, гаворыць т. Стучка, (зразумела, ня ў сэнсе нечага нярухомага) зьяўляецца прадпасылкаю мажлівасьці нашага сацыялістычнага будаўніцтва, то нашае „адміністрацыйнае права", хаця пад гэтаю назваю нам пакуль мала вядомае, адыграе вялікую ролю, бо, напэўна, ня толькі беспасрэдным узьдзеяньнем аддзельных асоб альбо установ будзе ўдзельнічаць савецкая ўлада ў гэтым будаўніцтве, а тым самым арганізаваным, праўным парадкам.[35])

Гэтыя адміністрацыйна-праўныя формы зьвязаны з наяўнасьцю шэрагу фармальных момантаў, уласьцівых савецкаму кіраўніцтву, якія азначаюцца наступным.

Тутака перш за ўсё прыходзіцца ўлічваць тыя фармальныя пачаткі, якія ўласьцівы савецкай эканоміцы і якія ня толькі цалкам азначаюць адміністрацыйна-праўныя элемэнты спэцыяльнай галіны кіраўніцтва, менавіта гаспадарчага кіраўніцтва, але і накладаюць свой праўны стыль на ўсё савецкае кіраўніцтва.

---

[34]) Пашуканис. Общая теория права и маркс изм.
[35]) Стучка. Цытав. вышэй, с. 84.

Савецкая адміністрацыйна-праўная форма карэньнямі сваімі таксама ўпіраецца ў савецкую экономіку, прырода якой яшчэ фармальная, хаця і дыамэтральна процілежная фармальнай прыродзе капіталістычнай экономікі. Гэтая фармальная прырода савецкай экономікі грунтуецца на тым, што дзяржаўнае прадпрыемства, зьяўляючыся па сутнасьці органам дзяржавы, аказваецца на рынку нібы ў становішчы таго прыватнага тавараўладара, якога мы ведаем, як цэнтральную фігуру на капіталістычным рынку. Гэтыя дзяржаўныя прадпрыемствы ўваходзяць паміж сабою ў такія-ж фармальна-эквівалентныя адносіны, дагаворныя адносіны, якія цяжка адрозьніваюцца ад фармальных адносін прыватных тавараўладароў. У адносінах да іх дзяржава выступае ў ролі нібы гаранта рыначнага міру, і ў пэўных выпадках гэтыя дзяржаўныя прадпрыемствы зварочваюцца да гэтага трэцяга за „справядлівым“ вырашэньне спрэчкі, узьнікшай паміж імі. Гэтыя дзяржаўныя прадпрыемствы нібы адчужаны ад самое дзяржавы, маючы нібы таксама пэўную аўтаномную сфэру дзейнасьці, у якую дзяржава ня можа ўмешвацца. Тутака мы таксама бачым, як дзяржава нібы супроцьстаіць дзяржаўнаму прадпрыемству. Мы ня будзем ужо гаварыць аб тых выпадках, калі ўдзельнікам рыначнага звароту зьяўляецца прыватнае прадпрыемства; тутака, зразумела, у сіле застаецца ня толькі ўсё тое фармальнае супроцьстаўленьне, якое існуе паміж дзяржаваю і гэтым прыватным прадпрыемствам наогул, але гэтае супроцьстаўленьне становіцца ва ўмовах пераходнага перыяду ня толькі па форме, але і па сутнасьці, бо пытаньне ідзе ня тое, што аб гарантыі прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці, а аб яе зьнішчэньні, у тым ліку і на сродкі вытворчасьці ў галіне сельскае гаспадаркі. Нас-жа можа цікавіць, гаворачы аб эканамічных карэньнях фармальных момантаў савецкага кіраўніцтва, толькі цэнтральная фігура рынку, менавіта дзяржаўнае прадпрыемства. А адносіны дзяржавы з дзяржаўнымі прадпрыемствамі такія, што яны таксама зьяўляюцца нібы перавернутымі, г. ё. ідэолёгічнымі, бо гэтыя адносіны толькі па форме такія, што дзяржава нібы супроцьстаіць дзяржаўнаму прадпрыемству ў той час, як гэтае дзяржаўнае прадпрыемства ўтворана самою-ж дзяржаваю, эканамічна зьлітована з ім і падпарадкавана яму. Напэўна, гэтае фармальнае супроцьстаўленьне ня можа атрымаць такога найвышэйшага ідэолёгічнага выражэньня, якое атрымоўвае супроцьстаўленьне буржуазнае дзяржавы прыватнаму тавараўладару; мы ня знойдзем у дзяржаўным прадпрыемстве такой балючай чу-

ласьці, якою ўладае ўзьведзены ў „асобу наогул“, у „грамадзяніна“ прыватны тавараўладар, хаця некаторыя нашыя гаспадарнікі і здольны даходзіць да такое чуласьці, адстайваючы сваю гаспадарчую аўтаномію, і забываюны, што яны зьяўляюцца толькі зьвяном адзінае сацыялістычнае плянавае сыстэмы. Але гэтае супроцьстаўленьне ёсьць, хаця і ў дэфэтышызаваным відзе. Па сутнасьці-ж, такое супроцьстаўленьне, скажам, напрыклад, паміж ВСНГ і трэстам, ёсьць ня больш як мэтад гаспадарчага кіраўніцтва, як форма арганізацыйна-тэхічных адносін паміж вышэйшым і ніжэйшым органам. І тутака мы бачым, як адміністрацыйна-праўныя адносіны пераходзяць у арганізацыйна-тэхнічныя. У тых-жа выпадках, калі вышэйшы орган уваходзіць з ніжэйшым органам у такія адносіны, калі гэты ніжэйшы орган не разглядаецца як удзельнік рыначнага звароту, а як орган толькі падпарадкаваны, тады, як мы бачылі вышэй (гл. стар. 61), няма адміністрацыйна-праўнае адносіны, бо супроцьстаўленьня тутака няма, хаця мы і сустракаем пры разьмежаваньні іх функцый паняцьці праў і абавязнасьцяй.

Такім чынам мы бачым, як тыя фармальныя асновы, якія ўласьцівы савецкай эканоміцы, цалкам азначаюць адміністрацыйна праўныя элемэнты гаспадарчага кіраўніцтва.

Адміністрацыйна-праўныя элемэнты савецкага кіраўніцтва ня толькі выцякаюць беспасрэдна з фармальных асноў савецкай эканомікі, але і служаць таксама выражэньнем яшчэ ня вырашанага цалкам супярэчаньня паміж прыватным і агульным, індывідуальным і каляктыўным. Калі гэтае супярэчаньне ў буржуазным ладзе вырашаецца толькі фармальным устанаўленьнем асабовых „вольнасьцяй“, і інача́й, як мы бачылі, ня можа быць вырашана, г. ё. па сутнасьці ня толькі не вырашаецца, але гэтае супярэчаньне абвастраецца, то ў савецкім ладзе, для якога сыстэма „суб'ектыўных публічных праў“—чужая, гэтае супярэчаньне ў асноўным і выражаецца і вырашаецца іначай, хаця ёсьць і элемэнты падабнасьці вырашэньня гэтага супярэчаньня.

Зьвернемся перш да элемэнтаў падобнасьці. Падобнасьць тутака ў тым, што гэтая супярэчнасьць атрымоўвае як тут, так і там выражэньне клясавага супярэчаньня, клясавае барацьбы, хаця суадносіны клясавых сіл і проста супроцьлежны. Але клясавае прымушэньне і тут і там застаецца, а гэта і надае савецкаму кіраўніцтву адміністрацыйна-праўныя элемэнты. Менавіта ў клясавым характары прымушэньня Ленін бачыць асаблівасьць праўнага адміністрацыйнага прымушэньня. Ён усьлед за Энгельсам даводзіць, што толькі тады, калі дзяржава

„перастане быць палітычнаю дзяржаваю“, „грамадзкія функцыі перарабляюцца з палітычных у простыя адміністрацыйныя функцыі“ [36]).

Але супярэчаньне паміж прыватным і агульным, індывідуальным і каляктыўным у савецкім ладзе ў асноўным выражаецца і вырашаецца ня толькі клясаваю барацьбою, якая прыдае савецкаму кіраўніцтву праўныя элемэнты, але і зусім іншым чынам.

Вышэй мы ўжо паказвалі, у якой шчыльнай сувязі знаходзіцца фактычнае забясьпечаньне карыстаньня шырокімі працоўнымі масамі ўсім матар‘яльным і культурным дабром грамады з тым, у якой меры пралятарская дзяржава рэальна выконвае свае функцыі арганізатара ўсяе сацыялістычнае вытворчасьці. Ступень выкананьня гэтых функцый залежыць ня толькі ад такой аб‘ектыўнай прычыны, як становішча прадукцыйных сіл грамады, але і ад суб‘ектыўных прычын—ад належнае арганізацыі работы дзяржаўнага апарату.

Такім чынам, не апавяшчэньне фармальных вольнасьцяй, а забясьпечаньне належнае работы дзяржаўнага апарату служыць спосабам вырашэньня супярэчнасьці паміж асабовым у грамадзкім і пераходным перыядзе.

Забясьпечаньне належнай работы дзяржаўнага апарату дасягаецца ня толькі сацыялістычнаю рацыяналізацыяю яго, але і мэтадам фармальна-праўным. Гэты спосаб забясьпечаньня належнае работы апарату таксама выходзіць з існуючага супярэчаньня паміж прыватным і агульным.

Нельга забываць, што сацыялізм прыходзіцца будаваць не пры дапамозе аўтаматаў, а жывых людзей. Самая сыстэма пабудовы апарату кіраўніцтва можа быць ідэальнай, г. ё. зусім адпавядаць тым задачам, якія ставіць перад сабою рабочая кляса, але людзі, нельга забываць, не ідэальныя. У кожным з нас яшчэ жыве ўся тая некультурнасьць, якая прышчэплена, як воспа, мінулым агідным капіталістычным укладам, што грунтаваўся на гвалце, эксплятацыі, грабяжы, паніраньні чалавечай асобы, а ў сувязі з гэтым, эгоізьме (асабовым, нацыянальным), шайлокаўскім падыходзе (каб менш не атрымаць, каб больш не прапрацаваць). Словам, мы маем справу з людзьмі, якія носяць на сабе пячатку капіталістычнае грамады, якім гісторыяю загадана будаваць сацыялізм. Каб гэтыя жывыя людзі рабілі высокакультурную справу будаўніцтва сацыялізму, трэба, значыцца,

---

[36]) Ленин. Государство и революция, с. 99.

паставіць работу людзей у належныя ўмовы, і такімі ўмовамі зьяўляецца шэраг фармальных момантаў, якія ўласьцівы становішчу людзей у апараце, г. ё. становішчу іх, як службовых асоб. Адносіны паміж дзяржаваю і гэтымі фізычнымі асобамі будуюцца на тэй падставе, як калі-б гэтыя фізычныя асобы супроцьстаялі дзяржаве, хаця-б загадзя былі зусім упэўнены, што даная асоба гатова на мажлівыя асабовыя афяры дзеля сацыялізму, хаця-б гэта быў і наймацнейшы таварыш. Адсюль тое важнае значэньне, якое мае не маральная, яна дапушчаецца, але юрыдычная адказнасьць службовых асоб, зьвязаная з прымушэньнем адказнасьцю за належнае выкананьне ім работы ў апараце.

Сукупнасьць усіх тых фармальных умоў, якія забясьпечваюць належную работу дзяржаўнага апарату, атрымоўвае паняцьце законнасьці. Ленін не дарма зьвязвае рэвалюцыйную законнасьць з культурным кіраўніцтвам. Рэвалюцыйная законнасьць азначае культурнае кіраўніцтва таму, што яна забясьпечвае належную работу апарату, менавіта сацыялістычнага кіраўніцтва, работу, якая перабудоўвае грамадзкія адносіны на вышэйшую гістарычную ступень. З тае прычыны, што належная работа савецкага апарату вядзе да „зьнішчэньня эксплаатацыі чалавека чалавекам“, рэвалюцыйная законнасьць дае тым самым і неабходныя гарантыі асобы ад мажлівасьці эксплаатацыі яе ў той альбо іншай форме. Вось чаму ўстанавіць грань паміж інтарэсамі вялізарных мас „асобаў“ і інтарэсамі належнай работы дзяржаўнага апарату немагчыма, вось чаму, да прыкладу, скарга, што выходзіць ад рабочага, селяніна, служачага на няправільныя дзеяньні дзяржаўных органаў, парушыўшыя яго інтарэсы, як данае асобы, гэтая скрага зьяўляецца ў той самы час паказаньнем на мажлівыя перабоі апарату; вось чаму важнейшым органам па расьсьледваньні скаргаў, выходзячых ад аддзельных асоб, зьяўляецца той самы орган, які заняты ўдасканаленьнем савецкага апарату—РСІ.

Але з усяго гэтага нельга рабіць таго вываду, што чым больш фармальных рамак работы, тым культурней кіраўніцтва. Наадварот, як піша т. Стучка, „для нас права і культура ня тыя-ж самыя паняцьці“... „культура будучага, гэта новы быт, новыя прывычкі, без усякага праўнага прымушэньня“ [37]). І чым інтэнсыўней будзе разьвівацца сацыялістычная культура, тым менш будзе і такіх фармальна-

[37]) Стучка. „Культура и право“. Журн. Рев. Права за 1928 г. № 2, с. 19.

праўных гарантый, якія ўскладняюць савецкае кіраўніцтва. Лёзунгам Леніна заўсёды было спрашчэньне савецкага кіраўніцтва, што азначае скарачэньне ў першую чаргу лішніх фармальнасьцяй. Але праводзячы гэты лёзунг, трэба ведаць тую залежнасьць, якая існуе паміж гэтымі фармальнасьцямі і становішчам культурнага разьвіцьця. Трэба ведаць меру ў скарачэньні гэтых фармальнасьцяй, бо іначай апарат, менавіта ў сілу свае недастатковае культурнасьці, засьмечанасьці чужымі людзьмі, будзе даваць моцныя перабоі. З другога боку нельга і ўтапіць апарат у гэтых фармальнасьцях, бо іначай работа апарату стане бюракратычнаю, г. ё. вольным альбо нявольным зьдзекам над сацыялістычным будаўніцтвам, над асобаю. Як гаворыць тав. Стучка, „мы ў гэтай пераходнай стадыі імкнемся да мажлівых гарантый асобы, у першую чаргу працоўных, уводзячы рэвалюцыйную законнасьць“ [38]).

Але работа апарату павінна будавацца такім чынам, каб фармальныя рамкі работы не зьвялі на не сутнасьць самое работы. Сутнасьць рэвалюцыйнай законнасьці з таго і складаецца, што фармальныя рамкі законнасьці злучаюцца з рэвалюцыйнаю мэтазгоднасьцю, пры гэтым, як паказвае тав. Стальгевіч, „неабходна дыялектычнае злучэньне абодвых прынцыпаў“ [39]).

Такім чынам мы бачым, што савецкае кіраўніцтва ня можа абыйсьціся бяз шэрагу фармальна-праўных элемэнтаў, якія выцякаюць па-першае—з тых фармальных асноў, якія ўласьцівы савецкай эканоміцы, па-другое—з клясавага характару савецкага кіраўніцтва і па-трэцяе—з неабходнасьці забясьпечаньня належнае работы дзяржаўнага апарату. Характэрнаю асаблівасьцю гэтых элемэнтаў служыць тое, што, хаця яны зьяўляюцца фармальна-праўнымі, але ня маюць значэньня фэтышаў: наадварот, яны дэфэтышызаваны, г. ё. граніцаць з тым, што ператварае ідэолёгічную форму права ў сваё адмаўленьне, бо іх клясавая сутнасьць і іх значэньне простых арганізацыйна-тэхнічных элемэнтаў адкрытыя. Гэта менавіта і адрозьнівае савецкую адміністрацыйную праўную форму ад буржуазнай, якая сама па сабе не адкрыта, каб бачыць зьмест буржуазна-адміністрацыйна-праўнай формы, апошнюю прыходзіцца ўскрываць.

---

[38]) Стучка. „Культура и право“. Жур. Рев. Права за 1928 г. № 2, стр. 19.

[39]) Стальгевич. Пути развития советскай правовой мысли. М. 28 г., стр. 59.

Ледзь патолькі, пакольні мы ў савецкім кіраўніцтве бачым наяўнасьць паказаных вышэй фармальна-праўных момантаў, патолькі можна гаварыць пра савецкае адміністрацыйнае права, якое ў пэўнай меры напамінае буржуазнае адміністрацыйнае права, бо і то і другое зьяўляецца ідэолёгіяю аднаго і таго самага віду, таксама як пралетарская дзяржава напамінае буржуазную дзяржаву, бо і тая і другая зьяўляецца арганізацыяю пануючае клясы. Ленін называе дзяржаву першай фазы камунізму „буржуазнаю дзяржаваю без буржуазіі“, а права гэтай фазы Маркс назваў „буржуазным правам“, узяўшы гэты тэрмін у свае славутыя двухкосьсі. „А іншых норм, апроч буржуазнага права, гаворыць Ленін,—няма“ [40]). Няма таму, што гэтае права, як і ўсякае права, служыць выражэньнем няроўнасьці, выражэньнем процілежнасьці прыватнага і агульнага, якая ёсьць нават пры закончаным сацыялізьме, а калі гаварыць пра эпоху НЭП, то права гэтай эпохі пераходнага перыяду характарызуецца яшчэ клясавым гвалтам. Гэтая апошняя якасьць дае яшчэ большыя падставы гаварыць пра савецкае адміністрацыйнае права як пра буржуазнае права, але без буржуазіі. Але тое і гэтае права, як мы бачылі, ня толькі не параўнальны, але і проста процілежны. Перш за ўсё адміністрацыйна-праўныя элемэнты далёка не вычэрпваюць савецкае кіраўніцтва, па-другое—яны дэфэтышызаваны. Па свайму разьвіцьцю, як ідэолёгічная форма, буржуазна-адміністрацыйнае права значна вышэй тых адміністрацыйна-праўных элемэнтаў, якія мы сустракаем у савецкім кіраўніцтве, бо апошнія губляюць важнейшую асаблівасьць гэтай ідэолёгіі—фэтышызаваньня грамадзкіх адносін і тым ускрываюць сябе, як элемэнты, уключаныя ў сыстэму арганізацыйных мерапрыемстваў, накіраваных на дасягненьне мэтаў і задач, пастаўленых пануючым пралетарыятам.

Толькі цяперака нам робіцца зусім зразумелаю прычына выключнага скажэньня савецкага кіраўніцтва, якое атрымалася ў буржуазных адміністратывістаў. Асноўная памылка іх заключаецца ў тым, што яны не разумеюць асаблівасьці адміністрацыйнага права, як гістарычнай формы рэалізацыі палітычнага панаваньня буржуазіі і імкнуцца ў гэтую форму ўкласьці такі зьмест, які не адпавядае гэтай форме, менавіта савецкае кіраўніцтва, у той час, як у сапраўднасьці тыя эканамічныя і клясавыя карэньні, якія гадавалі буржуазную адміністрацыйна-праўную форму, вырваны

---

[40]) Ленин. Государство и революция, с. 93.

пралятарскаю рэвалюцыяю. Мейсца іх занялі іншыя карэньні, якія азначаюць сабою зусім новы рад фармальна-праўных момантаў у арганізацыі савецкага кіраўніцтва, і якія не вычэрпваюць апошняе. І калі буржуазная навука аб буржуазным адміністрацыйным праве безумоўна мела вялізарнае практычнае значэньне, бо для навуковае сыстэмы буржуазна-адміністрацыйнага права былі рэальныя карэньні, то вопыт гэтай буржуазнай навукі, скарыстоўваемы ў адносінах да савецкага кіраўніцтва, напэўна, ня мае ніякага практычнага значэньня, гэты вопыт дае толькі скажонае ўяўленьне аб савецкім кіраўніцтве. Вынікі гэтага вопыту здаюцца буржуазным адміністратывістам, не як скажонае савецкае кіраўніцтва, а як ашкараджанае буржуазнае дзяржаўнае кіраўніцтва, і іншым нашае савецкае кіраўніцтва, з прычыны прыстасаваньня да яго буржуазных мэтадаў і быць ня можа. Бачучы ў нашым савецкім кіраўніцтве ашкараджанае буржуазнае дзяржаўнае кіраўніцтва, апошняе выклікае, як напрыклад у Еўціхіева, глыбокі жаль: „да жалю, гэтая гарантыя асабовай недатыкальнасьці пашыраецца не на ўсе віды арышту. У паасобку, парадак правядзеньня і зацьверджаньня арыштаў, што праводзяцца органамі Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Кіраўніцтва“ і г. д. [41]).

Усё папярэдняе выкладаньне прыводзіць нас да наступнага.

Сыстэма адміністрацыйна-праўных адносін, пабудаваная на супроцьстаўленьні грамадзян дзяржаве, у прынцыпе ўласьціва толькі буржуазнаму ладу, бо за „грамадзянінам“ захоўваецца прыватны тавараўладар, як цэнтральная фігура капіталістычнага рынку, а за дзяржаваю—гарант капіталістычных рыначных адносін.

Пралятарская рэвалюцыя вырывае важнейшыя эканамічныя карэньні, што гадуюць супроцьстаўленьне грамадзян дзяржаве, у выніку чаго элемэнты, якія канстытуіруюць адміністрацыйна-праўную форму, а менавіта „асобу наогул“ і „дзяржаву, як публічную ўладу“—у прынцыпе губляюцца.

У выніку гэтага праўныя адносіны, што складаюць зьмест адміністрацыйнага права, часткаю губляюцца зусім, ператвараючыся ў арганізацыйна-тэхнічныя, часткаю замяняюцца іншымі зусім новае якасьці. Якасная асаблівасьць новых адміністрацыйна-праўных адносін заключаецца ў тым, што яны зьяўляюцца дэфэтышызаванымі, трымаючы адкрытым

---

[41]) Евтихиев. Цытав. вышэй, с. 216.

свой клясавы зьмест альбо стоячы на грані арганізацыйна-тэхнічных адносін.

З тае прычыны, што адны важнейшыя формы і мэтады арганізацыі савецкага кіраўніцтва не паддаюцца юрыдызацыі, зьяўляючыся арганізацыйна-тэхнічнымі, а другія—хаця і зьяўляюцца фармальна-праўнымі, але ў той самы час дэфэтышызаванымі, і з тае прычыны, што асноўная тэндэнцыя савецкага адміністрацыйнага права ёсьць яго адміраньне, то культываваць адміністрацыйна-праўную форму няма ні тэарэтынных, ні практычных падстаў.

Адсюль можна зрабіць пэўныя вывады адносна таго, які аб'ём паняцьця савецкага кіраўніцтва, і ў якой сыстэме магчыма вывучэньне савецкага кіраўніцтва.

З тае прычыны, што важнейшы канстытуіруючы элемэнт адміністрацыйна-праўнай формы—„асоба наогул" з усімі яе „натуральнымі" якасьцямі, па сутнасьці вытворнымі ад якасьцяй прыватнага тавараўладара, ва ўмовах пераходнага пэрыяду губіць сваё значэньне ў зьвязку з стратаю значэньня прыватнага тавараўладара, як цэнтральнай фігуры рынку, а паняцьце „асобы наогул" служыць тым агульным паказьнікам, пад які падводзіцца буржуазнымі юрыстамі ўсё савецкае кіраўніцтва, то трэба адкінуць гэты агульны паказьнік, што зусім не азначае, як мы высьнілі вышэй, што асоба ў савецкім ладзе ігнаруецца.

Пры адкіданьні гэтага агульнага паказьніку губіцца значэньне прынцыпу падзяленьня ўладаў, як прынцыпу, што вынікае з ідэі інтарэсаў асобы наогул. У сувязі з гэтым сутнасьць дзяржаўнага кіраўніцтва ўжо ня можа разглядацца, як падзаконная дзейнасьць адміністрацыйных органаў, губіцца розьніца паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай дзейнасьцю. Таму паняцьце савецкага кіраўніцтва ўключае ў сябе ўсе віды і формы дзейнасьці органаў савецкае ўлады, якія адначасна зьяўляюцца і заканадаўчымі, і выканаўчым, і судовымі. Са стратаю розьніцы паміж заканадаўчым і адміністрацыйным актам траціцца таксама значэньне розьніцы паміж актам мясцовых і цэнтральных органаў кіраўніцтва.

Толькі адкідваючы гэты агульны паказьнік, да якога прыводзяцца ўсе мерапрыемствы савецкай улады, ускрываецца сапраўдная сутнасьць савецкага кіраўніцтва, як сыстэмы арганізацыйных мерапрыемстваў, рэалізуючых мэты і задачы дыктатуры пралетарыяту і сацыялістычнага будаўніцтва. Тады ня прыдзецца будаваць сыстэму савецкага кіраўніцтва па такіх разьдзелах, якія вядомы сыстэме адміністрацыйнага права і якія вытворны менавіта ад гэтага

агульнага пакazьніка, як напрыклад, „нармальныя прымусовыя паўнамоцтвы адміністрацыйнай улады“ (Кобалевский), „ахова праў асобы“ (Евтихиев), „публічныя правы грамадзян“ (Турубинер), „праўныя формы ўзаемаадносін органаў кіраўніцтва з грамадзянамі“ (Елистратов) і г. д. і інш., пад якімі паняцьцямі яднаюць пытаньні аб гандлі з пытаньнямі аб вэнэрычных хваробах (Елистратов), пытаньні аб ужываньні зброі з пытаньнямі аб тэатры (Кобалевский), арышт з выбарам прозьвішчаў (Евтихиев) і г. д., пры дапамозе якіх паняцьцяў зблытваюць ня толькі мэты і задачы паміж сабою, але таксама і гэтыя мэты і задачы з арганізацыйнымі формамі і мэтадамі іх ажыцьцяўленьня.

Вучэньне аб савецкім кіраўніцтве ня можа задавацца мэтаю прыкрываць клясавую яго сутнасьць, бо задачамі навукі зьяўляецца, наадварот, дапамагаць выразнаму выяўленьню канкрэтных спосабаў ажыцьцяўленьня мэтаў і задач, што стаяць перад пралетарыятам, бо толькі тады яна будзе адпавядаць свайму назначэньню: даць навукова-абгрунтованае кіраваньне да рэвалюцыйнага скарыстаньня такое магутнае зброі сацыялістычнага будаўніцтва, якім зьяўляецца савецкая дзяржава.

Натуральна, што для таго, каб вывучыць канкрэтныя формы і мэтады арганізацыі і дзейнасьці апарату савецкага кіраўніцтва, неабходна выходзіць з эканамічных, клясавых і нацыянальных асноў дыктатуры пралетарыяту, а таксама з тых арганізацыйных прынцыпаў савецкай дэмакратыі, якімі зьяўляюцца ўцягненьне мас у савецкае кіраўніцтва і барацьба з бюракратычнымі скажэньнямі, уласьцівымі савецкаму дзяржаўнаму апарату. У гэтым сэнсе вучэньне аб савецкім кіраўніцтве служыць натуральным працягам вучэньня аб савецкай дзяржаве наогул.

Але гэта ня значыць, што неабходна мэханічнае злучэньне вывучэньня асноў савецкае дзяржавы з вывучэньнем канкрэтных форм савецкага ківаўніцтва, бо, як мне прыходзілася пісаць яшчэ ў 1925 годзе [42]), вывучэньне арганізацыі і дзейнасьці апарату савецкага кіраўніцтва немагчыма у адрыве ад вывучэньня мэтаў і задач, на якія накіравана дзейнасьць апарату. Толькі выходзячы з мэтаў і задач савецкае дзяржавы можна вывучаць мэтады іх ажыцьцяўленьня, функцыі і структуру дзяржаўнага апарату. Таму сувязь паміж вывучэньнем асноў савецкае дзяржавы і фор-

[42]) С. Берцинский. Основные этапы развития ВСНХ. „Сов. Строит.“ за 1925 г. № 2-3.

мамі арганізацыі і дзейнасьці апарату савецкага кіраўніцтва павінна быць не мэханічная, а арганічная. Так, напрыклад, пытаньне аб карэнізацыі ня можа быць вывучана у адрыве ад вывучэньня нацыянальных асноў дыктатуры пралетарыяту, а таксама ў адрыве ад такога прынцыпу сацецкае дэмакратыі, як уцягненьне мас і барацьба з бюракратызмам. Тым ня менш самае пытаньне аб карэнізацыі можа быць выдзелена, як адно з пытаньняў арганізацыі апарату савецкага кіраўніцтва. Такія асноўныя пытаньні набываюць значэньне спэцыяльных пытаньняў савецкага кіраўніцтва, сукупнасьць якіх пытаньняў з вялікаю карысьцю для навуковае іх распрацоўкі і асабліва для мэтаў унівэрсытэцкага выкладаньня могуць быць з посьпехам аб'яднаны ў спэцыяльную галіну вучэньня аб савецкай дзяржаве, ў вучэньне аб савецкім кіраўніцтве.

Такім чынам, выдзяленьне вучэньня аб савецкім кіраўніцтве, як часткі вучэньня аб савецкай дзяржаве, наогул адзначнай ад часткі, што вывучае асновы савецкае дзяржавы, гэтае выдзяленьне ня мае якога-небудзь прынцыповага значэньня і ні ў якой сувязі не знаходзіцца з тым аддзяленьнем вучэньня аб буржуазным кіраўніцтве альбо навукі аб адміністрацыйным праве, якое мы маем у буржуазнай дзяржаўнай навуцы, бо нашае паняцьце савецкага кіраўніцтва зусім іншае і не супадае з паняцьцем адміністрацыйнага права, бо першае значна шырэйшае і не абмяжоўваецца рамкамі паняцьця падзаконнага кіраўніцтва. Пад савецкім кіраўніцтвам мы разумеем дзейнасьць усіх органаў савецкае ўлады з нізу да гары.

Ледзь выходзячы з толькі што паказаных меркаваньняў, у інтарэсах значыцца тэхнічнага падзелу працы ў навуцы і выкладаньні, можна выдзеліць вучэньне аб савецкім кіраўніцтве, як частку вучэньня аб савецкай дзяржаве наогул, частку, якая служыць працягам да часткі, што вывучае асновы савецкае дзяржавы. Строга-ж навукова кажучы, вучэньне аб савецкай дзяржаве—адзінае, бо пытаньні савецкага кіраўніцтва ня могуць быць вывучаны у адрыве ад асноўных прынцыпаў дыктатуры пралетарыяту. Служачы простым працягам агульнага вучэньня аб савецкай дзяржаве, вучэньне аб савецкім кіраўніцтве бярэ савецкую сыстэму ў яе сапраўдным становішчы, устанаўляючы, папершае, канкрэтныя формы і мэтады арганізацыі і дзейнасьці ўсяго апарату савецкага кіраўніцтва пад пунктам погляду ўцягненьня мас у савецкае кіраўніцтва, барацьбы з бюракратычнымі скажэньнямі і значэньня савецкае дзяр-

жавы, як эканамічнае і ідэолёгічнае сілы, а таксама зброі клясавага гвалту, па-другое, спосабы ажыцьцяўленьня спэцыяльных мэтаў і задач, ускладаемых на апарат савецкага кіраўніцтва, што адпаведна належыць да агульнай і спэцыяльнай частак вучэньня аб савецкім кіраўніцтве.

Асноўнымі праблемамі, якія належаць да першай часткі вучэньня аб савецкім кіраўніцтве, зьяўляюцца наступныя:

1) Масавая работа органаў савецкага кіраўніцтва.

2) Грамадзкія арганізацыі ў сыстэме савецкага кіраўніцтва.

3) Сыстэма вылучэньня.

4) Карэнізацыя апарату.

5) Мэтады забясьпечаньня рэвалюцыйнай законнасьці і савецкая служба.

6) Функцыі апарату савецкага кіраўніцтва, дзяржаўныя акты і адміністрацыйныя меры сацыяльнай абароны.

7) Асновы рацыяналізацыі савецкага дзяржаўнага апарату.

У другой частцы ўстанаўляюцца спосабы ажыцьцяўленьня спэцыяльных мэтаў і задач савецкага кіраўніцтва. Гетыя мэты і задачы зводзяцца да трох груп, у адпаведнасьці з трыма галінамі савецкага кіраўніцтва: кіраўніцтва ў галіне гаспадаркі, кіраўніцтва ў галіне сацыяльна-культурнай і, нарэшце, кіраўніцтва ў галіне аховы заваёў пралятарскай рэвалюцыі. Калі першыя дзьве галіны зусім ясныя, то апошняя галіна патрабуе таго, каб выясьніць, што мы пад гэтым разумеем.

Напэўна, кіраўніцтва ў якой-бы то ні было галіне мае сваёю мэтаю зацьверджаньне і разьвіцьцё заваёў пралятарскай рэвалюцыі. Але, як адзначана ўжо было вышэй, неабходна выдзеліць тую дзейнасьць дзяржавы, якая накіравана на абарону знадворных умоў сацыялістычнага будаўніцтва, г. ё. ад ззнадворнага нападу, г. ё. ад імпэрыялістычнай контррэвалюцыі і забясьпечаньне ад контррэвалюцыйных элемэнтаў, што прытаіліся яшчэ ўнутры савецкае дзяржавы. Сюды-ж трэба аднесьці і ўсе падобныя мерапрыемствы, якія накірованы на тыя анамальныя, у клясавых адносінах, элемэнты, якія альбо суб'ектыўна, альбо аб'ектыўна, але таксама аказваюцца ў контррэвалюцыйных шэрагах.

У сыстэме ўнівэрсытэцкага выкладаньня, разьдзел аб гаспадарчым кіраўніцтве ў асноўным вывучаецца дысцыплінаю гаспадарча-адміністрацыйнага права; мейсца-ж вучэньня

аб кіраўніцтве ў галіне сацыяльна-культурнай яшчэ пустуе з прычыны свае нераспрацаванасьці. Таму ад агульных пытаньняў савецкага кіраўніцтва прыходзіцца беспасрэдна перайсьці да пытаньняў аховы заваёў пралятарскай рэвалюцыі.

Вось якія мэтады і плян вывучэньня савецкага кіраўніцтва.

---

Праф. М. Грэдынгер.

# Да пытаньня аб аўтэнтычнасьці тэксту закона пры роўнапраўнасьці дзьвёх ці некалькіх моў.

Пытаньне пра аўтэнтычнасьць тэксту закона пры роўнапраўнасьці дзьвёх ці некалькіх моў—пытаньне вельмі цікавае і важнае з практычнага і тэорэтычнага бакоў— карысна дасследваць з пункту погляду сучаснага беларускага заканадаўства наогул.

Але ў гэтым нарысе мы абмяжуем разгляд праблемы толькі аднэй спробай, узяўшы дзеля гэтае мэты беларускі Грамадзянскі Працэсуальны Кодэкс.

Як вядома, калі ўзяць ГПК БССР, як паасобны і суцэльны твор, дык трэба будзе сказаць, што пахаджэньня ён надта нядаўняга.

З 1923 г. у БССР Грамадзянскі Працэсуальны Кодэкс ужываўся ў яго рускай рэдакцыі. Справа ў тым, што пастановай III Сэсіі ЦВК БССР за 26 ліпеня памянёнага году на тэрыторыю гэтае рэспублікі быў распаўсюджаны ГПК РСФСР з першага верасьня 1923 г. (З. Зак. і Заг. БССР 1923 г. № 13-14, арт. 116).

Пачынаючы з 1927 г., мы маем сваё ўласнае беларускае выданьне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу. Але і яно таксама напісана выключна на рускай мове. Гэта тлумачыцца тым, што ў адрозьненьне ад таго парадку, якім у іншых савецкіх рэспубліках—возьмем, напрыклад, РСФСР або УССР—зацьверджаны былі такія кодэксы, не ЦВК і СНК санкцыянавалі канчаткова ГПК БССР 1927 г., як суцэльны твор, але выйшаў ён у сьвет ведамсьцьвеным парадкам.

Вось чым, зразумела, і тлумачацца тыя асаблівасьці, якія надаюць усяму памянёнаму выданьню спэцыяльны характар. Пра іх і будзем гаварыць ніжэй.

Трэба зазначыць, што мноства зьмен і дадаткаў да Грамадз.-Працэс. Кодэксу, што ўведзены ў яго з часу рэцэпцыі гэтага кодэксу беларускім урадам, рабілі яго далейшае карыстаньне, у выданьні 1923 г., занадта цяжкім. Таму і дадзена было Прэзыдыумам ЦВК БССР даручэньне, каб НКЮст прыступіў у хутчэйшым часе да сыстэматызацыі норм грамадзянска-працэсуальнага права, якія дзейнічаюць на тэрэторыі БССР. У выкананьне гэтага даручэньня памянёным камісарыятам і апрацован быў ГПК 1927 г.

Абежнікам за 15 чэрвеня 1927 г. Народны Камісарыят Юстыцыі БССР запрапанаваў падпарадкаваным яму ўстановам і службовым асобам у сваёй практыцы кіравацца на будучы час выданьнем Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, які быў тады выпушчан выдавецкім пад'адзелам гэтага наркамату.

Зразумела, назваць кодэкс 1927 г. кадыфікацыяй ў сапраўдным сэнсе слова ніяк нельга, бо ў ім не праведзены прынцыповыя рэквізыты кадыфікацыі. Галоўныя запатрабаваньні апошняй, якія накіроўваюцца на адхіленьне ўсяго састарэлага па зьместу і сутнасьці,—нават і па форме,— адхіленьне супярэчнага, нямэтазгоднага на даным этапе эканамічнага разьвіцьця краіны, і нарэшце наогул няяснага,— усё гэта, як зусім зразумела, не магло быць ажыцьцёўлена ў выданьні НКЮ. На такую працу яго паўнамоцтва не пашыралася. Але калі-б і пажадаў зрабіць гэтую работу наркамат,—ён-бы павінен быў падаць яе на разгляд і санкцыянаваньне заканадаўчых органаў.

Вось чаму ў выданьне НКЮ ўвайшлі, апроч пакінутых бяз зьмен, толькі тыя артыкулы, якія альбо цалкам, альбо часткова зьмянілі, паводле пастаноў беларускага заканадаўства, зьмест ранейшых артыкулаў Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, значыць з часу рэцэпцыі яго ў верасьні 1923 г. Таксама ўключаны былі і тыя працэсуальныя дадаткі, якія заканадаўства БССР з таго часу прыняла. Адна толькі навіна ажыцьцёўлена была ў сваім выданьні Наркамюстам—навіна, якая, урэшце, мае чыста знадворны характар: было праведзена перанумараваньне артыкулаў праз скасаваньне літар „а", „б", „в", пад якімі фігуравалі раней дадатковыя артыкулы, уведзеныя ўжо пасьля рэцэпцыі ГПК.

Скажам да рэчы, што такі мэтад перанумараваньня цяпер карыстаецца папулярнасьцю. Ён, напрыклад, ужыты ў новым украінскім Грамадзянска-Працэсуальным Кодексе 1929 г. Раней гэты мэтад быў скарыстаны пры выданьні Нар-

камюстам Грамадзянскага Кодэксу БССР. Аднак, мы павінны зазначыць, што некаторыя нязручнасьці з такім перанумараваньнем артыкулаў бязумоўна зьвязаны. Трацiцца ў некаторым сэнсе непасрэдная юрыдычная сувязь паміж кодэксамі паасобных рэспублік, што моцна адчуваецца ў літаратуры, дзе спасылкі на адпаведныя артыкулы выключна кодэксу аднэй рэспублікі вельмі перашкаджаюць карыстаньне заканадаўчым і літаратурным матар'ялам. Таму і ня ўсімі паказаны мэтад ухваляецца. Выказваецца супроць яго, паміж іншымі, праф. Кельман.

У студзені 1930 г. Наркамюст БССР выпусьціў новае выданьне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу. Да матываў, якія абумовілі патрэбу ў выданьні папярэдняга кодэксу 1927 г. і пра якія ішла гутарка вышэй, на гэты раз далучылася яшчэ адна абставіна: выданьне ГПК БССР 1927 г. зрабілася ў літаральным сэнсе бібліографічнай рэдкасьцю. Такім чынам падрыхтоўка новага выданьня выклікалася сама сабою. Унесенае пасьля чэрвеня 1927 г. вялікае мноства зьмен і дадаткаў да ГПК, якія раскіданы па паасобных нумарох збору законаў і загадаў БССР, паставілі падрыхтоўку новага выданьня кодэксу на чаргу дня.

Што датычыць мэтаду, па якому складаўся ГПК 1930 г., то НКЮ і на гэты раз поўнасьцю пакінуў тую нумарацыю, якая была праведзена ў папярэднім яго выданьні, прычым новыя дадаткі і зьмены, прынятыя заканадаўствам, натуральна, былі ўключаны. У адным толькі назіраецца значна важная розьніца параўнальна з выданьнем 1927 г.: у новым выданьні кодэксу тэкт яго ўпершыню цалкам даецца і на беларускай мове—паралельна з рускай рэдакцыяю.

Патрэбу ў беларускім тэксьце практыка даўно адчувала. Здаецца, нідзе так часта і align="" рознастайна не грашылі супроць беларускае мовы, як менавіта ў гэтай галіне. Таму, бясспрэчна, праробленая Народным Комісарыятам Юстыцыі работа па перакладу ГПК магла-б скласьці вялікую заслугу гэтага наркамату.

Напэўна прыметная колькасьць артыкулаў памянёнага кодэксу ўжо мелася ў афіцыйным беларускім тэксьце. Гэта усё тыя артыкулы, якія зьменены, ці дапоўнены беларускім заканадаўствам,—пастановамі ЦВК і СНК, альбо адным СНК. Яны складаюць прыблізна чвэртку усяго кодэксу.

Такім чынам Наркамюсту прышлося самастойна перакласьці каля трох чвэртак артыкулаў ГПК.

Мусім падкрэсьліць, што як-раз работа па перакладу працэсуальных норм на беларускую мову павінна спыніць

на сабе нашу асаблівую ўвагу. Менавіта гэтая частка працы НКЮ ускладае на перакладчыкаў сугубую адказнасьць тым больш, што, навукова-дасьледчыя працы па складаньні беларускае праўнае тэрміналёгіі пакуль ня скончаны, вынікі іх ва ўсякім разе не апублікаваны.

Сярод пэўнай колькасьці больш-менш добрых перакладаў артыкулаў рускага арыгіналу ў выданьні 1930 г. сустракаюцца такія, якія ніякай крытыкі не вытрымліваюць. Іншыя зьяўляюцца спрэчнымі. На гэтых недахопах мы і спынімся, таму што яны здольны ўзбуджаць рад практычных непаразуменьняў і недарэчнасьцяй. Скажам, аднак, што прыклады, якія прыводзяцца ніжэй, не прэтэндуюць на вычэрпваючае значэньне. Варта адзначыць толькі напрамак, у якім павінна весьціся далейшае палепшаньне выданьня.

Праўда, сярод няўдала перакладзеных выразаў арыгіналу ёсьць нямала такіх, якія маюць зьместам правілы тэхнічнага значэньня. Кажуць, што недакладны ці дрэнны пераклад у дачыненьні да такіх правіл ня так ужо важны. Думаецца, што з такім поглядам згаджацца немагчыма, бо больш за ўсё ў грамадзянскім працэсе правілы тэхнічнага значэньня адыгрываюць, да і павінны адыгрываць, значную практычную ролю. І наогул. „Тэхніка і правілы, якія яе рэгулююць, ня менш важны, чымся самае права“. З другага-ж боку, дзе дэмаркацыйная мяжа іх падзяляючая? Правесьці паміж тэхнічнымі і нятэхнічнымі нормамі працэсуальнага права такую лінію ў нас больш чым цяжка. „Одно,— як кажа т. Стучка (у артыкуле „Право—закон—техника; часоп. „Советское Государство и революция права“, 1930 г., кн. 1, стар. 100-101)—переходит в другое“.

Значыць, калі грэбаваць тымі ці іншымі правіламі, дык толькі такімі, якія не ўладаюць практычнай вартасьцю і ў савецкі кодэкс трапілі выпадкова ці па непаразуменьню.

Цяпер зварочваемся да некаторых недахопаў у новым выданьні ГПК, якія выклікаюць пярэчаньні. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што аднэй з галоўных умоў для ўдалага складаньня якога-небудзь кодэксу зьяўляецца перш за ўсё вытраманасьць тэрміналёгіі. Неабходна прызнаць, што для практычнага карыстаньня кодэксам няма нічога больш шкоднага як стракатая match розностайнасьць выразаў для адзначэньня адных і тых самых разуменьняў.

Але ў гэтых адносінах, на вялікі жаль, ня ўсё стаіць добра ў новым выданьні Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу.

У разьдзеле XV яго, напрыклад, у артыкулах 128—130, словы рускага арыгіналу „свидетельское показание“ перекладзены „паказаньне сьведкаў“. Калі-ж мы возьмем арт. 138, то ўбачым, што там тэрмін „показание“ па-беларуску запісаны „сьведчаньне“. Ня варта, зразумела, і без усякай патрэбы. Даецца, аднак, повад для сумненьняў адносна таго, ці зьяўляюцца выразы „паказаньне“ і „сьведчаньне“ ідэнтычным.

Слова „доказательство“ амаль што ня ўсюды ў новым выданьні кодэксу перакладзена словам „довад“. Супроць такога перакладу нельга, зразумела, пярэчыць. Але ў артыкуле 147 запісан іншы пераклад; замест „довад“ руск тэрмін „доказательство“ значыцца па-беларуску як „вывады“ Ясна, што гэта зусім скажае сэнс.

Далей, рускі тэрмін „допрос“ у беларускай рэдакцыі яго звычайна пішацца „допыт“, што таксама прынята ў новым выданьні ГПК. Але у артыкулах 207 і 211 чамусь высоўваецца другі і, трэба сказаць, надта няўдалы тэрмін „апытаньне“,

Рускае слово „взыскание“ мае зусім выстарчальны і адпавядаючы зьместу гэтага тэрміну беларускі выраз „спагнаньне“. Гэты выраз як-раз атрымаў аўтарытэтную санкцыю з боку беларускіх заканадаўчых органаў, як, напрыкл., відаць з пастаноў ЦВК і СНК за 13 красавіка 1929 г. (З. Зак. і Заг. БССР 1929 г. № 14) і за 17 жніўня 1929 г. (З. Зак. і Заг. БССР 1929 г. № 30).

У разьдзелах XXXII—XXXVI новаго выданьня ГПК БССР укладчыкі і захавалі тэрмін „спагненьне“.

Аднак, ня гледзячы на тое, ў артыкуле 275 гэтага выданьня рускае „взыскание“ фігуруе як „узысканьне“.

Вялікае хістаньне назіраецца, далей, у дачыненьні да тэрміну „определение“. Ёсьць шмат артыкулаў, дзе ён перакладзен словам „адзначэньне“. Гл., напрык., арт. арт 300 і 310. Як вядома, тэрмін „адзначэньне“ ў нашай судовай практыцы заваяваў сабе права грамадзянства. Але яшчэ больш часта ў новым выданьні ГПК „определение“ замяняецца словам „пастанова“. Гл., напр., арт. арт. 31, 108, 190, 191, 207, 260, 270, 274, 276.

Можна спрачацца супроць таго і другога тэрміну. Але-ж, калі застанавіцца на адным з іх, трэба быць пасьлядоўным і не пераходзіць з аднаго на другі.

Яшчэ больш сумны лёс знайшлі так званыя справы асобнага справаводзтва. Яны называюцца ў новым выданьні

ГПК або „справамі асобага парадка вядзеньня“ (як, напрыкл., у артык. 38), або „неіскавымі справамі“.

Апошняя назва („неіскавыя справы“) мае падставу ў пастанове ЦВК і СНК БССР за 10 жніўня 1929 г.

Дзякуючы таму, супольная ва ўсіх іншых савецкіх грамадзянска-працэсуальных кодэксах назва „дела асобого производства—справы асобнага справаводзтва“ павінна была ўступіць мейсца новай назве „неісковыя справы“.

Ня буду я тутака спыняцца на пытаньні аб тым, ці сапраўды адпавядае выраз „неісковыя справы“ тэй сутнасьці спраў, якія законам аднесены ў гэтую катэгорыю ГПК. Адказ на паказанае пытаньне я даю ў іншым мейсцы, а менавіта ў запісках Беларускай Акадэміі Навук, па катэдры савецкага права, маючых выйсці ў бліжэйшым часе.

Аднак, трэба зазначыць, што загаловак трэцяй часткі ГПК зусім і ня зьменены нашым заканадаўствам. Гэта ўжо самастойна і цалкам зроблена Наркамюстам. Але чаго не прыняла заканадаўства, тое не павінна было быць ўнесена пры выданьні кодэксу ў ведамьцсвеным парадку.

Апроч паказаных яшчэ шэраг недахопаў спыняе на сабе ўвагу. Да іх ліку належаць наступныя:

Запісана ў разглядаемым выданьні ГПК: замест „судовы збор“—„судовая мыта“ (арт. арт. 34, 38, 220 і г. д.); замест „застава“—„залог“; замест „застаўлена“—„заложана (арт. 350); замест „даведка“—„справка“ (арт. 354); замест „непаўналетнія“—„недалетнія“ (арт. 354) і г. д.

Ў артыкуле 44 сказана, што „узнагарода экспэрта вызначаецца судом „пасьля“ яго выкліку“. Між тым у рускім арыгінале запісана „вознаграждение эксперта... определяется „при“ его вызове“.

У кожным разе разуменьні „пасьля“ і „пры“ ня могуць лічыцца тоесамымі.

У артыкуле 57 „день нерабочий“ перакладзен „дзень адпачынку“, што азначае значнае прынцыповае парушэньне сэнсу данай нормы.

Поўны стракатаю нясталасьцю пераклад слова рускага тэксту „возбуждается“ (напрыкл., у ўжываньні да іску, справы). Відаць, што гэты тэрмін пекладчыкам задаў асаблівыя тяжкасьці. Вось доўгі шэраг спроб здолець яго: у артыкуле 64 напісана „падаецца“; у артык. 202—„падымаецца“; у артык. 125—„узбуджаецца“; у артык. 227—„пачынаецца“. Адным словам—цэлы калейдоскоп выразаў.

Да гэтакіх самых „хістаньняў“, паміж іншым, трэба аднесьці рашучае імкненьне ўхіліцца ад прынятага закана-

даўствамі ўсіх саюзных рэспублік тэрміну „прыватная скарга“, што адпавядае рускаму „частная жалоба“.

Праўда, у даным выпадку адказнасьць за такое адступленьне знаходзіць некаторае апраўданьне.

Справа вось у чым.

У першапачатковым тэксьце артыкулу 292 ГПК БССР 1927 г., значыць, у зьвязку з рускім арыгіналам, запісана было наступнае: „Отдельно от кассационной жалобы могут подаваться частные жалобы в случаях, специально предусмотренных кодексом, и по отношению к ним применяются правила настоящей главы . . . .“. Трэба напомніць, што арт. 292 па беларускай нумарацыі адпавядае арт. 249 нумарацыі ГПК 1923 г.

Тэрмін „прыватная скарга“, які і ў новым украінскім Грамадзянска-Працэсуальным Кодэксе 1929 г. (гл., напр., арт. 282) фігуруе пад назвай „окремі скарги“, паводле беларускай рэдакцыі артыкулу 292 (пастанова ЦВК і СНК за 2 лютага 1929 г., апублікав. у № 4 З. Зак. і Заг. БССР 1929 г., арт. 20) зусім выкрасьлены. Памянёны артыкул 292 атрымаў такі зьмест: „Апроч касацыйнай скаргі могуць падавацца і і н ш ы я скаргі ў выпадках спэцыяльна прадугледжаных кодэксам...“

А якія такія іншыя, безыменныя, інамінатныя скаргі, адразу не зразумець. Адно толькі бясспрэчна; з ліку такіх скарг касацыйныя выключаюцца. З другога ж боку пад разуменьне „іншых“ скарг падыходзяць усялякія, як, напрыклад, такія, якія падаюцца па лініі дысцыплінарнай, або такія, якія накіроўваюцца ў РСІ і нават у ЦВК ці СНК.

Дзякуючы паказанай навэлі ў новым выданьні ГПК прыватныя скаргі альбо захавалі сваю ранейшую назву (гл., напр., арт. арт. 31, 48), альбо фігуруюць пад бясколерным ярлыком „іншых скарг“.

Лік прыкладаў няўдалага перакладу можна было-б значна павялічыць. У некаторых выпадках неадпаведнасьць выразаў арыгіналу і перакладу проста выяўляе нядбайнасьць, хаця і ня мае асабліва шкодных вынікаў. Да гэтае катэгорыі адносяцца наступныя: артыкул 123, у якім слова „опасаться“ чамусь перакладзена словам „лічыць“, артык. 144, дзе слова „вследствие“ перакладзена словам „дзеля“ і г. д.

У арыкуле 118 рускага арыгіналу сказана, што „суд, признавая дело достаточно выясненным, прекращает судоговорение“. Гэта апошняе слова перакладзена выразам „разбор“. Але нельга прызнаць, што сэнс абодвых выразаў супадае.

Урэшце мэта нашага нарысу ня ў тым, каб падрабязна застанавіцца на ўсіх выпадках няўдалае тэрміналёгіі, прынятай новым выданьнем ГПК, і яскравае неадпаведнасьці перакладу рускаму арыгіналу. Для характарыстыкі прароб-ленай па выданьню кодэксу працы, здаецца, досыць будзе і тэй ілюстрацыі яе, якая была прыведзена. Трэба, аднак, у кожным разе падкрэсьліць, што пры перакладзе на беларускую мову тых тэрмінаў, якія маюцца ў рускім арыгінале, неабходна, па магчымасьці, прытрымлівацца тых выразаў, што ўжо прыняты беларускім заканадаўствам. Гэта—адзіны правільны шлях.

Нарэшце яшчэ два словы пра пытаньне, закранутае ў пачатку гэтага артыкулу.

Мы бачылі, што ёсьць погляд, паводле якога розьніца ў нумарацыі артыкулаў аднолькавых кодэксаў паасобных савецкіх рэспублік зьяўляецца шкоднай (Кельман і іншыя). Але бадай нельга згадзіцца з такой думкай. Верна толькі тое, што match розностайнасьць нумарацыі сапраўды затрудняе карыстаньне судова-практычным і літаратурным матар'ялам. Для палегчаньня карыстаньня вельмі карысна бывае далучыць да ГПК БССР (тое самае трэба сказаць наогул пра ўсякія іншыя кодэксы, грунтуючыяся на першапачатковым арыгінале) адпаведны параўнальны сьпіс артыкулаў кодэксаў РСФСР і (напрыклад) БССР.

Такі паказчык у выданьні 1927 г. меўся. На вялікі жаль выданьне ГПК 1930 г. параўнальнага сьпісу артыкулаў ня мае.

2.

У зьвязку з сказаным вышэй ўзьнікае надта сур'ёзнае пытаньне аб тым, які тэкст ГПК павінен карыстацца перавагай: беларускі, ці рускі?

Аднак, пытаньне, зразумела, адносіцца толькі да тых артыкулаў кодэксу, якія ўстаноўленым парадкам апублікаваны на памянёных дзьвёх мовах. Таму, што датычыць самастойна зробленых Наркамюстам перакладаў тых ці іншых артыкулаў, дык яны ва ўсякім разе ня могуць канкураваць з ухваленым заканадаўчымі органамі тэкстам, да і наогул прэтэндаваць на афіцыйнае прызнаньне.

Як вядома, на падставе нашай канстытуцыі (З. Зак. і Заг. БССР 1927 г. № 48) важнейшыя заканадаўчыя акты павінны публікавацца на мовах беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай (Гл. арт. 23 канстытуцыі). Законы-ж, і ў тым ліку грамадзянска-працэсуальныя нормы, звычайна публі-

куюцца ў зборы законаў і загадаў толькі на беларускай і рускай мовах.

Такім чынам дапушчаны некалькі роўнапраўных моў. Таму і зусім зразумела, што магчымы разыходжаньні ў тэкстах, якія, трэба сказаць, усе лічыцца афіцыйнымі. Практыка такія разыходжаньні і выявіла. Так, каб прывесьці асабліва яскравы прыклад такога разыходжаньня, спынімся на рускай рэдакцыі артыкулу 46 ГПК БССР у рэдакцыі 2 лютага 1929 г. У гэтым артыкуле паміж іншым запісана літаральна, што „ответчик также имеет право у д е р ж а т ь с истца сумму судебных издержек пропорционально той части иска, которая истцу не присуждена".

Бясспрэчна, між тым, што „удержать" адісца якуюколечы суму на сплату судовых выдаткаў адказчык ніякага права ня мае. Падобнае самастойнае альбо, дакладней кажучы, і самаўпраўнае ўтрыманьне такой сумы паставіць адказчыка нямінуча ў надта невыгоднае становішча. Jus retentionis пры паказаных умовах пярэчыў-бы рэвалюцыйнай законнасьці.

У чым жа справа?

Пытаньне тлумачыцца вельмі проста. Слова „атрыманьне", якое маецца ў першапачатковым тэксьце памянёнага артыкулу, значыць, у беларускім тэксьце зусім няправільна перакладзена на рускую мову.

У беларускім арыгінале запісана: „Адказчык мае права атрымаць ад ісца суму судовых выдаткаў" і г. д.

„Атрымаць", як вядома, азначае „получить",—што зусім адпавядае запісанаму ў рэдакцыі Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу 1923 г. Там літаральна сказана наступнае: „Ответчик также имеет право на в о з м е щ е н и е своих расходов пропорционально той части иска, в которой судом отказано".

Прыведзены прыклад яскрава даводзіць, як трэба быць асьцярожным пры перакладзе, каб ня выклікаць нязьлічонай шкоды. Мусім прызнаць, што паказаны прыклад грунтоўнага разыходжаньня двох тэкстаў закону не зьяўляецца адзіным.

Ня гледзячы на тое, пытаньне аб тым, ці мае які-небудзь з афіцыйных тэкстаў, паводле нашага заканадаўства, перавагу і, калі мае, дык які-ж,—пакуль ня можа лічыцца вырашаным.

Між тым колізіі паміж рознымі тэкстамі законаў, запісанымі на прызнаных роўнапраўнымі мовах, гісторыя права добра ведае.

Каб не затрымаць увагі больш далёкімі ад нас узорамі, спынімся толькі на двох гістарычных прыкладах.

У 1864 г. быў апублікаваны на дзьвёх мовах—рускай і нямецкай—прыбалтыйскі грамадзянскі кодэкс, меўшы афіцыйную назву „свод гражданских узаконений губерний остзейских“.

Але хутка выявіліся значныя разыходжаньні паміж абодвымі тэкстамі. У практыцы ўзьнікалі бясконца спрэчкі адносна таго, які тэкст заслугоўвае перавагі. Тады законам (так званым Выс. утв. Мнением Гос. Совета) за 16 лістапада 1870 г. было пастаноўлена, што ў выпадках, калі выявяцца супярэчнасьці паміж рускім і нямецкім тэкстамі, паравагай павінен карыстацца рускі тэкст.

Зразумела, такое вырашэньне праблемы было вынесена занадта мэханічна, у кожным разе не imperio rationis, не таму, што гэта адпавядала запатрабаньням розуму, але—ratione imperii, па спосабу „быть по сему“. Трэба падкрэсьліць, што першатворам паказанага кодэксу быў як-раз нямецкі тэкст. Руская-ж рэдакцыя ёсьць толькі пераклад. Між тым у цэлым шэрагу мейсц арыгінал і пераклад гэтага кодэксу адрозьніваюцца,—на што ў свой час і была зьвернута ўвага ў літаратуры. Так, напрыклад, гэта абставіна адзначаецца праф. Энгельманам ў прадмове да выданьня прыбалтыйскага грамадзянскага кодэксу пад рэдакцыяй Брэкера (1902 г.). Пра гэта ж пісаў і я ў 1914 г. у рэцэнзыі на дысэртацыю праф. Нольдэ „Очерки по истории кодификации местных гражданских законов при Сперанском“.

Аднак, пасьля ператварэньня Латвіі і Эстоніі ў самастойныя дзяржавы пераважнае значэньне рускага тэксту ў дачыненьні да тых разьдзелаў памянёнага кодэксу, якія прадаўжаюць дзейнічаць у гэтых краінах,—зьнішчана. Нават больш таго. Катэгарычна ўстанаўлена, што калі выявіцца разыходжаньне паміж рускім і нямецкім тэкстамі такіх норм кодэксу, якія першапачаткова не былі выданы рускім урадам на рускай мове,—дык, паводле спэцыяльнага латвійскага закону, перавага павінна аддавацца нямецкай рэдакцыі.

Інакш вырашана праблема ў швэйцарскім заканадаўстве.

14 чэрвеня 1881 г. атрымаў сілу швэйцарскі саюзны закон пра абавязанасьці. Гэты закон, па свайму зьместу і апрацаванасьці, зрабіў цэлую эпоху ў гісторыі буржуазных заканадаўств. Ён адначасна быў выдан на дзьвёх мовах: нямецкай і францускай, прычым абедзьве рэдакцыі былі прызнаны афіцыйнымі.

Афіцыйнасьць двох тэкстаў законаў, напісаных на розных мовах, аднак, звычайна яшчэ ня служыць гарантыяй супроць магчымасьці іх разыходжаньня,—у чым мы маглі пераканацца на прыкладзе беларускага заканадаўства. Але ня так пытаньне стаіць ў дачыненьні да памянёнага швэйцарскага кодэксу. Паміж абодвымі тэкстамі яго ня выявілася ніякіх прыметных супярэчнясьцяй. Абодвы тэксты адзін другога дапаўняюць і абʼясьняюць.

Чым-жа тлумачыцца гэтае зьявішча? Славуты вучоны Блунчлі ня без падставы кажа, што тая акалічнасьць, што швэйцарскі закон пра абавязанасьці паралельна распрацоўваўся на дзьвёх мовах, дапамагла ўдасканаленьню яго рэдакцыі. Француская мова, гаворыць гэты аўтар, высоўвае як асноўнае патрабаваньне—яснасьць, кароткасьць, пэўнасьць выразаў. Расплыўчатых фраз і туманных слоў гэтая мова ня церпіць. Вось чаму пры канчатковай распрацоўцы нямецкага тэксту швэйцарскага кодэксу вельмі часта прыходзілася нямецкую рэдакцыю паасобных артыкулаў перарабляць і паляпшать з мэтай узгодніць яе з францускім тэкстам і ня гледзячы на тое, што для сярэдняга нямецкага чытача і ранейшая рэдакцыя не выклікала значных цяжкасьцяй.

Прыведзеныя гістарычныя прыклады даводзяць, з якой вялікай асьцярожнасьцю павінны мы падыйсьці да распрацоўкі законаў, калі яны адначасна выдаюцца на дзьвёх ці некалькіх мовах з тым, каб любая рэдакцыя мела афіцыйнае, абавязковае значэньне.

Скажам яшчэ, што швэйцарскі саюзны закон пра абавязанасьці 1881 г. перакладзены вядомым прафэсарам Серафімі на італьянскую мову. Але гэта работа, як прыватная, не карыстаецца афіцыйнай сілай, хаця і зьяўляецца ў італьянскіх кантонах Швэйцарыі вельмі папулярнай.

### 3.

Зьвернемся цяпер да пытаньня аб тым, як пастаўлена праблема пра аўтэнтычнасьць тэксту законаў у Саюзе ССР і, у паасобку, у БССР.

На падставе артыкулу 34 канстытуцыі СССР „декреты и постановления Центрального Исполнительного Комитета, его Президиума и Совета Народных Комиссаров Союза ССР печатаются на языках общеупотребительных в союзных рэспубликах (русском, украинском, белорусском, грузинском, армянском и тюрко-татарском)".

Артыкул - жа 70-ы гэтай канстытуцыі ўстанаўляе, каб на стужках, пераплятаючых калосьсі ў дзяржаўным гэрбе, меўся на шасьцёх памянёных мовах надпіс „Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!“

Значыць, была прызнана роўнапраўнасьць шасьцёх моў. Калі - ж праект канстытуцыі разглядаўся ў адпаведнай камісіі, дык не магло ня ўзьняцца запытаньне: як будзе, калі паміж шасьцю тэкстамі (запісанымі на паказаных мовах) выявяцца разыходжаньні? Некаторыя члены камісіі імкнуліся вырашаць пытаньне пра аўтэнтычнасьць закону. Але аўтэнтычным зьяўляецца кожны з шасьці тэкстаў, прынятых заканадаўствам.

Такім чынам праблема так і засталася праблемаю. Камісія знайшла толькі магчымым канстатаваць, што перавагі заслугоўвае тэкст, запісаны на той мове, на якой даны закон першапачаткова распрацоваўся. Але на жаль, пры ўжываньні закону, выданага на розных мовах, не ві даць, на якой ён распрацаваны раней. Таму і трэба прызнаць, што здавальняючага адказу пытаньне не атрымала.

Што датычыць, у паасобку, БССР, то пастановай ЦВК за 26 верасьня 1923 г. была рэглямэнтавана роўнапраўнасьць чатырох моў, якія ўжываюцца ў гэтай рэспубліцы.

З другога боку беларуская канстытуцыя падкрэсьлівае (З. Зак. і Загад. БССР 1927 г. № 48), што, дзякуючы значнай перавазе насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсіянальнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі (Гл. арт. 28 канстытуцыі). Паводле-ж артыкулу 23 беларускай канстытуцыі, як ужо было адзначана, важнейшыя заканадаўчыя акты публікуюцца на мовах беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай.

Аднак і прыведзеныя даныя яшчэ не даюць простага адказу на ўзьнятае вышэй пытаньне. Між тым гэта прынцыпова важная праблема зьяўляецца досыць актуальнай.

Фармальна-правільны адказ знаходзім у цікавым творы праф. Дурдзенеўскага „Равноправие языков в Советском Союзе“ (1927 г.). Паважаны аўтар піша на старонцы 114 наступнае: „Как общую черту, наблюдаемую в Советском языковом праве почти везде, за исключением закавзских республик, надо заметить умолчание об аутентичном тексте закона“.

Далей праф. Дурдзенеўскі кажа: „Вопрос этот приходится решать в зависимости от подготовки текста, и там,

где эта подготовка установлена билингвистически (на двух языках) как в Казакстане, Якутии и Башкирии,—тексты имеют, по общим началам равноправия, одинаковую силу.*

Значыць, і башкірская рэдакцыя, і руская рэдакцыя карыстаюцца аднолькавай сілаю, як, ва ўжываньні да БССР, аднолькавую сілу маюць тэксты рускі і беларускі.

Але гэта так толькі з фармальнага пункту гледжаньня. Калі-ж тэксты разыходзяцца, супярэчаць адзін другаму, як тады быць?

Кажуць, што швэйцарскі ўзор зусім практычна і разумна развязвае праблему. Іншымі словамі, трэба імкнуцца скласьці білінгвістычную або полілінгвістычную рэдакцыю адпаведных законаў такім чынам, каб паміж імі існавала поўнае супаданьне. Але ня так лёгка такая мэта дасягаецца. Французскі і нямецкі тэкст памянёнага швэйцарскага кодэксу стаяць на выключнай ступені дасканальнасьці, і мы ўжо бачылі, чым гэта зьява тлумачыцца.

Зусім іншая справа там, дзе няма такой вытрыманасьці і дасканальнасьці тэрмінаў і выразаў. Там памылкі і непаразуменьні пры распрацоўцы закону на дзьвёх мовах нярэдкі. Вось чаму пры такіх умовах знайсьці правільны адказ на пытаньне пра аўтэнтычнасьць тэкту ня мае толькі тэарэтычнае значэньне, а набывае практычную важнасьць.

Як-жа яго вырашыць з пункту погляду беларускага грамадзянска-працэсуальнага права, якое нас, у даны час зразумела, больш за ўсё цікавяць?

Здаецца, ня будзе памылкай, калі мы скажам: для тых артыкулаў рэцыпаванага ў 1923 г. ГПК, якія з тэй пары па сучасны момант ня зьменены беларускім заканадаўствам, аўтэнтычным застаецца рускі тэкст. Тыя-ж артыкулы гэтага кодэксу, якія на працягу паказанага часу ўпершыню выданы заканадаўчымі органамі БССР на беларускай мове, маюць сваёй аўтэнтычнай крыніцай беларускую рэдакцыю. Тое самае трэба сказаць адносна тых артыкулаў, якія пасьля рэцэпцыі кодэксу зьменены былі заканадаўчым парадкам і выданы на беларускай мове.

Адпаведна сказанаму можна высунуць агульнае правіла, што ў дачыненьні да пералічаных зараз норм, у выпадках разыходжаньня беларускага і рускага тэкстаў, перавагай павінен карыстацца беларускі тэкст. Руская рэдакцыя тутака, у кожным разе, зьяўляецца толькі перакладам беларускага арыгіналу,—праўда, перакладам ня простым, а такім, які выйшаў з заканадаўчага апарату. Такім чынам і рускі тэкст ёсьць афіцыйны. Таму ў выпадку выяўленьня

памылкі або недарэчнасьці, дапушчаных у беларускай рэдакцыі, рускі тэкст зьяўляецца надзейным сродком для тлумачэньня. Кіруючымі-ж прынцыпамі пры ўжываньні законаў павінны быць рэвалюцыйная законнасьць і класавая мэтазгоднасьць. У адпаведнасьці з гэтай дырэктывай і трэба вырашаць пытаньне, якой рэдакцыі ў выпадку разыходжаньня тэкстаў аддаць перавагу. Такім тэкстам павінен лічыцца той, у якім ня толькі добра выражана думка заканадаўца, але і яскрава аформлена адпаведная дырэктыва партыі.

---

Л. Рудзіцкі.

# Да пытаньня аб узаемазалежнасьці эканомікі і права.

*(Аб некаторых спрэчных палажэньнях работ т. Пашуканіса).*

## I.

„Маёю спэцыяльнасьцю была юрыспрудэнцыя, якую я, аднак, вывучаў толькі, як падпарадкаваную навуку, побач з філёзофіяю і гісторыяю“—піша Маркс у сваёй прадмове „Да крытыкі палітычнай эканоміі“.

Цяснейшая, непарыўная сувязь праблемы права з эканамічнаю тэорыяю Маркса знаходзіць сваё пацьвярджэньне ўжо на першых старонках славутае прадмовы.—„Мае дасьледваньні“, гаворыць ён далей, „прывялі мяне да вываду, што праўныя адносіны, як і форма дзяржавы, ня могуць быць зразуметы з саміх сябе альбо з так званага агульнага разьвіцьця чалавечага духа, але хутчэй грунтуюцца ў мат‘яльных умовах жыцьця, злучнасьць якіх Гегель, па прыкладу ангельцаў і французаў XVIII стагодзьдзя, называў „цывільнаю“ грамадою, але што анатомію цывільнае грамады трэба шукаць у палітычнай эканоміі“.[1])

Мы палічылі за патрэбнае пачаць трактоўку тэмы аб гістарычнай абмежаванасьці прадмету палітычнай эканоміі з пытаньня аб вядомай ўзаемазалежнасьці права і эканомікі. Перамога над так званым юрыдычным сьвятапоглядам можа ісьці толькі па лініі выразнага ўжываньня мэтадалёгіі данай Марксам. Усялякія шчыліны ў аналізе эканамічных адносін і іх узаемазалежнасьці ад праўных форм цягнуць

[1]) Маркс. „К критике политической экономии“, ГИЗ 1929 г., стр. 53, 54.

Даклад, прычытаны ў Менскім таварыстве ваяўнічых матар‘ялістаў дыялектыкаў 13 сьнежня 1929 г.

за сабою вынікі, якія часта канчаюцца юрыдызацыяю грамадзкага жыцьця. — „Асюль — у тэарэтыкаў дзяржаўнага права, у юрыстаў, што займаюцца грамадзянскім правам, эканамічныя адносіны зусім зьнікаюць з пад увагі . . . юрыдычная форма здаецца ўсім, эканамічны зьмест нічым“.[1])

У цясьнейшай сувязі з зачэпляным пытаньнем вельмі характэрнымі зьяўляюцца тыя абвінавачаньні, якія багата кідаюць адзін другому таварышы, што займаюцца праблемамі палітычнае эканоміі.

Так, аснова мэтадалёгічных памылак Рубіна, па думцы Шабса, заключаецца ў тым, што выходным пунктам для інтэрпрэтацыі праблемы палітычнай эканоміі... для яго (Рубіна) зьяўляецца не эканамічная, а юрыдычная канцэпцыя грамады“.

З свайго боку, у „Ответе критикам“ Рубін заяўляе: „У рашаючых пунктах ён (Шабс.—Л. Р.) сам грэшыць супроць элемэнтарных правіл дыалектычнага мэтаду. Чаму Шабс зусім парваў сувязь паміж юрыдычнаю і эканамічнаю канцэпцыямі грамады і надзяліў іх такімі супроцьлежнымі рысамі? Ці не зьяўляюцца праўныя адносіны выражэньнем эканамічных (вытворчых) адносін людзе? У паасобку, ці не азначаецца характар буржуазнага права, якое выходзіць з „асабова і матар‘яльна незалежных суб‘ектаў“ характарам самое буржуазнае вытворчасьці, раздробленае паміж паасобнымі таваравытворцамі? Адмаўляцца ад гэтага—значыла б адмаўляцца ад элемэнтарных палажэньняў гістарычнага матэр‘ялізму“. [2])

Нашу працу мы папрабуем правесьці на аснове разгляду некаторых палажэньняў, якія ізноў робяцца прадметам дыскусіі. Спрэчкі гэтыя падымаюцца па лініі пытаньня аб гістарычнай абмежаванасьці палітычнай эканоміі; прычым гэтая праблема разглядаецца ў сувязі з пытаньнем аб сацыяльна-рэгулючым уплыве праўнае надбудоўкі. Так тав. Пашуканіс прыходзіць да вываду аб „необходимости в науке“, якая „и при развернутом социализме“ будзе вывучаць „об‘ективные законы“ (падкрэсьлена мною, Л. Р.) движения и развития общественных производственных отношений, лежащих в основе всего общественного развития в целом“.[3]) Калі тэрмін т. Пашуканіса „развернутый соци-

---

[1]) Энгельс. „Людвиг Фейербах“. ГИЗ 1922 г., ст. 59.
[2]) Рубин „Очерки по теории стоимости Маркса“. ГИЗ 3 изд., ст. 334.
[3]) „Революция Права“ № 4 за 1929 г. Пашуканис. „Экономика и прававое регулирование,“ стр. 27.

ализм“ разумець як характарыстыку вышэйшае фазы сацыялізму, то трэба прыйсьці да вываду, што палітычная эканомія і яе мэтадалёгія, як навукі, што вывучае капіталізм праз аналіз іммакэнтных законаў, уласьцівых гэтай сацыяльна-эканамічнай фармацыі, павінны быць цалкам ужываемы ва ўмовах таго перыяду, які так яскрава ахарактарызаваў Ленін у сваёй працы „Дзяржава і Рэвалюцыя“, гэніяльна разьвіўшы палажэньні „Крытыкі Гоцкай праграмы“ Маркса. Т. Пашуканіс пытае: „як трэба мысьліць сабе адносіну паміж стыхійнымі законамі і ўладным умешваньнем сацыяльнай арганізацыі“ [1]). У выніку сваёй працы ён, опэруючы так званым „всеобщим законом трудовых затрат“,—у аснову свае канцэпцыі кладзе пункт погляду Багданава і Сьцяпанава на прадмет палітычнае эканоміі. На пазыцыю „всеобщей экономической науки“ зводзіць т. Пашуканіс прадмет палітычнай эканоміі. Гэта не выпадкова, бо ён працягавае некаторы стары ланцуг развaжаньняў.

„Падзел навук, з пункту погляду дыялектычнага матэр‘ялізму, грунтуецца не на меркаваньнях тэхнічнае выгоды, а на якасным разьвіцьці форм руху“ [2]). Гэтым палажэньнем, па нашай думцы, можа быць пачаты разгляд некаторых довадаў т. Пашуканіса, якія, па сутнасьці, зводзяцца да „пераліваньня віна ў старыя мяхі“.

Альфаю і омэгаю навукі палітычнай эканоміі зьяўляецца задача вынаходніцтва тых эканамічных заканамернасьцяй, якімі стыхійна рэгулюецца капіталістычная грамада; у аснову вывучэньня вытворчых адносін таварна-капіталістычнай фармацыі марксіцкая палітычная эканомія кладзе мэтад дыялектычнага матэр‘ялізму. „Яго (гэтага мэтаду—Л. Р.) навуковая мэта заключаецца ў выясьненьні тых прыватных законаў (падкрэсьлена мною. Л. Р.), якім падпарадкоўваюцца ўзьнікненьне, існаваньне, разьвіцьцё, сьмерць данага сацыяльнага арганізму і замена яго іншым—вышэйшым“. [3]) Неабходнасьць вывучэньня „прыватных законаў“ якія даюць якасную розьніцу форм руху, зусім не павінна прывесьці да перанясеньня гэтых законаў ва „ўсе часы і прасторы“. За абалонкаю зьявішч трэба бачыць тое новае, што нясе за сабою зьмена спосабу вытворчасьці; хаця гэта новае багата яшчэ пакрыта „радзімымі плямамі“ ўзар-

[1]) Цытав. арт., ст. 18.
[2]) Большевик № 18 1929 г., арт. Дукора и Ноткина, ст. 120.
[3]) Маркс. „Капитал“ т. I. Послесловие ко II-му изд. Цитата из рецензии о „Копитале“, ст. XXIX.

ваных сацыяльна-эканамічных адносін. Аднак, разважаючы словамі рэцэнзэнта „Капіталу“... „Іншаму чытачу пры гэтым можа прыйсьці на думку і такое пытаньне... агульныя-ж законы эканамічнага жыцьця ці адны і тыя самыя, усё роўна, ужываюцца яны да сучаснага альбо да мінулага жыцьця? Але іменна гэтага Маркс і не прызнае. Такіх агульных законаў для яго не існуе. Па яго думцы, наадварот, кожны гістарычны перыяд мае свае законы... (падкрэсьлена мною. Л. Р.)—але ледзь толькі жыцьцё перажыло даны перыяд разьвіцьця, вышла з данае ступені і ўступіла ў другую, яно пачынае кіравацца ўжо іншымі законамі“.[1])

Іншага погляду прытрылміваецца тав. Пашуканіс. Спрабуем гэта паказаць. „Ня гледзячы на самыя катагарычныя заявы, нібы пытаньне аб прадмеце палітычнай эканоміі вырашана раз на заўсёды ў абмежавальным сэнсе і рашэньне гэта сьцьверджана подпісам усіх марсіцкіх аўтарытэтаў,—я лічу мажлівым і неабходным паставіць ізноў гэта пытаньне,“[2]) заяўляе тав. Пашуканіс і ў якасьці аргумэнтаў, па сутнасьці паўтарае палажэньні, выказаныя т. Сьцяпанавым-Скварцовым у часы дыскусіі 1925 г. Да чаго, у сапраўднасьці, зводзіцца патрабаваньне „разуменьня гістарычнай спэцыфічнасьці вартасных катэгорый?“ Тав. Пашуканіс відавочна робіць націск на слове „гістарычнай“; ён „патрабуе ад марксіста-дыалектыка ня толькі ўменьня карыстацца імі (вартаснымі катэгорыямі. Л. Р.) у іх закончаным відзе, але і ўменьня паказваць іх гістарычнае ўзьнікненьне“.[3])

Выказанае палажэньне не зьявілася-б спрэчным, калі-б не далейшая ўнівэрсалізацыя некаторых паняцьцяў і катэгорый, у аснову якіх палажана асабістае разуменьне „гістарычнай спэцыфічнасьці“ зьявішч, уласьцівых выключна капіталістычнай грамадзе. Паварот т. Пашуканіса да старых спрэчак не зьяўляецца выпадковасьцю. Па нашай думцы, гэта мэтадалёгічная ўстаноўка некалькі іначай была выражана ў яго працы: „Общая теория права и марксизм“. Адхрышчваньні Пашуканіса ад некаторых „фармальна-лёгічных“ вывадаў гэтай працы ў яго апошнім артыкуле пакуль што не зусім пераканальны. Т. Пашуканіс паказвае, што „пункт погляду па пытаньні аб

---

[1]) Маркс. „Капитал“ т. I, с. XXIX.

[2]) Пашунис. Цытав. артыкул, ст. 24.

[3]) Тамсама, ст. 25.

прадмеце палітычнай эканоміі, які ён разьвівае ў сучасны момант,—сустрэў вялікія пярэчаньні ўнутры сэкцыі права і дзяржавы".

„Мне паказвалі", піша ён—„што некаторыя мейсцы ў маей працы „Общая теория права и марксизм" даюць падставу заключыць, што сам я раней трымаўся іншых поглядаў на гэты конт..., мне таксама здалося, што натуральная гаспадарка ня можа зьявіцца прадметам палітычнае эканоміі".[1])

Сапраўды, „некаторыя мейсцы" старое працы Пашуканіса маглі выклікаць падобнае ўяўленьне; аднак, шэраг іншых палажэньняў фактычна толькі завершаны ў апошнім артыкуле.

Асноўнаю заслугаю „Общей теории права" Пашуканіса зьявілася, па прызнаньні марсіцкай крытыкі, правільная трактоўка катэгорый права, як выцякаючых „з абсалютнаю няўхільнасьцю з умоў таварна-грашовае гаспадаркі".[2]) Была ўскрыта сутнасьць фэтыша права,—„роўнага" права пры фактычна няроўных адносінах. У гэтым і заключаецца, па думцы Стучкі, „важнае значэньне гэтай працы, якая ўпершыню рашчыніла нам вочы на сутнасьць, на падаплёку таго загадковага зьявішча, якім уяўляецца роўнасьць—эквівалент асабліва ў буржуазнай грамадзе".[3]) Але гэта быў аналіз праўнай формы, як формы, якая ажыцьцяўляе адносіны гандлёва-капіталістычнае грамады. Поўнае перанясеньне катэгорый буржуазнага права ў сацыяльную рэчавістасьць пераходнага перыяду, што завецца перыядам рэвалюцыйнай дыктатуры пралетарыяту, характарыстыка савецкага права, як права „тыпова-буржуазнага", мае грунт у няправільных мэтадалёгічных прадпасылках, якія т. Пашуканіс, па нашай думцы, толькі разьвівае, становячыся на пазыцыі Сьцяпанава-Багданава ў разуменьні аб'екта палітычнай эканоміі. Унівэрсалізацыя гістарычна-пераходзячых эканамічных заканамернасьцяй і праўных катэгорый, што ажыцьцяўляюць іх, ёсьць нішто іншае, як замена гістарычнага на лёгічнае. Мы лічым, што ў сваіх разважаньнях т. Пашуканіс робіць спробу пайсьці яшчэ далей таварышоў, якія яшчэ раней выказалі яго асноўныя палажэньні і гіпотэзы.

У 1925 годзе т. Скварцоў запэўняў, што палітычная эканомія вывучае ўсе сацыяльна-гістарычныя фармацыі. „Тут

---

[1]) Тамсама, ст. 25.

[2]) Пашуканис. „Общая теория права и марксизм". III изд., ст. 7.

[3]) Стучка. „Курс советского гражданского права". Изд. 1927 г., стр. 49.

трэба проста сказаць—гаварыў ён — палітычная эканомія ёсьць гістарычная навука ў тым сэнсе, што яна не зьўляецца гістарычна-абмежаванай дысцыплінай. У прынцыпе яе гістарычны ахоп не абмяжоўваецца якою-небудзь пэўнаю эпохаю гаспадаркі.“[1]) У сваім дакладзе т. Скварцоў „исторический охват“ палітычнай эканоміі пашырае і на гаспадарчыя эпохі, папярэднія капіталізму, і на перыяд дыктатуры пралетарыяту; пра гэта ён гаварыў не адзін раз. Гэтай „гістарычнасьці“ ён прыдаваў самадаўлеючае значэньне, якое і выклікала зусім справядлівае абвінавачаньне апанэнтаў у тым, што Скварцоў „не зрабіў адгранічэньня тэарэтычнай эканоміі ад іншых навук. Ён зьмяшаў у адну кучу і гісторыю гаспадаркі, і тэарэтычную эканомію“.[2]) Т. Пашуканіс яшчэ больш рэзка ставіць кропку над „і“. Ён сьцьвярджаў у сваёй першай працы аб наяўнасьці ў нас „эквівалентных праўных форм“, якія грунтуюцца ў існуючых адносінах абмену. Адсюль робіцца вывад аб тым, што па сутнасьці і пры дыктатуры пралятарыяту мы будзем прадаўжаць вывучаць буржуазную праўную форму, як адзіна мажлівую пры наяўнасьці рынучных адносін. „Общество, которое по состоянию своих производительных сил вынуждено сохранять эквивалентное отношение между затратами труда и вознаграждением в форме, хотя бы лишь отдаленно напоминающей обмен товарными стоимостями вынуждено будет сохранить и форму права“.[3]) Падразумяваецца буржуазная форма права. У сваім апошнім артыкуле Пашуканіс заяўляе, аб тым, што і для сацыялістычнае грамады спатрэбіцца „эканамічная навука“ (падразумяваецца палітычная эканомія). „Бо з таго, што пры сацыяльзме зьнішчыцца адно спэцыфічнае разыходжаньне сутнасьці і формы грамадзкіх адносін, характэрнае для таварнае гаспадаркі, зусім ня сьледуе, што зьнішчыцца ўсякае наогул разыходжаньне сутнасьці рэчаў і формы іх праяўленьня, альбо што гэта адбудзецца хаця-б у галіне грамадзкіх вытворчых адносін“. Спрашчэньне пытаньня аб форме і зьмесьце права, як мы бачым, ня ёсьць выпадковае, бо у аснову яго легла старая канцэпцыя пытаньня аб гістарычнай неабмежаванасьці аб'екта палітычнай эканоміі, дадзеная т. Скварцовым і вельмі спрошчана разглядаўшая „сутнасьць рэчаў і формы іх праяўленьня“.

---

[1]) Вестник Ком. Академии, № 11 за 1925 г., ст. 345.
[2]) Тамсама, ст. 322.
[3]) Пашуканис. „Общая теория права и марксизм“, стр. 23.

Апэлюючы „у інтарэсах матэр'ялістычнай дыалектыкі" да палажэньняў Марксавага „Капіталу", т. Пашуканіс не выказвае ніякіх гіпотэз аб сапраўднай „сутнасьці грамадзкіх адносін" эпохі „разгорнутага сацыялізму". Ён абмяжоўваецца заяўленьнямі, у якіх, па нашай думцы, ляжаць тыя ж мэтадалёгічныя супярэчаньні, якія разьвіты ў яго „Общей теории права". Сапраўды, як разумець „неабходнасьць у эканамічнай навуцы" (падразумяваецца, безумоўна, не прыкладная эканомія—Л. Р.), якая будзе вывучаць „форму грамадзкіх адносін" эпохі „разгорнутага сацыялізму". У сваёй „Общей теории права" т. Пашуканіс скатваецца да прызнаньня адзінакавасьці буржуазнага і савецкага права, не жадаючы заўважыць спэцыфічныя рысы апошняга. У разьбіраемым жа намі артыкуле т. Пашуканіс выстаўляе наступны тэзіс: „ніхто ня будзе адмаўляцца ад таго, што эксплёатацыя—гэта эканамічнае разуменьне, але ніхто ня будзе таксама адмаўляцца ад таго, што адносіны эксплёатацыі зусім не абмяжоўваюцца межамі вартаснай формы". Адсюль вывад: „на прыкладзе іменна гэтай катэгорыі, г. ё. катэгорыі эксплятацыі, ясьней за ўсё відна беспадстаўнасьць абмежавальнай трактоўкі прадмета палітычнай эканоміі".[1]) Адным словам, сутнасьць катэгорыі эксплёатацыі—адзіная, як аб'ект, што вывучаецца палітычнаю эканоміяю на ўсіх ступенях людзкое грамады. „Заслуга Маркса складаецца з таго, што ён паказаў спэцыфічнасьць капіталістычнае формы (курсіў мой—Л. Р.) эксплёатацыі, так і з таго, што ён устанавіў яе сувязь з іншымі формамі (нявольніцтвам, прыгоньніцтвам)".[2]) У Пашуканіса зьнікла сутнасьць вытворчых адносін кожнай грамадзкай фармацыі, таксама як у яго зьніклі асаблівыя рысы права эпохі дыктатуры пралетарыяту; зьмяняецца форма адносін,—„нейкія" стала дзеючыя эканамічныя заканамернасьці застаюцца; а адсюль ужо „відаць беспадстаўнасьць абмежавальнай трактоўкі прадмета палітычнай эканоміі". Ці не напіманае гэта аргумэнты т. Скварцова, які дыялектычны мэтад Маркса, ускрыўшага „закон узьнікненьня, існаваньня, разьвіцьця і пагібелі капіталізму, як гістарычна пераходзячай сацыяльна-эканамічнай фармацыі",[3]) зьвёў да асабістай усеагульнай эканамічнай навукі, якую, быццам, Маркс і ўтвараў, зьвяртаючыся—1) да пабудовы „робін-

[1]) Цытав. арт., ст. 25.
[2]) Тамсама.
[3]) Большевик № 18 1929 г. статья Дукора и Ноткина, ст. 121.

зонады", 2) да эўрапейскага сярэднявякоўя, 3) да патрыархальнае сям'і і 4) да саюзу вольных людзей." [1]) Пад апошнім т. Пашуканіс усьлед за Скварцовым, відаць, і разумее лад „разгорнутага сацыялізму". Асноўная памылка пабудоў т. Пашуканіса, па нашай думцы, заключаецца ў яго няправільнай мэтадалёгічнай канцэпцыі, якая зводзіцца да разрыву, раздваеньню „формы" і „зьместу". А адсюль паўтарэньне довадаў Сьцяпанава аб прадмеце палітычнай эканоміі і блытаніна ў пытаньні аб ступасьці права пераходнага перыяду.

II.

„У сваёй найбольш агульнай пастаноўцы праблема— эканоміка і права альбо, шырэй, эканоміка і сацыяльна-рэгулючыя ўплывы—прадстаўляла і прадстаўляе арэну барацьбы матэр'ялістычнага разуменьня гісторыі. Іменна па гэтай лініі марксізму прыходзілася адстайваць свае пазіцыі ад нападу з боку ўсялякіх адменнасьцяй філёзофскага ідэалізму." [2]) Мы прымаем цалкам гэтае правільнае заяўленьне т. Пашуканіса; адначасна падкрэсьліваем яго памылку, якая выражаецца ў ухіленьні ад марсіцкай мэтадалёгіі па пытаньні аб дыялектычнай узаемазалежнасьці „зьместу" і „формы". Паказаная мэтадалёгічная памылка Пашуканіса ў свой час спаткала пярэчаньні з боку шэрагу нашых тэарэтыкаў-марксістаў. У зьвязку з аднаўленьнем старых спрэчак, лічым за патрэбнае прывесьці некаторыя палажэньні, што ідуць па лініі трактуемага пытаньня.

У сваім „Введении в теорию гражданского права" т. Стучка заяўляе наступнае: „По нашему право является лишь „формою", формальным опосредствованием экономики, как содержания, при чем, однако, мы понимаем противопоставление формы содержанию в смысле Гегеля:— „содержание не бесформенно, но обладает в самом себе формою, но в это же время эта форма для него является чем то внешним"... Здесь налицо абсолютное соотношение содержания и формы самой по себе, именно переход одного в другое, так что содержание есть не что иное, ках превращение формы в содержание, а форма—превращение содержа-

[1]) В. К. А. № 11, ст. 287.
[2]) Пашуканис. Цытав. артыкул.

ния в форму." „Маркс это выражает в словах о праве, как о формальном опосредствовании общественных отношений".[1])

Тэорыя поўнага „опосредствования" формаю буржуазнага права сацыяльна-эканамічных адносін пераходнага перыяду можа зьявіцца нічым іншым, як фэтышызацыяю гэтай формы права. Т. Пашуканіс, відаць, забывае пра тое мейсца з „Крытыкі Гоцкай праграмы", дзе Маркс гаворыць: „Роўнае права ў прынцыпе застаецца яшчэ ўсё тым самым „буржуазным правам", з тою розьніцаю, што тэорыя і практыка ўжо не ваююць адна з другою".[2]) Тэорыя і практыка ўжо не ваююць адна з другою, а буржуазнае права ўзята ў двукосьсе. Такім чынам, Маркс падкрэсьлівае спэцыфічнасьць праўнай формы першай фазы камунізму. Іначай і быць ня можа, бо зусім зьмяніўся зьмест вытворчых адносін. Гэтая зьмена пачынаецца з моманту рэвалюцыйнага ўзрыву вытворчых адносін старое грамадзкае фармацыі.

„На пэўнай ступені свайго разьвіцьця матэр'яльныя прадукцыйныя сілы грамады ўваходзяць у супярэчаньне з існуючымі вытворчымі адносінамі, альбо, ужываючы юрыдычны выраз,—з маемаснымі адносінамі, унутры якіх яны да гэтага часу дзейнічалі. З формы разьвіцьця прадукцыйных сіл гэтыя адносіны робяцца іх кайданамі. Тады наступае эпоха сацыяльнай рэвалюцыі. Са зьменаю эканамічнага базісу больш ці менш хутка ператвaецца і ўся вялізарная надбудоўка над ім".[3]) Пралятарская рэвалюцыя выклікае ўтварэньне асобай спэцыфічнай формы права, якая зьвязана з новым зьместам вытворчых адносін. „З перамогаю пралетарыяту буржуазнае права дыялектычна ператвараецца ў права новае якасьці, якое мы завем савецкім. Яно з буржуазнага права перанімае і маштаб эквівалента-роўнасьці, паскольні ён не выцясьняецца новым прынцыпам плянавасьці, але ў процілегласьць капіталізму,—плянавасьцю сацыялістычнай.[4])

Т. Пашуканіс забывае аб новай якасьці права і новай якасьці вытворчых адносін. У гэтыя адносіны яшчэ ўкроплены рэшткі ўзарванае сацыяльна-эканамічнае фармацыі, якія змагаюцца с плянавасьцю сацыялістычнае гаспадаркі, якая няўхільна ўзмацняецца. Толькі на-

[1]) Стучка. „Курс гражданского права", стр. 18.
[2]) Маркс. „Критика Готской программы". Изд. 1919 г., стр. 16.
[3]) Маркс. „К критике полит. экономии" ГИЗ. 1929.
[4]) Стучка. Цыт. твор, с. 56.

яўнасьць гэтых рэштак старых вытворчых адносін, што выяўляюць тэндэнцыю да пашырэньня, выклікае неабходнасьць карыстацца прадметам палітычнай эканоміі, як навукі, якая ўскрывае законы генэзіса, разьвіцьця і пагібелі таварна-капіталістычных адносін. „Таварная форма прадукту альбо форм вартасьці тавараў—ёсьць форма эканамічнай каморкі буржуазнай грамады“.[1]) Гэта форма ня будзе выражаць сабою ўвесь зьмест эпохі поўнага (па тэрміналёгіі Пашуканіса—разгорнутага) сацыялізму, бо зьменіцца характар способу вытворчасьці гэтага перыяду. Тэорыя поўнага пераняценьня буржуазнай праўнай формы ва ўмовы гэтай эпохі, тэорыя ўжываньня навукі палітычнай эканоміі для вывучэньня „аб'ектыўных законаў руху вытворчых адносін“ таго ж перыяду, дапушчае пэрманентнае дзеяньне стыхійных эканамічных заканамернасьцяй буржуазнае грамады. А прадметам дасьледваньня эканамічнага вучэньня Маркса, па яго словах, зьяўляецца капіталістычны спосаб вытворчасьці (падкрэсьліна мною. Л. Р.) і адпавядаючыя яму адносіны вытворчасьці і абмену“.[2])

Асцова памылак т. Пашуканіса па пытаньні аб узаемазалежнасьці эканомікі і права, такім чынам, заключаецца ў тым, што, паўстаючы супроць тэндэнцый да абмежавальнага тлумачэньня прадмету палітычнай эканоміі, ён пагрaшае супроць асноўнага закону Марксавае дыялектыкі, закону аб адзінстве процілегласьцяй.

Напомнім з гэтае прычыны наступныя заўвагі Леніна ў яго „Канспэкце навукі лёгікі Гегеля“. „Коратка дыялектыку можна вызначыць, як вучэньне аб адзінстве процілежнасьцяй. Гэтым будзе ахоплена ядро дыялектыкі“.[3])

У сваёй першай працы („Общая теория права и марксизм“) т. Пашуканіс форму права зводзіў выключна да права таварна-капіталістычных адносін, пералажыўшы яго цалкам на зьмест эканамічнае структуры перыяду дыктатуры пралетарыяту“. „Гэта тэорыя“, паказвае т. Стучка,—„у яе першапачатковым выкладзе мае свае прабелы, свае аднабаковасьці, паскольку яна ўсё права зводзіць толькі да рынку, толькі да абмену, як ажыцьцяўленьню адносін таваравытворцаў, што, значыць, права наогул уласьціва толькі буржуазнай грамадзе“.[4])

---

[1]) Маркс. „Капитал“, т. I. Предисловие к первому изд. ГИЗ 1928 г. с. XXXII.

[2]) Тамсама.

[3]) Ленинский сборник. IX. Конспект „науки логики“ Гегеля, ст. 277.

[4]) Стучка. Цыт. твор, ст. 49.

Новыя палажэньні артыкулу т. Пашуканіса „Экономика и правовое регулирование“ паглыбляюць яго мэтадалёгічную памылку. У гэтым артыкуле, спасылаючыся на ўсеагульнасьць так званага „закону прапарцыянальных працоўных затрат“, т. Пашуканіс забывае аб тым, што неабходнасьць падзяленьня грамадзкае працы ў пэўных прапорцыях (гл. цытаваны Пашуканісам ліст Маркса да Кугельмана) траціць сваю занявольваючую форму, у залежнасьці ад узмацненьня сацыялістычнага спосабу вытворчасьці.

Гэта страта старое формы няўхільна і робіцца яна побач з зьменамі зьместу матэр'яльных прадукцыйных сіл,—хаця наглядаецца „паўтарэньне на вышэйшай стадыі пэўных рыс, уласьцівых ніжэйшай, і зьвярненьне нібы да старога (адмоўе адмоўя). Словам, мы бачым барацьбу зьместу і формы і наадварот. Скіданьне формы, перапрацоўка зьместу.[1]) Такім чынам нельга тэарэтычнае выражэньне вытворчых адносін капіталізму (навуку палітычнай эканоміі) пашыраць на ўсе гістарычныя эпохі, у тым ліку і на эпоху разгорнутага сацыялізму; ня трэба і „скідваемую“ праўную форму замацоўваць за „перарobленым“ зьместам.

## III.

Палітычная эканомія ёсьць навука, што вывучае вытворчыя адносіны капіталістычнае грамады. Аб гэтым у вядомых прадстаўнікоў марсізму ёсьць у дастатковай ступені нядвухсэнсоўныя палажэньні. Так, даючы зьнішчаючую крытыку экскурсаў Дюрынга ў галіне „Крытычнай гісторыі“, Энгельс сьцьвярджаў наступнае: „З тае прычыны, што палітычная эканомія ў тым відзе, у якім яна гістарычна выступала, зьяўляецца на справе нічым іншым, як навуковым аналізам экономіі ў перыяд капіталістычнай вытворчасьці (курсіў мой. Л. Р.), то належачыя сюды палажэньні і тэарэмы могуць сустракацца, скажам напрыклад, у пісьменьнікаў старажытна-грэцкае грамады толькі пастолькі, паскольні пэўныя зьявішчы, як выраб тавараў, гандаль, грошы, капітал, што прыносіць процанты, і інш.—супольны і старажытнаму сьвету і сучаснай грамадзе. Паскольні грэкі робяць часамі выпадковыя экскурсы (курсіў мой. Л. Р.) у гэтую галіну, яны выяў-

[1]) Ленинский сборник IX, стр. 277.

ляюць такую-ж геніяльнасьць і арыгінальнасьць, як і ва ўсіх іншых галінах. Таму погляды іх утвараюць тэарэтычныя выходныя пункты сучаснай навукі".[1])

Такім чынам пісьменьнікі старажытнае Грэцыі ў сваіх „тэарэтычных выходных пунктах" не маглі стаць вышэй грамадзкіх адносін гэтае эпохі. Яны рабілі „часамі выпадковыя экскурсы"; іх вывады не маглі ўтвараць навуку палітычнай эканоміі, бо тэарэтычныя дасьледваньні ў галіне вывучэньня вытворчых адносін таго перыяду былі гістарычна абмежаваны станам вытворчых сіл. У гэтай-жа сувязі Роза Люксэмбург піша, што палітычная эканомія, як „навука, што мае задачай выясьненьне законаў анархічнага спосабу вытворчасьці, відавочна не магла ўзьнікнуць да тых часоў, пакуль ня склаўся гэты самы спосаб вытворчасьці, пакуль паступова не былі ўтвораны работаю стагодзьдзяў, праз палітычныя і эканамічныя зрухі, гістарычныя прадпасылкі клясавага панаваньня сучаснай буржуазіі".[2]) І далей... „палітычная эканомія зьяўляецца навукай аб спэцыфічных законах капіталістычнага спосабу вытворчасьці... яе існаваньне зьвязана з апошнім, і яна траціць сваю базу, ледзь толькі спыняецца гэты спосаб вытворчасьці".

Поўная зьбежнасьць пунктаў погляду т. Пашуканіса і Скварцова на прадмет палітычнай эканоміі ідзе па лініі аднолькавых вывадаў, пабудаваных на рэцэнзіі Леніна, якая была напісана ў 1898 г. аб „Кратком курсе экономической науки" А. Богданова.

„Палітычная эканомія ёсьць гістарычная навука... далёкая ад адграніченьня сябе эпохаю і краінамі капіталізму, вывучае „гістарычную матэрыю" і г. д. (гл. даклад т. Сьцяпанава В. К. А. № 11). Па думцы Пашуканіса, „Ленін выходзіць з уяўленьня аб палітычнай эканоміі, як аб навуцы, што вывучае не адну, а розныя сыстэмы гаспадаркі".[3])

Аднак „гістарычны" характар прадмету палітычнай эканоміі трэба было б разглядаць у сьвеце і іншых прац Леніна. Так, у артыкуле „Карл Маркс", датаванай 1914 г. Ленін пісаў, што зьместам эканамічнага вучэньня Маркса зьяўляецца вынаходніцтва эканамічных заканамернасьцяй капіталістычнае грамады". „Дасьледваньне вытворчых адносін данае гістарычна пэўнае грамады у іх узьнікненьні, разьвіцьці і заняпадзе, такі зьмест эканамічнага вучэньня Маркса".[4])

---

[1]) Энгельс. „Антидюринг" выд. 1923 г., с. 259.
[2]) Р. Люксембург: „Введение в полит. экономию" ГИЗ., с. 110, 118.
[3]) Пашуканис. Цытав. артыкул, ст. 23.
[4]) Ленин. Собр. соч. т. XXI, стар. 479.

І далей, — „у капіталістычнай грамадзе пануе вытворчасьць тавараў, і аналіз Маркса пачынаецца таму з аналізу тавараў“. „Гістарычнасьць“ прадмета палітычнай эканоміі неабходна, такім чынам, разумець у сэнсе гістарычнай пэўнасьці аб‘екту яго вывучэньня, але ні ў якім разе ня ў сэнсе фэтышызацыі катэгорый гэтага аб‘екту. Трэба напомніць, што яшчэ ў 1894 годзе, крытыкуючы артыкулы народнікаў, Ленін задаваў пытаньне: „Чаму гэта Маркс гаворыць аб „сучаснай (modern)“ грамадзе, калі ўсе эканамісты да яго гаварылі аб грамадзе наогул. У якім сэнсе ўжывае ён слова „сучасны“, па якіх прыматах выдзяляе асобна гэту сучасную грамаду“... „Усе гэтыя неўразуменьні вынікаюць натуральна і неабходна“, прадаўжае ён, — „і звычайна толькі поўнае невуцтва можа абмінаць іх, гаворачы аб „Капітале“.[1]) Тутака-ж Ленін дае катэгарычны адказ, што Маркс дасьледваў закон разьвіцьця капіталістычнай фармацыі і ніякае іншае.

Гістарызм прадмету палітычнай эканоміі не можа быць зьведзены да нейкае ўсеагульнае эканамічнае навукі, якая вывучае „гістарычную матэрыю“ (Сьцяпанаў) усіх эпох. Навука палітычнай эканоміі вывучае генэзіс, існаваньне і зьнікненьне „аформленай матэрыі“, а не „гістарычнай матэрыі“ наогул (напомнім па аналёгіі—Ленін у адказе Міхайлоўскаму—„да яго (да Маркса) гаварылі аб грамадзе наогул“). Аб‘ект палітычнай эканоміі—„форма эканамічнай каморкі буржуазнае грамады“ (Маркс) гістарычна абмежаваны ў тым сэнсе, што захоўвае ў сабе сваю пагібель (па словах Леніна „упадок“). Аналіз Маркса быў пачаты з аналізу тlivарнае формы прадукту працы (Ленін). Тэарэтычна дасьледуючы гэтую форму, навука палітычнай эканоміі павінна разглядаць гэтую форму на двух канцавосьсях яе дыялектычных зьмен („возникновение—упадок“ Ленін).—Гэтыя зьмены працякаюць, як пэўныя якасныя ператварэньні ў сыстэме... „вытворчых адносін данае гістарычна пэўнае грамады“ (Ленін). Яны (гэтыя зьмены і ператварэньні) даюць у рэшце новую гістарычна пэўную матэрыю (а не „матэрыю“ наогул), узьнікшую ў відзе спэцыфічнае новае якасьці яе формы, як вынік скачка, рэвалюцыйнага пераходу ад старое сыстэмы вытворчых адносін да іншае сацыяльна-гістарычнае фармацыі.

Закон барацьбы і адзінства процілежнасьцяй, закон аб пераходзе колькасьці у якасьць—трэба напомніць тым, хто

[1]) Ленин. Собрание сочин. т. I, стр. 75, 76.

навуку палітычнае эканоміі, якая вывучае вельмі пэўную форму разьвіцьця вытворчых сіл, ператварае ва ўсеагульную эканамічную дысцыпліну.

„Если отвлечь от всяких определений от всякой формы чего либо, то останется непределенная материя. Материя есть просто отвлеченное. (Материю нельзя видеть, осязать и т. д.). То что видят, осязают — есть уже определенная материя, единство материи и формы")... То, что является деятельностью формы, есть далее в этой же мере собственное движение самой материи" [1]). Цытуючы прыведзенае намі мейсца з аддзелу „Сущность" „науки логики Гегеля", Ленін прызнае гэніяльнай асноўную ідэю прыведзеных палажэньняў: яны і павінны быць „матэр'ялістычна пастаўлены на голаву" (Ленін) у разуменьні таварышоў, якія, апэруючы „ўсеагульным законам прапарцыянальных працоўных затрат", тым самым прапаведуюць адрыў зьместу даных вытворчых сіл ад іх сацыяльна-гістарычнай формы.

Т. Пашуканіс, ратуючы за ўсеагульную эканамічную навуку, катэгарычна сьцьвярджаў, што закон працоўных затрат існуе, мала таго, ён дзейнічаў і будзе дзейнічаць ва ўсякай сыстэме грамадзкае вытворчасьці". Асноўным аргумэнтам, якім т. Пашуканіс падмацоўвае свае пазыцыі, зьяўляецца ліст Маркса да Кугельмана за 11 ліпеня 1868 г. Прыведзем цэнтральнае мейсца гэтага лісту: [2])

„Балбатня аб неабходнасьці давесьці паняцьце вартасьці грунтуецца толькі на паўнейшым невуцтве як у галіне гэтага прадмету, аб якім ідзе гутарка, так і ў галіне навуковага мэтаду. Усякае дзіця ведае, што кожная нацыя загінула б з голаду, калі-б яна прыпыніла работу, не кажу ўжо на год, а хаця-б на некалькі тыдняў. Таксама вядома ўсім, што для адпавядаючых розным масам патрэб у масах прадуктаў патрабуюцца розныя і колькасна пэўныя масы грамадзкай злучнае працы. Відавочна само па сабе, што гэтая неабходнасьць падзяленьня грамадзкае працы ў пэўных прапорцыях ніякім чынам ня можа быць зьнішчана пэўнаю формаю грамадзкае вытворчасьці; зьмяніцца можа толькі форма яе праяўленьня. Законы прыроды наогул ня могуць быць зьнішчаны. Зьмяніцца ў залежнасьці ад розных гістарычных умоў можа толькі форма, у якой гэтыя законы праяўляюцца. А форма, у якой праяўляецца гэтае прапарцыянальнае разьмеркаваньне працы, пры такім грамадзкім

[1]) Ленинский сборник. IX. Конспект „науки логики" Гегеля, ст. 135.
[2]) Пашуканис. Цытав. артыкул, ст. 31.

ладзе, калі сувязь грамадзкае працы існуе ў відзе прыватнага абмену індывідуальных прадуктаў працы — гэтая форма і ёсьць менавая вартасьць гэтых прадуктаў.

Працытаваўшы ліст Маркса, т. Пашуканіс другі раз заяўляе „аб бясспрэчнасьці палажэньня, што закон працоўных затрат дзейнічаў у кожнай грамадзкай фармацыі, дзейнічае зараз і „наогул ня можа быць зьнішчаны“.

Апошнія словы т. Пашуканіс відаць бярэ з тэксту лісту, перафразуючы словы Маркса: „Законы прыроды (курсіў мой. Л. Р.) наогул ня могуць быць зьнішчаны“. У лісьце гаворыцца не аб усеагульным эканамічным законе, які пашыраецца на ўсе часы і эпохі, а аб неабходнасьці „колькасна пэўных мас грамадзкае злучнае працы“, бо „усякае дзіця ведае, што кожная нацыя загінула-б з голаду, калі б яна прыпыніла работу (курсіў мой. Л. Р.) — не кажу ўжо на год, а хаця-б на некалькі тыдняў“. Словам, Маркс піша аб працы, аб рабоце, і толькі ў гэтым сэнсе неабходнасьць працоўнага працэсу на ўсіх ступенях жыцьця чалавечае грамады Маркс назавае „законам прыроды“. Гэта палажэньне зусім не адкідае якасных розьніц сацыяльна-гістарычных фармацый і ўласьцівых ім спосабаў грамадзкае вытворчасьці. „Калі гаворыцца аб вытворчасьці, дык заўсёды аб вытворчасьці на пэўнай грамадзкай ступені разьвіцьця (курсіў мой. Л. Р) — аб вытворчасьці індывідаў, што жывуць у грамадзе“ [1]). Т. Пашуканіс, карыстаючыся адным толькі лістам Маркса да Кугельмана, зусім не бярэ пад увагу яго славутыя: „Уводзіны да крытыкі палітычнай эканоміі“, якія адказваюць на закранутае пытаньне з вычарпальнаю відавочнасьцю.

У якім сэнсе Маркс гаворыць у сваім лісьце аб „законах прыроды“, якія „наогул ня могуць быць зьнішчаны“, аб „грамадзкай злучнай працы“, неабходнасьць падзяленьня якой у пэўных прапорцыях ніякім чынам ня можа быць зьнішчана пэўнаю формаю грамадзкае вытворчасьці? Ці выводзіцца тутака унівэрсальны „закон прапарцыянальнасьці працоўных затрат“... „аб‘ектыўны закон руху і разьвіцьця грамадзкіх вытворчых адносін, які ляжыць у аснове ўсяго грамадзкага разьвіцьця ў цэлым?“ (Пашуканіс).

У першым разьдзеле „Уводзін да крытыкі палітычнай эканоміі“, якія маюць тытул — „Вытворчасьць наогул“, Маркс дае выразнае аб‘ясьненьне зачэпленаму пытаньню: „Вы-

[1]) Маркс „Введение к критике полит. экономии. Сборник — „Основные проблемы полит. экономии“, стр. 6.

творчасьць наогул—гэта ёсьць абстракцыя, але абстракцыя, якая мае сэнс, паколькі яна сапраўды высоўвае агульнае, фіксуе яго і тым вызваляе нас ад паўтарэньняў". Ці можна на падставе прыведзенага палажэньня прыйсьці да вываду, які робіць т. Пашуканіс? Ці можа абстракцыя быць зьведзена да ўсеагульнага эканамічнага закону? „Азначэньні",—чытаем мы ў Маркса,—якія прыстасоўны да вытворчасьці наогул, павінны быць выдзелены, каб за адзінствам не была забыта істотная розьніца (курсіў мой. Л. Р.), якая абумоўлена ўжо тым, што як суб'ект—чалавецтва, так і аб'ект—прырода, застаюцца адны і тыя самыя" [1]). Такім чынам абстрактна-аналітычны мэтад навукі палітычнай эканоміі прыводзіць да таго, каб „не была забыта істотная розьніца" вытворчых адносін сацыяльна-гістарычных фармацый. Неабходнасьць падзяленьня грамадзкае працы застаецца, але яно (падзяленьне) праводзіцца ў „пэўных прапорцыях" (гл. ліст да Кугельмана, цытаваны вышэй). Суб'ект чалавецтва, так і аб'ект—прырода, застаюцца адны і тыя самыя"... „законы прыроды наогул ня могуць быць зьнішчаны", але на пэўнай ступені грамадзкага разьвіцьця „неабходнасьць падзяленьня грамадзкае працы"... для задаволеньня масамі прадуктаў „розных адпавядаючых мас патрэбаў", набывае якасна іншы характар. Паміж чалавецтва і прыродай не будуецца „фантастычная форма адносін паміж рэчамі"... зьнікае „загадковы характак прадукту працы", які ўзьнікае, ледзь толькі апошні прымае форму тавару; лад грамадзкага жыцьцёвага працэсу вытворчасьці, скіне з сябе містычнае туманнае пакрывала... ён зробіцца прадуктам вольна аграмадзіўшыхся людзей і будзе знаходзіцца пад іх сьвядомым плянавым кантролем (курсіў мой. Л. Р.).[2])

Аб гэтым усьлед за Сьцяпанавым і Багданавым забывае і т. Пашуканіс, выцягваючы з арсэналу апошняга тэорыю „закону працоўных затрат", годную для ўсіх часоў і народаў. Якасныя розьніцы ў спосабах ужываньня „грамадзкае злучнае працы", на вельмі пэўных ступенях разьвіцьця чалавецтва ня трэба забываць, бо супроць тых, хто забывае гэта можна накіраваць бічуючыя словы Маркса, зьвернутыя да эканамістаў, уся „мудрасьць якіх заключаецца ў тым, што, даводзячы вечнасьць

---

[1]) Маркс. „Введение к критике полит. экономии". Цыт. выд., ст. 7.
[2]) Маркс, „Капитал", т. I „Товарный фетишизм и его тайны" ГИЗ 1928 г., ст. 31, 32, 37.

і гармонію існуючых сацыяльных адносін; яны забываюць аб іх розьніцы“ [1]).

На гэтым, бадай, можна было б скончыць трактоўку пытаньня аб гістарычнай абмежавальнасьці прадмету палітычнай эканоміі — у зьвязку з разборам канцэпцый т. Пашуканіса аб узаемазалежнасьці эканомікі і права. Аднак, апублікаваньне Ленінскіх заўваг аб „эканоміцы пераходнага перыяду“ Бухарына прымушае нас выставіць некалькі заключных тэзісаў.

У сваёй рэцэнзіі, аб XI Ленінскім зборніку, надрукаванай у „Правде“ за 15 лістапада 1929 г. т. Пашуканіс лічыць, што заяўленьне Леніна па пытаньні аб прадмеце палітычнай эканоміі „вносит порядочный „корректив“ к тем взглядам на этот счет, которые приобрели значение догмы среди огромного большинства наших экономистов“. Тутака-ж т. Пашуканіс выкладае заўвагу Леніна аб паступовасьці адміраньня момантаў прымушэньня, у тым ліку і прымусовае працы. Наперакор Бухарыну Ленін паказвае, што „сперва“ адмірае прымусовы характар працы, „потом“—сыстэма карных і рэпрэсыўных органаў, „далее“— армія і флёт. Т. Пашуканіс не заўважвае, што паказаньне Леніна аб адміраньні прымусовага характару працы накіравана і супроць яго (Пашуканіса) тэорыі „найбольш агульных умоў раўнавагі“..., якія паказваюцца „законам прапарцыянальнасьці працоўных затрат“ [2]). Яно-ж ніхто іншы, як Ленін едка крытыкаваў „отечественных социологов“, якія „исписали груды бумаги“... і не зразумелі таго, што гіганцкі крок наперад, зроблены Марксам, у тым і заключаўся, што ён кінуў усе развашаньні аб грамадзе і прагрэсе наогул“ [3]). Разьвіваючы гэтую крытыку супроць народнікаў, Ленін колькі разоў паўтарае прыведзеную думку, розна карыстаючыся ёю ў палеміцы. У падцьвярджэньне сваіх довадаў ён цытуе „апісаньне дыялетычнага мэтаду, зробленае у „Вестнике Европы“ за 1872 г., якое, па яго выразу, „Маркс выудил из бездны журнальных и газетных заметок о „Капитале“ и перевел на немецкий язык потому, что эта характеристика метода, как он сам говорит, совершенно точна“ [4]). У гэтай рэцэнзіі, якая выдзелена аўтарам „Капіталу“, як „зусім дакладная“ гаворыцца:

---

[1]) Маркс, „Введение к критике полит. экономии“. Цыт. выданьне, ст. 7.

[2]) Пашуканис. Цытав. артыкул, ст. 32.

[3]) Ленин. Собр. соч. т. I. ст. 84.

[4]) Ленин. Собр. соч. т. I, ст. 105.

„Маркс адмаўляецца (курсіў мой. Л. Р.) іменна ад гэтай ідэі, што законы эканамічнага жыцьця аднолькавы і для мінулага і для сучаснага. Наадварот, кожны гістарычны перыяд мае свае ўласныя законы“. Пашуканіс-жа не адмаўляецца ад ідэі дзеяньня „закону працоўных затрат“ ва ўсякай сыстэме грамадзкае вытворчасьці“, і на апошняй старонцы свайго артыкулу праводзіць аналёгію паміж гэтым законам і „фізыолёгічным законам, што патрабуе асыміляцыі затрачанае энэргіі „ў форме“ пачуцьця голаду—апэтыту“ [1]). Аднак, тутака-ж т. Пашуканіс абмаўляецца аб „прыблізнасьці“ яго аналёгіі і яе „пагрэшнасьці“. Пачуцьцё голаду—апэтыт, так сказаць, „не адамрэ, а вось вартасьць... адамрэ разам з зьнішчэньнем рыначных адносін“, але закон прапарцыянальнага разьмеркаваньня працоўных затрат“ застанецца. Заўвага Леніна на палёх „Эканомікі пераходнага перыяду“ Бухарына аб адміраньні прымусовага характару працы, якое адбываецца „сперва“, сапраўды ўносіць яшчэ адзін „порядочный корректив“ у тэорыю аб сталай дзейнасьці „надгістарычнага закону працоўных затрат“.

„Пачучьцё голаду-апэтыт“ і праца людзкая застануцца, бо законы прыроды наогул ня могуць быць зьнішчаны, але „зьнікне зьнявольваючая падпарадкаванасьць чалавека закону падзяленьня працы, а з ім і працілегласьць разумовае і фізычнае працы, і праца, перастаўшы быць толькі спосабам да жыцьця, сама зробіцца першаю патрэбаю жыцьця“ [2]). Карыстаючыся лістам Маркса да Кугельмана, т. Пашуканіс ня ўзяў пад увагу таго найглыбейшага сэнсу, які Маркс укладае ў словы: „аб неабходнасьці падзяленьня грамадзкае працы ў пэўных прапорцыях“. Тутака ж літаральна нічога ня сказана аб наяўнасьці і пры сацыялізьме „разыходжаньня сутнасьці рэчаў і формы іх праяўленьня“ (Пашуканіс), аб сталай дзейнасьці такога падзяленьня працы, пры якім „прадукты працы робяцца рэчамі пачуцьцёва-надпачуцьцёвымі“ (Маркс „Таварны фэтышызм“). Праца чалавецтва і яе разьмеркаваньне ў пэўных прапорцыях — „безумоўна застануцца неабходнасьцю, але зробяцца пазнанаю неабходнасьцю, бо ўжо ў перыяд першае фазы камуністычнае грамады, калі ўсе навучацца кіраваць і будуць на справе кіраваць самастойна грамадзкаю вытворчасьцю, самастойна ажыцьцяўляць падлік

[1]) Цытав. артыкул, ст. 32.
[2]) Маркс. „Критика Готской программы“ Изд. 1919 г., стр. 18.

і кантроль дармаедаў, панічоў, машэньнікаў і іншых „ахоўнікаў традыцый капіталізму“, тады ўхіленьне ад гэтага ўсенароднага падліку і кантролю няўхільна зробіцца такім надзвычайна цяжкім, такім найрэдкім выключэньнем, будзе выклікаць, напэўна, такое хуткае і сэр'ёзнае пакараньне (бо ўзброеныя рабочыя—людзі практычнага жыцьця, а не сантымэнтальныя інтэлігантыкі, і жартаваць з сабою яны бадай ці дазволяць), што неабходнасьць захоўваць нескладаныя, асноўныя правілы ўсякага чалавечага супольнага жыцьця вельмі хутка зробіцца звычкаю“ [1]).

Неабходнасьць зробіцца звычкаю—такі закон рэвалюцыйна-дыялектычнага разьвіцьця грамады.

Ці можна нататку Леніна на палёх „Экономики переходного периода“ аб існаваньні прадмета палітычнай эканоміі пры камунізьме зводзіць да дагматычнага палажэньня аб вывучэньні гэтаю навукаю сталых праяў унівэрсальнага „закону працоўных затрат“? „І ці не паўтараецца тутака ранейшая мэтадалёгічная памылка т. Пашуканіса аб поўным пералёце старое праўнае формы—па-за падлікам канкрэтных асаблівасьцяй пераходнага перыяду? Ці падразумеваў Ленін навуку палітычнай эканоміі ў літаральным сэнсе, і ці ня трэба тутака ўзяць пад увагу „дыялектыку паняцьцяў... дыялектыку, граніцы якой павінны быць вызначаны і якая не зьнішчае рэальнае розьніцы“ [2]).

Дыялектыка паняцьцяў застаецца ў сэнсе Маркса—Энгельса—Леніна. Тутака няма „парадоксу альбо простае дыялектычнае гульні розуму“ (Ленін). Аб'ект Марксавай палітычнай эканоміі адмірае пры разьвіцьці камунізму; адмірае не без змаганьня з новымі формамі сацыяльна-эканамічных адносін, але поўнасьцю і няўхільна. „Стары спосаб вытворчасьці павінен быць зьменены, значыцца, да асновы, асабліва-ж павінна зьнікнуць старое падзяленьне працы (курсіў мой. Л. Р.). На яго мейсца павінна выступіць такая арганізацыя вытворчасьці, пры якой, з аднаго боку, ніхто ня мог-бы звальваць на другога сваю долю ўдзелу ў прадукцыйнай працы, гэтай натуральнай умове чалавечага існаваньня (падкрэсьлена мною. Л. Р.), дзе з другога боку, прадукцыйная праца, замест таго, каб быць спосабам зьняволеньня людзей, зрабілася-б спосабам іх вызваленьня, даючы кожнай асобе мажлівасьць разьвіваць ва ўсіх напрамках і ўжываць

[1]) Ленин. Собр. сочинений т. XIV ч. II, стр. 380, 381.
[2]) Маркс. „Введение к критике“... цит. изд., стр. 32.

усе свае здольнасьці як фізычныя-так і духоўныя, дзе прадукцыйная праца з вялікага цяжару зрабілася-б прыемнасьцю“ [1]).

Такім чынам, навука „палітычнай эканоміі застаецца і пры чыстым камунізме, але зьнікае старая палітычная эканомія“. Тутака няма парадоксу альбо простае дыялектычнае гульні розуму, тутака становіцца пытаньне не аб даслоўным, дагматычным разуменьні слоў Леніна аб існаваньні палітычнае эканоміі „нават у чыстым камунізьме“. Нататку на палёх „Экономики переходного периода“ Бухарына трэба разумець не як літару марксізму, а дыялектычна, бо тутака гаворыцца аб перарабленьні старое палітычнае эканоміі ў іншую навуку. Гэта новая тэарэтыка-гаспадарчая навука „зьнішчыць... трывалы круг, які заўсёды ізноў аднаўляецца супярэчаньнямі капіталістычнага характару“. Яна дапаможа грамадзе „гарманічна камбінаваць свае вытворчыя сілы, паводле адзінага агульнага пляну“... Яна „можа дазволіць прамысловасьці расьсяліцца па ўсёй краіне, бо гэта найбольш выгодна для яе ўласнага разьвіцьця і для захаваньня і разьвіцьця іншых элемэнтаў вытворчасьці“. Тады і ажыцьцёвіцца геніяльнае прадбачаньне Энгельса аб тым, што „адхіленьне процілегласьці паміж горадам і вёскаю... ня толькі мажліва: яно зрабілася простаю патрэбаю для самое прамысловае вытворчасьці, як і для вытворчасьці сельска-гаспадарчае“ [2]).

Вось якая ў нашым разуменьні трактоўка пытаньня аб гістарычнай абмежавальнасьці прадмету палітычнай эканоміі. Мы зрабілі спробу абмеркаваць гэтую праблему ў зьвязку з некаторымі палажэньнямі, якія высунуты у артыкуле т. Пашуканіса аб „экономике и правовом регулировании“. Гэтыя палажэньні і зьяўляюцца, па сутнасьці, паўтарэньнем тэорыі Багданава-Бухарына аб асаблівасьцях праславутага „закону працоўных затрат“ [3]), які ў інтэрпрэтацыі т. Пашуканіса пачынае ўзаемадзейнічаць з праўнаю надбудоўкаю.

Усім тым, хто ўпарта апэруе падобнага роду ўсеагульнымі катэгорыямі, будзь яны эканамічныя, будзь яны праўныя; усім, хто забывае аб канкрэтным зьмесьце эканамічных ступеняй чалавечае грамады і стараецца ўтва-

---

[1]) Энгельс. „Антидюринг“. Цыт. выд., стр. 331.

[2]) Энгельс. „Антидюринг“. Цытав. выд., ст. 333.

[3]) Гл. „В. К. А.“ № 15 1929 г., ст. 214, а таксама працу Бухарына „К вопросу о закономерностях переходного периода“, выд. 1928 г., ст. 34, 35.

рыць тэорыю аб унівэрсальнай дзейнасьці нейкіх надгістарычных законаў, усім ім мы напомнім старыя і вечна новыя словы, якімі Маркс канчае свае „Уводзіны да крытыкі палітычнае эканоміі“:

„Хіба быў-бы мажлівы той погляд на прыроду і на грамадзкія адносіны, які ляжыць у аснове грэцкай фантазіі, а таму і грэцкага мастацтва, пры наяўнасьці сельфактараў, чыгунак, цягнікоў і электрычнага тэлеграфу? Хіба нашлося-б мейсца Вулкану побач з Roberts et C°, Юпітэру побач з пяруньнікам і Гэрмэсу побач з Credit mobilier? З другога боку: ці мажлівы Ахільлес з порахам і волавам? Альбо наогул Іліяда побач з друкарскім варштатам і тыпаграфскаю машынаю? І хіба не зьнікаюць няўхільна апавяданьні, і песьні, і музы, а тым самым і неабходныя прадпасылкі эпічнае паэзіі, разам з падважнікам друкарскага варштату.

Мужчына ня-можа зрабіцца ізноў дзіцем, каб ня быць сьмешным... Грэкі былі нармальнымі дзецьмі. Чароўнасьць, якая адчуваецца для нас ад іх мастацтва, не стаіць у супярэчаньні з тым неразьвітым грамадзкім асяродзьдзем, з якога яна вырасла. Наадварот, яна зьяўляецца яго вынікам і непарыўна зьвязана з тым, што нясьпелыя грамадзкія адносіны, сярод якіх яно ўзьнікла і толькі і магло ўзьнікнуць, ніколі ня могуць паўтарыцца ізноў“. (Курсіў мой. Л. Р.).

---

[1]) Маркс. „Введение к критике полит. экономии“. Цыт. выд., ст. 33, 34.

Дац. Ф. Гаўзэ.

# Заканадаўства пра сямью і шлюб у яго гістарычным разьвіцьці [1]).

Калі-б мы пажадалі заняцца дагматычным вывучэньнем шлюбна-сямейнага права БССР, то мы павінны былі-б, адкінуўшы матар'яльныя ўмовы грамадзкага жыцьця, прааналізаваць Кодэкс Законаў аб Шлюбе, як сукупнасьць юрыдычных норм, даць апісаньне юрыдычных інстытутаў, што азначаюцца гэтымі нормамі, і шляхам фармальна-лёгічных пабудоў устанавіць абстракцыйныя юрыдычныя прынцыпы, якія ляжаць у аснове Кодэксу і рэгулююць, па думцы дагматыкаў, шлюбна-сямейную арганізацыю грамады. Так і рабілі ў адносінах да царскага заканадаўства юрысты царскай Расіі; так вывучаюць і сёньня сямейнае і ўсякае іншае права сваёй краіны ва ўнівэрсытэтах Заходняе Эўропы і Амэрыкі. Мы ня можам так падыйсьці да вывучэньня сямейнага права. Дыялектычны матар'ялізм, навуковы мэтад рэвалюцыйнага пралетарыяту, мэтад, які павінен панаваць у нашых вышэйшых школах і наогул у навуцы, кваліфікуе дагматычны мэтад у правазнаўстве, як чыста буржуазны, калі ён узводзіцца ў ступень асобай мэтадалёгіі. Сапраўды, толькі буржуазны вучоны, для якога сям'я (моногамічная), уласнасьць (капіталістычная) і дзяржава (буржуазная) зьяўляюцца, калі не первястковымі, то ў кожным разе, вечнымі, лёгічнымі катэгорыямі, можа вывучаць сямейнае права дагматычна. Буржуазны вучоны, для якога права зьяўляецца самастойнаю галіною духа, папарадкаванаю ўласным законам разьвіцьця, ня спыніцца ў няўпэўнасьці і перад вядомымі яму зьменамі ў галіне сямейнага права ў розных народаў і ў розныя эпохі, бо ён, нічтожэ сумняшэся, вытлумачыць гэтыя зьмены лёгічным разьвіцьцём праўных ідэй, асаблівасьцямі духа данай

[1]) Уступная лекцыя па курсу сямейнага права, прачытаная ў кастрычніку 1929 г.

нацыі, выключным уплывам якое-небудзь гістарычнае асобы (напрыклад, роляю Напалеона ў сямейным праве Францыі, значэньнем жанчын-імпэратрыц у сямейным заканадаўстве Расійскай імпэрыі) альбо чым-небудзь падобным. Застаючыся, такім чынам, на паверхні зьявішчаў, буржуазныя правазнаўцы, што вывучаюць сямейнае права, даюць нам цікавы прыклад злучэньня ў аднэй асобе вялікага веданьня законаў аб сям'і і шлюбе ва ўсе часы і ў розных народаў з ненавуковым падыходам да такіх буйных зьявішчаў чалавечае грамады, як сям'я і шлюб з аднаго боку і права — з другога. Бясплодныя спробы юрыстаў даць азначэньне разуменьняў „сям'я" і „шлюб", якія напамінаюць такія-ж спробы азначэньня права, зьяўляюцца лепшым довадам выказанае намі думкі. Бясплоднасьць гэтых спробаў тлумачыцца тым, што буржуазныя правазнаўцы праходзяць міма таго бясспрэчнага факту, што ня гледзячы на тое супольнае, што мы знаходзім у інстытутах сям'і і шлюбу на працягу ўсяе гісторыі чалавецтва, яны ў розныя перыяды мяняюць свае формы і сваю сутнасьць, што нават у адзін і той самы гістарычны перыяд яны розныя ў розных клясах, і што, нарэшце, у сучасную менавіта пору сям'я перажывае найвялікшы крызіс, які тлумачыцца тым, што адмірае старая і нараджаецца новая шлюбна-сямейная арганізацыя.

Адзіны мэтад, здольны навукова вытлумачыць нашае і буржуазнае права аб сям'і і шлюбе, як і наогул усё права, ёсьць мэтад рэвалюцыйна-дыялектычны. Толькі такое вывучэньне сямейнага права дасьць нам і патрэбныя практычныя вынікі. Ня можа правільна ўжываць наш закон да шматлікіх і складаных спрэчак у галіне сям'і і шлюбу той судзьдзя, які толькі дагматычна вывучыў сямейны кодэкс. Ня можа таму, што пераходны характар эпохі і пераходны характар сям'і гэтай эпохі нечакана падносяць нам такія казусы, што грунтуюцца часта ў бытавых умовах нашага мінулага, а часамі ў нараджаючыхся бытавых адносінах, якія ня знойдуць сабе адказу ў „статычных формулах" артыкулаў Кодэксу, калі не вывучаць гэты Кодэкс рэвалюцыйна-дыялектычна. І сапраўды, спрэчкі, зьвязаныя з рэгістрацыяю і нерэгістрацыяю шлюбу, з маемаснымі адносінамі супругаў, з унутрысямейнымі адносінамі ў сялянскім двары, часта застаюцца нявырашанымі, альбо няправільна вырашанымі судзьдзёю-дагматыкам. Для свайго ўцяшэньня ён будзе спасылацца на прабельнасьць нашых законаў, падмяняючы такім чынам факт недастатковага разуменьня ім нашага заканадаўства крытыкаю згары недастатковае нібы та распрацаванасьці праўных норм краіны

Калі-ж мы хочам вывучаць нашае сямейнае права рэвалюцыйна-дыалектычна, то бясспрэчна, мы павінны даць перед пачаткам нашага курсу кароткі нарыс заканадаўства пра сям'ю і шлюб у яго гістарычным разьвіцьці.

* * *

„Да пачатку 60-х гадоў XIX стагодзьдзя гаварыць пра гісторыю сям'і не прыходзіцца. У гэтай галіне гістарычная навука знаходзілася яшчэ зусім пад уплывам Майсеевага Пяцікніжжа. Адбітая у ім больш падробна, чымся дзе небудзь, патрыархальная форма сам'і ня толькі без далейшых разважаньняў прымалася за старажытнейшую форму, але і ўтоежсамлівалася,—выключаючы многажонства,—з сучаснаю буржуазнаю сям'ёю, так што, па сутнасьці кажучы, сям'я нібы наогул не зрабіла ніякага гістарычнага разьвіцьця", так сьцвярджае Энгэльс у прадмове да 4-га выданьня „Паходжаньне сем'і, прыватнай уласнасьці і дзяржавы" [2]). Сапраўды, толькі ў 1861 годзе Бахофэн у сваёй працы „Мацярынскае права" палажыў пачатак думцы аб дынамічнасьці форм сям'і. А ўжо праз 16 год Морган у сваёй працы „Старажытная грамада" даў апісаньне эволюцыі сям'і. З тых пор зьменчывасьць форм сям'і і шлюбу зьяўляецца аксыомаю для ўсіх, у тым ліку і буржуазных, сацыолёгаў. Таксама бясспрэчным для марксістаў зьяўляецца тое, што ва ўзьнікненьні шлюбна-сямейнай арганізацыі чалавецтва ляжаць прычыны сацыяльна-эканамічнага характару. Калі фізыолёгічны момант прыводзіць да кароткачаснай фізычнай сувязі паміж мужчынаю і жанчынаю, то падзел працы паміж поламі, перш за ўсё у адносінах да нараджэньня дзяцей, а затым і ў справе здабываньня ежы, прывёў да ўстанаўленьня пэўных больш-менш працяглых адносін паміж мужчынаю і жанчынаю, менавіта свайго роду „сямейных" адносін. Аднак, у бясклясавай грамадзе, пры родавым ладзе, асабістая сям'я таго часу яшчэ не зьяўляецца асноўнаю ячэйкаю чалавечага супольнага жыцьця. Зараджэньне т а к о е сям'і трэба аднесьці да эпохі разлажэньня родавага ладу. Выцякаючыя адно з другога ўласнасьць і абмен, разлажыўшыя родавы лад, прывялі аднachасна да ўтварэньня дзяржавы і сям'і. Такім чынам с я м ' я с а м ы м с в а і м у з ь н і к н е н ь н е м а б а в я з а н а ў л а с н а с ь ц і. Перад асабовою ўласнасьцю ў гісторыі ідзе ўлас-

---

[2]) Энгельс. Происхождение семьи, частной собственности и государства. Изд. „Московский Рабочий", под редакцией Д. Рязанова, стр. 9.

насьць сямейная [3]). Падзеньне матрыярхату і ўстанаўленьне аднаўладзтва мужчыны, першым вынікам якога зьяўляецца ўзьнікненьне прамежнае формы патрыярхальнае сям'і, таксама ёсьць вынік накапленьня багацьця, якое перайшло ў прыватную ўласнасьць паасобных сем'яў. Нарэшце, „манагамія ўзьнікла з групаваньня ў адных руках—прытым у руках мужчыны—вялікага багацьця і з неабходнасьці перадаць гэтае багацьце па спадчыне дзецям гэтага мужчыны і нікому іншаму" [4]). У другім мейсцы Энгельс паказвае, што „панаваньне мужа ў сям'і і нараджэньне дзяцей, якія маглі быць толькі ад яго і прызначаліся насьледваць яго спадчыну— такая была выключная мэта індывідуальнага шлюбу, якая адчынена прызнавалася грэкамі" [5]) Самая назва рымскае сьм'і — familia — сьведчыць аб шчыльнай сувязі яе з уласнасьцю. „Першапачаткова—familia—у рымлян была маемасна-праўным разуменьнем. Familia была хатнім абсталяваньнем, (Hauswesen) разуменьнем, якое ахапляла рэчы, што складаюць сутнасьць рымскае гаспадаркі, res mancipi (перш за ўсё familia была злучнасьцю нявольнікаў..). Пазьней гэты выраз з рэчавага сэнсу перайшоў на „дом" у сэнсе асабова-праўным, г. ё. на агнатычную сям'ю" [6]). Ва ўсёй далейшай гісторыі сям'і ўласнасьць шчыльна зьлітована з сьм'ёю; як здань ходзіць сям'я за ўласнасьцю і прымае ўсе ўмовы, якія яна ёй дыктуе. З другога боку сям'я робіць уплыў і на арганізацыю прыватнай уласнасьці. Спадчыннае права, як спосаб унівэрсальнага пераходу ўласнасьці, зазнала на працягу ўсяе гісторыі, зазнае і зараз на сабе ўплыў інтарэсаў сям'і, што дало падставу вядомаму гісторыку грамадзянскага права эпохі Французскай рэвалюцыі, Саньяку, сказаць, што „спадчыннае права рэвалюцыі ёсьць па сутнасьці сямейнае права" [7]).

З рымскаю familia мы ўваходзім у эпоху пісанага права. Пазнаёмімся таму бліжэй з сям'ёю старажытнага Рыму. Энгельс прызнае яе законченым тыпам патрыярхальнае формы сям'і, а яе істотнаю рысаю лічыць уключэньне ў склад сям'і нявольнікаў і бацькаўскую ўладу. Сапраўды, рымская familia ёсьць агнатычная сям'я, г. ё. самастойная гаспадарчая ячэйка, што ўключае ў сябе членаў сям'і, нявольнікаў і ўсю

[3]) Ужо ў тую эпоху мы можам прасачыць уплыў уласнасьці на сямейную арганізацыю. Так, паводле сьведчаньня Летурно, у Грэцыі за Салонам „у разе атрыманьня жанчынаю спадчыны закон касаваў яе шлюб і абавязваў яе выходзіць замуж за бліжэйшага роднага; каб сямейныя дзедзіны не драбіліся".

[4]) Энгэльс, стар. 50.

[5]) Энгэльс, стар. 43—44.

[6]) R. Sohm. Institutionen 1928. s. 500.

[7]) Саньяк. Гражд. Законод. Французской Революции.Ком. Акад. стр. 326.

іншую маемасьць, якая падпарадкавана адзінай абсалютнай уладзе галавы сям'і і зьяўляецца яго неабмежаванаю ўласнасьцю. Адносіны ўнутры сям'і і зводзяцца да абсалютнай улады галавы сям'і і заключаюць у сабе „jus vitae ac necis". Самая назва гэтай улады — manus — і была ў старажытныя часы, паводле сьведчаньня Mitteis'a, выражэньнем разуменьня гаспадарчае ўлады наогул як у дачыненьні да рэчаў, так і ў дачыненьні да асоб. У адпаведнасьці з гэтым, усе, нават вольныя члены сям'і, ёсьць „personae alieni juris". Усе дзеяньні, якія яны ўтвараюць, зьяўляюцца дзеяньнямі ад імя і за кошт paterfamilias. Маемасьць, што набываецца імі, ёсьць уласнасьць галавы сям'і. Абсалютная ўлада галавы сям'і выражаецца яшчэ і ў тым, што развод дазваляецца толькі паводле аднабаковае волі мужа. Такая арганізацыя сям'і зусім адпавядае як мэце яе існаваньня: быць вытворча-працоўнаю ячэйкаю, якая задавольвае ўсе патрэбы сваіх членаў, так і наогул праўнай арганізацыі грамады таго часу. Вось якою зьяўляецца першапачатковая сям'я грамады, якая ідзе ад фэўдалізму да гандлёвага капіталізму ў найбольш раньнім фазысе гэтага працэсу. Але таксама, як у кожным ладзе мы знаходзім элемэнты ладу, які ідзе яму на зьмену, так і тутака мы знаходзім у XII-ці табліцах побач з апісаньнем відаў сям'і, аснованай, паміж іншым, на строга фармальным шлюбе, і форму сям'і бясспрэчна больш позьняга паходжаньня. Шлюб можа быць заключаны шляхам usu, г. ё. шляхам фактычнага сумеснага пражываньня на працягу году, прычым такі шлюб можа прывесьці да волі жанчыны ад улады мужа (шлюб sine manu), калі будзе ў наяўнасьці usurpatio trinoctio: manus не ўзьнікне, калі жонка раз на год выходзіць з дому мужа на тры ночы. Гэтым нібы перарываецца цячэньне даўнасьці, якая прыводзіць да прызнаньня шлюбу і да manus. Ясна аднак, што справа 'ня ў гэтай юрыдычнай форме і юрыдычным тлумачэньні адсутнасьці manus. Як і заўсёды юрыдычная форма толькі ўзаконіла, асьвяціла існаваўшыя адносіны, тым больш, што ў далейшым гэтая ўмова — выхад на тры ночы — адпала. Важней у даным выпадку ўнутраны зьмест утворанае такім шляхам сям'і. У гэтай сям'і жонка не падпарадкавана ўладзе мужа; прынесеная ёю маемасьць застаецца яе маемасьцю, за выключэньнем пэўнае долі ае „dos", якая разам з пэўнаю доляю маемасьці мужа, пад назваю donatio proptes nuptias, зьяўляецца супольнаю маемасьцю, фактычна эканамічным базісам наваўтворанай сям'і. Развод пры такім шлюбе дапушчаецца паводле аднабаковае заявы як мужа, так і жонкі, У пазьнейшыя часы развод выклікаў толькі пэўныя маемасныя вынікі, ня-

выгодныя для ініцыятара, але зусім мэтазгодныя з пункту погляду захаваньня данае гаспадарчае ячэйкі, данае адзінкі ўласнасьці. Юрысты-раманісты, якія хаця і вывучаюць права краіны з дабуржуазным ладам, але жывуць у сьвеце ідэй сучаснае буржуазнае грамады, да гэтых пор спыняюцца ў няпэўнасьці перад гэтым шлюбам sine manu, не разумеючы, як мог рымскі заканадаўца прызнаць яго за „matrimonium justum", г. ё. за законны шлюб. Некаторыя, як напрыклад Зом, дае чыста юрыдычнае няўдалае тлумачэньне. Маўг спрабуе растлумачыць гэты факт існаваньнем шлюбаў паміж патрыцыямі і плебеямі да прызнаньня за апошнімі jus connubii. Нам здаецца, што больш правільным было-б шукаць растлумачэньня гэтага факту ў эканамічнай будове Рыму і ў агульным характары рымскага права таго перыяду. Як правільна сьцьвярджае П. І. Стучка, перамога плебса над патрыцыямі, вынікам якой зьяўляецца ўзьнікненьне пісанага права, у пачатку „праявілася ў пэўным дзяржаўным дваяўладзтве і праўным дуалізьме: два трыбуны замест аднаго, побач са строга фармальным квірыцкім (грамадзянскім) правам—права чужародцаў, „jus gentium" (г. ё. права плебеяў); побач са шлюбам са строгаю ўладаю бацькі сям'і, мужа—вольны шлюб па згодзе; замест фармальнага дагавору манцыпацыі — простая перадача (traditio) [8])... Шлюб sine manu, гэты (паводле справядлівае заўвагі Зома), шлюб без агнатычнае ўлады, але які захоўвае ў пэўнай ступені супружаскую ўладу мужа, прадстаўляе сабою шлюб тае часткі насельніцтва Рыму, якая ўвасабляе сабою гандлёвы капітал, г. ё. плебеяў. Такому погляду адпавядае і далейшая гісторыя рымскай сям'і: у залежнасьці ад усё большага набліжэньня Рыма да тыпу гандлёва-капіталістычнае дзяржавы, агнатычная сям'я праз прэтарскае права, а потым праз імпэратарскае заканадаўства, пэратвараецца ў кагнатычную, і шлюб sine manu робіцца адзінаю формаю шлюбу. У такой форме і ўвайшлі інстытуты шлюбу і сям'і ў Юстыныянаўскі „Corpus Juris".

Але не ў такім, аднак, выглядзе яны існавалі ў сярэднія вякі нават у краінах, дзе панавала рэцэпаванае рымскае права. Царква і каралі, глоссатары і коммэнтатары грунтоўна папрацавалі над прыстасаваньнем права да інтарэсаў пануючых кляс сярэднявяковае грамады; яны асаблівую ўвагу ўдзялялі сямейнаму праву, значна аддаліўшы сям'ю фэўдальнае эпохі ад сям'і Рыму эпохі Юстыныяна.

---

[8]) Стучка—Введение в теорию гражданского права, ст. 25.

„Новая моногамія, разьвіўшаяся на руінах рымскага сьвету пры зьмяшаньні народаў, апранула ўладу мужа ў больш мягкія формы і дала жанчыне, прынамсі з надворнага боку, больш ганаровае і вольнае становішча, чымся гэта калі-небудзь было вядома клясычнай старажытнасьці"[9]). Так характарызуе Фр. Энгельс сям'ю сярэднявяковае грамады у эпоху зараджэньня фэўдалізму. Зусім процілежны характар носіць сям'я ўпаўне разьвітага фэўдальнага ладу. Возьмем да прыкладу Францыю. Як вядома, Францыя да рэвалюцыі мела надзвычайна стракатае грамадзянскае заканадаўства: на поўдні—пісанае, рымскае права, у цэнтры і поўначы мела перавагу звычаёвае права; і тое і другое права зьмяняецца і дапаўняецца правам фэўдалаў, кананічным правам і каралеўскімі ордонансамі. Надзвычайна стракатае і сямейнае права, якое зьяўляецца часткаю грамадзянскага. На поўдні сям'я пабудована на неабмежаванай уладзе мужа і бацькі і на дотальнай сыстэме маемасных адносін; на поўначы звычаёвае права ня ведае абсалютнай бацькаўскай улады, абсалютнага панаваньня мужа у асабовых адносінах, але затое не прызнае паасобнай уласнасьці жонкі і ўстанаўляе вярховенства мужа ў маемасных адносінах.

Так рознымі шляхамі і Поўнач і Поўдзень Францыі прыходзяць да аднаго, да панаваньня мужа і бацькі ў сям'і. Аднак каралі і царква яшчэ больш пагоршылі становішча жонкі і дзяцей у сям'і, яшчэ больш узмацнілі ўладу галавы сям'і, прыдаўшы сям'і характар вельмі блізкі да першапачатковай сям'і Рыма. Царква, узяўшы на сябе вядзеньне актаў грамадзянскага стану—нараджэньня, шлюбу і сьмерці, тым самым моцнымі путамі зьвязала з сабою сярэднявяковую грамаду, прымушаючы грамадзян у самыя важныя і, так сказаць, няўхільныя моманты жыцьця зварочвацца да яе.

Захапіўшы такім чынам у свае рукі рэгуляваньне сямейных адносін, царква, гэтая магутнейшая сіла сярэднявякоўя, буйнейшы фэўдал Эўропы, натуральна ўтварыла права, найбольш адпавядаўшае яе інтарэсам і інтарэсам яе клясавага саюзьніка, феўдала. Шлюб ёсьць таінства і таму можа быць утвораны толькі з дазволу царквы. Шлюб не дапушчаецца пры наяўнасьці радзтва ўключна да 4-й ступені паводле кананічнага вылічэньня, г. ё. паміж унукамі, што паходзяць ад стрыечных братоў і сясьцёр. З тае прычыны, што амаль ўсё насельніцтва кожнае вёскі Францыі знахо-

---

[9]) Энгельс. Происхождение семьи, ст. 64.

дзіцца ў радзтве (як яго разумее царква), а шлюбы ў тую эпоху заключаюцца паміж тэрытарыяльна блізкімі сем'ямі, то для большае колькасьці шлюбаў патрабуецца дазвол царквы, які павінен аплачвацца звонкаю манэтаю. Ясна, які вялікі быў даход царквы па гэтым „артыкуле"; ясна таксама, чаму гэты артыкул утвораны і якімі ланцугамі ён скоўвае сялянства. Але гэтай цяжкасьці зусім не існуе для фэўдалаў, бо тамака ўтвараюцца шлюбы дзьвюх розных сем'яў дзеля ўзмацненьня дыплёматычных, палітычных і гаспадарчых сувязяй. Шлюб ня можа быць парваны; толькі ў выключных выпадках дапушчаецца, ізноў такі з дазволу царквы, разьдзельнае жыцьцё. Радзтво прызнаецца толькі паводле законнага шлюбу; пазашлюбныя дзеці заклеймены ганьбаю і асуджаны на мізэрнае „незаконнае" існаваньне. Жонка зусім зьняволена мужам. І муж, і жонка зьяўляюцца нявольнікамі царквы. Калі царква, закаваўшы ў ланцугі сярэднявяковую грамаду ў сваіх інтарэсах, прыкрывалася інтарэсамі маральнасьці і рэлігіі, то дзяржаўная ўлада, ужо не прыкрываючыся рэлігіяю, павялічвала гэтыя мэты дзеля „чыста сьвецкіх" інтарэсаў пануючае клясы. Гэтая клясавая падаснова каралеўскага заканадаўства аб шлюбе і сям'і так празрыста, што яе заўважваюць і не марксісты, як Саньяк, які кажа: „Кароль, галава арыстакратычнае грамады, хоча захаваць сацыяльны лад у тым выглядзе, як ён існуе, у інтарэсах абранае часткі грамады, якая туліцца навакол яго. Ён уводзіць у шлюб разуменьне прыстойнасьці, якая ператварае яго хутчэй у саюз дзьвюх фамілій, чымся дзьвюх асоб"[10]). Адсюль патрабаваньне згоды бацькоў на шлюб мужчын да 30 і жанчын да 25 год[11]). Адсюль часткаю, а таксама з імкненьня ўзмацніць іерархічную аснову, вышэйшым зьвяном якой зьяўляецца

[10]) Саньяк. ст. 231, 232.

[11]) Жыцьцё аднак ішло „наперад" закону: фактычна патрабавалася ня толькі „згода" бацькоў на выбар, зроблены маладымі. Энгельс сьцьвярджае, што „паводле агульнага правіла нявесту для маладога князя падшукваюць бацькі. Да іначай і быць ня можа. Для рыцара альбо барона, як і для самога ўладзеннага князя жаніцьба зьяўляецца палітычным актам, справаю павялічэньня свае магутнасьці пры дапамозе новых сувязяй; рашаючую ролю павінны былі адыгрываць інтарэсы дынастыі, фаміліі, а зусім не асабовыя жаданьні... Такая-ж практыка ўстанавілася ў цэхавых грамадзян сярэднявяковых гарадоў. Ужо адны ахоўваўшыя іх прывілеі, заблытаныя цэхавыя правілы, штучныя граніцы, аддзяляўшыя іх паводле закону ад іншых цэхаў, ад сваіх таварышоў па цэху і ад іх падмайстраў і вучняў, дастаткова звужваюць кола, у якім яны маглі шукаць сабе адпаведную жонку. І аб тым, якая з нявест зьяўляецца найбольш адпаведнаю, пры гэтай заблытанай сыстэме вырашала безумоўна не індывідуальнае ўгледжаньне цэхавага майстра, а фамільны інтарэс"... (ст. 52).

кароль—выходзіць лютае заканадаўства аб бацькаўскай уладзе над дзяцьмі, якое аддае апошніх на поўнае самавольле бацькоў і прымушае дзяржаўную ўладу дапамагаць гэтаму самавольлю. Так „абедзьве канкуруючыя паміж сабою ўлады, духоўная і сьвецкая, тутака робяць узаемную падтрымку адна другой“[12]),і вынікам гэтае падтрымкі зьяўляецца законны, царквою асьвешчаны, наладжваемы бацькамі ў фамільных інтарэсах, непарывальны шлюб з абсалютнаю ўладаю ў сям'і мужа і бацькі.

Такі лад сям'і зусім адпавядае сацыяльна-эканамічнай структуры сярэднявяковае грамады і гаспадарчым інтарэсам пануючае клясы гэтае грамады. „Сям'я патрэбна фэўдалу, як асноўная гаспадарчяя база, абапіраючыся на якую ён будзе рабіць свае заваёвы, заключаць дыплёматычныя перагаворы, выконваць адміністрацыйныя функцыі, устанаўляць свае адносіны да дзяржавы“[13]). Больш таго, пры фэўдальным ладзе з яго напалову натуральнаю гаспадаркаю сям'я, асноўнай масы грамады (сялян, рамесьнікаў) прадстаўляе сабою асноўную вытворчую і спажывецкую ячэйку ў дзяржаве. Уласнасьць, вытворчасьць, спажывеньне, выхаваньне падрастаючага пакаленьня, забясьпечаньне старых членаў сям'і,— усе гэтыя функцыі канцэнтраваліся не ў паасобных асоб, не ў прадпрыемствах альбо дзяржаўных установах, а ў сярэднявяковай сям'і. Ні дзяржава, ні грамада не пратэндавала і не магла пратэндаваць на тыя функцыі, якія ў той час выконвала сям'я. Шлюб, г. ё. утварэньне новай сям'і, абазначала ў заможных клясах злучэньне маемасьцяй для пабудовы новае гаспадарчае адзінкі, а ў працоўных—злучэньне працы, а для некаторых слаёў працоўных—злучэньне працы і гаспадаркі. Будучы самастойнаю гаспадарчаю ячэйкаю, амаль што замкнутым эканамічным адзінствам, сям'я, складала аснову дзяржавы. Вось чаму пануючая кляса сярэднявяковае грамады, карыстаючыся дзяржаўнаю машынаю, імкнулася прыдаць сям'і патрэбную ўстойлівасьць, адхіліць уплыў складаўшых яе асоб у пытаньні існаваньня яе, узмацніць аўтарытэт галавы сям'і. Непарвальная моногамія з уладаю мужа-бацькі, рэзкае супроцьстаўленьне законнай сям'і з перадачаю ўласнасьці законным дзецям, гэтым бясспрэчным насьледнікам яе галавы—сям'і „незаконнай“—вось шляхі, што вядуць да ажыцьцяўленьня мэты. У гэтым сваім імкненьні дзяржава знайшла вернага і моцнага ў той самы час саюзьніка—царкву,

12) Саньяк, ст. 220.
13) Вольфсон. „Социология брака и семьи“, ст. 197.

па думцы якой шлюб зьяўляецца вытворцаю чалавечага роду для яе спажыўца — царквы, як машына зьяўляецца вытворцаю тавараў[14]).

Становішча, натуральна, рэзка зьмянілася, калі да ўлады прышла маладая, у той час прагрэсыўная і рэвалюцыйная кляса—буржуазія. Першаю справаю нарадзіўшаеся клясы было адабраньне вядзеньня актаў грамадзянскага стану з рук духавенства і перадача іх сьвецкай уладзе. Тое, чаго ня здужала зрабіць на працягу дзесяцігодзьдзяў дзяржаўная ўлада да рэвалюцыі, бо па сутнасьці царква і кароль—клясавыя саюзьнікі, тое зрабіла пасьля нядоўгай барацьбы рэвалюцыйная буржуазія. Іначай і быць не магло. Канцэнтруючы ў сваіх руках усю паўнату ўлады, буржуазія не магла мірыцца з выкананьнем нагэтулькі важных функцый уладаю варожае ёй клясы. Адбыўшаяся ў 1798 годзе сэкулярызацыя актаў грамадзянскага стану і была адным з вынікаў барацьбы паміж нараджаючаюся буржуазнаю грамадою і фэўдалізмам за паўнату ўлады. Разам з гэтым адбыўся шэраг зьмен і ў заканадаўчай рэглямантацыі шлюбу. Абвясьціўшы у інтарэсах вольнай капіталістычнай дзейнасьці і вольнасьці канкурэнцыі лёзунгі волі і роўнасьці, паклаўшы дагавор у аснову сацыяльна-эканамічнага жыцьця, маладая буржуазія натуральна пачала глядзець на шлюб выключна, як на грамадзянскі дагавор дзьвюх вольна выявіўшых сваю волю асоб. Разам з гэтым адпаў цэлы шэраг (але ня ўсе) устаноўленых царквою і каралеўскаю ўладаю абмежаваньняў, як забарона шлюбу з прычыны аддалённага радзтва, недапушчальнасьць шлюбу з асобамі іншых вер, неабходнасьць дазволу бацькоў на браньне шлюбу поўналетнімі. Нарэшце, рэвалюцыя разьбіла самыя цяжкія для сярэднявяковае грамады ланцугі— непарвальнасьці шлюбу. Пасьля працяжнай барацьбы Заканадаўчы Збор прыняў напярэдадні свайго роспуску (20/IX-1792 г.) дэкрэт аб дапушчальнасьці разводу пры згодзе абодвых супругаў, пры незыходнасьці характараў і ў некаторых іншых выпадках. Конвэнт у 1793 годзе, г. ё. у момант самага высокага пад'ёму рэвалюцыйнага руху, пашоў яшчэ далей, дапусьціўшы развод па жаданьні аднае стараны

[14]) Прыведзеная вышэй фармулёўка погляду царквы на шлюб належыць Максу Нэйштадту і паказана Пакроўскім у яго „Основных проблемах гражданского права“ (ст. 150). Там сама ён паказвае наступныя словы прадстаўніка каталіцкага правапогляду XX-га веку, якія поўнасьцю падцьвярджаюць „фармулёўку“ Нэйштадта: „Zweck des menschlichen Lebens auf Erden ist der Dienst Gottes, und Aufgabe der Ehe ist es, die Reihen der Diener Gottes, die sich durch den Tod beständig lichten, auszufüllen“.

і скасаваўшы складаную і сьцясьняльную працэдуру, устаноўленую Заканадаўчым Зборам.

Саньяк лічыць, што да ўстанаўленьня разводу прывялі наступныя моманты: па-першае, развод лёгічна выцякае з погляду на шлюб, як на грамадзянскі дагавор; па-другое, ён патрэбен дзеля вызваленьня жонкі ад улады мужа, па-трэцяе, разводу патрабуюць абвешчаныя ідэі вольнасьці сумленьня і культу. Аднак усё гэта фактары вытворнага парадку. Гэта відавочна ўсьведамляе і Саньяк, паказваючы, што „развод апраўдваецца і сацыяльнымі патрэбамі", і што „менавіта на гэты грамадзкі пункт погляду любяць станавіцца рэвалюцыянэры ў сваім патрабаваньні разводу"[15]).

Наш савецкі дасьледчык праблемы разводу ў перыяд Францускай рэвалюцыі, тав. Раевіч, знаходзіць, аднак, што „самі па сабе ўмовы жыцьця асноўных мас буржуазіі Францыі канца XVIII-га веку не пасьпелі яшчэ дзеля таго, каб з іх выцякала мэтазгоднасьць лёгкае парвальнасьці шлюбу". Лічачы аднак, што „пераход амаль што да поўнае вольнасьці разводу няправільна было-б разглядаць, як праяўленьне выключна альбо пераважна рэвалюцыйнага захапленьня, якое не апраўдваецца аб'ектыўнымі ўмовамі жыцьця якіх-бы то ні было сацыяльных груп тагочаснае грамады", Раевіч знаходзіць тлумачэньне гэтаму факту ва ўплыве, які зрабіў у абставінах завостраньня варожых старому ладу пазыцый „інтэлігентны полупралетарыят і пралетарыят, для якога матывы супроць разводу не маглі ўжо і тады мець сілы"[16]). Дзеля правільнага тлумачэньня гэтага факту трэба перш за ўсё памятаваць, што заканадаўства аб вольнасьці разводу дзейнічала толькі на працягу двух год у перыяд найбольшага пад'ёму рэвалюцыі. Не адпавядаючы ўмовам жыцьця буржуазіі, у тым ліку і дробнай, дэкрэты аб вольнасьці разводу, зьяўляючыся зігзагаю ў гісторыі шлюбу, маглі зьявіцца, як рэакцыя супроць устаноўленае варожаю рэвалюцыі царквою абсалютнае непарвальнасьці шлюбу, безумоўна супярэчыўшай умовам жыцьця тагочаснае грамады пры незацікаўленасьці ў устойлівасьці шлюбу некаторых груп рэвалюцыйнае інтэлігенцыі і пры накапіўшайся за папярэдні перыяд масе людзей, жадаўшых парваць шлюб.

Рэволюцыя у эпоху пад'ёму рэарганізавала ня толькі інстытуты, што стаяць у пачатку і канцы жыцьця сям'і, г. ё.

---

[15]) Саньяк, ст. 237.

[16]) Раевич. „Проблема развода в период великой французской революции". Сов. Право, кн. 5 за 1928 г., стр. 60—62.

інстытуты шлюбу і разводу. Яна у аснове зьмяніла ў некаторых адносінах і ўнутраны лад сям'і. Дзеці не належаць больш абсалютнай уладзе бацькі. Бацькі маюць над дзяцьмі некаторыя правы, але толькі у інтарэсах дзяцей і да іх паўналецьця; побач з бацькаю атрымоўвае бацькаўскія правы і матка. Праўда, захоўваецца часткова права пакараньня і неабходнасьць у некаторых выпадках прасіць дазволу на шлюб, але ўсё-ж адносіны бацькоў і дзяцей будуюцца ўжо на аснове ўласьцівай рэвалюцыі ідэі вольнасьці, паколькі яна наогул можа знайсьці сваё ажыцьцяўленьне ў буржуазнай грамадзе. Разам з тым уводзіцца права ўсынаўленьня дзеля ажыцьцяўленьня ўлюбёнай дробна-буржуазнымі рэвалюцыянэрамі мэты „дасягнуць, не выклікаючы моцнае ломкі, драбленьня буйных маемасьцяй" (Камбасэрэс).

Ужо гэты апошні факт даводзіць нам, што сувязь сям'і з уласнасьцю зусім не парушалася пры новым ладзе, які ішоў на зьмену фэўдальнага ладу. Аднак, больш яскрава гэтая сувязь выяўляецца пры азнаямленьні з лёсам пытаньня аб пазашлюбных дзецях. Пашырыўшы правы пазашлюбных дзяцей наданьнем апроч права на алімэнты і насьледных праў, Конвэнт у той самы час унёс абмежаваньне, якога не было да рэвалюцыі: пазашлюбным дзецям забараняецца адшукваць бацькоўства праз суд. Насьледныя правы і права на алімэнты маюць такім чынам толькі тыя дзеці, якія дабравольна прызнаны бацькаю. Уласнасьць сям'і можа перайсьці толькі да тых дзяцей, якім бацька хоча яе перадаць, якія ім прызнаны за членаў сям'і. Тыя, хто стаяць па-за сям'ёю, ня маюць права на ўласнасьць, што знаходзіцца ў сям'і. Такім чынам,—кажуць па гэтым поваду тэзісы Камуністычнай Акадэміі пра шлюб і сьм'ю,—нават рэвалюцыйны, дробна-буржуазны Конвэнт спыніўся на поўдарозе ў справе вызваленьня сям'і, прычым галоўнаю перашкодаю, праз якую ён ня мог перашагнуць, зьявіліся інтарэсы прыватнай уласнасьці".

Калі ў даным выпадку мы маем адступленьне перад сьвяшчэннаю ідэяю прыватнай уласнасьці, то ў другім выпадку рэвалюцыйны дробны буржуа адступае баючыся парушыць другую надзвычайна важную функцыю сям'і, менавіта сьцеражэцца парушыць сям'ю, як гаспадарчую ячэйку, як вытворча-спажывецкі арганізм. Заканадаўчы Камітэт Конвэнту, кіруючыся ідэямі „вольнасьці і роўнасьці", устанаўляе ў сваім заканапраекце ідэальны парадак у сям'і, поўнасьцю адхіляючы вярховенства мужа у асабовых і маемасных адносінах, устанаўляючы супольнасьць маемасьці супругаў, супаль-

насьць кіраваньня ім, абавязак падтрымкі непрацаздольнага супруга і інш. Але прыняць такі заканапраект, значыла ісьці на скасаваньне адзінства кіраўніцтва ў сям'і, нагэтулькі важнага для нармальнага функцыянаваньня сям'і, як вытворчай ячэйкі. На гэта дробная буржуазія пайсьці не магла: адзінства кіраўніцтва ў сям'і — вытворчай ячэйцы неабходна захаваць, і менавіта ў руках актыўнага ўдзельніка грамадзянскага звароту, мужчыны. Гэта вырашыла лёс праекту. Так дарагая рэвалюцыі ідэя роўнасьці, так ўлюбёная Конвэнтам ідэя адзінства права,—абедзьве яны адступаюць перад беспасрэдным інтарэсам дробнага ўласьніка.

І менавіта гэтыя адступленьні ад ідэй рэвалюцыі захоўваюцца і паглыбляюцца наступіўшаю пасьля 1795 году рэакцыяю і зафіксаваны ў найбольш паступовым буржуазным кодэксе „Code Civil“. З ўсіх заваёў рэваюцыі „Code Civil“ захоўвае толькі сьвецкі шлюб. У гэтым пункце каталіцкая царква прызнае перамогу над сабою, заключаючы у асобе папы адпаведны конкордат з Напалеонам. Трэба аднак сказаць, што і тутака няма поўнае перамогі над царквою. Code Civil, а за ім і заканадаўствы ўсіх буржуазных краін захоўваюць яшчэ цэлы шэраг недарэчных норм, датычных, як сутнасьці сям'і, так нават і формы заключэньня шлюбу. Гэтыя недарэчнасьці прадстаўляюць сабою галоўным чынам перажыткі кананічнага права аб шлюбе і сям'і. І тутака такім чынам няма безумоўнай перамогі рэвалюцыі. Ва ўсім іншым запанавала поўная рэакцыя. Адноўлена ўлада мужа. Выбар мейсца пражываньня, выхаваньне дзяцей, распараджэньне маемасьцю перадаецца адзінаасабоваму вырашэньню мужа. Ад жонкі патрабуецца паслушэнства і абсалютная вернасьць (арт. арт. 213, 215, 217, 220 С. С. і інш.). Муж-жа абавязваецца да пратэктэрства над жонкаю і да ўтрыманьня яе (арт. 214 і інш.). Яго нявернасьць караецца толькі ў рэдкіх выпадках і надзвычайна мякка. Побач з уладаю мужа адноўлена і ўлада бацькі. Дзеці абавязаны падпарадкоўвацца бацьку пад страхам пазбаўленьня спадчыны і пад страхам пакараньня аж да заключэньня ў астрог (арт. арт. 317—387). Абмяжована права ўсынаўленьня: усынаўленьне дапушчаецца толькі пры адсутнасьці дзяцей дзеля ўцяшэньня бязьдзетных супругаў. Пазашлюбныя дзеці атрымоўваюць некаторыя моцна абмяжаваныя правы толькі пры добраахвотным прызнаньні іх бацькаю. А таксама абмяжоўваецца развод і аднаўляецца працяглая і прыкрая працэдура разводу.

Калі мы пашукаем тлумачэньня гэтаму заканадаўству ў сацыяльна-эканамічных умовах жыцьця пасьлярэвалюцый-

нае грамады, то мы ўбачым, што сямейнае права Code Civil поўнасьцю адпавядае інтарэсам канчаткова прышоўшай да ўлады буржуазіі. У тую раньнюю эпоху жыцьця буржуазнае грамады сям'я яшчэ поўнасьцю захоўвае сваё значэньне „сілы, што канцэнтруе прыватную ўласнасьць“ і гаспадарчага, вытворча-спажывецкага арганізму. Code Civil імкнецца ўзмацніць сілу і значэньне законнай сям'і. Капіталістычны сьвет зацікаўлены ў устойлівасьці сям'і, і з гэтаю мэтаю абмяжоўваецца развод. Трэба ўтварыць гарантыі захаваньня ўласнасьці і перадачы яе па насьледству дзецям, якія бясспрэчна паходзяць ад мужа — ўласьніка маемасьці. Таму строга караецца зрада жонкі (але ня мужа), моцна ўрэзваюцца правы прызнаных пазашлюбных дзяцей [17]) забараняецца адшукваць бацькоўства [18]), абмяжоўваецца права ўсынаўленьня. Дзеля нармальнага функцыянаваньня сям'і, як гаспадарчай ячэйкі, устанаўляецца супольнасьць большае часткі маемасьці (бо датальная сыстэма з прычыны неадчужальнасьці большае часткі маемасьці перашкаджае разьвіцьцю звароту) і адзінаначальле пры панаваньні галоўнага здабытчыка багацьця—мужчыны.

Паказаўшы сямейнае права паводле Code Civil, мы шукалі тлумачэньня гэтаму праву ва ўмовах жыцьця не аднае пасьлярэвалюцыйнае Францыі, а ў с я е буржуазнае грамады тае эпохі. Гэта зроблена зусім сьвядома. С. С. быў успрыняты большаю часткаю Эўропы, і хаця краіны, рэцэпаваўшыя С. С., і ўнесьлі цэлы шэраг самых разнастайных зьмен большаю часткаю менавіта ў сямейнае права, усеж-такі асноўнае засталося. Нават у краінах, дзе рэцэпцыя не адбылася, заканадаўства аб шлюбе і сям'і мала чым адрозьні-

[17]) Нормы, датычныя пазашлюбных дзяцей, у сучасны момант тлумачацца яшчэ іншымі прычынамі. Пазашлюбныя нараджэньні ў той іх масе, якая даходзіць да суда, зьяўляюцца часьцей за ўсё вынікам сувязі паміж багатым мужчынаю-буржуа і жанчынаю з працоўных кляс насельніцтва (дробнаю служачаю, фабрычнаю работніцаю, хатняю работніцаю і інш.). Ахоўваць маемасныя інтарэсы заможных распусьнікаў і прызваны нормы аб пазашлюбных дзецях. Паводле сьведчаныя Мэнгэра, „прамоўцы, якім прышлося адстайваць § 340 С. С. у Заканадаўчым Корпусе і Трыбунаце, зусім не хавалі таго, што мэтаю гэтага заканапалажэньня ёсьць ахова маемасных і сямейных інтарэсаў заможных кляс супроць немаемасных слаёў насельніцтва“. (A. Menger. Prof. „Das bürgerliche Recht und die besitzlosen Klassen“).

[18]) Пазашлюбныя дзеці пры фэодалізьме знаходзіліся ў матар'яльных адносінах у некалькі лепшым становішчы, чымся пры панаваньні Code Civil, бо для фэадальнага маёнтку з яго напалову натуральнаю гаспадаркаю ўтрыманьне некалькіх „лішніх ртоў“ не рабіла жадных цяжкасьцяй; ня тое было для буржуазіі.

ваецца ад сямейнага права, запісанага ў С. С. Да гэта і зразумела: рэгуляваньне сямейных адносін залежыць не ад волі заканадаўцы, а ад сацыяльна-эканамічных умоў жыцьця грамады. „Існаваньне сям'і зрабілася няўхільным дзякуючы яе сувязі з незалежным ад волі буржуазнае грамады спосабам вытворчасьці" (Маркс). Ён-жа дыктуе сям'і і ўмовы яе існаваньня. У „С. С" імкненьне да ўтварэньня ўстойлівае, моцна зьлітованае адзінаю воляю сям'і атрымала найбольш яскравае выражэньне. Але гэтым „яскравым" нормам суджана было памеркнуць з далейшым разьвіцьцём капіталістычнае грамады. Разьвіцьцё капіталізму, выклікаўшае сабою перамогу фабрыкі і заводу над саматужнаю прамысловасьцю; узьнікненьне клясы будучыні, пралетарыяту; уцягненьне жанчын і дзяцей у орбіту капіталістычнае эксплуатацыі; рост значэньня і сілы дзяржавы,—вось асноўныя фактары, якія зрабілі моцны ўплыў на лад сям'і і прывялі да цэлага шэрагу істотных зьмен у буржуазным заканадаўстве аб сям'і і шлюбе. Сям'я перастала быць асноўнаю вытворчаю ячэйкаю. Яе мейсца ў прамысловасьці занялі фабрыка і завод, што дзякуючы прыцягненьню рабочай сілы з вёскі зрабіла ўплыў і на лад сям'і сялянскага двара. Фабрыка і за вод ня маюць патрэбы выключна ў мужчынскай кваліфікаванай рабочай сіле. Яны з ахвотаю рашчыняюць свае вароты перад слабою, некваліфікаванаю, але затое пакорліваю і танна цэнячаю сваю працу жанчынаю. Яны не грэбуюць а наадварот, узмоцнена прыцягваюць безабаронную, амаль што дармовую рабочую сілу дзяцей. Гэтыя факты робяць дэзарганізуючы ўплыў на сям'ю пралетара. Муж перастае быць адзіным кармільцам сям'і. Жонка, а побач з ёю і дзеці, таксама прыносяць даходы сям'і і больш не залежаць выключна ад галавы сям'і. Такім чынам, у асяродзьдзі пралетарыяту падае ўлада галавы сям'і і ўтвараюцца ўмовы для пашырэньня праў жонкі і дзяцей. Гэтая прычына, а таксама неабходнасьць утварэньня фабрычнага заканадаўства выклікалі ўтаржэньне ў сфэру сямейнай улады, пазбаўленьне сям'і яе ранейшае аўтаноміі і абвяшчэньне праў дзяцей. Калі ўцягненьне жанчын у вытворчасьць мае мейсца галоўным чынам у асяродзьдзі пралетарыяту і пралетарызуючайся часткі дробнае буржуазіі, то тая ж тэндэнцыя адрыву жанчыны ад сям'і і пазбаўленьне яе ролі арганізатара спажываньня ў сям'і праяўляецца ў больш устойлівай частцы дробнай буржуазіі і ў асяродзьдзі служылага люду ў выглядзе адыходу жанчыны на службу ў канторы, магазыны, рэстараны і інш., якія прад'яўляюць узмоцненае запытаньне на

жаночую працу. Гэтая-ж тэндэнцыя паступова пашыраецца і на сярэднюю буржуазію і інтэлігенцыю. Возьмем да прыкладу Гэрманію. Мейсца жанчыны ў прамысловым насельніцтве Гэрманіі і ўсё ўзрастаючая яе роля відаць з таго, што ў 1882 годзе жанчыны складалі ўсяго 29,2% прамысловага насельніцтва краіны, у 1895 годзе гэты процант падняўся да 29,8, а ў 1907 г.—да 33,8. [19]). Гэты процант запаўняюць ня толькі жанкі, але і дочкі, бо працэс уцягненьня ўсё большых кадраў у гаспадарчае жыцьцё пашырыўся і на дзяцей. Па гэтаму поваду францускі прафэсар Рэнар піша: „Прайшоў той час, калі гордасьць бацькоў была ў тым, што яны пры рэгістрацыі шлюбу свае дачкі ў мэрыі маглі адзначаць: „мадэмуазель без прафэсыі". У сучасны момант бацькі самі штурхаюць сваіх дачок да самастойнага заробку, і дочкі самі ня менш сваіх бацькоў разумеюць, што мець добра аплачваемую прафэсыю зьяўляецца лепшым спосабам знайсьці жаніха" [20]). Падыход арыгінальны: прафэсыя для гарантыі замужаства, але факт адзначаны правільна і яскрава.

Усё гэта прыводзіць да таго, што сямейнае заканадаўства ўсіх краін час ад часу зьмяняецца ў бок пашырэньня праў замужняе жанчыны, паслабленьня бацькоўскай улады, палягчэньня разводу. Так, ва Францыі ў 1884 годзе быў дапушчаны пры наяўнасьці пэўных умоў развод, у канцы XIX і ў пачатку XX в. выдана некалькі законаў, пашыраючых дзеяздольнасьць замужняй жанчыны (закон 1881 г. об касах ашчаднасьці, закон 1895 г. аб пэнсыйнай касе забясьпечаньня старасьці, закон 13 ліпеня 1907 г. аб вольным заробку жанчыны). Там сама прыняты закон, які абараняе дзяцей ад дрэннага абыходжаньня бацькоў і прадугледжвае захады пратэктарства над дзяцьмі, на выхаваньне якіх не аддаецца патрэбных клапот. Значна паляпшаюць ў параўнаньні з францускім кодэксам становішча жанчын грамадзянскія ўлажэньні Гэрманіі і Швэйцарыі. Некаторыя зьмены ўнесены і ў заканадаўствы іншых краін.

Паглыбленьне бяздоньня паміж рознымі сацыяльнымі групамі, узрастаючая матар'яльная незалежнасьць жанчыны, боязнь мужчыны абзавесьціся сям'ёю з прычыны адсутнасьці матар'яльнай базы,—усе гэтыя факты выклікалі ўз-

---

[19]) Лічбы ўзяты з кнігі Вальфсона С. Я. „Социалогия семьи и брака, с. 250.

[20]) Узята з дакладу Разанавай у сэкцыі жаночага руху Камун. Акадэміі на тэму: „Тенденции развития женского труда". Вестник Комакадэміі, кн. 28. 1928 г.

растаньe ліку пазашлюбных нараджэньняў, асабліва ў асяродзьдзі дробнай і сярэдняй буржуазіі і працоўнай інтэлігенцыі. Гэты факт, а таксама націск паказаных груп насельніцтва на парляманты прывялі да павольнае зьмены заканадаўства ў бок палягчэньня становішча пазашлюбных дзяцей. Ва Францыі выданы ў 1907 і 1912 г. г. законы, палягчаючыя ўзаконеньне дзяцей, што радзіліся ад „пралюбадзейства" і дапускаючыя ў некаторых выпадках судовае ўстанаўленьне бацькоўства. У Нідэрляндах у 1909 г. скасована забарона адшукваць бацьку. У Румыніі ў 1906 г. палегчана мажлівасьць узаконеньня пазашлюбных дзяцей. Ужо памянутыя грамадзянскія ўлажэньні Швэйцарыі і Гэрманіі палягчаюць становішча пазашлюбных дзяцей у параўнаньні з нормамі, дзейнічаючымі ва Францыі і ў іншых краінах рэцэпцыі францускага кодэксу. Аднак буржуазныя заканадаўцы ўсіх краін, уносячы пад націскам жыцьця ў свае заканадаўствы тыя альбо іншыя зьмены, адчуваюць, як гэтыя зьмены паступова разбураюць іх ідэал устойлівай, моцнай сям'і, „якая на сацыяльных верхавінах павялічвае багацьце, на сацыяльных нізінах павялічвае эксплоатуемыя кадры, рыхтуе больш фабрычнага і гарматнага мяса. Цьвярозы буржуазны разьлік патрабуе таму прымусовага, пажыцьцёвага аднашлюб'я" [21]). Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што, ня гледзячы на шэраг зьмен, заканадаўства аб сям'і і шлюбе буржуазных краін захавала ў сваёй аснове сямейнае права Code Civil. Аднак факт разлажэньня сям'і дае сябе адчуваць у заканадаўчых актах Заходня-Эўрапейскіх краін аб сям'і. Так, характарызуючы тую частку Гэрманскага Грамадзянскага Ўлажэньня, якая прысьвечана сямейнаму праву, вядомы нямецкі правазнаўца H. Mitteis кажа: „Es fehlt der Geist des Vertrauens, der gerade zwischen Ehegatten, zwischen Eltern und Kindern herrschen sollte, es fehlt der Hauch echter Menschlichkeit, der Z. B. im Schweizer Z. G. B. als leiser Unterton mitklingt. So hat man dem B. G. B. nicht mit Unrecht verworfen, er sei unvolkstümlich und gehe nicht von der gesunden, sondern von der zerrütteten Ehe aus" [22]).

У гэтай ацэнцы няправільна толькі ідэалізаваньне Швэйцарскага Грамадзянскага Ўлажэньня. І у ім сям'я і шлюб носяць характар камэрацыйнае ўгоды. Пад усім-жа іншым мы з ахвотаю падпісваемся. Сапраўды, Гэрманскае Грамадзянскае Ўлажэньне, як і ўсе іншыя кодэксы буржуазных краін, утвараюць цэлы шэраг норм, якія маюць на

---

[21]) Вольфсон. „Социология семьи и брака", стр. 277.
[22]) H. Mitteis. „Bürgerliches Recht, Familienrecht", ст. 3.

мэце захаваць хаця-б знадворку, фармальна-юрыдычна, ужо разлажыўшуюся ўнутры сям'ю, дзеля захаваньня гэтае аджываючае разам з прыватнаю ўласнасьцю, але ў капіталістычнай грамадзе адзіна магчымае формы шлюбна-сямейных адносін. Дзеля гэтае мэты абмяжоўваецца права разводу (§§ 1564—1569), прычым устаноўлена кара для „вінаватага боку“, устанаўляецца пераважнае значэньне мужа ў сям'і (§ 1354 і інш.), урэзваюцца правы пазашлюбных дзяцей (§§ 1705—1718) і нават абмяжоўваецца права дабравольнага прызнаньня незаконнанароджанага (§ 1723, 1732, 1734 і інш.), дакладна, аж да драбніц, рэгулююцца маемасныя адносіны супругаў з захаваньнем усё-ж галоўнае ролі за мужам (§§ 1363—1557) і інш. Выданае ў 1907 годзе Швэйцарскае Грамадзянскае Ўлажэньне мала чым адрозьніваецца ад свайго старэйшага пабраціма. Праўда, у ім некалькі пашырана права разводу (§§ 137—141), у невялікай ступені палегчана становішча пазашлюбных дзяцей (§§ 302—327), пашырана права ўзаконеньня пазашлюбных дзяцей (§§ 258—263) і інш. Але ў асноўным характар сямейнага права Швэйцарыі— той самы, што і ў Гэрманіі: тыя-ж правілы аб згаворы, якія прыдаюць шлюбу характар камэрацыйнае ўгоды (асабліва §§ 92—94), той-жа прынцып абмежаваньня вольнасьці разводу, тое-ж права абмяжоўваць дзеяздольнасьць жонкі (§ 164) і інш.

Сусьветная вайна выявіла і паглыбіла ўсе супярэчаньні капіталістычнага сьвету. Не засталася ў баку і сям'я. У зьвязку з адыходам мужчын на вайну жанчына заваявала ў галіне працы новыя пазыцыі. Пагоршылася эканамічнае становішча Mittelstand'а, што выклікала распад эканамічных сувязяй у сям'і гэтых сацыяльных груп (адыход на заробкі членаў сям'і і інш.). Няўхільна прадаўжае падаць шлюбнасьць і нараджальнасьць, адначасна расьце колькасьць разводаў. Ня малую ролю ў паслабленьні сямейных сувязяй адыгрывае і капіталістычная рацыяналізацыя прамысловасьці буржуазных дзяржаў. Палягаючы цяжкую мышачную работу пры дапамозе ўвядзеньня ўдасканаленых машын, рацыяналізацыя павялічвае сфэру ўжываньня жаночае працы, а зьвязанае з рацыяналізацыяю памяншеньне заработнае платы прымушае жанчынуісьці на фабрыку і завод за дадатковым заробкам. Так, у прамежку паміж двыма перапісамі 1907 і 1925 г. г. у Гэрманіі лік жанчын, занятых прадукцыйнаю працаю (уключаючы самадзейных сялянак, асоб вольных прафэсый і членаў сям'і—памочнікаў) павялічылася з 9,5 мільёнаў да 12,4, г. ё. у той час, калі агульны лік жа-

ночага насельніцтва павялічыўся на 13,2%, лік самадзейных жанчын павялічыўся на 34,8%. За той самы час лік самадзейных замужніх жанчын павялічыўся на 69% і самастойных жанчын — на 100%. Апроч таго наглядаецца перамяшчэньне іх з адных галін у другія: лік жанчын у сельскай гаспадарцы скараціўся з 1907 году на 20%, хатніх работніц—на 6,8%; а лік жанчын у гандлі і прамысловасьці павялічыўся на 50%, а служачых на 200%. У самой прамысловасьці заўважваецца перамяшчэньне жанчын з спэцыяльна жаночых вытворчасьцяй у нежаночыя. Так, лік жанчын у кравецкай прамысловасьці павялічыўся на 7,2%, у тэкстыльнай—на 31%, у той самы час, як лік жанчын у гумовай прамысловасьці павялічыўся на 197,7%, у машынабудаўнічай і вырабу апаратуры—на 474%, у электратэхнічнай прамысловасьці—на 495,7% [23]).

Прыводзячы вышэйпаказаныя цікавыя даныя, т. А. Людвіг кажа: „Пераварот у сацыяльным становішчы жанчын амаль што зусім не адбіўся на заканадаўстве. Наадварот, чым больш жанчына вырываецца з сям'і, тым больш буржуазія стараецца агарадзіць сьвятасьць шлюбу і сямейнага ачагу заканадаўчымі мерапрыемствамі. Яна імкнецца такім чынам перашкодзіць таму, каб работніца скарыстала сваё становішча і рэвалюцыйна пераступіла праз рамкі, устаноўленыя для яе капіталам". Гэтая думка зусім верная ў сэнсе агульнае характарыстыкі сямейнага заканадаўства буржуазных краін. Але ў той самы час мы павінны адзначыць, што пад націскам жыцьця буржуазныя парляманты прынялі і прымаюць шэраг зьмен у сямейнае права сваіх дзяржаў. Так, ва Францыі законы за 20 сакавіка 1917 г. і 8-га ліпеня 1923 г. зрабілі некаторае далейшае ў параўнаньні з законамі канца XIX стагодзьдзя пашырэньне дзеяздольнасьці жанчыны, закон 30 сьнежня 1915 году пашырыў выпадкі ўзаконеньня дзяцей, у Італіі замужняя жанчына атрымала паводле закону 17 ліпеня 1919 году поўную дзеяздольнасьць, тое самае—у Румыніі паводле законаў 1916 і 1923 г. г. У Скандынаўскіх краінах рэфармавана заканадаўства аб пазашлюбных дзецях у бок значнага палягчэньня іх становішча (у Даніі ў 1908 годзе, у Нарвэгіі ў 1915 і 1916 г.), аднак зраўнаньне ў правох пазашлюбных дзяцей з „законнанароджанымі" праведзена, і то з некаторымі выключэньнямі, толькі

[23]) Прыведзеныя даныя ўзяты з дакладу А. Людвіга ў сэкцыі жаночага руху Камуністычнай Акадэміі на тэму: „Капиталистическая рационализация и женский труд". Надрукована ў „Вестнике Комакадемии" № 33 (3) 1929 г.

ў Нарвэгіі. У Гэрманіі ўжо некалькі год абмяркоўваецца новы заканапраект аб пазашлюбных дзецях, які ўносіць некаторае палягчэньне у іх становішча. У шэрагу Заходня-Эўрапейскіх краін намячаецца як у заканадаўстве, так і асабліва ў судовай практыцы, тэндэнцыі да ўстанаўленьня падзельнасьці маемасьці супругаў. Аднак, усе гэтыя зьмены носяць характар кампрамісаў і паліатываў, прынятых апроч таго дзеля абароны інтарэсаў сярэдняй і дробнай буржуазіі і інтэлігэнцыі, датыкаючыся ў вельмі нязначнай меры пралетарыяту.

Сучаснае заканадаўства аб сям'і і шлюбе буржуазных краін мае ў сваёй аснове ў інтарэсах пануючае клясы права эпохі расьцьвету сям'і і сапраўднага выкананьня ею асноўных функцый чалавечага агульнажыцьця (функцыі вытворчасьці, спажываньня, выхаваньня дзяцей, забясьпечаньня старых і інш.), але ў той самы час уводзіць шэраг норм, якія адбіваюць працэс распаду сям'і эпохі імпэрыялізму. Таму яно наскрозь прасякнута супярэчаньнямі і архаізмамі, паліятывамі і компромісамі, якія ня ўносяць аднак грунтоўнае зьмены ў сямейнае заканадаўства буржуазных краін. Гэтыя яе асаблівасьці зьяўляюцца характэрнейшымі рысамі сучаснага буржуазнага сямейнага права.

Пытаньні шлюбу і сям'і так заклапоцілі кіруючыя колы буржуазных краін, што яны палічылі патрэбным запісаць у пасьляваенных канстытуцыях сваіх краін спэцыяльныя артыкулы, прысьвечаныя шлюбу і сям'і. Артыкулы 119—121 Гэрманскай канстытуцыі, § 98 Літоўскай канстытуцыі і § 126 Чэскай канстытуцыі і інш. ва ўрачыстых выразах дэкляруюць асаблівае пратэктарства дзяржавы інстытутам сям'і і шлюбу, палепшаньне становішча дзяцей, у тым ліку пазашлюбных, і інш. Аднак гэтыя артыкулы канстытуцый ня здольны адратаваць сям'ю ад разлажэньня, як ня могуць тыя невялікія колькасьцю законы, якія выданы ў разьвіцьцё канстытуцыйных дэклярацый [24]), утварыць у сям'і сапраўднае роўнапраўе супругаў і ператварыць шлюб у сапраўды дабравольны саюз мужчыны і жанчыны; аснованы на паважаньні і любві адзін да другога. Разбурэньне сям'і выклікана сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі жыцьця капіталістыч-

---

[24]) У шэрагу краін гэтыя артыкулы канстытуцый засталіся дэкларацыямі, і ня толькі таму, што буржуазныя дзяржавы няздольны іх ажыцьцявіць, але і таму, што яны, не імкнучыся да ажыцьцяўленьня іх, не зьмянілі зусім ні заканадаўства, ні кірунку судовае практыкі. Гл. аб гэтым цікавыя даныя ў рабоце Раевіча. „Очерки истории буржуазного гражданского права со времени империалистической войны".

нае грамады і адпадзе разам з падзеньнем капіталістычнага ладу і ўзьнікненьнем новае, сацыялістычнае грамады, якой будзе адпавядаць іншая шлюбна-сямейнае арганізацыя.

* * *

Яшчэ ў час напісаньня Энгельсам яго кнігі „Паходжаньне сям'і, прыватнай уласнасьці і дзяржавы", г. ё. у 80 гадох мінулага стагодзьдзя, юрысты імкнуліся давесьці, „што прагрэс заканадаўства ва ўсё большай меры адымае ад жанчын усякую падставу скардзіцца", бо заканадаўца імкнецца да ўстанаўленьня сапраўднае дабравольнасьці асоб, што бяруць шлюб, і да правядзеньня поўнага роўнапраўя ў сям'і мужчыны і жанчыны. Энгельс прысьвечвае пару бліскучых старонак выкрыцьцю гэтае ільлюзіі, даводзячы, што юрыдычнае роўнапраўе мужа і жонкі ў рамках капіталістычнае грамады ня зробіцца фактычным роўнапраўем таксама, як юрыдычнае роўнапраўе капіталіста і пралетара не прывяло і не прыведзе да фактычнага роўнапраўя гэтых дзьвюх кляс. Толькі калі муж і жонка „юрыдычна будуць зусім зроўнены ў правох, тады выявіцца, што вызваленьне жанчыны дапушчае сваёю першаю ўмоваю зьвярненьне ўсяго жаночага полу да грамадзкае працы, і што гэта патрабуе ў сваю чаргу, каб індывідуальная сям'я перастала быць асноўнаю гаспадарчаю ячэйкаю грамады", што магчыма,—дадамо мы,—толькі ў сацыялістычнай грамадзе. Да гэтае думкі, непахістанае і да сёньня, мы можам дадаць, што і па сёньня, г. ё. пасьля амаль што паўвеку, ні ў аднэй краіне, апроч Савецкага Саюзу, няма і юрыдычнага роўнапраўя мужа і жонкі, бо толькі на мяжы Савецкага Саюзу з капіталістычным сьветам перастаюць дзейнічаць тыя сацыяльныя законы буржуазнае грамады, якія выклікаюць юрыдычную няроўнасьць бакоў у шлюбе.

II.

Былая Расійская Імпэрыя, значна адстаўшая ў сваім эканамічным і палітычным разьвіцьці ад Заходня-Эўрапейскіх дзяржаў, карысталася да самае Кастрычнікавае Рэвалюцыі грамадзянскім кодэксам, які адбіваў хутчэй інтарэсы шляхецка-памешчыцкае клясы, чымся буржуазіі. Ні спробы Спэранскага працягнуць у Расію ўсякімі праўдамі і няпраўдамі буржуазнае грамадзянскае права Code Civil, ні дакладная распрацоўка на працягу 25 год новага Грамадзянскага

Улажэньня, на аснове „лучших образцов“ кодэксаў сучасных буржуазных дзяржаў, не маглі зрушыць з мейсца Х-ты том (ч. I) Своду Законаў Расійскай Імпэрыі з яго родавымі маёнткамі, абмежаваньнем права і дзеяздольнасьці розных груп насельніцтва і іншымі рагаткамі на шляху шырокага буржуазнага разьвіцьця краіны.

Ясна, што і сямейнае права, запісанае ў тым самым Х-м томе, па рэакцыйнасьці і часта бессэнсоўнасьці сваіх норм пакідае далёка за сабою нават сямейнае права Code Civil. Аснованае фактычна на царкоўных догматах, сямейнае права Х тому ўстанаўляе царкоўную форму шлюбу і разводу, не дапушчае шлюбаў паміж праваслаўнымі і нехрысьцьянамі, забараняе шлюбы ў межах радства і сваяцтва, „церковными законами возбраненных“, патрабуе абавязковага дазволу бацькоў і начальства на браньне шлюбу, надзвычайна абмяжоўвае развод, устанаўляе абсалютную асабовую падпарадкаванасьць жонкі мужу, аж да абавязку бясспрэчнага супольнага жыцьця, і абсалютную ўладу над дзецьмі, санкцыянуе інстытут незаконнароджаных дзяцей і інш. Разам з тым, Х-ты том, пакідаючы ў сіле шэраг забарон сьвецкага заканадаўства, зусім паступова падпарадкоўвае пытаньні сям'і і шлюбу неправаслаўных царкоўным правілам адпаведнага вызнаньня. Гэта прыводзіць напрыклад да таго, што каталіком зусім забараняецца развод, яўрэям дазваляцца развод толькі па волі, вярней па самавольству мужа. Зьмены, унесеныя ў сямейнае права царскай Расіі некаторымі пазьнейшымі законамі, зусім не зьмянілі ні сутнасьці, ні агульнага характару сямейнага заканадаўства.

Кастрычнікавая Рэвалюцыя натуральна павінна была палажыць канец гэтаму заканадаўству крыжа і бізуна. Пралетарыят павінен быў грунтоўным чынам рэарганізаваць сям'ю, зьмяніць і асновы і дэталі сямейнага права. Рэарганізаванае сямейнае заканадаўства павінна было грунтоўным чынам адрозьнівацца ня толькі ад царскага заканадаўства аб сям'і, але і ад сямейнага права найбольш перадавых буржуазных краін, бо, як мы паказалі ў першым разьдзеле, непарыўна зьвязанае з капіталістычнаю ўласнасьцю сям'я Заходняй Эўропы не магла служыць прототыпам для заканадаўства аб сям'і тае краіны, якая першая ў гісторыі паставіла сваёю практычнаю задачаю скасаваньне гэтае ўласнасьці. І сапраўды, у першыя-ж месяцы свайго існаваньня савецкая ўлада разам з дэкрэтамі аб міру, аб зямлі, аб рабочым кантролі выдала два дэкрэты з галіны сямейнага права, якія зрабілі эпоху ў сямейным заканадаўстве ня

толькі на тэрыторыі былое Расійскае Імпэрыі, але і ўсяго сьвету. Першы дэкрэт, „аб парваньні шлюбу“, апублікаваны 19 сьнежня 1917 г., устанавіў безумоўнае, нічым не абмежаванае права разводу, як са згоды абоіх супругаў, так і па волі аднаго з іх і максымальна спросьціў парадак разводу ў аддзеле запісаў шлюбаў альбо ў судзе. Другі дэкрэт, апублікаваны 20 сьнежня 1917 г. пад назваю „аб грамадзянскім шлюбе, аб дзецях і вядзеньні кніг актаў грамадзянскага стану“, устанавіў сьвецкі парадак заключэньня шлюбаў, зраўнаў поўнасьцю пазашлюбных дзяцей з дзецьмі нараджонымі ў шлюбе і адабраў вядзеньне кніг рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану з рук духавенства. Паводле сьведчаньня тав. Стучкі дэкрэт аб разводзе быў адным з найбольш папулярных дэкрэтаў сярод насельніцтва. Пралетарыят адным сьмелым ударам ускрыў балячку, якая доўга гнаілася і даўно пасьпела. Вынікі дэкрэту выразіліся ў масавых разводах. Па адной Маскве за першыя сем месяцаў дзеяньня дэкрэту адбылося 5000 разводаў. Гэты дэкрэт вельмі хутка пранік на вёску, прыносячы ўсюды людзям вызваленьне ад ланцугоў, асьвешчаных царквою і пакрытых сьлязьмі, а часамі і крывёю людзей шмат якіх пакаленьняў. Але і дэкрэт аб сьвецкім шлюбе меў ня меншы посьпех. У Петраградзе за 1918 год, ня гледзячы на абязьлюдзеньне гораду, на агульнае памяншэньне ліку шлюбаў і на няўпэўненасьць некаторых груп насельніцтва у ўстойлівасьці савецкай улады з прычыны наступленьня немцаў, было заключана 5072 сьвецкіх шлюбаў. У Маскве колькасьць сьвецкіх шлюбаў няўхільна павялічвалася, перавысіўшы ў другую палову 1918 г. колькасьць разводаў. У нас няма даных аб Беларусі. Тутака панавалі акупанты. Але бясспрэчна, што і тутака гэтыя дэкрэты былі спатканы ўздыхам палягчэньня тысячамі людзей. Досыць характэрны адзін той факт, што гэтыя дэкрэты былі тутака ажыцьцёўлены без спэцыяльнага закону Беларускага Ўраду.

Нельга было аднак абмежавацца гэтымі двыма дэкрэтамі. Жыцьцё канечна патрабавала ўрэгуляваньня ў с і х пытаньняў сям'і і шлюбу. Таму пасьля некаторага часу, а менавіта 22 кастрычніка 1918 г. Урад РСФСР выдаў „Кодэкс законаў аб актах грамадзянскага стану, шлюбным, сямейным і апякунскім праве“, які, да рэчы, зьяўляецца першым кодэксам пралятарскае дзяржавы. Гэты кодэкс адразу-ж быў рэцэпаваны саюзнымі рэспублікамі. У паасобку, у БССР ён быў фактычна ўведзены ў дзейнасьць безадкладна пасьля вызваленьня тэрыторыі ад акупантаў без спэцыяльнае пас-

тановы ўраду БССР. Толькі ў 1923 годзе ў законе „аб парадку рэгістрацыі актаў нараджэньня і сьмерці“ мы знаходзім адноску (у заканадаўстве ў першыню) на гэты Кодэкс. У Грузіі быў выданы 25 красавіка 1921 г. „дэкрэт № 28“, які амаль што поўнасьцю адпавядае кодэксу РСФСР. На Украіне былі выданы паасобныя дэкрэты, пабудаваныя на тых самых прынцыпах, што і кодэкс РСФСР. Такім чынам, характарызуючы кодэкс РСФСР, мы фактычна даем характарыстыку сямейнага заканадаўства, дзейнічаўшага на тэрыторыі ўсіх савецкіх рэспублік.

Кодэкс 1918 г. (так мы будзем у далейшым называць кодэкс законаў аб актах грамадзянскага стану) быў утвораны ў перыяд аграмаджаньня народнае гаспадаркі, у пэрыяд ліквідацыі грамадзянскіх праваадносін і правядзеньня ўсеагульнае працоўнае павіннасьці. Наша дзяржава і пануючая кляса—пралетарыят—ня быў зацікаўлены ў захаваньні сям‘і, як ячэйкі ўласнасьці, як вытворча-спажывецкага арганізму. Прыватная ўласнасьць касуецца, асноўнаю гаспадарчаю ячэйкаю краіны зьяўляецца фабрыка, завод, савецкая гаспадарка, камуна і інш., дзе гарадзкі і сельскі пралетарыят утварае свае каштоўнасьці. Функцыі выхаваньня дзяцей перайшлі да дзяржавы. Ёю-ж ажыцьцяўлялася ў масавай форме ўтрыманьне дзяцей, няздольных і старых. У гэтых умовах „законная“ сям‘я буржуазнае эпохі з адносінамі панаваньня нявольніцтва ўнутры яе павінна была адмерці. „Сям‘я, кажа, т. Курскі, у эпоху ваеннага камунізму ў горадзе згубіла сваю ранейшую эканамічную базу, яна расхіствалася эканамічна, а таксама шляхам палітычнага расслаеньня яе членаў, яна ўсё больш звужвалася па свайму складу, усё больш спрашчала свае функцыі“ [25]) Пралятарская дзяржава не зацікаўлена ў захаваньні сям‘і чаго-б гэта ёй не каштавала, ня гледзячы на адбыўшыйся фактычна ўнутраны распад яе; краіна саветаў зацікаўлена ва ўтварэньні адпаведных праўных умоў для нараджаючайся новай сям‘і. Гэтыя ўмовы і ўтвораны Кодэксам 1918 году. Шлюб і сям‘я вызвалены. Сям‘я аснована толькі на фактычным радстве. Ніякага супроцьстаўленьня законнай сям‘і і законных дзяцей—„незаконнанароджаным“ мы ў кодэксе ня знойдзем. Самая назва „незаконнанароджаных“ выкрэсьлена з праўнага і бытавога лексікону. Шлюб і развод зусім вольны і залежаць выключна ад волі грамадзян. Адносіны ў сям‘і пабудо-

---

[25]) Курский. „Экономика и новый кодекс семейного права“ Е. С. Ю. № 4 за 1927 г.

ваны на поўным роўнапраўі мужа і жонкі. Характэрная фігура буржуазнай сям'і paterfamilias зьнікла; замест яе— бацькі, якія выконваюць пэўныя абавязнасьці ў адносінах да дзяцей да тэй пары, пакуль дзяржава ня здужае ўзяць на сябе поўнасьцю клапоты аб дзецях.[26]) Усынаўленьне не дапушчаецца. Апека перадаецца амаль што поўнасьцю беспасрэдна дзяржаўным органам. Нормы маемаснага характару амаль што вытраўлены з кодэксу. З тых артыкулаў, якія гавораць аб маемасных адносінах, два артыкулы зьмяшчаюць у сабе нормы адмоўнага характару: артыкул 105 гаворыць, што „шлюб не ўтварае супольнасьці маемасьці супругаў", артыкул 160 устанаўляе, што „дзеці ня маюць права на маемасьць бацькоў, роўна і бацькі ня маюць права на маемасьць дзяцей". Шэраг артыкулаў гаворыць толькі аб праве на ўтрыманьне з маемасьці мужа, бацькі і бліжэйшых родных пры іх жыцьці і пасьля іх сьмерці, г. ё. часова, да разьвіцьця інстытуту сацыяльнага забясьпечаньня ўтвараецца сурогат яго, аснованы на сувязі паводле радзтва. Тое што гэты небывалы ў сьвеце кодэкс замяніў сабою найбольш рэакцыйнае ў Эўропе сямейнае права, досыць арыгінальна адбілася на зьмесьце і рэдакцыі некаторых артыкулаў ко эксу. Лейтматывам шэрагу артыкулаў служыць адмаўленьне. Так, „ня служыць перашкодаю для заключэньня шлюбу розная вера асоб, якія хочуць пабрацца". (арт. 71 кодэксу), перамена мейсца пражываньня адным з супругаў не ўтварае для другога абавязку сьледаваць за ім (арт. 104). Такія-ж сама вышэйпаказаныя артыкулы 105 і 160, а таксама артыкулы 72, 73 і інш. Будуючы такім чынам сямейнае права, дзяржава ў той самы час бярэ на сябя абавязнасьць сачыць за тым, каб гэтыя нормы сапраўды ажыцьцяўляліся і каб традыцыі цёмнага мінулага не цягнулі сям'ю назад. Таму ўсё тое, што дзяржава лічыць патрэбным рэгуляваць у інтарэсах новае грамады праз права, яно рэгулюе праз утварэньне прымусовых, а не дыспозытыўных норм і пакідае за сабою права кантролю і ўмешваньня пры парушэньні гэтых норм, бо парушэньне іх прыводзіць уласна да парушэньня інтарэсаў слабейшага боку — непрацаздольнага супруга альбо роднага і непаўналетніх дзяцей.

---

[26]) У адносінах да апошняга асабліва характэрная ўвага да арт. 161 кодэксу. Гаворачы ў самым артыкуле аб абавязку бацькоў утрымоўваць сваіх дзяцей, заканадаўца ва ўвазе дадае: „паказаны абавязак бацькоў спыняецца, паколькі дзеці знаходзяцца на грамадзкім альбо дзяржаўным утрыманьні",

Пераход да новае эканамічнае палітыкі некалькі прыпыніў працэс распаду старых і зараджэньне новых сямейных форм. Асноўнаю фігураю землязробства засталося на час „сямейна-працоўнае аб'яднаньне—двор“ (арт. 63 Зямельнага Кодэксу БССР), якое, як відаць з самога азначэньня, зьяўляецца для дзяржавы важнаю маемаснаю ячэйкаю. У горадзе таксама пашырылася маемасная база сям'і дзякуючы разьвіцьцю саматужнае прамысловасьці. У зьвязку з адмаўленьнем дзяржавы ад усеагульнае працоўнае павіннасьці і немагчымасьцю даць усім грамадзянам работу ў дзяржаўных установах і прадпрыемствах утварыліся ўмовы аднаўленьня сям'і, у якой муж зьяўляецца здабытчыкам сродкаў да існаваньня, а жонка—хатняю гаспадыняю. Нарэшце, дзяржава прымушана была адмовіцца ад поўнага ажыцьцяўленьня сацыяльнага забясьпечаньня старых і ўтрыманьня дзяцей. Гэтыя функцыі таксама захаваліся ў большай сваёй частцы за сям'ёю. Усе гэтыя моманты ўзмацнілі значэньне сям'і, пашырыўшы яе маемасную базу, павялічыўшы яе функцыі. Гэтаю акалічнасьцю і тлумачыцца той факт, што цэлы шэраг законаў аб кватэрнай плаце, аб ільготах па ваеннай службе, аб народнай асьвеце, аб сацыяльным забясьпечаньні, аб дзяржаўнай службе і інш. зьвязаны з пытаньнем аб сям'і. І не выпадкова тое, што азначэньне сям'і дадзена не ў кодэксе законаў аб шлюбе, а ў законе аб абавязковай ваеннай службе.

Аднак, побач з гэтымі фактамі, што ўзмацняюць сям'ю, мы маем і процілеглыя паказьнікі. Усесаюзны перапіс насельніцтва 1926 г. паказаў, што ў горадзе заўважваецца інтэнсыўнае раздрабленьне сям'і і значная колькасьць неаформленных шлюбаў. На вёсцы з году ў год павялічваецца колькасьць разьдзелаў. Сямейная арганізацыя ўсё больш звужваецца. Павялічваецца колькасьць адзіночак, што даводзіць аб тым, што моладзь вельмі рана адрываецца ад сям'і.

Усе гэтыя фактары прывялі да таго, што Кодэкс 1918 году значна перастарэў. Пытаньне аб перапрацоўцы яго паўстала яшчэ ў 1924 г., калі ў РСФСР быў распрацован праект новага кодэксу, які быў падань для зацьверджаньня ў заканадаўчыя органы РСФСР у студзені 1925 году. Абмеркаваньне яго ў РСФСР і абмеркаваньне праектаў аднача сна распрацоўваўшыхся кодэксаў у БССР і УССР у адпаведнай рэспубліцы зацягнулася аднак на два гады. Тым часам жыцьцё паводле ўстаноўленых вышэй прычын прад'явіла безадкладныя запатрабаваньні аб зьмене шэрагу нормаў дзейнічаўшага кодэксу. Зьмены гэтыя праводзіліся альбо

ў заканадаўчым парадку, альбо ў парадку судовай практыкі, якая часамі пад націскам жыцьця ўтварала нормы, ня толькі разьвіваючыя нормы кодэксу, але і супярэчныя яму. Так, быў зьменены ва ўсіх рэспубліках парадак маемасных адносін супругаў.[27]) У РСФСР фактычна было санкцыянавана пастановаю найвышэйшага суда ўсынаўленьне, якое за паўгода да выданьня новага кодэксу было праведзена ў заканадаўчым парадку.[28]) У БССР быў выданы ў маі 1925 году надзвычана важны закон—„Аб парадку разгляду спраў аб парваньні шлюбаў і аб выдачы ўтрыманьня незабясьпечанаму супругу і дзецям“ [29]). Гэты закон унёс наступныя тры істотныя зьмены ў дзейнічаўшае заканадаўства аб шлюбе і сям'і. Застаючыся на пункце погляду поўнае вольнасьці разводу, закон уносіць далейшае спрашчэньне ў працэдуру разводу, устанавіўшы, што развод ва ўсіх выпадках (значыцца і па волі аднаго з супругаў) адбываецца ў органах ЗАГС па мейсцы пражываньня аднаго з супругаў. Далей, закон устанаўляе абавязак маемнага супруга ўтрымоўваць пасьля разводу немаемнага супруга ня толькі пры непрацаздольнасьці апошняга, але і пры беспрацоўі на працягу аднаго году ад дня разводу. Нарэшце, закон пашырае аліментарныя абавязкі супругаў і на асоб, „якія фактычна знаходзяцца ў шлюбе, хаця б і не зарэгістраваным“. Усе гэтыя нормы былі пазьней запісаны ў новы „Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР“.

У той самы час ва ўсіх саюзных рэспубліках праводзілася далейшае абмеркаваньне і распрацоўка праектаў новых сямейных кодэксаў, якія прыцягнулі да сябе ўзмоцненую ўвагу савецкай грамадзкасьці. Праекты гэтыя ў БССР, РСФСР і УССР абмяркоўваліся на дзьвюх сэсіях ЦВК, а ў прамежках паміж сэсіямі перадаваліся на абмеркаваньне шырокіх мас працоўных. Шырокая дыскусія, якая разгарнулася навакол праектаў, датыкалася галоўным чынам пытаньня аб рэгістрацыі і не рэгістрацыі шлюбу. Але пад гэтаю „агульнаю фірмаю“ дыскусаваліся балючыя пытаньні аб устойлівасьці сям'і, аб разводзе, аб становішчы жонкі ў шлюбе, аб аліментах і інш. Апроч таго, падпалі пад дыскусію таксама пытаньні аб веку бяручых шлюб і аб многаайцоўстве.

[27]) Гл. аб гэтым маю работу: „Маемасныя адносіны супругаў па кодэксах законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР, РСФСР і УССР“ надрукаваную ў „Працах БДУ“ за 1928 г., кн. 21.

[28]) Гл. паст. „ВЦИК и СНК РСФСР“ за 1/III-1926 г., „Собр. Уз. 1926 г. № 13, ст. 101“.

[29]) Збор Законаў БССР за 1925 г. № 29, арт. 274.

У выніку работы заканадаўчых органаў і абмеркаваньня праектаў шырокаю савецкаю грамадзкасьцю і былі выданы ў саюзных рэспубліках новыя „кодэксы законаў аб шлюбе, сям'і і апецы", якія ўвайшлі ў дзеяньне ў БССР 1-га сакавіка 1927 г., у РСФСР 1-га студзеня 1927 г. і ў УССР у сьнежні 1926 г. Не адыходзячы ад асноўных прынцыпаў, на якіх пабудаваны кодэкс 1918 году, гэтыя новыя кодэксы, вельмі блізкія адзін да другога, адбіваюць усе тыя зьмены ў значэньні сям'і і яе унутраным ладзе, якія былі паказаны вышэй. Кодэкс 1927 году (так мы будзем далей называць новыя кодэксы законаў аб шлюбе, сям'і і апецы) зрабіў далейшы крок наперад у справе зьнішчэньня розніцы паміж фармальным і не фармальным шлюбам, прызнаўшы за супругамі і пры незарэгістраваных брачных адносінах пэўныя правы і абавязкі. Спрошчана працэдура разводу. У параўнаньні з кодэксам 1918 году кодэкс 1927 году больш прыдае значэньня маемасным адносінам у сям'і, чаму у ім знаходзяцца новыя і адрозьненыя ад кодэксу 1918 году нормы: 1) устаноўлена супольнасьць маемасьці супругаў нажытае за час шлюбу, 2) пашыраны выпадкі выдачы ўтрыманьня немаемнаму супругу, 3) рэарганізаваны інстытут апекі і больш дэтальна распрацаваны абавязкі апекуна у адносінах да маемасьці падапечнага. 4) больш падрабязна рэглямантавана пытаньне аб утрыманьні дзяцей, 5) дапушчана ўсынаўленьне і дакладна рэглямантаваны гэты інстытут, 6) скасавана так званае многаайцоўства.

Увага да пытаньня аб маемасных адносінах у сям'і мае сваім вынікам і тое, што кодэкс 1927 году ўдзяліў некалькі артыкулаў спэцыяльна сялянскай сям'і. Гэтакія—увага 2 да арт. 21 аб маемасных адносінах супругаў працоўных землякарыстальнікаў, арт. арт. 70 і 71 аб алімэнтах з сялянскага двара, і ўвага да арт. 72 аб усынаўленьні. Гэта зусім зразумела, бо паводле справядлівага ўказаньня тэзісаў сэкцыі агульнай тэорыі дзяржавы і права Камуністычнай Акадэміі аб шлюбе і сям'і, „сям'я-двор і сям'я гарадзкая знаходзяцца ў вогуле на розных ступенях гістарычнага разьвіцьця; першая захавала яшчэ адбітак патрыархальна-прыгоньніцкіх адносін толькі з тэндэнцыяю пераходу да буржуазнае сям'і; другая прадстаўляе ўжо гатовую буржуазна-капіталістычную фармацыю, аднак ужо ў рабочай клясе з намёкам на новую, больш высокую форму сям'і" (гл. Маркс. „Капітал" т. I. ст. 491).[30] [31]).

[30]) Курсыў—у тэксьце тезісаў.

[31]) Трэба тут-жа адзначыць, што ў сучасны момант у сувязі з інду-

Нарэшце, праз увесь кодэкс 1927 году праходзіць чырвонаю ніцьцю імкненьне заканадаўцы яшчэ больш узмацніць абарону слабое стараны ў сям'і, г. ё. фактычна жонкі і дзяцей. Шэраг зьмен, паказаных вышэй (прызнаньне права за асобаю, што знаходзіцца ў незарэгістраваных шлюбных адносінах, прызнаньне супольнасьці маемасьці супругаў) і шэраг іншых часткова альбо поўнасьцю тлумачацца імкненьнем абараніць слабую старану ў шлюбе. Ды гэта зусім і натуральна. Юрыдычнае роўнапраўе старон у шлюбе, устаноўленае кодэксам не прывяло і не магло прывесьці да поўнага ажыцьцяўленьня фактычнае роўнасьці. Новы кодэкс павялічыў юрыдычныя гарантыі для ажыцьцяўленьня фактычнае роўнасьці. Аднак „яго значэньня... ня трэба лічыць большым, як яно ёсьць. Сам па сабе кодэкс аб шлюбе, напэўна, можа толькі адхіліць перашкоды на шляху да вызваленьня старое сям'і і да ўтварэньня сям'і новага тыпу... Але... пад абаронаю савецкага закону жанчына і маладое пакаленьне здужае заваяваць сабе волю—і ў сфэры сям'і“. [32])

* *
*

Разьвіваючы прыведзеныя ў 1-м разьдзеле думкі Энгельса аб юрыдычнай і фактычнай роўнасьці мужа і жонкі і дапасоўваючы іх да ўмоў жыцьця савецкіх рэспублік, Ленін паказаў і асноўныя шляхі да дасягненьня фактычнае роўнасьці. У артыкуле „Міжнародны дзень работніц“, апублікаваным у першыню ў 1921 годзе, Ленін кажа: „Бальшавіцкая, савецкая рэвалюцыя падрэзвае карэньні прыгнечаньня і няроўнасьць жанчыны так глыбака, як не асмельвалася падрэзаць ніводная партыя і ніводная рэвалюцыя на сьвеце. Ад няроўнасьці жанчыны з мужчынаю ў нас у Савецкай Расіі не засталося і сьледу. Асабліва гнюсная, подлая, фальшывая няроўнасьць у шлюбным і сямейным праве, няроўнасьць у адносінах да дзіцяці зьнішчана савецкаю ўладаю поўнасьцю. Гэта—*першы толькі крок да вызваленьня жанчыны* (курсіў наш), але ніводная з буржуазных хаця-б і найбольш дэмакратычных рэспублік не асьмелілася зрабіць і гэтага першага кроку. Не асьмелілася са страху перад сьвяшчэннаю пры-

---

стрыялізацыяю, шырокаю калектывізацыяю вёскі і іншымі фактарамі рэканструкцыйнага перыяду гэты тэзыс патрабуе некаторае папраўкі. Аднак і зараз сялянская сям'я-двор моцна адрозьніваецца ад гарадзкое сям'і, прычым гэтыя розьніцы куды больш істотны, чымся яны выяўлены ў кодэксе. Пытаньню аб сям'і-двары і сям'і ў калгасах мы маем намер прысьвяціць спэцыяльны нарыс.

[32]) „Брак и семья“. Тезисы Комакадемии. Тез. 11.

ватнаю ўласнасьцю. Другі і галоўны крок — скасаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю, фабрыкі, заводы. Гэтым, і толькі гэтым адчыняецца дарога для поўнага і сапраўднага вызваленьня жанчыны, вызваленьне яе ад „хатняе няволі“ шляхам пераходу ад дробнае адзіночнае хатняе гаспадаркі да буйнае грамаджанае. Пераход гэты цяжкі... Але... пачаты, справа зрушана, на новы шлях мы ўступілі“.[33])

Савецкая дзяржава праводзіла ўвесь час, праводзіць і зараз шэраг мерапрыемстваў культурнага і палітычнага характару, накіраваных на вызваленьне жанчыны ад „хатняе няволі“ і да фактычнага зраўнаньня яе з мужчынаю ў палітычным, гаспадарчым і культурным жыцьці. Арганізацыя ясьляй (асабліва на заводах і ў калгасах), дзіцячых дамоў, разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня паступова прыводзіць да вызваленьня жанчыны ад кухні і дзецкай, тым самым утвараючы ўмовы дзеля яе ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве, грамадзкім жыцьці і ў вытворчасьці. Уцягненьне жанчын (работніц, батрачак і сялянак з бядняцка-серадняцкага сялянства) у саветы, арганізацыя інстытуту жанчын-дэлегатак, узмоцненая ўвага ўраду да пытаньня аб вылучэньні жанчын у дзяржаўны апарат і правядзеньне шэрагу мер да ажыцьцяўленьня паказаных задач прыводзіць да ўсё большага ўдзелу жанчыны нароўне з мужчынаю ў дзяржаўным кіраўніцтве, што асабліва выявілася пры апошніх выбарах у саветы і арганізацыі мясцовых органаў улады. Нарэшце, правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў па падняцьці кваліфікацыі жанчын, па ўцягненьні іх у школы, як агульныя, так і спэцыяльныя, прадастаўленьне ім шэрагу ільгот пры паступленьні ў школы, мерапрыемствы па капераваньні працоўных жанчын, спэцыяльныя праўныя нормы аховы жаночае працы, усё гэта дапамагае ўсё большаму пранікненьню жанчын у вытворчасьць і наогул у гаспадарчае жыцьцё краіны.[34])

Усе пералічаныя мерапрыемствы Камуністычнае Партыі і Савецкага Ураду даюць адчувальныя вынікі і вядуць жанчыну па шляху да поўнае фактычнае роўнасьці дзякуючы

---

[33]) Ленін XVIII, ч. I, ст. 91-92.

[34]) Для ілюстрацыі паказаных фактаў досыць прывесьці сухое пералічэньне законаў, выданых Беларускім Урадам па гэтым пытаньні: „аб уцягненьні жанчын у саветы“ (З. З. 28 г. № 24, паст. 233) арт. пастановы па дакладу аб масавай рабоце саветаў (там сама № 29, паст. 284), арт. 8 паст. 9-га Ўсебелар. Зьезду Саветаў па дакладу Ўраду БССР (З. З. 29 г. № 17, паст. 94), шэраг артыкулаў нанова выданага кодэксу аб працы БССР. Нарэшце, адзначым пастанову ЦВК БССР за 8 чэрвеня 1929 г. аб утварэньні камісій (сэкцый) па палепшаньні працы і быту жанчын пры саветах і выканаўчых камітэтах (З. З. 29 г. № 24 паст. 131).

агульнаму эканамічнаму росту краіны і сацыялістычнае рэканструкцыі яе, дзякуючы безпасрэдна зьвязанаму з гэтым палітычнаму росту рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства. Небывалае гаспадарчае разьвіцьцё Савецкага Саюзу ў выніку ўзятае Камуністычнаю Партыяю і Савецкім Урадам лініі на індустрыялізацыю і ўцягненьне ў выніку гэтага ўсё больш шырокіх мас працоўных у работу фабрык, заводаў, шахтаў, буйнага будаўніцтва і інш. само па сабе зьяўляецца фактарам, які вядзе да ўзмацненьня ўдзелу жанчын у народнай гаспадарцы краіны; узмацненьне сацыялістычных элемэнтаў у быце ўтварае ўмовы для значна больш хуткага ў параўнаньні з папярэднім перыядам фактычнага зраўнаньня жанчын з мужчынаю ў сямейным быту.

Для шматмільённых мас жанчын, занятых у сельскай гаспадарцы, магутным фактарам іх вызваленьня зьяўляецца прыняўшая грандыёзныя разьмеры калектывізацыя сельскае гаспадаркі. Двор, як маемасная адзінка, перастае панаваць над сям'ёю. Разам з гэтым галава двара, звычайна мужчына (хаця закон дае права гаспадара дому і жанчыне) пазбаўляецца панаваньня над жонкаю. Яны абое, і муж і жонка, зьяўляюцца аднолькавымі, роўнапраўнымі членамі калляктыву. А разьвіцьцё ў калляктывах ясьляй, агульнага выхаваньня дзяцей і паступовае аграмаджаньне іншых бакоў быту (супольнае харчаваньне і інш. аж да арганізацыі камуны), пашырэньне культурнае працы ў калгасах адчыняе для ўсё яшчэ існуючай вясковай бабы нябачныя кругавіды, новыя шляхі, па якіх жанчына прыдзе да поўнага зраўнаньня з мужчынаю.

Гэтае зраўнаньне жанчыны з мужчынаю ў горадзе і на вёсцы прывядзе разам з тым да ўтварэньня новых форм сям'і і шлюбу, дакладна нам яшчэ невядомых, але бясспрэчна вызваленых ад усіх адмоўных рыс, што зьяўляюцца спадчынаю буржуазна-капіталістычнае грамады.

---

Мікола Гуткоўскі.

# Праект сыстэмы Адміністрацыйнага Кодэксу БССР.

Праблема кадыфікацыі заканадаўства ў адміністрацыйнай галіне, пастаўленая ў 1922 годзе РСФСР і ажыцьцёўленая ў 1927 годзе з выданьнем першага, можна сказаць, ва ўсім сьвеце адміністрацыйнага кодэксу УССР, цікавіць ня толькі іншыя савецкія рэспублікі, але нават і буржуазныя краіны. Так, адміністрацыйны кодэкс УССР перакладзены на нямецкую мову і зьмешчаны ў часопісу Zeitschr. für Ost. 28 г. XI. У Польшчы заканападрыхтоўчым органам даручана скасьці праект адміністрацыйнага кодэксу.

Украіна не спынілася на выданьні аднаго голага акту адм. кодэксу. На працягу 1928 году народнымі камісарыятамі Ўнутраных Спраў і Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі праведзена вялікая работа па дасьледваньні ажыцьцяўленьня адм. кодэксу на мясцох. Са свайго боку і мясцовыя органы УССР падалі шэраг прапаноў для зьмены і ўдакладненьня некаторых артыкулаў адм. код. У выніку гэтай работы на працягу 1928 г., пасьля агалошаньня адм. код. УССР (ЗУ УССР 1927 г. № 63—65. арт. 240), унесена шэраг зьмен у адм. код. УССР [1]), і ў заканадаўчых органах УССР знаходзіцца чатыры значных заканапраекты, якія маюць на мэце зрабіць зьмену альбо дапаўненьне ў 108 артыкулах з агульнага ліку 528 арт. адм. код.

Разам з гэтым для разьвіцьця і растлумачэньня адм. код. на працягу 1928 г. цэнтральнымі адміністрацыйнымі органамі УССР выдана 29 розных пастаноў, інструкцый, абежнікаў, надрукаваных у разьдзеле II-м Збору Законаў УССР [2]).

---

Дзеля таго, што адміністрацыйнае права, як самастойная дысцыпліна ў сучасны момант ліквідуецца, ператвараючыся у навуку аб савецкім кіраўніцтве і складаючы частку вучэньня аб савецкай дзяржаве, то гэта праца друкуецца ў якасьці гістарічнае даведкі. (Рэд.).

[1]) Арт. 72, 103 (ЗЗ/У—28. 9. 87); арт. 46, 48, 55 (ЗЗ/У—28. 16. 143); арт. 78—I (ЗЗ/У—28. 24. 206).

[2]) ЗЗ/У—II разьдз. 1928 г. № 2—9, 10; № 3—14, 15, 16, 17; № 4—22, 23, 24; № 6—31, 33; № 7—38, 42, 49; № 9—53, 54, 55; № 10—58; № 11—

Побач з гэтым на Украіне за мінулы год зроблена яшчэ адна надзвычайна важная праца. У пачатку 1929 году „Юридичне Видавництво Наркомюсту УССР“ выдала „Адміністративний Кодекс УССР. Текст та поартикульний коментар, з редакцією С. Канарського та Ю. Мазуренка, з передмовою Народнього Комісара Внутрішніх Справ УССР. В. Баліцького. Харків 1929 р. „Гэты коментар“ складзены надзвычайна ўважліва. У ім узялі ўдзел шэраг навуковых (прафэсары А. Еўціхіеў, М. Паліенка, І. Сухаплюеў) і практычных (М. Арэф‘еў, М. Брон, С. Канарскі і інш.) работнікаў Украіны. Побач з чыста практычнымі данымі для растлумачэньня тых ці іншых артыкулаў адм. кодэксу ў камэнтары прыведзена цэлы шэраг тэарэтычных разважаньняў, што надае гэтай калятктыўнай працы далёка больш, як практычны інтарэс.

Робячы агляд гісторыі ўтварэньня праектаў адміністрацыйных кодэксаў у РСФСР і УССР у сваім артыкуле „Кадыфікацыя заканадаўства саюзных рэспублік у галіне адміністрацыйнага права“ [1]), мы коратка спыняліся і на сыстэме гэтых кодэксаў, а таксама іншых зборнікаў адміністрацыйных законаў.

У гэтым сваім кароткім нарысе мы хацелі-б абгрунтаваць сыстэму праекту адмін. кодэксу БССР, які падрыхтоўваецца намі паводле пастановы Падрыхтоўчай Камісіі СНК за 13 лістапада 1928 г. (прат. № 17 п. 323).

Адмін. кодэкс мы сабе мысьлім не як новы зусім заканадаўчы акт, накшталт, напрыклад, Водна-Мэліарацыйнага кодэксу, а ва ўласным сэнсе актам кадыфікацыі нашага заканадаўства ў адміністрацыйнай галіне, і нават не ўсяго заканадаўчага матар‘ялу, а пэўнае яго часткі з папаўненьнем некаторых прабелаў нашага заканадаўства. Таму першым заданьнем паўстае для нас вылучыць для адмін. кодэксу пэўную сфэру нарматыўнага матар‘ялу, што павінен легчы ў яго аснову, трэба вызначыць мажліва паўней тыя праўныя адносіны, на якіх будуецца ажыцьцяўленьне рэвалюцыйнай законнасьці ў адміністрацыйнай галіне.

Кожная галіна права-працоўнага, крымінальнага, грамадзянскага, зямельнага супадаюць з адпаведнымі дысцыплінамі права, якія абмяжоўваюцца вывучэньнем праўных

---

63, 65; № 13—80; № 14—90; № 17—100, 104, 105; № 18—108; № 19—114, 115; № 21—127.

[1]) „Працы Бел. Дзярж. Унів. 1928 г. № 21).

адносін, што выцякаюць са зьместу нарматыўнага матар'ялу пераважна гэтых кодэксаў.

Круг праўных адносін, што павінны быць аб'ектам вывучэньня адм. права, зьяўляецца вельмі спрэчным. Яшчэ большую спрэчнасьць выклікае практычны падыход да акрэсьленьня праўных адносін, што павінны легці ў аснову адмін. кодэксу. Гэта тлумачыцца характарам савецкага права наогул і адміністрацыйнага ў паасобку.

Адміністрацыйнае права ў савецкай сыстэме ахапляе надзвычайна шырокую сфэру дзейнасьці ў галіне ўнутранага кіраўніцтва. Савецкая дзяржава, пабудованая на прынцыпах самага шырокага ўдзелу працоўных мас у дзяржаўным кіраўніцтве, на прынцыпах адсутнасьці падзелу на ўладу заканадаўчую, судовую і выканаўчую, ажыцьцяўляе адміністрацыйную дзейнасьць праз усю сыстэму сваіх дзяржаўных органаў, у самых рознастайных галінах дзяржаўнага жыцьця. І Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, і сельскі савет, і сялянскі камітэт узаемадапомогі, і трэст—зьяўляюцца суб'ектамі пэўных адміністрацыйных паўнамоцтваў. Гэтыя паўнамоцтвы дзяржаўных органаў, нават, ня толькі дзяржаўных, але ў значнай ступені і грамадзкіх карпарацый, пашыраюцца і на ахову рэвалюцыйнага парадку, і на падтрыманьне дабрабыту і бясьпекі, і на рэгуляваньне адносін, што выцякаюць з сфэры ўжываньня працы, і на сацыяльнае забясьпечаньне, на асьвету, ахову народнага здароўя гандаль, шляхі і інш.

Адміністрацыйнае права БССР, як і іншых савецкіх рэспублік, яшчэ не выкрышталізавалася і не набыло пэўнае сыстэмы. Працэс адстайваньня адміністрацыйнага права адбываецца на нашых вачох.

Беларусь у першыя гады свайго існаваньня ня мела магчымасьці сама тварыць сваё заканадаўства, яна аўтаматычна пераносіла на сваю глебу і канструкцыю органаў улады, і парадак іх дзейнасьці, запазычваючы ўсё гэта ад мацнейшага свайго суседа РСФСР.

З новаю эканамічную палітыкаю, да якой права Сав. Беларусі насіла пераважна адміністрацыйны характар, з гэтага права паступова пачынаюць выдзяляцца паасобныя галіны права.

Такім чынам, аб'ём адміністрацыйнага права БССР надзвычайна шырокі. З яго ня так даўно, толькі якіх небудзь 6 гадоў назад, пачалі вылучацца паасобныя галіны права: крымінальнага, грамадзянскага, зямельнага, судовага, сямейнага. Гэтая цэнтрабежная сіла ўтварэньня паасобных праўных цыкляў з агульнага савецкага права разам з бязу-

пыннаю яго цякучасьцю вельмі ацягчае выяўленьне пэўнае сфэры адміністрацыйнага права, ацягчае вылучэньне заканадаўчага матар'ялу, з якого павінен складацца адмін. кодэкс.

Звычайна, дзе бывае цяжка разабрацца практыку, да яго прыходзіць на дапамогу тэорыя-нвука.

Ці можа навука савецкага адміністрацыйнага права ў сваім сучасным стане быць належным кіраўніком пры складаньні адмін. кодэксу? Мы павінны даць адказ, што ня зусім можа. Справа ў тым, што прадстаўнікі навукі адмін. права, ня толькі савецкага, але і буржуазных краін, ня маюць аднастайнага погляду на пабудову навукі, яе мэтады і зьмест.

Адміністрацыйнае права ў розных курсах даецца у апрацоўцы прыстасоўна да дзяржаўнага права альбо да грамадзянскага права.

Першая група адміністратывістаў (Праф. „В. Кобалевский"—„Советское админ. право" 1929 г. Харьков), што прытрымліваецца сыстэмы навукі аб дзяржаве, звычайна дае кароткі зьмест агульнае часткі і разьмяркоўвае матар'ял спэцыяльнае часткі па дзяржаўных функцыях альбо па галінах кіраўніцтва, кладучы ў аснову свае сыстэмы мэты і задачы адміністрацыйнай дзейнасьці.

Другая група адміністратывістаў (Праф. „А. Елистратов — Административное право 1929 г.") будуе адміністрацыйнае права на прынцыпах грамадзянскага права, клясыфікуючы праўны матар'ял паводле суб'ектыўных запатрабаваньняў грамадзян, бяручы за крытэрый юрыдычныя адносіны.

Трэцяя група (Праф. „А. Евтихиев – Основы Советского администр. права, 1925 г.") імкнецца злучыць элемэнты першае і другое групы.

Калі паказаныя намі папярэднія вучоныя абмяжоўваюць так ці іначай зьмест навукі адміністрацыйнага права, вылучаючы з савецкага права цэлыя цыклі самастойных навук (зямельнае, лясное, горнае, працоўнае, каперацыйнае, права сацыяльнай культуры), то другая група вучоных — прафэсары „К. А. Архипов" і „Г. С. Гурвич" у сваіх артыкулах пра адміністрацыйны кодэкс РСФСР (Власть Советов 1923 г. № 3) лічылі мажлівым пабудаваць адмін. кодэкс РСФСР, уключыўшы ў яго ўсё багацьце праўнага матар'ялу ў галіне дзяржаўнага кіраўніцтва. Асабліва вялікі размах быў у праф. Г. Гурвіча, які мысьліў сабе гэты кодэкс разьмяркованым на часткі ў адпаведнасьці з галінамі

кіраўніцтва: ваеннага, фінансавага, народнае асьветы, аховы народнага здароўя і інш. Ен прапанаваў назваць праектуемы заканадаўчы акт „Кодексом советского управления“, для паўнаты якого ня трэба баяцца ўмешваньня нават у такія галіны, як фінансавая.

Зразумела, што пры такім дыапазоне адмін. права, якое аднымі аўтарамі звужваецца да граніц сьціслага адміністрацыйнага кіраўніцтва, а другімі неабмежавана пашыраецца да кодэксу савецкага кіраўніцтва, апірацца пры вызначэньні матар'ялу для адмін. код. на навуку адміністрацыйнага права ня зусім можна.

Што-ж сабою ўяўляюць адміністрацыйныя нормы, якія мы зьбіраемся кадыфікаваць ў спэцыяльны адмін. кодэкс?

Адміністрацыйныя нормы, як мы адзначылі ў пачатку, ня толькі надзвычайна рознастайны, але яны і шматлікі ва ўсіх наогул заканадаўствах, асабліва ў заканадаўствах савецкіх рэспублік. У заканадаўствах саюзных сав. рэспублік гэтыя нормы зьяўляюцца пераважнымі нормамі ў параўнаньні з нормамі іншых галін права-гаспадарчага, крымінальнага і інш. Адміністрацыйныя нормы выдаюцца ня толькі саюзнымі рэспублікамі. Значная колькасьць такіх норм выдана агульнасаюзным урадам. Адміністрацыйныя нормы раскіданы па ўсіх кнігах „Сыстэматычнага забору законаў СССР". Апроч законаў у сьцісльм сэнсе слова, што выдаюцца заканадаўчымі органамі, органы кіраўніцтва—народныя камісарыяты і мясцовыя саветы і выканаўчыя камітэты выдаюць шмат нормаў, якія зьяўляюцца таксама крыніцай адмін. права. Адміністрацыйныя нормы характарызуюцца надзвычайнаю цякучасьцю. Яны зьмяняюцца пры самым нязначным націску запатрабаваньняў жыцьця. Яшчэ адна ўласьцівасьць адмін. норм: яны ў большасьці ізаляваны адна ад другое і захоўваюць паміж сабою толькі аддалёную сувязь, а гэта перашкаджае разьбіць іх на групы альбо на так званыя інстытуты, што можа быць лёгка зроблена, напрыклад, з грамадзянскім заканадаўствам.

Такім чынам ясна, што адмін. кодэкс ніякім чынам ня можа ўвабраць у сябе ўсяго адміністрацыйнага заканадаўчага матар'ялу. Адміністрацыйны кодэкс павінен быць пабудован на іншых падставах, чымся другія кодэксы, якія імкнуцца ахапіць увесь заканадаўчы матар'ял пэўнае галіны права.

У аснову вызначэньня матар'ялу для гэтага кодэксу павінны быць пакладзены два прынцыпы: адмін. кодэкс павінен злучыць у сабе 1) нормы, што рэгулююць агульную

дзейнасьць усіх адміністрацыйных органаў і 2) нормы, што рэгулююць дзейнасьць адміністрацыйных органаў па лініі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў. Адмін. кодэкс, у паасобку першая яго частка, павінен зьявіцца свайго роду агульнаю часткаю для ўсягб адміністрацыйнага заканадаўства, агульным фундамантам для цэлага шэрагу публічна-праўных актаў цэнтральных і мясновых органаў і нават для некаторых паасобных кодэксаў—ляснога, папраўна-працоўнага, водна-мэліярацыйнага і інш.

Агульнаю мэтаю адмін. кодэксу павінна быць забясьпечаньне рэвалюцыйнай законнасьці у адміністрацыйнай галіне, якая ажыцьцяўляецца пры дапамозе пэўнае ўзаемадзейнасьці органаў улады і паасобных грамадзян альбо іх калектываў.

Якія-ж прынцыпы павінны легці ў аснову гэтае ўзаемадзейнасьці, іначай сказаць, на якіх агульных падставах, адпавядаючых палітыцы савецкай улады, павінен быць пабудован адмін. кодэкс?

Мерапрыемствы, акія ажыцьцяўляюцца ў адміністрацыйнай галіне, павінны адпавядаць інтарэсам працоўных і ва ўсіх мажлівых выпадках праводзіцца пры ўдзеле адпаведных арганізацый працоўных, прычым органы, што праводзяць гэтыя мерапрыемствы, павінны высьвятляць на шырокіх сходах працоўных і іх арганізацый матывы, выклікаўшыя гэтыя мерапрыемствы, а таксама рабіць аб іх справаздачу перад працоўнымі. Такім чынам, адмін. кодэкс павінен быць пабудован не на праваадносінах паміж дзяржаваю з аднаго боку, і насельніцтвам з другога, а на поўным супрацоўніцтве органаў кіраўніцтва і працоўных, што аб'яднаны ў адзін супольны калектыў, і адпавядаць інтарэсам працоўных, г. знач. насіць чыста клясавы характар.

Адмін. кодэкс не павінен быць толькі ведамсьцьвеным актам, рэгулюючым дзейнасьць выключна адміністрацыйных органаў. Ня толькі адміністрацыйныя органы, але і іншыя органы ўлады, выявіўшы факт парушэньня пастаноў альбо загадаў, павінны зараз-жа спыніць паводле правіл адмін. кодэксу такія парушэньні і рабіць захады да выкананьня законаў і пастаноў улады.

Адмін. кодэкс ня можа грунтавацца на сыстэме голага адміністрацыйнага ўплыву. Так, дзейнасьць устаноў і службовых асоб не павінна выяўляцца толькі ў захадах прымусовага ўплыву супроць парушнікаў права, а павінна злучацца з захадамі дабравольнага пераконаньня грамадзян выконваць гэтыя правілы.

Пасколькі адмін. кодэкс ня можа ахапіць сабою ўсяго заканадаўчага матар'ялу у адміністрацыйнай галіне, то адміністрацыйныя органы і іншыя органы ўлады, пры ажыцьцяўленьні ўскладзеных на іх задач, павінны кіравацца і іншымі законамі СССР і БССР, што рэгулююць іх дзейнасьць, а таксама пастановамі, інструкцыямі і правіламі, якія выдаюцца у іх разьвіцьцё належнымі органамі ўлады.

Маючы самае шырокае падтрыманьне з боку ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый пры выкананьні сваіх абавязкаў, адміністрацыйныя органыя са свайго боку павінны дапамагаць усім органам савецкай улады пры ажыцьцяўленьні імі захадаў прымусовага характару, прадугледжаных законамі.

Адмін кодэкс павінен пераважна рэгуляваць дзейнасьць наступных дзяржаўных органаў: Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, адміністрац. аддзелаў акр. вык. камітэтаў, раён. вык. камітэтаў, гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў, органаў міліцыі, крымінальнага вышуку, сельскіх выканаўцаў і інш. службовых асоб.

Інтарэсы аховы рэвалюцыйнай законнасьці вымагаюць, каб скаргі на парушэньне адміністрацыйнымі органамі сваіх абавязкаў падаваліся ня толькі зацікаўленымі ўстановамі і службовымі асобамі, але і ўсімі грамадзянамі, і разглядаліся ў найхутчэйшым часе, прычым вынікі скаргаў былі вядомы скаргнікам.

Вось—асноўныя прынцыпы, на якіх павінен быць пабудован адмін. кодэкс БССР, і гэтыя прынцыпы павінны быць запісаны як агульныя падставы ў адмін. кодэкс.

Падыходзячы да разгляду ўзаемаадносін паміж органамі ўлады і грамадзянамі ў адміністрацыйнай галіне, мы пастараемся накідаць схэму такіх узаемаадносін і паглядзець, ці ёсьць у нашых беларускім заканадаўтве адпавядаючыя ім нормы.

Межы правамоцтваў кожнага адміністрацыйнага органу паказаны ва ўстаноўчых актах,—у розных палажэньнях пра народныя камісарыяты, акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы. Але, побач з пэўнымі, зафіксаванымі ў законе функцыямі некаторым адміністрацыйным органам даецца права выдаваць свае нарматыўныя акты, накіраваныя да падпарадкаваных ім устаноў ці службовых асоб, альбо накіраваныя беспасрэдна да грамадзян.

Таму першы разьдзел адмін. кодексу павінен зьмяшчаць у сабе рэгуляваньне пытаньня пра адміністрацыйныя

акты і адміністрацыйныя рэпрэсіі. У гэтым разьдзеле павінен быць прадугледжаны паасобна парадак выданьня адміністрацыйнымі органамі інструкцый і абежнікаў і паасобных абавязковых пастаноў, бо паміж гэтымі відамі адміністрацыйных актаў ёсьць значная розьніца. Пытаньне пра адмін. акты і адмін. рэпрэсіі зьяўляецца кардынальным пытаньнем савецкага адміністрацыйнага права.

Пры адсутнасьці ў савецкай сыстэме падзелу на ўлады заканадаўчую, выканаўчую і судовую, і пры аб'яднаньні гэтых функцый у адных і тых самых органах улады, якія прызваны ўсімі спосабамі імкнуцца да ажыцьцяўленьня рэвалюцыйнай законнасьці, паўстае пытаньне аб акрэсьленьні пэўнае кампэтэнцыі адміністрацыйных органаў у справе абароны сацыялістычнай дзяржавы дыктатуры пралетарыяту ад парушнікаў устаноўленага гэтаю дзяржаваю парадку. Ад грамадзкі-небясьпечных дзеяньняў альбо злачынстваў дзяржава абараняецца пры дапамозе судовых органаў праз ужываньне да правапарушнікаў альбо злачынцаў паказаных у крымінальным кодэксе БССР мер сацыяльнай абароны (арт. I КК). Цыкль гэтых грамадзка - небясьпечных дзеяньняў стала вызначан у крымінальным кодэксе.

Але ва ўзаемаадносінах органаў ўлады і грамадзян з боку службовых асоб і паасобных грамадзян можа быць парушэньне ўстаноўленых належнымі органамі правіл, што ахоўваюць рэвалюцыйны парадак, якія не зьяўляюцца грамадзка-небясьпечнымі і якія не патрабуюць свайго высьвятленьня пры дапамозе спэцыяльных судовых органаў, бо гэтыя парушэньні відавочны, а самыя правапарушнікі не зьяўляюцца сацыяльна небясьпечнымі.

Стаўшы на пункт погляду барацьбы толькі з грамадзка-небясьпечнымі дзеяньнямі, крым. кодэкс БССР у рэдакцыі 1928 г. вылучыў шэраг дзеяньняў, якія выклікалі рэпрэсіі ў адміністрацыйным парадку, хаця парадак вырашэньня адміністрацыйнымі органамі спраў аб злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 99 ч. I, 124, 140-г, 216, 220, 222, 223, 225, 226 і 226-а КК рэд. 1922 г. быў устаноўлен СНК БССР яшчэ 12 лютага 1925 г. (ЗЗ/Б-25. 9. 84).

Калі цыкль правапарушэньняў, якія выклікалі адміністрацыйныя рэпрэсіі ў 1925 г., складаў які-небудзь дзесятак назваў, то з удакладненьнем дзяржаўнага кіраўніцтва ў законе БССР пра абавязковыя пастановы і адміністрацыйныя пакараньні за 17 мая 1928 г. (ЗЗ/Б-28. 17. 160) такіх злачынстваў, якія дакладней павінны звацца правапарушэньнямі, налічваецца 15, а ў дадатку да гэтага закону за 22 лютага

1929 г.—20. Паданы-ж НКУн. Спраў УССР 17/VIII-28 г. у СНК УССР праект зьмен адмін. кодэксу ў 72 арт. устанаўляе 42 віды сталых правапарушэньняў, належачых да кампэтэнцыі адміністрацыйных органаў. Паміж іншым, у адмін. код. УССР рэдакцыі 12/Х-27 г. (ЗЗ/У-27. 63—65. 239—240) было 17 відаў правапарушэньняў, а паводле дадатковае пастановы ЦВК і СНК УССР за 4/IV-28 г. (ЗЗ/У-28. 9. 84) іх запісана 23. Мы бачым, як цыкль устойлівых правапарушэньняў, пераходзячых да кампэтэнцыі адміністрацыйных органаў, паступова пашыраецца.

Чым нашыя адміністрацыйныя органы адрозьніваюцца па сваёй істоце ад судовых? Як першыя, так і другія ёсьць непарыўная частка рабоча-сялянскіх мас. Нашыя судзьдзі не зьяўляюцца прывілейнаю, нязьменнаю карпарацыяю. І адміністрацыя наша, знаходзячыся ў безупынных узаемаадносінах з насельніцтвам, мае пэўныя падставы вырашаць жыцьцёвыя справы і ўжываць рэпрэсіі да парушнікаў сацыялістычнага парадку.

Вельмі паказальнымі зьяўляюцца суадносіны паміж колькасьцю разгледжаных судовымі органамі крымінальных спраў і адміністрацыйнымі органамі адміністрацыйных правапарушэньняў. Мы маем даныя за 1925—1928 г. г. [1]).

| Годы | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
|---|---|---|---|---|
| Судовых спраў . . (усяго) | 97.985 | 104.496 | 122.833 | 140.000 (прыбл.) |
| Адмін. спраў | | (прыбл.) | | |
| У гарадох . . . . | 16.535 | 22.000 | 27.740 | 30.845 |
| У сел. мясц. . . . | 9.692 | 13.000 | 22.267 | 34.017 |
| Усяго. . . | 26 227 | 35.000 | 50.007 | 64.862 |
| % адмін. спраў. . | 26,9% | 33,5% | 41% | 46% |

Мы бачым, як паступова павышаецца процант адміністрацыйных правапарушэньняў, на якія напісаны пратаколы адмін. органаў, і які значны ўдзел бярэ адміністрацыя ў справе ажыцьцяўленьня рэвалюцыйнай законнасьці.

Народныя камісарыяты і іншыя цэнтральныя ведамствы для ажыцьцяўленьня ўскладзеных на іх задач, павінны вы-

[1]) Даныя атрыманы ў НК Унутр. Спраў ад С. М. Слупскага.

даваць такія акты, якія, носячы часовы характар, датычаць усіх грамадзян Саюзу ССР альбо саюзных рэспублік. Невыкананьне такіх актаў, побач з крымінальнаю адказнасьцю выклікае адказнасьць пераважна у адміністрацыйным парадку. Пералічыць гэтыя паасобныя ведамьцьсвеныя акты ў адміністрацыйным кодэксе няма магчымасьці, але ўстанавіць парадак іх выданьня—канечна патрэбна [1]). Такімі ведамственнымі актамі зьяўляюцца: інструкцыі, абежнікі і абавязковыя пастановы.

Інструкцыі выдаюцца цэнтральнымі органамі на разьвіцьцё і ў паясьненьне некаторых законаў альбо паводле спэцыяльных даручэньняў заканадаўчых органаў, альбо і па сваёй ініцыятыве, калі трэба ўстанавіць парадак дзейнасьці падпарадкаванага мясцовага органу ў галіне пэўнае функцыі, законам у належай ступені не акрэсьленай.

Абежнікі выдаюцца таксама цэнтральнымі органамі і накіраваны да службовых асоб альбо ўстаноў і датычаць іх ведамсьцьвенай работы. Інструкцыі і абежнікі могуць зьмяшчаць у сабе пэўныя абавязкі для грамадзян, невыкананьне якіх выклікае адміністрацыйныя рэпрэсіі.

Абавязковыя пастановы выдаюцца Эканамічнай Нарадай (ЗЗ/Б-27. 26. 124, арт. 3 п. а), народнымі камісарыятамі, да кампэтэнцыі якіх, паводле агульнага палажэньня аб народных камісарыятах БССР (ЗЗ/Б-24. 25-26. 222), належыць, паміж іншым, і выданьне „абавязковых пастаноў з паказаньнем у іх адказнасьці за іх парушэньне ў адміністрацыйным альбо судовым падарку на падставе дзеючых аб гэтым законаў“.

Адмін. кодэкс БССР павінен запоўніць прабел нашага заканадаўства аб парадку выданьня цэнтральнымі ведамствамі (народнымі камісарыятамі) сваіх распараджэньняў (інструкцый, абежнікаў, загадаў, абавязковых пастаноў і інш.), а таксама аб парадку скасаваньня такіх ведамсьцьвеных актаў, якія супярэчаць законам, бо паст. ЦВК і СНК БССР за 14 мая 1927 г. „аб апублікаваньні і часе ўваходжаньня ў сілу законаў і загадаў ураду БССР, а таксама загадаў народных камісарыятаў БССР“ (ЗЗ/Б-27. 24. 112) пастаўленага намі пытаньня не вычэрпвае. Гэтая пастанова прыроўнівае загады народных камісарыятаў і іншых цэнтральных устаноў, якія выдаюцца паводле даручэньняў заканадаўчых органаў у разьвіцьцё законаў, да законаў у сэнсе іх апублікаваньня ў Зборы

---

[1]) В. Власов. Ведомственные обязательные постановления. (Админ. Вестник 1927 г. №№ 1 и 2).

Законаў і ўваходжаньня ў сілу на ўсёй тэрыторыі БССР праз 7 дзён пасьля іх апублікаваньня, калі ў пастанове не паказаны спэцыяльны тэрмін.

Мясцовыя органы ўлады (акруговыя і раённыя вык. камітэты, гарадзкія, сельскія і местачковыя саветы) таксама павінны ўваходзіць у розныя ўзаемаадносіны з грамадзянамі на глебе інтарэсаў, датычных да пэўнае тэрытарыяльнае адзінкі.

Першая частка закону БССР за 17 мая—28 г. з дадаткам за 22/II-29 г. „пра парадак выданьня абавязковых пастаноў мясцовымі органамі"—можа легці у аснову разьдзелу праекту адмін. код. БССР аб адміністрацыйных актах мясцовых органаў.

У справе выданьня абавязковых пастаноў трэба вырашыць пытаньне, ці можна даць права сельскім і местачковым саветам выдаваць абавязковыя пастановы.

На Украіне адпаведны праект унесены НКУС у СНК яшчэ 28/IX-28 г. Ва ўмовах БССР, з нязначным апаратам сельскіх саветаў, бадай ці мэтазгодна даваць ім права выдаваць абавязковыя пастановы.

Больш важнае пытаньне, што да тэрміну, на які павінны выдавацца абавязковыя пастановы. У УССР пастаўлена пытаньне пра ўстанаўленьне бестэрміновасьці абавязковых пастаноў. Аб патрэбе такога парадку НКУС і НКРСІ УССР упэўніліся пасьля правядзеньня ў першай палове 1928 г. абсьледваньня нізавых органаў улады. Такую навіну нельга не вітаць, бо пачынаць пасьля зыходу гадовага тэрміну абавязковай пастановы працадуру панаўленьня яе ня мае жаднага сэнсу.

Характар адміністрацыйных рэпрэсій дваякі: адны накладаюцца, як адміністрацыйныя пакараньні за парушэньне парадку і спакою, а другія — зьяўляюцца мерамі адмін. уплыву, як меры засьцерагаючыя ад злачынства, як меры пры выяўленьні злачынства, як меры для прымушэньня выканаць бясспрэчныя абавязкі грамадзян.

Да першае групы адмін. рэпрэсій належаць: выгавар, штраф ня больш за 100 руб. і прымусовыя работы ня больш за адзін месяц. У БССР гэтае пытаньне рэгулюецца II-ю часткаю закону пра абавязковыя пастановы, які можа быць уключаны ў адпаведны аддзел адмін. кодэксу БССР.

Адным з відаў адмін. пакараньняў зьяўляюцца дысцыплінарныя пакараньні, што накладаюцца на службовых асоб за ўчыненыя імі недагляды і правіннасьці па службе, не прадугледжаныя правіламі ўнутранага парадку. Такія пра-

вінкі вельмі часты і зьяўляюцца вынікам невыкананьня службовымі асобамі дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і арганізацый інструкцый і абежнікаў цэнтральных ведамстваў. УССР дысцыплінарных пакараньняў не ўключае ў свой адмін. кодэкс, але мы лічылі б за патрэбнае ўключыць іх у праект адмін. кодэксу БССР. У нас гэтае пытаньне рэгулюецца паст. ЦВК і СНК/Б-28/VII-28 г. (ЗЗ/Б-28. 22. 223).

Да другое групы адміністрацыйных рэпрэсій належаць у парадку паступовасьці ад менш лёгкіх да больш цяжкіх: 1) спагнаньне сум непадатковага характару ў бясспрэчным парадку, 2) выкананьне за кошт абавязанага такіх дзеяньняў, якія абавязаная асоба павінна была выканаць, але ня выканала, 3) вобыскі і выняцьці, 4) рэквізіцыі і канфіскацыі, 5) высяленьне з кватэр, 6) асабовае затрыманьне, 7) адміністрацыйная высылка, 8) ужываньне зброі і выкліканьне ваеннае сілы, 9) надзвычайныя меры аховы рэвалюцыйнага парадку—надзвычайны і ваенны стан.

Парадак спагнаньня падаткаў устаноўлены Саюзным заканадаўствам, пастановаю ЦВК і СНК СССР за 2/Х-25 г. (ЗЗ/С-25. 70. 518). Што датычыць спагнаньня сум непадатковага характару, напрыклад, хоць бы штрафаў за парушэньне абавязковых пастаноў, то парадак спагнаньня іх ніякім актам у БССР не ўстаноўлен, а робіцца гэта дапасоўна да пастановы Саюзнага Ураду аб парадку спагнаньня падаткаў і выданых у разьвіцьцё яе урадам БССР дадатковых законаў. (Аб парадку ўжываньня арт. 17 саюзн. палаж. — ЗЗ/Б-26. 26. 97; правілы правядзеньня арышту і продажу з публічных таргоў маемасьці за няплату падаткаў — ЗЗ/Б-26. 49. 183; і дадаткаў да гэтых правіл — ЗЗ/Б-28. 8.50; 28. 22. 227). Хаця праектуемы парадак спагнаньня непадатковых сум, нормы аб якім раскіданы па заканадаўству БССР і нават саюзнаму, будзе блізкі да парадку, усталеным саюзным законам аб спагнаньні падаткаў, аднак з рэглямантаваньнем гэтага пытаньня будзе ўнесена ў заканадаўства большая яснасьць.

Выкананьне за кошт абавязанага паводле пастаноў адміністрацыйных органаў, калі грамадзянамі будзе дапушчана такая нядбайнасьць, якая будзе пагражаць грамадзкай бясьпецы альбо народнаму здароўю, таксама павінна ўвайсьці ў адмін. кодэкс. Гэты прынцып невядомы заканадаўству БССР і ўпершыню быў праведзены у адмін. Кодэксе УССР.

Вобыскі і выняцьці, а таксама асабовае затрыманьне праводзяцца адмін. органамі ў разе выкананьня імі сьледчых функцый. Міліцыя, праводзячы вобыскі і выняцьці, а так-

сама арышты, кіруецца адпаведнымі артыкуламі КПК і спэцыяльнымі інструкцыямі, з якіх важнейшымі зьяўляюцца інструкцыі міліцыі і крым. вышуку аб парадку правядзеньня дазнаньняў за 14/IV-26 г., і органам міліцыі для складаньня пратаколаў і правядзеньня дазнаньняў па справах аб парушэньні абавязковых пастаноў і аб злачынствах, што павінны разглядацца ў адмін. парадку—за 9/IV-26 г. Права праводзіць вобыскі і выняцьці, а таксама арышты трэба даць і старшыням сельскіх саветаў, альбо ўпаўнаважаным на гэта членам сельскіх саветаў у тых мясцовасьцях, дзе няма органаў міліцыі. Аб наданьні такога права старшыням сельскіх саветаў падпаны адпаведны праект ураду УССР 17/VIII-28 г., а ў РСФСР гэтае права дадзена паст. ЦВК і СНК РСФСР—20/XII-27 г. (СУ/У-28. 5. 43). Такая мера палегчыць змаганьне з злачынствамі ў глухіх кутках Беларусі.[1])

Рэквізіцыя маемасьці прыватных асоб і таварystваў робіцца ў БССР паводле выданай на разьвіцьцё арт. 69-70 ГК паст. ЦВК і СНК/Б за 26/III-27 г. (ЗЗ/Б-27. 17. 71) і дадатку да яе (ЗЗ/Б-28. 38. 964). Рэквізіцыя праводзіцца спэцыяльнаю камісіяю пры АВК—органамі адміністрацыйнымі, таму ёй месца ў адмін. кодэксе.

Канфіскацыя ў адмін. парадку маецца на мэце тых рэчаў, якія вылучаны з маемасна-праўнага звароту, а таксама якія павінны быць канфіскаваны ў адмін. парадку паводле спэцыяльнага загаду органаў улады. Такая канфіскацыя праводзіцца ў БССР дапасоўна да саюзнага закону пра абмежаваньне канфіскацыі па суду (ЗЗ/С-27. 35. 365) і выданае ЦВК і СНК/Б у разьвіцьцё яе спэцыяльнай пастановы за 19/I-28 г. (ЗЗ/Б-28. 4. 27), у якой пералічаны рэчы, якія ня могуць быць канфіскаваны.

Мы прапануем унесьці у адмін. код. спэцыяльны разьдзел пра высяленьне з кватэр у адмін. парадку. У адмін. код. гэтае пытаньне незапісана. У БССР яно рэгулюецца шэрагам законаў[2]) і мяркуецца быць запісана ў Жыльлёвы кодэкс. Высяленьне ў адміністрацыйным парадку праводзіцца адміністрацыйнымі органамі і зьяўляецца тыповаю формаю адміністрацыйнай рэпрэсіі, якая вельмі часта ўжываецца належнымі органамі. Мэтазгоднасьць патрабуе пераняесеньня пытаньня аб адміністр. высяленьні іменна ў адмін. кодэкс.

---

[1]) Овсянников. Об обысках и выемках, производимых сел. советами (Админ. Вестн. 28 г. № 8).

[2]) ЗЗ/Б-27. 12. 42; 28. 15. 124; 28. 35. 324.

Ужываньне зброі ў БССР рэгулюецца інструкцыямі НКУС вартоваму міліцыянэру (арт. 13-14) і квартальнаму наглядчыку і пра парадак канваіраваньня арыштаваных органамі міліцыі ў гарадох і раёнах (арт. 37). Адмін. код. БССР павінен прадугледзець—выпадкі, умовы ўжываньня і адказнасьць за ўжываньне зброі, як гэта зроблена ў адмін. кодэксе УССР. Паміж іншым, пытаньне гэтае належным чынам не ўрэгулявана і ў РСФСР.[1])

Надзвычайны і ваенны стан рэгулюецца пастановаю ЦВК і СНК СССР за 3/IV-25 г. (ЗЗ/С-25. 25. 167) і дадаткам да яе (ЗЗ/С-29. 8. 74). Гэтая пастанова дае агульныя падставы, а спэцыяльныя нормы павінны быць запісаны ў адмін. кодэкс БССР.

Такім чынам мы разгледзелі тую частку дзейнасьці адмін. органаў, якая датычыць пераважна яе адміністрацыйна-судовых функцый.

Матар'ялам для другое часткі адмін. кодэксу павінна быць фактычная дзейнасьць адміністрацыйных органаў, накіраваная для забесьпячэньня рэвалюцыйнага парадку і бясьпекі. Гэтая дзейнасьць адміністрацыі носіць пераважна тэхнічны характар.

Да 1-ае групы норм, што павінны ўвайсьці ў другую частку адмін. кодэксу, належаць такія, якія легалізуюць паасобных грамадзян, як суб'ектаў публічна-праўных адносін: парадак вядзеньня актаў грамадзянскага стану, парадак набыцьця чужаземцамі грамадзянства БССР, парадак выхаду і губляньня грамадзянства БССР, рэгістрацыя і падлік насельніцтва БССР. Мы лічым за патрэбнае ўключыць у гэты разьдзел пытаньне пра парадак вядзеньня актаў грамадзянскага стану, якое ня ўключана у адмін. код. УССР. Нельга не згадзіцца з довадамі праф. А. Еуціхіева і І. Сухаплюева, выказанымі імі на паседжаньні Харкаўскага Юрыдычнага Таварыства 14/III-1927 г., што пытаньне аб запісу актаў грамадзянскага стану выпадкова аднесена да кодэксу законаў аб сям'і і шлюбе.

Да 2-ое групы норм належаць такія, якія легалізуюць аб'яднаньні грамадзян, як суб'ектаў публічна-праўных адносін, іменна: пытаньні пра таварыствы і саюзы, што ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку, пра клюбы, зьезды, нарады, канфэрэнцыі, сходы, працэсіі, маніфэстацыі, публічныя відовішчы і забавы, гульні лётэрыі, культы. З гэтых

---

[1]) А. Мемнонов. О применении оружия. Админ. Вестник 1928 г, № 4.
[2]) В. С. Ю. ст. 1927 г. № 9-10, ст. 351.

пытаньняў заканадаўства БССР рэгулюе толькі пытаньне пра таварыствы і саюзы (ЗЗ/Б-26. 30. 110; 28. 1. 2), да у агульных рысах — пра зьезды, нарады і канфэрэнцыі— арт. 6 агульнага палаж. аб народных камісарыятах БССР (ЗЗ/Б-24. 25-26. 222). Пытаньне пра сходы, працэсіі, маніфэстацыі і публічныя відовічшы толькі намечана арт. 68 п. „б" і арт. 83 п. „в" паст. пра рэарганізацыю і спрашчэньне сав. апарату (ЗЗ/Б-28. 6. 36)—рэлігійныя працэсіі— і разьдз. IV інструкцыі старшаму міліцыянэру (абавязкі па нагляду за ахаваньнем правіл рэвалюцыйнага парадку у адносінах друку, грамадзкіх працэсій, маніфэстацый, культ.-асьветных установ і публічных відовішчаў). Зусім не ўрэгулявана ў нас пытаньне пра клюбы, лётэрыі і неазартныя гульні. Азартныя забаронены (ЗЗ/Б-28. 18. 176).

Да 3-цяе групы належаць нормы, што ўскладаюць на грамадзян пэўныя абавязкі: адміністрацыйныя абавязкі домакіраўцтваў (паст. СНК/Б-15/IV-27 г. ЗЗ/Б-27 31. 155), абавязкі сельскіх выканаўцаў (паст. ЦВК і СНК/Б-21/IX-24—ЗЗ/Б-25. 4-5. 13;29/V-25—ЗЗ/Б-25. 29. 278),—абавязкі дворнікаў і начных вартаўнікоў; абавязкі грамадзян пры стыхійных няшчасьцях (паст. ЦВК і СНК/Б-15/III-28—ЗЗ/Б-28. 12. 97), дарожная павіннасьць (праект уносіцца на зацьверджаньне СНК/Б), абавязкі грамадзян у адносінах да прыблуднае жывёлы (ЗЗ/Б-27. 5. 18). Да гэтае групы трэба аднесьці пытаньні пра сьцягі, пячаткі і штампы, нагрудныя знакі і шыльды. У БССР рэгулюецца пытаньне пра парадак карыстаньня пячаткамі з дзяржаўным гэрбам (ЗЗ/Б-25. 24. 319). Парадак карыстаньня дзяржаўнымі сьцягамі і наогул сьцягамі у нас не прадугледжан законам. Не нармавана пытаньне пра шыльды і нагрудныя знакі. Апошнія два пытаньні ў першапачатковы тэкст адм. код. УССР не былі запісаны, але практыка выклікае запісаць іх, аб чым пададзены ў заканадаўчы орган адпаведны праект.

Да 4-ае групы належаць нормы, што ўстанаўляюць парадак нагляду адміністрац. органаў у галіне прамысловасьці і гандлю. Такі нагляд складае беспасрэдныя функцыі адміністрацыйных органаў, хаця на Украіне Харкаўскае Юрыдычнае Таварыства не спрыяла ўключэньню гэтых норм у адмін. кодэкс. Гэтая група павінна распадацца на два разьдзелы: 1) нагляд за прамысловасьцю і 2) нагляд за гандлем. Папаўняць прабелаў у заканадаўстве БССР ня прыдзецца. Нагляд за паліграфічнымі прадпрыемствамі рэгулююецца інстр. НКУС—10/X-28 г. (БС-28. 13. 10), за вырабам і гандлем паляўнічаю зброяю—інстр. НКУС—25/VIII-26 (БС-26.

11-14); парадак вядзеньня гандлю—аб. НКУС. НКГ і НКП—3/XII-25 (БС-25. 8-25); вячэрні гандаль—24/V-26 (БС—26. 8—15), этыкетныя цэны — інстр. СНК — 10/III-26 (ЗЗ—26. 18. 62). Ёсьць шэраг норм, што рэгулююць спэцыяльныя віды гандлю: віно (ЗЗ—26. 23. 87; 28. 7. 41), лякарствы (ЗЗ—27. 4. 15), наркатычныя матэрыі (ЗЗ—28. 32. 308).

Апошняя частка адмін. код. павінна зьмяшчаць у сабе парадак абскарджаньня дзеяньняў адмін. органаў. Матар'ялам можа служыць закон пра абавязковыя пастановы. На Украіне ў гэтую частку мяркуецца ўнесьці спэцыяльныя артыкулы пра парадак разгляду наогул скаргаў, што падаюцца рабочымі і сялянамі ва ўстановы.

Падводзячы ітог вышэйсказанаму, мы павінны адзначыць, што адм. кодэкс павінен унесьці значнае ўпарадкаваньне ў справу ўнутранага кіраўніцтва БССР. Гэты кодэкс павінен злучыць у сабе звыш 50 паасобных законаў, выданных на працягу часу з 1922 г., ён павінен скасаваць цэлы шэраг ведамсьцьвеных распараджэньняў, якія рэгулююць у нас важныя пытаньні ўнутранага кіраўніцтва.

---

**Праект адміністрацыйнага кодэксу БССР (зьмест).**

I. Агульныя палажэньні.
II. Адміністрацыйныя акты.
  1. Інструкцыі і абежнікі.
  2. Абавязковыя пастановы.
    а) Абавязк. пастановы цэнтральных ведамстваў.
    б) Абавязк. пастановы мясцовых органаў.
III. Меры адміністрацыйнага ўплыву.
  1. Меры адмін. ўплыву за парушэньне адмін. актаў.
  2. Меры адмін. ўплыву за малаважныя правапарушэньні.
  3. Дысцыплінарныя пакараньні.
  4. Меры прымусовага ўплыву.
    а) Спагнаньне сум непадатковага характару.
    б) Выкананьне за кошт абавязанага.
    в) Вышукі і выняцьці.
    г) Рэквізіцыі і канфіскацыі.
    д) Высяленьне з памяшканьняў.
    е) Адмімістрацыйная высылка.
    ж) Ужываньне зброі і выкліканьне вайсковых каманд.
    з) Надзвычайны і ваенны стан.

IV. Акты грамадзянскага стану.
V. Грамадзянства БССР.
 1. Грамадзянства БССР.
 2. Парадак набыцьця чужаземцамі грамадзянства БССР.
 3. Парадак выхаду з грамадзянства БССР.
 4. Губляньне грамадзянства БССР.
VI. Рэгістрацыя і падлік насельніцтва.
 1. Пасьведчаньне асобы.
 2. Аднаўленьне згубленых дакумэнтаў.
 3. Рэгістрацыя насельніцтва.
 4. Перамяшчэньне насельніцтва ў БССР.
 5. Віды на пражываньне чужаземцаў.
 6. Уезд у БССР і выезд з БССР.
VII. Таварыствы, саюзы, клюбы, зьезды, сходы.
 1. Таварыствы і саюзы, што ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку.
 2. Клюбы.
 3. Зьезды, нарады і канфэрэнцыі.
VIII. Публічныя відовішчы, забавы, гульні.
 1. Публічныя відовішчы і забавы.
 2. Гульні.
 3. Лётэрыі.
IX. Культы.
X. Павіннасьці грамадзян.
 1. Павіннасьці грамадзян пры стыхійных няшчасьцях.
 2. Працоўна-дарожная павіннасьць.
XI. Абавязкі насельніцтва па ахове грамадзкага парадку.
 1. Адміністрац. абавязкі домакіраўніцтваў.
 2. Дворнікі і начныя вартаўнікі.
 3. Сельскія выканаўцы.
 4. Абавязкі насельніцтва ў адносінах да прыблуднае жывёлы.
XII. Сьцягі, пячаткі, шыльды.
 1. Дзяржаўныя сьцягі.
 2. Пячаткі і штампы.
 3. Нагрудныя знакі.
 4. Шыльды.
XIII. Нагляд адміністрацыйных органаў у галіне прамысловасьці.
 1. Нагляд за паліграфічнымі прадпрыемствамі.
 2. Нагляд за вырабам прыватнымі асобамі зброі і выбуховых матэрый.

XIV. Нагляд адміністрацыйных органаў за гандлем.
1. Агульныя правілы вядзеньня гандлю.
2. Этыкетныя цэны.
3. Спэцыяльныя віды гандлю.
а) Агульнае палажэньне аб спэцыяльных відах гандлю.
б) Гандаль зброяю і ўзрыўным і матэрыямі.
в) Гандаль сьпірытусам і віном.
г) Гандаль друкарскімі машынамі.
д) Гадаль мэдыкамэнтамі.

XV. Парадак абскарджаньня дзеяньняў адміністрац. органаў і разгляду скаргаў, што падаюцца рабочымі і сялянамі ва ўстановы.

---

Дацэнт В. Т. Чэрвакоў.

# Да экспэртызы стрэлу.

Нельга не згадзіцца з Meixner-ам, выказаўшым у аднэй з сваіх прац выслоўе: Die Shussverletzungen sind so mannigfaltig, dass wir bei aller Erfahurung niemals auslernen. Судова-мэдыцынская практыка і жыцьцё нярэдка дае выпадкі, калі разьвязаньне пастанаўленых сьледзтвам і дазнаньнем пытаньняў прадстаўляецца вельмі складным. Асабліва цяжкімі для дыагностыкі зьяўляюцца выпадкі, калі ў працэсе папярэдняга сьледзтва не было зьвернута належнае ўвагі на выняцьце, хаваньне і агляд рэчавых довадаў, што бываюць вельмі часта надзвычайна важнымі для высьвятленьня галоўных пытаньняў па справах аб агнястрэльных пашкоджаньнях. Да жалю трэба адзначыць, што ў вялікім процанце выпадкаў, як гэта паказвае нам судовая практыка, прадстаўнікі дазнаньня і сьледзтва не прыдаюць рэчавым довадам таго значэньня, якое яны маюць для выкрыцьця злачынства. Чытаючы крымінальныя справы, нам колькі разоў прыходзілася на вокладках гэтых спраў бачыць: „рэчавых доказаў па справе ня маецца", альбо яшчэ больш кур'ёзныя: „рэч-доказы па справе зьнішчаны", альбо — „зьвернуты ўладаром па належнасьці". У гэткіх выпадках экспэртыза бывае прымушана выносіць сваё заключэньне ў межах праўдападобнасьці альбо дапушчэньня, а суд бывае прымушаны ўжываць пасярэдныя довады. Пры правядзеньні пераэкспэртыз прыходзіцца таксама канстатаваць, што первастковыя экспэртызы і, у першую чаргу, агляд рэчавых довадаў і запіс у пратакол гэтага агляду, зроблены вельмі павярхоўна, няпоўна, прычым галоўныя дэталі бываюць альбо апушчаны альбо апісаны няясна і няправільна. Усё гэта, напэўна, самым сэр'ёзным чынам тармозіць і перашкаджае сваячасоваму і поўнаму выкрыцьцю злачынства, уводзячы суд у аблуду альбо накіроўваючы думку судзьдзі па фальшывым шляху.

У працэсе папярэдняга і судовага сьледзтва па крымінальных справах, у якіх гаворыцца аб агнястрэльных пашкоджаньнях, на разгляд экспэртызы звычайна ставяцца пытаньні: аб адлегласьці стрэлу, колькасьці стэлаў, напрамку кулявага каналу, уваходнай і выходнай адтуліны, а таксама ў некаторых выпадках аб сыстэме зброі, з якое зроблены стрэл.

У тых выпадках, калі стрэл зроблены ў пакрытае адзеньнем цела, цэнтр цяжару экспэртызы ляжыць у аглядзе і дасьледаваньні адзеньня. Трэба заўважыць, што пытаньні дасьледваньня адзеньня, зьяўляючыся нібы пагранічнымі ў судовай мэдыцыне і крыміналістыцы, прадстаўляюцца да сёньнешняга дню мала распрацаванымі і высьветленымі. Прыходзіцца канстатаваць, што мэтады, прапанаваныя featureрознымі аўтарамі, напрыклад для вызначэньня пораху у адзеньні альбо да вызначэньня апаленьня на тканіне, яшчэ далёкія ад дасканаласьці. Форма і ўласьцівасьці агнястрэльнае адтульны ў тканіне залежыць, як вядома, ад шмат якіх прычын, прычым гэтая форма і велічыня пры стрэлах з аднае зброі аднолькавымі патронамі могуць мяняцца ў залежнасьці ад шэрагу момантаў, як: ад характару падлеглых частак цела, сілы супраціўленьня самое тканіны, напрамку і таўшчыні тканінных валокнаў і нарэшце ад адлегласьці і напрамку, пад якім быў зроблены стрэл. Таму зусім натуральна, што кулявыя адтуліны на розных гатунках тканіны адрозьніваюцца вялікаю рознастайнасьцю ў сэнсе велічыні і формы. Яны маюць шчылінавідную, шчылінавідна-авальную, авальную, круглаватую, простакутную, трохсьценную, а ў некаторых выпадках — дзівосную няправільную форму. Пры стрэлах у шчыльныя тканіны кулявая адтуліна мае канфігурацыю профіля кулі ў момант праходжаньня апошняе праз тканіну. Так напрыклад, мы колькі разоў мелі магчымасьць наглядаць у час экспэрымэнтаў з кароткаствольнымі абрэзамі рускае 3-х лінейнае вінтоўкі і францускае вінтоўкі Лебэля, што адтуліна на шынелі вайсковага ўзору і летняй гімнасьцёрцы пры пападаньні плахам з дакладнасьцю паўтаралі канфігурацыю кулі, якая пападае плахам. Шэраг аўтараў лічыць, што ўмовы праходжаньня кулі праз тканіны адзеньня тыя самыя, што і праз цела чалавека. Куля ня проста прарабляе адтуліну ў матэрыі адпаведна свайму калібру, а спачатку націскае на матэрыю, затым выцягвае яе і, нарэшце, прабівае; пры гэтым у залежнасьці ад сваегнуткасьці прасьвет можа сьцягвацца і можа часамі быць менш за дыямэтр кулі. Звычайна таўшчыня матэрыі на велічыню прасьвету асаблівага значэньня ня мае.

Апроч уласьцівасьцяй самое матэрыі, на велічыню і характар адтуліны ў тканіне мае ўплыў сыстэма і калібар зброі, гатунак пораху і адлегласьць стрэлу.

Што датычыць мэтодыкі атрыманьня з кавалкаў тканін адзеньня парахавых часьцінак, то належыць адзначыць, што да сучаснае пары яна не зьяўляецца аднастайнаю. Паасобнымі аўтарамі прапанованы розныя спосабы апрацоўкі тканін для вылучэньня з апошняе парахавых часьцінак. Löchte рэкамандую пастукваць дасьледаваемыя кавалкі матэрыі над аркушам белае паперы і над пазьбіранымі такім спасабам часьцінкамі і пылам рабіць хэмічныя дасьледваньні. Jansch і Meixner раяць саскабліваць вострым струмантам матэрыю навакол уваходнае адтуліны і над саскобам рабіць дасьледваньне. Пры паказаных спосабах частка матар'ялу натуральна прападае для дасьледаваньня. У навейшы час Hilschenz запрапанаваў чысьціць дасьледваемыя кавалкі адзеньня зубною шчоткаю, паказваючы, што гэты спосаб дае мажлівацьць больш надзейнага зьбіраньня ўсіх часьцінак, што ёсьць на даным вучастку адзеньня, прычым падобную „чыстку" належыць паўтараць неаднакраць да тэй пары, пакуль не застанецца ў тканіне жаднае часьцінкі, якая дае рэакцыю на порах. Паводле заявы Hilschenz тэхніка запрапаванага ім мэтаду патрабуе пэўнае навычкі і вопыту, прычым пры правільным ужываньні яна дае значна больш дакладныя вынікі ў сэнсе найбольшага атрыманьня знаходзячыхся ў тканіне часьцінак, чымся ўсе іншыя запрапаваныя для гэтага спосабы, асабліва праз пастукваньне і выцярушваньне.

Шэрагам іншых аўтараў запрапанаваны для атрыманьня імпрэгніраваных у тканіне часьцінак мэтад выціска080ньня на якой небудзь больш мягкай подсьцілцы. G. Strassmann рэкамандуе дзеля гэтае мэты парафін, іншыя аўтары вільготную прамакацельную паперу і гліцарыну-жэлатыну.

Dyrenfurth і Weimann запрапанавалі дзеля гэтае мэты мастызол. Мэтодыка названых аўтараў досыць арыгінальная, і мы лічым не пазбаўленым цікавасьці спыніцца на ёй у некалькіх словах. Пры дапамозе сагнутае пад простым кутом шкляное палачкі мастызол роўнамерна размазваецца на аркушы шчыльнага белага картону. Пачакаўшы некаторы час, покуль мастызоль не загусьцее, на яго кладуць апрабоўваемы кавалак скуры альбо матэрыі. Дотык мастызолавага слою з прадметам, што дасьледваецца, павінен быць шчыльным. Пасьля гэтага захоўваючы асьцярожнасьць аддзяляюць кавалкі скуры альбо адзежы, што дасьледуюцца,

ад картону, прычым у дадатных выпадках у мастызоле застаецца большая частка парахавых часьцінак. Аўтары, якія прапануюць гэты спосаб, запэўняюць, што ён дае магчымасьць прасачыць зону расьсейваньня парахавых часьцінак. Апроч таго паасобныя часьцінкі можна выцягнуць тонкім пінцэтам з прыклейваючага слою і зрабіць над ім хэмічнае дасьледваньне гідратам тленьніку калію, рошчынам дыфэніламіну ў кіслаце сярчанай.

Калі склейваючая матэрыя перашкаджае выпадзеньню рэакцый, то аўтары рэкамандуюць папярэдняе абмываньне часьцінак хлёраформам альбо этарам. Калі у якасьці прыклейваючае матэрыі ўжываецца гліцарына-жэлятына, то патрабуецца безадкладная апрацоўка часьцінак рашчынам дыфэніламіна ў кіслаце сярчанай, бо апошняя хутка рашчыняе гліцарыну-жэлятыну.

Разам з гэтым памянутыя аўтары перасьцерагаюць супроць дыфэніламінавае рэакцыі пры ўжываньні цэлёідынавых плястынок, паказваючы, што апошнія самі па сабе пры ўплыве рошчыну дыфэніламіну ў кіслаце сярчанай даюць сіняе афарбаваньне. Такі мастызолавы картон з атрыманымі парахавымі часьцінкамі можна захаваць у якасьці рэчавага доваду для паданьня ў судовае паседжаньне, пакрыўшы яго празрыстаю матэрыяю, як напрыклад, цэлёідынаваю плёнкаю.

Нельга не адзначыць надзвычайна просты па выкананьні і даючы ў паасобных выпадках вельмі эфэктную карціну спосаб выяўленьня прысутнасьці ў тканіне парахавых часьцінак — спосаб Kenyeres'a. Асабліва пры дасьледваньні тонкіх тканін названы спосаб дае вельмі ясныя рысункі.

Wietrich зусім правільна адзначае, што пры апісаных намі вышэй выпадках атрыманьня парахавых часьцінак з тканін, некаторая колькасьць гэтых часьцінак, якія сядзяць глыбака ў матэрыі, ня будзе выяўлена ні пастукваньнем, ні прыклейваньнем. Гэтыя менавіта часьцінкі прадстаўляюць асаблівую цікавасьць таму, што яны ў некаторых выпадках пры нядбайным абыходжаньні і неадпавядаючым пакаваньні і перасылцы толькі і могуць затрымацца у адзеньні, у тэй час, як часьцінкі, што сядзяць на паверхні, могуць адпасьці і быць выцерушанымі.

Дзеля доваду прысутнасьці парахавых часьцінак у тканіне і іх мейсца разьмеркаваньня Kenyeres рэкамандуе прасьвечаньне і здымку тканіны пры дапамозе сьветавых праменьняў і праменьняў рэнтгэну. Кавалачак матэрыі альбо скура трупа кладзецца на сьветаадчувальную фатаграфічную

плястынку (надворны бок матэрыі альбо эпідэрміс скуры ў кантакце з сьветаадчувальным слоем) і прасьвечваецца ў цёмнай каморы пры дапамозе ілюмінатара, затым праяўляецца. Каб забясьпечыць ад забруджваньня сьветаадчувальны слой плястынкі, неабходна ў некаторых выпадках паміж ёю і дасьледваемым кавалкам скуры трупа палажыць празрыстую плёнку. Пры афарбованых матэрыях Wietrich рэкамандуе ўжываньне адпаведных сьветафільтраў. Пры тоўстых і цёмных тканінах паводле Wietrich неабходна карыстацца прасьвечваньнем рэнтгэнаўскімі праменьнямі. Спосаб Ķепуеres заслугоўвае нашае асаблівае ўвагі, бо ён мае велізарныя перавагі перад памянутымі вышэй спосабамі. Перш за ўсё, парахавыя часьцінкі не падпадаюць жадным зьменам пры прасьвечваньні і такім чынам захоўваюцца як аб'ект для дасьледваньня, і над імі можна рабіць любое далейшае спэцыяльнае дасьледаваньне. Пры атрыманьні часьцінак з тканіны нэгатывы могуць быць найлепшым паказчыкам. Апроч паказанага пазытывы могуць быць далучаны да справы у якасьці рэчавага доваду.

Мы неаднакрацьмелі магчымасьць пры правядзеньні экспэртыз у лябараторыі судовай мэдыцыны Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту спрабаваць і мэтад Ķепуеres і павінны прызнаць асаблівую каштоўнасьць гэтага спосабу. На далучаных да гэтае працы фатаграфічных здымках відаць рэльефна выдзяляючыяся зерні празнае велічыні і канфігурацыі, якія групуюцца галоўным чынам навакол кулевае адтуліны. Колер і рысунак матэрыі пры ўжываньні гэтага спосабу асаблівага ўплыву на выяўленьне імпрэгніраваных парахавых часьцінак ня мае. Як відаць на здымку № 1, на зусім цёмнай мярэжнай тканіне ўнетраньне парахавых зерняў заўважваецца зусім выразна. У тых магчымых выпадках з тканінамі, калі апошнія асабліва густа афарбованы альбо насякнуты цёмнымі афарбоўваючымі матэрыямі, магчыма ўжыць дзеля яснасьці адбіткаў адпаведныя сьветафільмы. Больш цяжкім зьяўляецца выявіць прысутнасьць староньніх часьцінак у шчыльных таўстых слаба сьветапранікальных тканінах, як напрыклад, драп, таўстое шынэльнае сукно. Пры падобных экпэртызах можа спаткацца неабходнасьць ужыць прасьвечваньне дасьледваемага кавалку тканіны рэнтгэнаўскімі праменьнямі. Напэўна заўсёды трэба мець на ўвазе, што пры апісваемым спосабе дасьледваньня тканіны на пазытывах (а таксама і нэгатывах) могуць быць выяўлены самыя markdown розныя шчыльныя сьветанепранікальныя целы і што пры мэтадзе Ķепуеres побач з гэтым патрэбна хіміч -

нае і мікроскопічнае дасьледаваньне аб'ектаў. Гэтая акалічнасьць не памяншае вартасьці названага мэтаду. Беручы пад увагу, што да сучаснае пары няма надзейных спосабаў, якія-б з безумоўнасьцю давалі магчымасьць распазнаць порах у адзеньні, пры нашым дасьледваньні мы павінны адначасова ўжываць розныя спосабы, наколькі дазваляюць нам гэта характар і разьмеры дасьледваемых аб'ектаў. У гэтым сэнсе спосаб, запрапанаваны Кепуеres можа быць з вялікаю карысьцю ўжыты, як адзін з папярэдніх мэтадаў дасьледваньня.

Яшчэ раз падкрэсьліваем перавагі гэтага мэтаду: ён дазваляе захаваць зусім некранутымі аб'екты дасьледваньня адначасова, у дадатных выпадках, ясна і дакладна паказваючы месцазнаходжаньне парахавых часьцінак.

У шэрагу нашых экспэртыз нам прышлося ўжыць прасьвечваньне тканін рэнтгэнаўскімі праменьнямі. Ня маючы ўласных спэцыяльных рэнтгэнаўскіх установак, мы прымушаны былі рабіць прасьвечваньне ў звычайных больнічных рэнтгэнаўскіх габінэтах. Аб'екты падпадалі на працягу 0,5—1 сэкунды дзеяньню мягкіх праменьняў.

Наступная здымка аб'ектаў на позытывах і аб'ектывах дала нам такія вынікі: пры прасьвечваньні жосткімі праменьнямі на працягу 1 сэкунды як у дасьледваемых аб'ектах, так і ў кантрольных экспэрымэнтальных стрэлах, дзе ў тканіне заведама былі ўнетранымі парахавыя часьцінкі, мы, як правіла, атрымалі адмоўныя вынікі. Прасьвечваючы аб'екты пры параўнальнай экспэртызе мягкімі праменьнямі ў прамежак часу меншы сэкунды ў паасобных выпадках навакол кулявых адтулін на тканінах мы мелі магчымасьць наглядаць няясна выяўленыя цёмныя кропкі (на позытывах), якія паказваюць прысутнасьць на тканіне нейкіх чужых часьцінак. Ня маючы пад рукамі дакладна выпрацаванае мэтодыкі прасьвечваньня тканін, прыходзіццаісьці вобмацкам, вар'іруючы дзеяньне праменьняў, шырока скарыстоўваючы мэтады параўнальнай экспэртызы.

Намі ніжэй прыводзіцца некалькі цікавых выпадкаў з нашае судова-мэдыцынскае прыктыкі, дзе з прычыны складанасьці выпадкаў і асаблівасьці пастаўленых органамі сьледзтва пытаньняў мы павінны былі ўжываць камбінаваныя мэтады дасьледваньня.

Выпадак № 1 прадстаўляе, апроч бытавое, вялікую крыміналістычную цікавасьць. У кароткіх рысах акалічнасьці выпадку прадстаўляюцца паводле матар'ялаў дазнаньня ў наступным відзе.

У начы з 9 на 10 верасьня 1929 году на сямейства Ж., якое жыве ў аднэй з невялікіх вёсак Аршанскае акругі, быў зроблены налёт, у часе якога быў стрэлам сьмярцельна паранены Ж. Яўхім і паранена Ж. Наста, апроч таго быў замах на забойства Ж. Аўдоцьці і Параскі. Уся сям'я Ж. складаецца з 5 членаў: маткі сямейства Ж. Аўдоцьці, яе роднае сястры Ж. Параскі, двух сыноў Ж. Яўхіма і Ж. Мэфода і жонкі ацошняга Ж. Насты. Паводле даных папярэдняга дазнаньня ў сям'і былі маемасныя непаразуменьні на глебе мяркуемае жаніцьбы Яўхіма і зьвязанага з гэтым падзелу маемасьці. У дзень налёту старэйшага брата, як паказваюць члены сям'і, дома не было—ён быў у аднэй з суседніх вёсак, дзе працаваў са сваёю малацілкаю. У працэсе дазнаньня з дакладнасьцю высьветліць асобу налётчыка альбо налётчыкаў было нельга. Дзеля паўнаты карціны прыводзім у вытрымках агляд мейсца здарэньня і паказаньні сьведкаў аб самым налёце.

Агляд дому: дом мае з усходняга боку двое акен, зьвернутых на вуліцу, з заходняга таксама двое акен. У паўночна-заходняй частцы дому, у куце, стаіць ложка. Пры самым дакладным аглядзе ложка і сьцен каля яго ад самага нізу аж да столю, разглядаючы ўсё да найменшых драбніц, не ўдалося выявіць адтуліны, якая-б паказала, што прабіла куля. Таксама аглядаючы ложка і сьцену каля яго не ўдалося выявіць і няма жадных адтулін ад стрэлу.

Толькі ў момант агляду Ж. Аўдоцьця дала нам нагаnаўскую кулю, якую яны быццам знайшлі пад параненым сынам Яўхімам у яго ложку. На падлозе жадных прымет крыві няма. Пры аглядзе мейсца, дзе спала Ж. Наста, г. ё. сенцаў, яе ложка і сьцен каля ложка, адтулін, якія-б сьведчылі аб праходжаньні кулі ад стрэлу, ня выяўлена. У сенцах ёсьць двое дзьвярэй: адны зьвернуты на двор, а другія на вуліцу.

Унутраны агляд сьвірану.

У паўночна-ўсходняй частцы сьвірану, у куце ёсьць ложка ад дзьвярэй на 0,5 аршына. Ад мосьціка ложка на $^{2}/_{4}$, ад паўночна-ўсходняга кута на $^{3}/_{4}$ ёсьць адтуліна, пры дасьледваньні якое на глыбіні ад паверхні краю 4-х сантымэтраў маецца куля. Па велічыне і форме можна дапусьціць, што стрэлена з рэвальвэра „Наган“. Дзьверы сьвірану моцныя, з унутры замыкаюцца жалезным засовам; адчыніць можна толькі ключом з надворнага боку. Супроць засову ёсьць адтуліна, якая служыць для адчыненьня засову. Сьвіран ад дому Ж. знаходзіцца на адлегласьці 7 саж. на поў-

дзень ад дому праз вуліцу. Цэласьць страхі сьвірану нідзе не парушана.

Грамадзянка Ж. Аўдоцьця паказала:

У самую поўнач з 9 на 10/IX-1929 г. я пачула нейкі няясны глухі стук і не зразумела ў якім мейсцы, не прыдаўшы гэтаму ніякага значэньня, бо часта наш конь ходзіць па двары і стукае; аб чым я і памятавала, прадаўжала ляжаць на ложку ў хаце. Праз нядоўгі час я пачула стук у дзьверы хаты. Я запытала: „хто гэта?“ Ледзь толькі сказала я гэта, у мяне быў зроблены стрэл падайшоўшым да майго ложку. Лежачы на другім ложку мой сын Яўхім пачуў гэты першы стрэл і закрычаў. Тады невядомец падайшоў да яго, накінуўся і стрэліў у яго. Калі ён ад майго ложку пайшоў да сына Яўхіма, я ў гэты час выбегла ў сенцы, дзе ляжала нявестка Наста, якой крыкнула: „нас страляюць“. Невядомец альбо невядомцы—адзін альбо некалькі—дакладна ня ведаю, пасьля стрэлу ў сына Яўхіма пабег да дзьвярэй у сенцы, а я—ў хату і зачыніла дзьверы ў хаце адразу на кручок, на які ў гэтую ноч мы не зачынялі, запамятавалі зачыніць. Зачыніўшы дзьверы ў хаце, я пачула стрэл у сенцах, а ў сьлед за ім крык нявесткі Насты—„ай“. Пасьля гэтага ў сьвірану таксама пачула стрэл і крык мае роднае сястры. Пасьля гэтага было ціха ўсё. Я ў хаце прадаўжала стаяць каля сьцяны прыблізна мінут 10, а потым выбегла на вуліцу праз ганак і пачала крычаць: „ратуйце“. Але на мой заклік нікога не было. Потым я пайшла ў сьвіран, пачала зваць нявестку, бо думала, што яна спалохаўшыся забегла сюды, але пачула там голас мае сястры Параскі: „мяне паранілі“. Я з ёю пайшла ў хату да сябе; усьлед за намі прыйшла і нявестка, якая, як яна сказала, сядзела на двары ў дровах. Пасьля гэтага я пайшла да грамадзяніна Кузьмы Л. і паслала за старшым сынам на хутар. Сказала яму: „пашукай там, бо ён па чарзе малоціць са сваёю малацілкаю“. А другіх паслала ў Шамава за доктарам і міліцыянэрам. Не памятую, хто раней прыехаў—мой старшы сын ці з Шамава. Хто страляў, ня ведаю, бо было вельмі цёмна, але распазнала, што быў у кажусе, босы. Паранены мой сын Яўхім гаварыў, што ён пазнаў дваіх грамадзян: 1) А. Івана і 2) Г. Панаса. У гэты час быў міліцыянэр, прыехаўшы з Шамава, і доктарша, якая перавязвала. Сама я дапушчаю, што быў Г. Панас, бо калі ён падайшоў да мяне да ложку, і я схапіла яго за руку, якая была вялікая, мяккая, і сама фігура была вялікая, у кароткім кажушку, я пазнала яго вобмацкам. Пасьля апошняга стрэлу ў сьвірану,

я па стуку чула, што пабеглі на гарод, які знаходзіцца на поўнач ад дому, куды хадзіў глядзець міліцыянэр. Потым я даведалася, што ў хату ўвайшлі невядомыя праз стрэху, якая прадрана, і ў сенцах ёсьць у столі адтуліна, праз якую і пралезьлі ў сенцы, дзе дзьверы хаты былі зачынены на кручок. У сьвірану, дзе ляжала мая сястра, дзьверы былі зачынены знутры засовам, як гаварыла апошняя, але якім чынам яе адчынілі, ня ведаю. Пасьля стрэлу ў сенцах у нявестку, зараз-жа ў той самы момант атрымаўся стрэл ў сьвірану. Страляла адна асаба, таму што атрымоўваўся адзін і той самы гук ад стрэлу і стук ад бегатні, калі ён бег ад нявесткі ў сьвіран. Сьпім мы заўсёды паасобку, таму што мы заўсёды баяліся, што нас заб'юць альбо абкрадуць. Пры стрэле ён у мяне не папаў. Добра ведаю, што было 4 стрэлы.

Грамадзянка Ж. Наста паказала:

У ночы з 9 на 10/IX-1929 г. на нашу ўсю сям'ю зроблены невядома кім узброены напад. Акалічнасьці гэтага нападу былі такія. Калі атрымаўся стрэл у хаце, я спала ў сенцах, прачнулася і ў перапалоху села на пасьцелі; падбегла мая сьвякроў гаворыць ачмурэлым голасам: „нас страляюць". Раптам падбег да мяне, схапіў мяне за руку, я яго схапіла за другую руку абедзьвюма рукамі, і ён у мяне стрэліў, апаліўшы мне пад мышкамі кофту і кашулю, і на целе ёсьць маленькая скрабіна. Як ад мяне пабегла мая сьвякроў Аўдоцьця, і ня ведаю, не запамятавала ад моцнага перапалоху. І ледзь толькі ён, невядомы, стрэліў у мяне, я непрытомна выскачыла на двор у хлеў, дзе сядзела досыць доўгі час. Куды ад мяне невядомы пабег, ня ведаю. Стрэлу ў сьвірану ня чула. У хаце чула толькі адзін стрэл, ад якога я прачнулася. Дзьверы ў сенцах, якія выходзяць на двор, былі адчынены, але я ведаю, калі мы клаліся спаць, запіралі засовам знутры. Мужа майго Мэфода не было дома—ён быў на Казечынскіх хутарох са сваёю малацілкаю, якую ён аддае ў эксплятацыю. У каго начаваў ён, ня ведаю. Працуе на паказаных хутарох прыблізна з тыдзень і часамі прыходзіць дамоў, а часамі не. Колькі менавіта было выпадкаў яго адсутнасьці з дому, сказаць затрудняюся. Хто страляў, я ня ведаю і не пазнала. Ёсьць падазрэньне на грамадзянінаТ. Апанаса і А. Івана. А на чым гэтыя падазрэньні грунтуюцца, ня ведаю. На маемаснай глебе ў нас з гэтымі грамадзянамі непаразуменьняў і супярэчаньняў ніякіх не было і няма. Дапушчаецца, што магчыма і былі паміж мальцамі, г. ё. вышэй паказаным маім дзеверам Яўхімам на глебе зайздрасьці, праз дзяўчын. Паміж

сям'ёю нашаю ніколі спрэчак не было ні за што. Пытаньне аб жаніцьбе Яўхіма ў сям'і было не сэр'ёзнае, а жартамі, і ён не хацеў жаніцца да службы ў Чырвонай Арміі. Мой муж Мэфод ніколі яму не супярэчыў супроць жаніцьбы, а тым больш я ніколі ні слова не казала аб яго жаніцьбе. У хаце ў гэтую ноч зброі ніякае не было. Стрэльбы на сьценцы не вісела і ў нас яе не было.

У габінэт экспэртызы сьледзтвам былі накірованы кофта і нацельная кашуля, зьнятыя з грамадзянкі Ж. Насты, для высьвятленьня наступных пытаньняў:

1) Ці зрабілася апаленьне на кофце і нацельнай кашулі ад стрэлу з агнястрэльнае зброі і ў паасобку рэвальвэру?

2) Калі не, то чым апалена кофта і кашуля?

3) Ці магчымы выпадкі апаленьня ў адзін час дзьвюх тканін—верхняе кофты і пад ёю нацельнае кашулі?

4) Ці зроблены адтуліны, што маюцца на кофце і кашулі, ад стрэлу з рэвальвэру?

Аб'ект № 1. Жаночая верхняя кофта цёмна-чырвонага колеру, паўшарсьцянай матэрыі ў чорную буйную клетку. Разьмеры: даўжыня ад каўнера да падолу—48 сант.— дыямэтр каўнеру—28 сант., даўжыня рукавоў ад плечавага шву па пярэдняму берагу—42 сант. Каўнер кофты адкладаны, рукавы з цёмна-чырвонымі абшлагамі; на пярэдняй староны кофты амаль каля падолу ёсьць дзве невялікія кішэні. Кофта старая, моцна паношаная. На задняй староны рукавоў на локцях відны працёртасьці ў форме авальных пабяленьняў тканіны вялічынёю ў далонь. На пярэдняй староны кофты, на мейсцы адпавядаючым леваму верхняму сэктару грудзей відны вучасткі пабляднення тканіны кофты няпраяільнае многакутнай формы разьмерамі ў найбольшых дыямэтрах 15×25,5 сант., рэзка адмежаваныя па колеру ад іншых вучасткяў кофты. На паказаным агульным фоне пабляднення відаць абкапчэньне тканіны кофты цёмнага колеру. Прыблізна ў цэнтры паказанага вучастку відны тры адтуліны, з якіх дзьве больш буйных разьмешчаны абапал шву, што злучае рукау з кофтаю, адна—некалькі ніжэй другое; унутраная з гэтых адтулін няправільна чатырохкутнай формы з разарванымі, разлахмачанымі берагамі, разьмерамі 2,2×2,3×1,2 сант.; знадворная адтуліна, што знаходзіцца беспасрэдна каля паказанага шву, да знадворку ад апошняга, з няроўнымі разарванымі, разлахмачанымі берагамі даўжынёю каля 2-х сант. Унізе ад гэтай другой адтуліны на 2,8 сант. знаходзіцца адтуліна авальна-шчылінавіднай формы з бахромчатымі бера-

гамі даўжынёю ў 1 сант., якая ідзе некалькі коса зьлева на права, зьвеху ўніз. Пры аглядзе левага рукава кофты на ўнутранай старонцы апошняга відна паласа паблядне용ньня, даходзячая да канца рукава і заходзячая на яго абшлаг. На абшлагу і канцы рукава гэта зьмяненьне колеру тканіны руда-бураватага колеру. На аднэй гарызанталі з трэцяй адтулінай на $1^{1}/_{2}$ сант. да сярэдзіны відна чацьвертая адтуліна шчылінавіднай формы, разьмешчаная гарызантальна, даўжынёю менш аднаго сант.; тканіна ў вобласьці гэтай шчыліны быццам працёртая, паношаная з рудым адценьнем. Пры аглядзе апісанага вучастку кофты з унутранага боку, у вобласьці вышэй паказаных чатырох адтулін, наглядаецца рэзкае зьмяненьне колеру тканіны кофты ў форме бура-рудага колеру плям, згрупаваных навакол 1, 2 і 4 адтулін.

Пры аглядзе адпаведных вучасткаў правай старонкі грудзей як знадворку, так і з унутранога боку, ніякіх зьмен у параўнаньні з іншымі вучасткамі кофты знойдзена не было.

Аб'ект № 2. Ніжняя нацельная жаночая кашуля з грубое саматканае згрэбнае сялянскае тканіны з кароткімі рукавамі; разьмеры—даўжыня 92 сант., папярэчнік пасярэдзіне тулава—59 сант., выраз каля шыі акружынаю 74 сант., рукавы даўжынёю—32 сант. Палатно кашулі шчыльнае, прынамсі, мала ношанае. На левай пярэдняй старонцы кашулі абапал рубца, што злучае рукаў з кашуляю, відаць вялізарны вучастак цёмны ў цэнтры і цёмна-бураваты на пэрыфэрыі, у дыямэтры па дыяганалях да 15 сант. Мейсцамі гэтая цёмная афарбоўка вучастку выражана больш інтэнсыўна. На рукаве ў вобласьці падмышкі на 4,2 сант. да надворку ад вэртыкальнага шву ёсьць коса ідучая шчылінавідная адтуліна ў тканіне кашулі ў напрамку зьлева направа, зьверху ўніз з дробна-бахромчатымі берагамі даўжынёю да 1 сант. Бахромка левага берагу адтуліны афарбована ў бура-чырвоны колер, ніжэй ад адтуліны і па бакох апошняй у беспасрэднай блізкасьці ёсьць некалькі невялічкіх бурavата-чырвоных плямак рознае формы, велічынёю ў фасоліну і менш, пры гэтым трэба адзначыць, што афарбоўка тканіны ў вобласьці большае колькасьці гэтых плям насяквае ўсю таўшчыню тканіны. Пры аглядзе апісанага вучастку з унутранога боку адзначаецца па-першае—адпаведна цёмнаму вучастку на знадворнай паверхні і на ўнутранай паверхні кашулі цёмнаватая афарбоўка з бураватым адценьнем, значна менш інтэнсыўная чымся на пярэдняй паверхні, з больш бураватым, а месцамі рудаватым адценьнем. На тэй-жа ўнутранай паверхні ў куце ад вэртыкальных і гарызантальных швоў, навакол памянёнай

адтуліны відны буравата-чырвонага колеру памаркі ў выглядзе няправільна закруглёных фігур і ў выглядзе палосак рознай велічыні. Гэтыя плямы, насычаныя матэрыяю чырвона-бурага колеру, некалькі шчыльныя пры абмацваньні і ў большай сваёй частцы наскроз насякваюць тканіну кашулі.

Над апісанымі аб‘ектамі праводзілася судова-фатаграфічнае рэнтгэнаўскае і хэмічнае дасьледваньне; апроч гэтых дасьледваньняў у мэтах параўнальнай экспэртызы былі зроблены ў паасобныя кавалкі кашулі (аб. № 2) тры экспэрымэнтальных стрэлы з рэвольвэру сыстэмы „Наган“: а) на адлегласьці 3 сант. пад простым кутом, б) на адлегласьці 5 сант. пад кутом у 45 градусаў і в) на адлегласьці 10 сант. пад кутом у 30 градусаў. Над кавалкамі кашулі пасьля стрэлу зроблены фатаграфічныя рэнтгэнаўскія і хэмічныя дасьледваньні, ідэнтычныя тым дасьледваньням, якія рабіліся над аб‘ектамі.

1) Фатаграфічнае дасьледваньне рабілася паводле спосабу Kenyeres. Кавалкі кофты, кашулі і кавалкі з экспэрымэнтальнымі стрэламі клаліся ліцавою старонкаю на сьвятлоадчувальны пласт фатаграфічнае плястынкі, падпадалі ў цёмнай камэры дзейнічаньню электрычнага сьвятла, пасьля чаго праяўляліся.

2) Былі выразаны паказаныя ў прапанове начальніка Мсьціслаўскай райміліцыі падазроныя вучасткі кофты і кашулі і над імі зроблена рэнтгэнаўскае дасьледваньне (5 міліампэр, мяккія праменьні, трыманьне 0,5-1 сэкунды). На нэгатывах з кавалку кофты і экспэрымэнтальных стрэлаў (стрэл в) навакол апісаных адтулін, відаць слаба выражаныя невялічкія кропкі, якія можна тлумачыць прысутнасьцю чужародных часьцінак.

3) Для хэмічнага дасьледваньня падазроныя вучасткі на кофце і кашулі былі апрацаваны наступным чынам:

а) з кавалкаў пры дапамозе пастукваньня вытрасаліся знаходзячыяся у іх чужародныя целы ў форме малюсенькіх крупінак і пылу, якія дасьледваліся праз лупу і пасьля гэтага хэмічна апрацоўваліся рошчынам дыфэніламіну ў моцным серначковым квасе з дабаўленьнем кропель дысцыляванае вады, пры гэтым атрымалася:

1) з 15 порцый матар‘ялу, атрыманага з кашулі, толькі адзін раз дыфэніламінавая проба дала дадатны вынік, у 14— вынік быў адмоўны;

2) з 12 дасьледваньняў матар‘ялу, атрыманага з кофты (з пярэдняй старонкі рукава) ва ўсіх выпадках дыфэніламінавая проба была рэзка дадатная;

3) у кантрольных кавалках (экспэрымэнтальныя стрэлы— а, б і в) ва ўсіх выпадках дыфэніламінавая проба дала яскрава дадатны вынік.

б) Пасьля паказанага дасьледваньня скальпелем рабілася стараннае саскробліваньне тканіны ў вобласьці адтулін і цёмнай афарбоўкі: а) на кофце, б) на кашулі і в) на кавалках з экспэрымэнтальнымі стрэламі; саскробы (пыл, вельмі малюсенькія кавалачкі, валокны тканіны) таксама апрацоўваліся рошчынам дыфэніламіну ў сернічковым квасе з наступным дабаўленьнем у кожным паасобным выпадку 1-2 кропель дыстыляванай вады. З матэрыялам, атрыманым з кофты і кавалкаў кашулі з экспэрымэнтальнымі стрэламі дыфэніламінавая рэакцыя ва ўсіх спробах дала дадатны вынік; у саскробках, атрыманых з падазронных вучасткаў кашулі, дыфэніламінавая проба дала адмоўны вынік.

в) Для кантролю падобныя хэмічныя дасьледваньні рабіліся з кавалкамі кофты і кашулі з іншых не падазронных мейсц, прычым усё дасьледваньне з гэтых мейсц (дыфэніламінавая проба) далі адмоўныя вынікі.

Уся гэтая справа ў стадыі папярэдняга сьледства прадстаўлялася вельмі заблытанаю, цёмнаю; было падазрэньне у інсцэніроўцы налёту. Даныя вышэй прыведзеных нашых дасьледваньняў далі нам магчымасьць сьцьвярджаць, што цёмная афарбоўка на тканіне кофты і кашулі зьяўляецца парахавым абкапчваньнем і тым самым дапусьціць, што гэтае абкапчваньне зрабілася ў выніку стрэлу. Выказаць сваё суджэньне аб тым, што кулявыя адтуліны, якія знаходзяцца на пярэднім баку кофты і кашулі, зроблены ў выніку стрэлу, менавіта з рэвальвэру, мы не палічылі мажлівым з прычыны адсутнасьці ў накіраваным нам па гэтай справе матэрыяле адпаведных аб'ектыўных даных.

Выпадак № 2. Вялікую рэдкасьць і цікавасьць прадстаўляе сабою ніжэй апісаны выпадак, які зьяўляецца жывою ільлюстрацыяю тых, да жалю, не малых лікам выпадкаў, калі мэдыцынская экспэртыза ў асобе выпадковых экспэртаў вядзе папярэдняе сьледзтва па фальшавым шляху і ўводзіць у аблуду суд. Прыходзіцца ў паасобных выпадках гэткіх экспэртыз проста дзівіцца таму, з якою катэгарычнасьцю і безапеляцыйнасьцю выпадковыя экспэрты даюць свае заключэньні ў вельмі складаных па свайму характару крымінальных справах. Дзіўным некалькі на першы погляд можа паказацца, што ў данай справе экспэртызу правадзіў не адзін вучастковы ўрач, а некалькі ўрачоў з раённае больніцы. У кароткіх рысах сутнасьць гэтае справы такая:

23/VIII-29 г. гр. П. Адам Полацкім акруговым судом прызнаны вінаватым у тым, што 26 мая 1928 г. ён застрэліў сваю жонку Акуліну П. і паводле арт. 214 К. К. засуджаны на 8 год зьняволеньня з суровым абмежаваньнем. Акалічнасьці забойства Акуліны наступныя: сям'я П. складаецца з асуджанага Адама, яго жонкі Акуліны, 2-х маленькіх дзяцей, пляменіцы і мужа апошняй (прымака) Прохара Д. У папярэднія забойству месяцы паміж Адамам П. і Прохарам Д. былі частыя непаразуменьні і спрэчкі на маемаснай глебе, якія павялі да падзелу маемасьці. Незадоўга да забойства сам П. Адам зьбіраўся паехаць на Днепрабуд на заработкі. Некаторыя сьведкі па гэтай справе ў судовым паседжаньні паказалі, што П. Адам меў на старане палюбоўніцу, але сам П. катэгарычна адмаўляецца ад гэтага і сьцьвярджае, што ён жыў з нябожчыцаю сваёю жынкаю ўвесь час вельмі добра, і што ніколі ў яго на старане пабочнай сувязі не было. У дзень забойства вечарам была моцная навальніца і залева. У гэты дзень пляменіцы П. не было дома, а прымак Прохар Д. з вечару паехаў пасьвіць каня, такім чынам у хаце застаўся Адам П. з сваёю сям'ёю. Апытаны сьледчым на другі дзень пасьля забойства Адам П. паказаў: „Учора вечарам, зараз-жа пасьля заходу сонца, я з жонкаю і мужам пляменіцы Прохарам, якія жывуць разам са мною, павячэралі, пасьля чаго Прохар пайшоў на начлег пасьці каня, а мыляглі спаць на ложка, што каля вакна; з краю лягла жонка, ад сьцяны лягла наша 3-х гадовая дачка, а я лёг пасярод іх. Жонка ляжала на сьпіне і качала нагой калыску (з другім дзіцянём—каля 1½ год,) што вісела каля ложку, а я сам ляжаў на левым баку сьпіною да жонкі. Праз некаторы час мы заснулі, і я раптам праснуўся ад моцнага стрэлу і ў хаце пачуў моцны пах нібы ад арудзійнага стрэлу, нібы ў хаце блiснуў нейкі агонь. Адначасова я пачуў боль у сьпіне. Я пачаў пытаць жонку: „Акуліна, Акуліна“... на што яна мне нічога не адказала, а я толькі пачуў храп: „а...а...а...“; я пачаў абмацваць яе рукою; на грудзях я пачуў нешта мокрае, ліўшаеся з яе; тады я сьцяміў, што гэта кроў. У гэты момант мне здалося, што хлопнулі знадворныя дзьверы, і я страціў прытомнасьць. Ня ведаю праз колькі часу я ачнуўся, неяк зваліўся праз жонку, дабраўся да дзьвярэй, адчыніў іх за клямку, папіў у сенцах вады і выйшаў на двор. Не памятую, ці былі зачынены знадворныя дзьверы, ці не; я абы як паўзком дабраўся да хаты суседкі, якая пачала склікаць людзей. Пасьля гэтага я таксама вярнуўся паўзком да дому, лёг на другое ложка, што каля печы,

і больш устаць ня мог. Калі я выйшаў на двор, то дажджу не было і не было чутно грому. Шыбіна вакна, што каля ложку, была да гэтага здарэньня цэлая, і як яна разьбілася я ня ведаю. Прышоўшым грамадзянам я казаў, што гэта нас забіла маланка, а сапраўды, якім чынам мы аказаліся пабітымі, я ня ведаю, але, калі толькі ўрачы прызнаюць, што гэта не ад перуна, то гэта мог зрабіць толькі мой зяць (прымак) Прохар. Дзеці знайшлі ў сенцах пустую гільзу ад вінтроўкі, якая, калі яе прынясьлі да мяне, сьмярдзела нібы ад нядаўняга стрэлу. Зброі ў нас у хаце ня маецца".

Тутака-ж ня будзе пазбаўлена цікавасьці прывесьці паказаньне Прохара Д. на судовым сьледстве: „Прыехаў фэльчар, паглядзеў рану і пакачаў галавой, сказаў, што ад пяруна столькі крыві ня можа быць, ранена як кінжалам". Пачуў гэта Адам П. і сказаў: „не вазбуждайце нічога, я сам бачыў, як з трубы выскачыла сіняя палоска, ударыла мяне з жонкай і выскачыла ў вакно". Трэба адзначыць, што перш па падазрэньні ў забойстве быў затрыманы Прохар Д. і толькі праз 2-3 тыдні ён быў вызвалены і арыштаваны Адам П. Апошні толькі пасьля прысуду пачынае з настойлівасьцю высоўваць вэрсыю аб тым, што забойства зрабіў Прохар Д. Пасьля прысуду ўжо ў папраўчым доме Адам П. шмат разоў піша заявы аб сваёй бязьвіннасьці, абвяшчае галадоўку і настойвае на пераглядзе справы, ужо канкрэтна паказваючы на Прохара Д., як на вінаватага ў забойстве.

З паасобных момантаў экспэртызы і агляду рэчавых довадаў, якімі кіравалася як папярэдняя, так і судовае сьледства, належыць адзначыць наступныя:

1. З пратаколу ўскрыцьця трупу гр. Акуліны відаць: „на грудзях на роўні саскоў і па бакох суцэльная сінь да бядрыц апроч жывата. На ўзроўні 3-4 міжрабер'я з правага боку маецца авальная рана, на ўзроўні сасковае лініі з рванымі краямі, разьмерамі 3×2 сант. Зьлева на тым жа ўзроўні, на тэй-жа левай сасковай лініі, маецца такое-ж формы рана разьмерамі 1,5×1 сант. Пры правядзеньні зонду з аднае раны ў другую гэты зонд праходзіць вольна. На ўзроўні грудзіны ён пагружаецца глыбока ў грудную клетку, натрапляючыся на ляжачыя ўнутры грудное клеткі ворганы. Пры ўскрыцьці знойдзена: „верхняя частка грудзіны раздроблена і з адтуліны выпіраюць лёгкія цёмнабарвянага колеру, якія раздроблены. У вобласьці грудное клеткі маецца крывяністая вадкасьць вагаю каля 400,0. Сэрца не папсавана... У вобласьці страваходу на ўзроўні раздробленай

грудзіны маецца адтуліна разьмерам 2×1,5 сант. Пры ўскрыцьці жывата цяжарнасьці ня знойдзена".

На падставе ўскрыцьця трупу экспэрт прыходзіць да наступнай думкі: 1) сьмерць гр. П. адбылася ад агнястрэльнага раненьня, якое выклікала пашкоджаньне важнейшых для жыцьця органаў; 2) сьмерць адбылася мамэнтальна; 3) труп знаходзіўся ў момант стрэлу ў ляжачым на сьпіне палажэньні; 4) стрэл быў зроблены на адлегласьці прыблізна каля 2 мэтраў, з адрэзу вайсковага ўзору; 5) труп апроч таго, што знаходзіўся на сьпіне, меў у ложку ня просты напрамак, а некалькі касы; 6) уваходнаю адтулінаю параненьня трэба лічыць параненьне з правага боку, а выходнаю — з левага.

II. З агляду гр. П. Адама ўрачамі-экспэртамі за 17/VI-1928 г. відаць: „у вобласьці верхняе траціны правае лапаткі маецца скураная рана авальнай формы з роўнымі краямі велічынёю ў дыямэтры 1×³/₄ сант., рана пакрыта грануляцыямі; у верхнім куце раны і вышэй пад скураю пад пальцам адчуваецца невялікае зацьвярдзеньне велічынёю ў фасоліну, пры пальпацыі рухомая; пры разрэзе пасьля інэкцыі новакаіну зацьвярдзеньне выявілася рубцоваю тканінаю". Урачы-экспэрты на падставе дасьледваньня гр. П. Адама прыходзяць да наступнае думкі: 1) рана зроблена халоднаю зброяю (востраю); даўнасьць нанясеньня раны 2-3 тыдні; 2) рубец утварыўся за кошт асэптычнага зажываньня раны; 3) рана магла быць зроблена як іншаю асобаю, так і ім самім".

Пры аглядзе гр. П. Адама ўрачом Г. за 23/VIII-1928 г. відаць, што: „выяўленая ў вобласьці правае лапаткі скураная павярхоўная рана была зроблена цьвёрдым завостраным предметам альбо іншаю асобаю, альбо ім самім".

У судовым паседжаньні выкліканы экспэрт д-р Г. даў наступнае заключэньне: „Пры аглядзе г-на П. я знайшоў у вобласьці правае лапаткі невялікую ўжо зажыўшую рану, каля якой было зацьвярдзеньне; пры разрэзе мною гэтага зацьвярдзеньня было выяўлена, што раней на гэтым мейсцы была балячка—фуркунул, які пазьней быў цьвёрдым прадметам узбуджан. Калі б папала куля, то яна б прайшла значна глыбей. Пры жаданьні можна самому зрабіць параненьне сьпіны, тым больш, што П.—цясьляр і мае розныя струманты. Пры аглядзе падвіноўны нам казаў, што куля забіла яго жонку і параніла яго самога, але пры разглядзе пляну хаты мы прыйшлі да такога заключэньня, што калі-б куля біла з вакна, то яна пашла-б па іншаму напрамку. Рана па свайму характару мела від скрабіны.

З даведкі № 180 загадчыка больніцы Полацкага Папраўчага Дому за 5/IX-1929 г. відаць, што: „П. Адам мае чужароднае цела, якое добра прамацваецца каля дужкава-плечавага суставу, навобмацак падобнае да кулі“.

З адносіны № 187 начальніка Полацкага Папр. Дому відаць, што „16/IX-1929 г. у П. Адама апэрацыйным шляхам вынута куля з верхняй часткі левага пляча“.

З паказаньняў сьведкі лекпома Васілеўскага, які рабіў першую дапамогу П. Адаму, відаць, што ў П. мелася на правым плячы круглае формы разьмерам у 2-х кап. манэту другая рана.

III. З пратаколу агляду рэчавых довадаў відаць, што (агляд падушкі)—„насыпка з фабрычнае матэрыі, крэмавага колеру, з шырокімі чырвонымі палоскамі, даўжынёю 97 сант., шырынёю 73 сант., зьмяшчае ў сабе каля 3 кіл. курынага пер'я; пасярэдзіне насыпкі маецца пляма ад крыві разьмерамі 29×18 сант. і круглая дзіра разьмерамі 2×2 сант. У сярэдзіне падушкі нічога, акрамя пер'я няма“.

З агляду рэчавых довадаў відаць: 1) палатняная ніжняя кашуля разарваная сьпераду ўдоўж, правы рукаў і частка сьпіны правага боку насякнута запёкшайся крывёю, з правога боку на ўзроўні грудзей маецца адтуліна з патропанымі краямі разьмерамі 1×3 сант., на адлегласьці 12 сант. ад першае адтуліны знаходзіцца другая адтуліна каля разарванага шву пахі з парванымі краямі разьмерамі 4×3 сант.

2) Разарваная сьпераду спадніца саматканае матэрыі ў палоскі чорную, жоўтую і шэрую; 3) падсьцілка шэра-бурая са сьлядамі запёкшайся крыві; 4) сялянская мужчынская кашуля, разарваная сьпераду, уся матэрыя на сьпіне насякнута запёкшайся крывёю, але не знутры, а знадворку; на матэрыі ў вобласьці правага пляча на адлегласьці ад шву рукава 5 сант. маецца разрэз матэрыі з гладкімі краямі разьмерамі 1×2 сант.; аналёгічнае пашкоджаньне маецца ў задняй частцы рукава (правага) на адлегласьці 9 сант. ад шву рукава разьмерамі 1×3 сант. з абарванымі краямі; на адлегласьці 3 сант. маюцца побач дзьве адтуліны разьмерамі кожная 1×1 сант.“

IV. З пратаколу агляду мейсца забойства гр-кі П. Акуліны за 27/V-1928 г. відаць: „каля самага ложку на вышыні 85 сант., маецца вакно шырынёю 62 сант., вышынёю 81 сант. Правая шыбіна вакна разьбітая, у ніжняй сваёй частцы разьмерамі 16×25 сант. На падаконьніку ляжыць скалка шыбіны розьмерам 16×9 сант. Больш ніякіх скалак ні ў хаце,

ні знадворку ня маецца. Пры аглядзе падлогі, што каля вакна, знойдзена пляма крыві, і пад ложкам каля сьцяны знойдзена пустая гільза ад рускае вінтоўкі (гільза № 2)".

З пратаколу агляду мейсца здарэньня за 27/V-1928 г. відаць, што агэнт крымінальнага вышуку Л., на падставе таго, што паводле ўказаньня грамадзяніна П. Сьцяпана ў гародзе павінна знаходзіцца гільза ад вінтоўкі, якую той знайшоў у сенцах П. Адама і закінуў у гарод,—пайшоў у паказаны горад і па ўказаньні П. Сьцяпана падняў каля плоту гільзу ад патрону рускае 3-х лін. вінтоўкі, пры гэтым П. Сьцяпан дадаў, што гэта тая самая гільза, якую ён закінуў.

V. З прыведзеных вышэй актаў агляду мейсца здарэньня, рэчавых довадаў, а таксама акту ўскрыцьця трупу грамадзянкі Акуліны П. і судова-мэдыцынскага агляду зьняволенага гр-на П. Адама неабходна адзначыць, што:

1) агляд рэчавых довадаў зроблены вельмі нядбайна; з пратаколу нельга, напрыклад, зразумець, дзе знаходзяцца адтуліны на рукаве і сьпіне кашулі, зьнятае з П. Адама.

2) Вельмі цяжка зразумець, чаму пры параўнаньні параненьняў, знойдзеных на трупе грамадзянкі П. Акуліны апошнія ня сходзяцца з параненьнямі, якія знаходзяцца на кашулі тае самае грамадзянкі. Магчыма дапусьціць, што асобы, якія рабілі агляд кашулі, пераблыталі бакі яе.

3) З агляду гр-на П. Адама ўрачом у Полацкім Папраўчым Доме нельга з пэўнаю дадатнасьцю вырашыць, дзе і ў якім палажэньні знаходзілася куля ў левым плячы П. Адама. Указаньне ўрача больніцы аб тым, што „чужароднае цела прамацваецца каля дужкава-плечавога суставу"— вельмі неазначальнае і апроч таго не адпавядае існуючай анатамічнай тэрміналёгіі.

4) Неабходна таксама адзначыць, што ў справе няма акту аб характары апэрацыі, зробленай П. Адаму, альбо выпіскі з апэрацыйнае кнігі.

5) У справе няма гісторыі хваробы Лепельскае больніцы аб стане здароўя гр-на П. Адама за час знаходжаньня апошняга ў больніцы.

6) Зусім незразумела, чаму ўрач-экспэрт, зрабіўшы ўскрыцьце трупу гр. П. Акуліны, выказвае думку, што адлегласьць стрэлу павінна быць прыблізна 2 мэтры. Для падобнага сьцьверджаньня ў справе няма ніякае адпаведнае аб'ектыўнае падставы.

7) Ускрыцьце і дасьледваньне трупу зроблена вельмі павярхоўна і няпоўна. Аб напрамку і характары кулявага

каналу на трупе гр. П. Акуліны па пратаколу ўскрыцьця можна разважаць толькі ў межах праўдападобнасьці.

8) Думка ўрачоў Лепельскае больніцы аб тым, што параненьне ў вобласьці правае лапаткі гр-на П. Адама зроблена халоднаю зброяю і думка ўрача Г., выказаная ім у судовым паседжаньні аб тым, што памянёнае параненьне было зроблена цьвёрдым завостраным прадметам альбо самім П. Адамам альбо іншаю асобаю, ня маюць пад сабою аб'ектыўнай падставы.

9) Патрэбна таксама паказаць на няпоўнасьць агляду мейсца здарэньня; напрыклад, неапісана выбітая вакенная шыба і ў паасобку, ці меліся на ёй адтуліны і шчыліны, якія і колькі.

VI. Пры аглядзе гр-на П. Адама ў Габінэце Судова-Навуковае Экспэртызы пры НКЮ 6 студзеня б. г. было знойдзена: гр-н П. Адам заяўляе, што пасьля стрэлу ў тую самую ноч і за час знаходжаньня ў Лепельскай больніцы ён меў кровахарканьне, апроч гэтага, калі ён быў дома, у яго перыядычна ў харкавіне паказвалася кроў. Гр-н П. Адам заяўляе, што ён да забойства яго жонкі ня быў ніколі паранены. Пры аглядзе знойдзена: грамадзянін П. Адам ніжэй-сярэдняга росту—165 сант., правільнага моцнага складу цела, добрага кармленьня. Бачныя сьлізявыя абалонкі бледнаватыя, сьлізявая абалонка губ з сінім адценьнем. Аб'ём грудзей на ўзроўні саскоў пры паднятых руках—24 сант. Грудная клетка бочкавіднае формы. Цяглічная сыстэма разьвіта вельмі добра. Пры аглядзе грудзей адзначаецца: на сьпіне, на скуры, у вобласьці верхняй паловы правае лапаткі, бліжэй да знадворнага яе берагу, маецца шчыльны, косаідучы зьверху ўніз, зьлева на права бледна-ружаватага колеру рубец даўжынёю ў 4 сант. і шырынёю ў верхнім аддзеле 1-$1^1/_2$ сант., які няшчыльна зьнітаваны з падлеглымі цяглі-цамі. На скуры левага пляча, з надворнай паверхні, у верхняй траціны беспасрэдна пад плечавым суставам — невялікі павярхоўны скураны рубец даўжынёю да 2-х сант. лінейнае формы, у верхняй частцы белаватага колеру і ў ніжняй—чырвонаватага. На скуры абодвых плеч на знадворнай паверхні маецца па два з кожнага боку белага колеру рубцы, даўжынёю кожны да 2-х сант., авальнае формы. Пры аглядзе лапаткі адзначаецца некаторая асымэтрыя, а менавіта: ніжні кут левае лапаткі зьмешчаны больш да знадворку і ўгору; у параўнаньні з праваю левая лапатка ўцягнута ў сярэдзіну (унутр), што выяўляецца наяўнасьцю ў сяродкавым краю паглыбленьня дружынёю ў палец, якое ідзе

зьверху ўніз. Пры дасьледваньні ворганаў грудзей асаблівых зьмен ня знойдзена. З боку брушных ворганаў і нэрвовай сыстэмы ні скарг, ні зьмен пры аб'ектыўным дасьледваньні ня знойдзена.

VII. Пры рэнтгэнаўскім дасьледваньні гр-на Адама П. у цэнтральным рэнтгэнаўскім габінэце пры клініках Бел. Дз. Унівэрсытэту знойдзена: у вобласьці шыйкі правае лапаткі маецца папярэчна зьмешчаная авальнай формы з роўнымі берагамі адтуліна; побач з гэтай адтулінай на пазытывах відаць авальнай формы зацямненьне, некалькі большае вышэйпамянёнай адтуліны.

VIII. Мэталёвая куля з мэльхіоравай абалонкаю рускай 3-х лінейнай вінтоўкі, аснова кулі сплюшчаная, на самай аснове кулі наглядаецца прысутнасьць шчыльнай белай матэрыі, па выгляду і кансыстэнцыі падобнае да вапны. На знадворнай абалонцы відны слаба выяўленыя сьляды надрэзаў, якія ідуць паралельна па ўздоўжніку кулі. Уся абалонка цёмна-шакаладнага колеру, мейсцамі па бакавых паверхнях кулі відны чорнага колеру палосы. Абалонка на ўсім працягу без сьлядоў разрываў (гл. здымак, фіг. № 3).

Нельга не прызнаць вельмі дзіўнаю ў гэтай справе адну акалічнасьць, менавіта: чаму зьняволены гр-н П. толькі пасьля 16 месяцаў зьняволеньня зьвярнуў увагу на тое, што у яго на левым плячы беспасрэдна пад плечавым суставам ёсьць чужароднае цела, дзеля чаго ён і зьвярнуўся за дапамогаю да ўрача мейсца зьняволеньня. Цяжка сабе ўявіць, што за паказаны пэрыяд часу куля не давала сябе адчуваць. Неабходна адзначыць, што ніякіх другіх рубцоў на целе ў вобласьці грудзей і рук нашым дасьледваньнем мы ня выявілі. Паказаныя ў пункце VI рубцы на скуры надворнае паверхні правага і левага пляча (па 2 сымэтрычна з кожнага боку) трэба лічыць па іх характару з бясспрэчнасьцю за скураныя рубцы пасьля прышчэпкі воспы. Такім чынам ёсьць два рубцы: адзін у вобласьці правае лапаткі, другі пасьляапэрацыйны на левым плячы.

Матар'ял папярэдняга і судовага сьледзтва, а таксама даныя рэнтгэнаўскага дасьледваньня даюць поўную падставу прызнаць памылковым заключэньне экспэртаў-урачоў аб тым, што рана на сьпіне ў вобласьці правай лапаткі гр-на П. зьяўляецца сімуляцыю параненьня і што яна зроблена завостраным цьвёрдым прадметам.

Вэрсыя аб самапакалечаньні ў вобласьці лапаткі з мэтаю інсцэнаваць агнястрэльнае параненьне, па нашай думцы, зьяўляецца выключна неверагоднай. А наяўнасьць авальнае

адтуліны ў самай лапатцы дае падставу думаць, што наогул параненьне сьпіны адбылося ў выніку стрэлу. Дапусьціць стрэл сабе ў сьпіну з мэтаю сімуляцыі ніякім чынам нельга. Наогул-жа, бяручы пад увагу вышэйпаказаныя даныя і прызнаючы, што ў даным выпадку быў адзін стрэл, ніяк нельга ўявіць сабе, што забойца, зрабіўшы гэты стрэл, быў паранены ад гэтага-ж стрэлу тэю самаю кулю, якая прайшла праз цела забітае грамадзянкі Акуліны П. Рэчавыя довады па справе зьнішчаны, аб чым стоіць толькі пашкадаваць, бо належнае дасьледваньне апошніх магло-б даць падставы для ўстанаўленьня адлегласьці стрэлу. Сцьвярджэньне ўрача, рабіўшага ўскрыцьце трупа аб тым, што стрэл быў зроблены на адлегласьці прыблізна 2 мэтры ня мае пад сабою ніякае аб'ектыўнае глебы. Что датычыць сьцьверджаньня таго-ж экспэрта, што ў даным выпадку меў мейсца стрэл з абрэзанае вінтоўкі (урэза), то па нашай думцы, ня гледзячы на яго апрыорнасьць, яно заслугоўвае ўвагі. Як намі ўжо было адзначана вышэй, урэзы вельмі пашыраны ў нас на вёсцы. Адна гэтая акалічнасьць з вялікаю верагоднасьцю дазваляе дапусьціць у даным выпадку стрэл з урэзу. З другога боку характар і асаблівасьці дэфармацыі кулі даюць падставы і нам далучыцца да заключэньня ўрача-обдуцэнта аб характары зброі. Ніжэй на фігуры № 3 паказваюцца ўзоры куль, атрыманых пры стрэлах з абрэзаў рознае даўжыні. Дасьледваньне некалькіх соцень такіх куль прыводзіць нас да заключэньня, што сплюшчваньне і дэфармацыя рознае ступені і формы зьяўляюцца характэрнымі для абрэзу рускае 3-х лінейнае вінтоўкі, а таксама для іншых сыстэм вінтовак, напрыклад, амэрыканскай сыстэмы Вінчэстэр, з якіх можна страляць баявымі патронамі з нашае 3-х лінейнае вінтоўкі.

В ы п а д а к 3. Няма такіх ран, нанасімых самазабойцаю самому сабе, якія-б не маглі быць сімуляваны забойцаю, але ёсьць цэлы шэраг параненьняў, якія наносіць рука забойцы і якія па іх разьмеркаваньні і іншых акалічнасьцях ніякім чынам нельга прыняць за раны, нанесеныя рукою самазабойцы самому сабе.

Гэтае клясычнае выслоўе Тэйлора асабліва часта ўспамінаецца пры аналізе судовых спраў, дзе прыходзіцца сутыкацца з агнястрэльнымі параненьнямі з кішэнявае дробнакалібэрнае зброі. Яно з асаблівай яскравасьцю падцьвярджаецца пры аналізе даных аб забойстве гр-кі Ганны Л. Справа гэтая, апроч свайго бытавога значэньня, прадстаўляе вялікую цікавасьць у судова-мэдыцінскіх адносінах, чаму я дазваляю

сабе падрабязна спыніцца на некаторых дэталях гэтае справы. Паводле матар'ялаў папярэдняга і судовага сьледзтва ў кароткіх рысах справа гэтая заключаецца ў наступным.

На працягу 2-х год, пачынаючы з 1925 г., Сяргей Н. 20 год, настойліва заляцаецца за Ганнаю Л.—18 год. За 8 месяцаў да сьмерці Ганны Л. гэтыя залёты пераходзяць да сужыцьця, прычым Ганна Л. пераяжджае на кватэру да свайго фактычнага мужа. Матар'яльнае становішча маладое пары досыць сьцясьнёнае. Сяргей Н., як вучань прафшколы, атрымоўвае 28 руб. на месяц; з гэтых грошай, як высьнена дазнаньнем, ён нічога ня траціць для Анны Л., апошняя, ня маючы сродкаў, прымушана харчавацца ў сваіх бацькоў; адносіны бацькоў Сяргея Н., так і Ганны Л. да іх фактычнага шлюбу адмоўныя. Асабовыя адносіны паміж маладымі людзьмі пакідаюць жадаць шмат лепшага; частыя непаразуменьні, якія пераходзяць у спрэчкі; неаднакраць Сяргей Н. зьбіваў сваю жонку. Адносіны пагоршваюцца ў канцы 1926 г., калі Ганна Л. зацяжарала. Сяргей Н. катэгарычна настайвае на абароце, грошай на аборт не дае і ў выніку сваркі люта зьбівае Ганну Л. Праз некалькі часу ў Ганны робіцца выкідак. Лежачы ў пасьцелі хворая ў даму сваіх бацькоў пасьля аборту Ганна Л. рашае парваць сувязь з Сяргеем. Праз кароткі час Н. пачынае прасьледваць яе, піша ёй запіскі, пагражаючы ёй забойствам, агалоскаю, называючы ў гэтых запісках яе самымі крыўднымі словамі, як прастытутка і інш. Слабавольная па натуры Ганна ізноў зыходзіцца з Сяргеем. Ізноў для Ганны пачынаюцца нярадасныя дні: грубыя выхадкі Сяргея, у пакоі якога яна начуе, папрокі з боку родных, у якіх яна абедае і праводзіць большую частку дня. Вясною 1927 г. Ганна ізноў адчувае, што яна цяжарная, аб чым дзеліцца з Сяргеем, апошні ізноў, як і ў першы раз, катэгарычна патрабуе, каб Ганна зрабіла аборт. Ганна рашуча адмаўляецца, заяўляючы, што дзіця застанецца і ў выпадку разыходжаньня з Сяргеем, яна будзе патрабаваць з яго аліманты. На гэтай глебе ўзьнікаюць частыя спрэчкі. 26 красавіка 1927 г. раніцаю пасьля сваркі паміж маладымі людзьмі пачуўся стрэл, якім Ганна Л. і была забіта. Беспасрэднымі сьведкамі разыграўшайся драмы былі Сяргей Н. і родная сястра апошняга Зося Б., якая знаходзілася ў гэты час у тым самым пакою, што аддзяляўся ад пакою Н. толькі фіранкаю. На папярэднім сьледзтве і ў салі суда Сяргей Н. вінаватым сябе не прызнае і сьцьвярджае, што Ганна Л. скончыла самагубствам у яго прысутнасьці, хаця ён, па яго словах, і ня бачыў, калі Ганна стрэліла

ў сябе, бо ў гэты момант ён ляжаў на ложку тварам да сьценкі закрыўшыся шынельлю; пасьля таго, як пачуўся стрэл, ён ускочыў і тады-ж заўважыў рэвальвэр у руцэ Ганны. Другая беспасрэдная навочня сьведка сьмерці Ганны—сястра Сяргея—Зося Б. пазьней прыцягнутая ў якасьці падвіноўнае ў пасобніцтве зробленаму Н. злачынству, паказала, што з братам Сяргеем яна жыве ў аднэй кватэры, але ў розных пакоях; у момант стрэлу яна, Зося Б., сядзела на табурэтцы ў кухні амаль шчыльна да фіранкі, якая аддзяляе пакой Сяргея ад кухні, і карміла сваіх дзяцей; у момант стрэлу яна не ўстаючы з мейсца, рукою адхінула фіранку і ўбачыла Ганну, сідзячую на куфры побач з ложкам; правая рука Ганны з рэвальвэрам апускалася ўніз; рэвальвэр выпаў з рук Ганны, і апошняя ўпала на правы бок. Прыбыўшы з карэтаю хуткае дапамогі на мейсца здарэньня, урач П. знайшоў там шмат народу; параненая Ганна ляжала на ложку і з рота ў яе выцякала крывяністая пена. Агледзіўшы яе, урач канстатаваў сьмерць і адначасна выявіў невялікую рану на левым баку грудзей. Не знайшоўшы „апёкаў“ і беручы пад увагу думку прысутных, што Ганна сама адабрала ад сябе жыцьцё, урач П. выказаўся аб самагубстве. Сьледчы накіраваў труп Ганны Л. у сэкцыйную гарадзкое больніцы для судова-мэдыцынскага ўскрыцьця. Ускрыцьце трупа зроблена на другі дзень. З тае прычыны, што вынікі агляду і ўскрыцьця трупа маюць выключнае значэньне ў гэтым працэсе, я дазволю сабе прывесьці тутака кароткія вытрымкі з акту ўскрыцьця. „На пярэднім баку грудзей з левага боку на $1^1/_2$ сант. да знадворку ад левага краю грудзіны на ўзроўні 4-га рабра маецца невялікай круглаватай формы рана, дыямэтрам каля $^3/_4$ сант., пакрытая цёмначырвонаю запёкшаюся крывёю. Краі раны цёмнага колеру, роўныя. Пасьля аддзяленьня мягкіх пакрыцьцяў пярэдняга боку грудное клеткі з левага боку ў вобласьці храстку 4-га рабра выяўлена шчылінавіднай формы рана, якая ідзе паралельна храстку і прасякае ў грудную поласьць. Раберны храсток раздроблены на адлегласьці 1 сант. ад левага краю грудзіны. На ўнутранай паверхні парэдняе сьценкі груднoе клеткі ў вобласьці вышэпамянутых ран маецца крывавыліў у форме цёмна-чырвонага колеру зьвярнуўшайся крыві велічынёю амаль у далонь. Пры аглядзе ворганаў груднoе поласьці адзначаецца: „на задняй паверхні ніжняе долі левага лёгкага у ўнутранога краю апошняга маецца няправільна авальнае формы вучастак тканкі шчыльнаватай консыстэнцыі са сьлядамі ўнутранага крывавыліву. Пасьля вылучэньня кры-

вяных згусткаў з пярэдняга срэдасьценьня на пярэдняй паверхні калясэрцавай торбачкі выяўлена шчылінавіднай формы, некалькі коса ідучая ранка, даўжынёю каля аднаго сант., заложаная крывянымі згусткамі. У поласьці калясэрцавай торбачкі знойдзена каля шклянкі цёмначырвонага колеру зьвярнуўшайся ў форме чырвоных крывяных згусткаў крыві. На заднім баку (знадворнага лістку) калясэрцавай торбачкі беспасрэдна пад мейсцам выходжаньня лёгачнай артэрыі маецца другая рана таксама шчылінавіднай формы, якая ідзе некалькі стромка, чымся першая. Пры аглядзе сэрца на пярэдняй паверхні апошняга, у аснове правага адсэрдка блізка да міжадсэрдкавай перагародкі выяўлена няправільна акруглай формы некалькі коса ідучая ранавая адтуліна ў дыямэтры каля аднаго сант. На заднім баку сэрца адпаведна ўзроўню вышэйапісанай на пярэдняй паверхні раны маецца другая ранавая адтуліна. Пры ўскрыцьці сэрца ў яго поласьцях знойдзены ў невялікай колькасьці чырвоныя крывяныя згусткі. Перагародка паміж адсэрдкамі папсавана ў верхняй сваёй частцы, папсаваны таксама сярэдні палулунны клапан лёгачнай артэрыі... Пры аглядзе хрыбетнага слупу на левым яго баку ў грудным аддзеле знойдзен вялікае ўздоўжавальнае формы асяродак крывавыліву даўжынёю каля 8 сант. На целе 4-ае грудное храбеткі зьлева маецца шчылінавідна-авальнай формы ранавая адтуліна, каля 1 сант. Пры ўскрыцьці хрыбетнага слупу выяўлена: паказаная вышэй ранавая адтуліна прасякае ў хрыбетны канал, прычым на гэтым мейсцы сьпінныя мазгі разбураны і матэрыя іх перамешана з крывёю. На правым баку тае-ж 4-ае храбеткі ў осьцістага адростку апошняга маецца другая (выходная) шчылінавідай формы ранавая адтуліна; у зьвязках осьцістых адросткаў 4—5 грудных храбеткаў знойдзена мэталёвая авальна-ўдоўжнай формы некалькі сплюшчаная куля рэвольвэру сыстэмы „Браўнінг". Гэтыя анатамічныя знахадкі даюць магчымасьць заключыць, што напрамак кулявага каналу—сьпераду назад, зьлева направа і некалькі зьнізу ўверх. Нябожчыца Ганна Л. была апранута ў верхнюю поўшарсьцяную сукенку жоўта-бурага колеру, у вялікую цёмна-сінюю клетку і ніжнюю белую паркалёвую кашулю. На сукенцы ў вобласьці левага боку грудзей адпаведна вышэйпамянутай ране выяўлена шчылінавіднай формы адтуліна з няроўнымі нібы разлахмачанымі краямі. Агляд гэтага вучастку сукенкі простым вокам, пры дапамозе лупы, мікраскапічнае і мікрахэмічнае дасьледваньне валокнаў тканіны, узятых з гэтага вучастку, ня выявілі ні сьлядоў апа-

леньня, ні сьлядоў абкапчваньня, ні ўнетрыўшыхся парахавых часьцінак. Улічваючы гэтыя даныя, а таксама калібар браўнінга (7,65 м/м.), экспэртыза дала заключэньне, што „ў даным выпадку стрэл быў зроблены ня менш чымся на 15 сант., а магчыма і на больш значнай адлегласьці. Для падцьвярджэньня вывадаў экспэртаў апошнімі было паднята хадайніцтва перад пракуратураю аб неабходнасьці зрабіць вопытныя стрэлы ў труп з такога-ж браўнінга і з патронаў, адабраных міліцыяю пры арышце Н. С. Стрэлы былі зроблены ў сьвежы труп, убраны ў адзеньне нябожчыцы Ганны Л. Першы стрэл зроблены на адлегласьці 2 с., другі—на адлегласьці 15 сант. Пры аглядзе адзеньня пасьля першага вопытнага стрэлу на адзеньні выяўлена досыць вялікая няправільнае формы з рванымі краямі адтуліна разьмерамі 3×1 сант.; навакол гэтае адтуліны на тканіне ясныя сьляды абкапчваньня апошняй. Рана на скуры таксама няправільна зорчатай формы з няроўнымі краямі; краі ранавае адтуліны чорнага колеру—пакрыты парахавою копацьцю; у самай ране рэзка выражана асяданьне копаці. Кулявая адтуліна на кавалку адзеньня пасьля 2-га экспэрымэнтальнага стрэлу значна меншае велічыні, адпавядаючай прыблізна калібару кулі, няправільна акруглай формы з бахромчатымі краямі. Прыметаў абкапчваньня тканіны навакол кулявае адтуліны не ўстаноўлена. Пры дасьледваньні гэтага кавалку адзеньня ў ім выяўлена ўкрапваньне паасобных дробных крупінак, як бліз кулявае адтуліны, так і па бакох на некаторай адлегласьці ад яе. Пры хэмічным дасьледваньні гэтых часьцінак мы нязьменна атрымоўвалі дадатную рэакцыю з растворам дыфэніламіна ў сярчанай кіслаце.

Пераходзячы зараз да зброі злачынства, трэба сказаць, што гэта быў браўнінг зусім спраўны, калібара 7,65 м/м.

Як вядома, на падставе шматлікіх экспэрымэнтальных стрэлаў Pupре выведзена досыць дакладная табліца для браўнінга названага калібару, якая азначае разьмер плошчы асяданьня копаці і ўнетраньня парашынак; лічым ня лішнім прывесьці яе тутака *(гл. стар. 188)*.

Pupре рабіў экспэрымэнтальныя стрэлы ў аркушы паперы, прымацаваныя на тоўстыя дошкі, прычым асноўная мэта экспэрымэнтатараў Pupре была вызначыць зоны рассейваньня парахавых часьцінак. Неабходна адзначыць, што экспэрымэнтальныя стрэлы ў паперу не прадстаўляюць сабою поўнае аналёгіі з стрэламі на тых-жа адлегласьцях у розныя тканіны. Пазьнейшыя экспэрмэнтатары (Neureiter) зусім справядліва паказваюць, што стрэлы ў паперу ня

| Уплыў полымя | Стрэл з браўнінга калібару 7,65 м/м. | | Увага |
|---|---|---|---|
| | Зарад белым порахам | | Паказана паводле Н. С. Бокарыус „Наружный осмотр трупа. 1925 г. ст. 270 |
| | 0 | | |
| Адсяданьне копаці | Ясна да 6 сант. і прыметна да 10 см. | | |
| Унетраньне парашынак | На адлегласьці (у сантымэтрах) стрэлу | Займаемая прастора, якая мерыцца радыусам у сантым. | |
| | 0—1 | 0 | |
| | 2 | 1 | |
| | 4 | 2 | |
| | 6 | 2 | |
| | 8 | 3 вельмі густа | |
| | 10 | 4 | |
| | 15 | 4 досыць густа | |
| | 20 | 4 | |
| | 30 | 4 бедна | |
| | 50 | 0 | |
| | 100 | 0 | |

маюць абсалютнае вартасьці, таму што не адбіваюць з надзейнаю паўнатою карціны стрэлу на тканіне альбо адзеньні. Мы павінны цалкам далучыцца да думкі Neureiter у тым сэнсе, што экспэрымэнтальныя стрэлы для мэтаў параўнальнае экспэртызы павінны рабіцца не ў паперу, а аналёгічную, а па магчымасьці і ў ідэнтычную тканіну, якая фігуруе ў справе. Паводле Haberda імпрэгнацыя парушынак у скуру пры стрэлах з рэвальверу сыстэмы браўнінг альбо аналёгічных равальвэраў на адлегласьці 30 сант. ад дульнага зрэзу ўжо не наглядаецца. Паводле Kipper пры стрэлах з дробнакалібарных рэвальвэраў калібарам да 7,65 м/м. на адлегласьці 20—30 сант. бадай ці можна ўстанавіць імпрэгнацыю парушынак нават з дапамогаю хэмічных спроб. Wellensten і Kober у час Брэйераўскага працэсу ў Трыры, зрабўшыя сэрыю экспэрымэнтальных стрэлаў, прыходзяць да заключэньня, што ўнетраньне парахавых часьцінак пры стрэлах з рэвальвэру сыстэмы Браўнінг (аб'екты—скура жывёлін і кавалкі картону) больш выражана на адлегласьці 5—15 сант. ад дульнага зрэзу, і што на адлегласьці 50 сант. сьлядоў парахавое імпрэгнацыі выявіць ужо не ўдаецца.

Popp пры стрэлах у адзеньне, як правіла, знаходзіў парахавыя часьцінкі і ў межах дыстанцыі, роўнай падвойнай даўжыні дула зброі.

Грунтуючыся на вышэйпрыведзеных даных і на тэй акалічнасьці, якая зусім пэўна высьветлена судовым сьледзтвам, што нябожчыца Ганна Л. была праўшою, экспэртыза палічыла магчымым на пытаньне суда „Ці было ў даным выпадку самагубства альбо забойства?" даць адказ: „На падставе агульнага віду і паасобных уласьцівасьцяй ранавых адтулін як у адзеньні, так і ў скуры, трэба прызнаць, што стрэл быў зролены не ў упор, а на некаторай адлегласьці ня менш 15 сант., а магчыма, што і на больш значнай адлегласьці. Бяручы пад увагу напрамак кулявага каналу зьлева направа і вышэйпаказаную адлегласьць стрэлу цяжка дапусьціць, каб стрэл быў зроблены рукою Ганны Л., тым больш, што і практыка і літаратура вучаць, што самагубцы амаль без выключэньня прыстаўляюць зброю беспасрэдна да непакрытага цела альбо імі самімі агалёнага. Даныя вопытных стрэлаў, зробленых з таго-ж браўнінга патронамі, якія знаходзіліся ў тэй самай абойме, упаўне падцьвярджаюць тое, што ў даным выпадку стрэл зроблены з адлегласьці ня менш 15 сант., што, бяручы пад увагу напрамак кулявага каналу, робіць зусім непраўдападобным дапушчэньне аб тым, што стрэл зроблен рукою нябожчыцы Ганны Л.

Суд згадзіўся з заключэньнем экспэртызы і вынес Сяргею Н. абвінавальны прысуд.

Мы тутака ня можам абыйсьці моўчкі адзін факт, які меў мейсца ў перыяд сьледзтва па гэтым забойству. Паводле ініцыятывы абаронцы, які зьняў копіі ўсіх заключэньняу экспэртызы па гэтай справе (акт ускрыцьця, дасьледваньне адзеньня і інш.), падвіноўным усе гэтыя дакумэнты поштаю былі пасланы ў гор. Іркуцк загадчыку катэдры судовае мэдыцыны Іркуцкага дзяржаўнага унівэрсытэту. Зьмест лісту, пры якім былі пясланы гэтыя дакумэнты, нам невядомы; мэта пасылкі лісту ясная—атрыманьне новае экспэртызы замест ранейшай, якая была невыгодна абароне. Вылучэньне дакумэнтаў і накіраваньне іх у адрас катэдры аднаго з аддалёнейшых унівэрсытэтаў РСФСР было зроблена бяз ведаму Менскай пракуратуры. Для нас перш за ўсё дзіўна, чаму падвіноўны паводле парады абаронцы бяз ведаму пракуратуры накіраваў увесь матар'ял экспэртызы ў самы аддалёны ў СССР ад Менску Іркуцкі унівэрсытэт? Чаму не ў Маскоўскі, напрыклад, альбо ня ў Харкаўскі, якія знаходзяцца значна бліжэй ад Менску, і ў якіх на чале катэдраў судовай мэдыцыны стаяць вельмі аўтарытэтныя і паважаныя вучоныя? Чаму пасылка лісту і дакумэнтаў была зроблена ў такой таемнасьці? Яшчэ больш дзіўным

нам здаюцца як самы факт адказу заг. катэдры судовае мэдыцыны Іркуцкага унівэрсытэту, так і некаторыя пункты гэтага адказу па сутнасьці справы, а самым дзіўным нам здаецца прапанова дадатковай экспэртызы ў габінэце суд. мэдыцыны Іркуцкага унівэрсытэту.

У сваім лісьце падвіноўнаму (№ 216) д-р Грыгор'еў піша: „Самагубцы не заўсёды агаляюць цела, часта страляюць пры наяўнасьці адзеньня, таксама самагубцы націскаюць на спуск вялікім пальцам, што зьвязана з фізычнаю сілаю, бо вялікі палец мацней паказальнага і сярэдняга, а таксама з жаданьнем прыстасавацца да папсаваньня пэўнага воргану, важнага для жыцьця чалавека, у даным выпадку сэрца“.

На падцьверджаньне вышэйпрыведзенага палажэньня д-р Грыгор‘еў спасылаецца на сваю працу: „К диагностике самоубийства из огнестрельного оружия при выстреле в упор“, надрукаваную ў Іркуцкім мэдыцынскім журнале за 1926/27 год.

Мы павінны з усёю пэўнасьцю зазначыць, што жыцьцё і практыка стаіць у вялікім супярэчаньні з выказаным палажэньнем д-ра Грыгор‘ева. Наперакор гэтай думцы можна прывесьці дыямэтральна процілежную думку іншых аўтараў, якія мысьляць, што пры знаходжаньні прастрэлянага галаўнога ўбраньня пры стрэлах у голаву, а пры стрэле ў цела прастрэленымі адпаведныя вучасткі адзеньня, амаль што з верагоднасьцю можна выключыць самагубства; з другога боку, у тэй самай ступені можна выключыць няшчасны выпадак альбо наўмыснае забойства чужою рукою ў тым выпадку, калі на мейсцы, звычайна пакрытым адзеньнем, стрэл зроблены беспасрэдна ў цела. Спасыланьне Грыгор‘ева на падручнік Гофмана, Ігнатоўскага і Бокарыуса ня можа служыць на карысьць сьцьверджаньня палажэньня, выказанага ім у лісьце да падвіноўнага Сяргея Н. Пагляд, што самагубцы часта націскаюць спускавы кручок пальцам і часта страляюць праз адзеньне зьяўляецца ў выстарчальнай ступені парадаксальным і не знаходзіць сабе падцьвярджэньня ні ў падручніках вышэйпамянутых аўтарытэтных аўтараў, ні ў работах пераважнае большасьці дасьледчыкаў па даным пытаньні. Апроч таго, як мы ўжо паказалі, галоўным момантам экспэртызы ў данай справе зьяўляецца ўстанаўленьне дыстанцыі стрэлу. Аглядам, мікраскапічным і хэмічным дасьледваньнем адзеньня прымет блізкага стрэлу выяўлена не было. Улічваючы гэтую акалічнасьць нельга сабе ўявіць,

каб такі трапны стрэл мог быць зроблены рукою самое нябожчыцы Ганны Л.

Не ўдаючыся ў палемічнае разважаньне мы ізноў лічым да рэчы прывесьці выслоўе Тэйлора: „Ёсьць цэлы шэраг агнястрэльных параненьняў, якія робіць рука забойцы і якія па іх разьмеркаваньні і іншых акалічнасьцях ніякім чынам нельга прыняць за раны, зробленыя рукою самагубцы самаму сабе“. Да такое катэгорыі параненьняў і належыць, па нашаму глыбокаму пераконаньню, параненьне, зробленае нябожчыцы Ганне Л.

Пры экспэртызе стрэла заключэньне павінна быць абгрунтавана шляхам строгага дыялектычнага аналізу. Іншага падыходу да складаных, а часамі і вельмі заблытаных асаблівасьцяй выпадку, быць ня можа. Кожная прымета, узятая ў паасобку, ня гледзячы на яе некаторы раз вiдавочную аб‘ектыўную бясспрэчнасьць, мае рэлятыўную вартасьць. Асабліва гэта павінна быць аднесена да выпадкаў атыповых і да крымінальных спраў аб агнястрэльных пашкоджаньнях, дзе даныя ў галіне рэчавых довадаў па справе грэшаць сваёю непаўнатою.

Зразумела, трэба мець на ўвазе, што не ва ўсіх выпадках самагубства самагубцы страляюцца трафарэтным тыповым спосабам. Нам вядомы выпадкі, калі самагубца, будучы праўшою, страляе леваю рукою альбо націскае спуск вялікім пальцам правае рукі. Grzywo-Dąmbrowski паміж іншым адзначае, што падобныя стрэлы могуць сустракацца ў асоб, асабліва ў жанчын, непрактыкаваных у абыходжаньні з агнястрэльнаю зброяю.

Дзеля паясьненьня выказанага намі палажэньня у якасьці аналёгіі мы дазволім сабе прывесьці ў кароткіх рысах выпадак, нядаўна (1930) апублікаваны Grzywo-Dąmbrowckim. Выпадак гэты мае вельмі вялікае падабенства з нашым выпадкам № 3, як па акалічнасьцях самое справы, так і па анатамічнай карціне пашкоджаньня органаў і напрамку кулявага каналу. Выпадак гэты датычыць жанчыны 20 год, памершай ад агнястрэльнага параненьня грудное клеткі. Акалічнасьці справы коратка заключаюцца ў наступным: маладая пара N жыла дружна; муж быў чалавекам нэрвовым, любіў насіць зброю, меў звычай вымаць з кішэні рэвальвэр, жартуючы пагражаць зброяю, нацэліўшыся ў жонку; напярэдадні сьмерці жонкі паміж супругамі адбылася спрэчка, у час якой муж пагражаў жонцы словамі: „з прыемнасьцю ўваткнуў-бы табе нож у сэрца“ і „буду абыходзіцца з табою так, што высахнеш, як нітка“. У дзень сьмерці жонкі муж вярнуўся дамоў моцна растроены

і замкнуўся ў сваім пакоі (суцольным з жонкаю). Праз некалькі часу пачуліся два стрэлы. Сьведка, сястра памершае чула, як нябошчыца пытала мужа: „у каго страляеш—у сябе альбо ў сьцену“? Калі сястра ўбегла ў пакой маладое пары, то на яе запытаньне „што ў вас тутака робіцца? — жонка ўсхвалявана сказала: „ён страляе, бяжы за кім небудзь, кліч народ альбо стражу, ён застрэліць сябе альбо мяне“. Сястра выбегла на вуліцу і пачала клікаць дапамогу; хутка вярнулася ў дом, па дарозе ў дом чула крыкі: „N забіў сваю жонку“. Родныя памершай паказалі на сьледзтве, што нябожчыца N заўсёды была жыцьцярадаснаю, і ні разу не выказвала думкі аб самагубстве; незадоуга да катастрофы строіла пляны як сьвяткаваць Сьлівэстра. Муж нябожчыцы паказаў сьледчаму, што „ў дзень катастрофы ён быў моцна растроены непрыемнымі нечаканасьцямі; таму (?) страляў у сябе ў пакоі; увайшла жонка, узяла у яго з рук зброю і выйшла ў другі пакой, зачыніўшы за сабою дзьверы; праз мінуту ён пачуў стрэл, а калі ўвайшоў, то застаў жонку лежачаю на канапе з прастрэлянымі грудзямі. Пры аглядзе мейсца здарэньня на канапе была знойдзена гільза ад патрона калібарам 7,65 м/м, а пад ложкам, якое стаіць у 3-х кроках ад канапы, знойдзена куля таго-ж калібару. Рэвальвэр сыстэмы Маўзэр калібару 7,65 м/м быў знойдзены пад сталом каля канапы. Пры аглядзе трупа было выяўлена: труп жанчыны 20 год, даўжынёю 155 сант. На лініі, што злучае грудныя саскі, на 4 сант. к унутры ад левага саску маецца кулявая адтуліна дыямэтрам каля 6 м/м; навакол раны цёмны абадок, больш шырокі зьнізу; на сьпіне над верхнім кутам левае лапаткі на 4,5 сант. вышэй яго выходная кулявая адтуліна з вывaрачанымі да надворку краямі. Пры дасьледваньні трупа ў сідзячым становішчы знойдзена, што выходная адтуліна знаходзіцца ад падлогі на 36 сант., а выходная—на 50 сант.; пры ўнутраным дасьледваньні трупа знойдзена праходнае параненьне левага адсэрдка, сярэдняе часткі верхняе долі левага лёгкага. У левай плеўральнай поласьці 1500 к. с. вадкае крыві; у калясэрцавае торбачцы блізка 50 к. с. крыві і згусткаў. Сьмерць адбылася ад унутранага крававаліву з папсаваных органаў. Не ўваходзячы у ацэнку акалічнасьцяй гэтае справы, трэба адзначыць, што стрэл на вельмі блізкай адлегласьці не выключае магчымасьці забойства. Вельмі важным прадстаўляецца ў даным выпадку напрамак кулявага каналу, што нярэдка наглядаецца пры самагубствах. Аднак, трэба тутака-ж падкрэсьліць, што напрамак кулявага каналу можа мець мейсца і пры забойстве, як гэта правільна ад-

значае Grzywo-Dąmbrowski. У часе барацьбы, у момант вырываньня адзін ад другога зброі, мог таксама адбыцца няўмысны стрэл. Такім чынам, даны прыклад можа служыць добраю ілюстрацыяю да таго палажэньня, што ня можа толькі адзін, нават аб'ектыўны і каштоўны довад зьяўляцца безумоўным довадам забойства альбо самагубства; неабходна ўлічыць усе асаблівасьці выпадку і толькі на падставе іх выводзіць тое альбо іншае заключэньне.

У нашым выпадку мы падайшлі да вырашэньня праблемы строга дыалектычным шляхам, улічыўшы ўсе моманты і асаблівасьці выпадку ад моманту сьмерці Ганны Л. да апошняга слова падсуднага, які і у апошнім слове катэгарычна адмаўляўся ад свайго ўдзелу ў забойстве. Ня гледзячы на гэта ўсе вышэйпаказаныя даныя былі для нас падставаю для сьцьверджаньня вэрсыі аб забойстве. Праз некалькі месяцаў, знаходзячыся у доме прымусовых работ, Сяргей Н. сазнаўся, што ён забіў сваю жонку.

Выпадак 4-ы. У красавіку 1929 г. габінэтам судова-мэдыцынскай экспэртызы была атрымана тэрміновая адносіна ад крымінальнага вышуку такога зьместу:

„Накіроўваю пры гэтым загадчыка крамаю К. спажывецкага таварыства гр-на Ш., які заявіў, што ў ноч з 23 на 24 сакавіка г. г. у 2 гадзіне ў момант, калі ён быў па справах службы ў краме і выходзіў па сваёй патрэбе на двор — у дзьвярах крамы у яго невядомым зломысьнікам быў зроблены стрэл, прычым паранена левая рука. Прашу агледзець гр-на Ш. і даць сваё заключэньне па наступных пытаньнях— 1) аб напрамку кулявага каналу, 2) аб палажэньні рукі ў момант стрэлу, 3) аб адлегласьці, на якой быў зроблены стрэл.

Лічу нялішнім дадаць, што за грамадзянінам Ш. па каперацыйнай краме лічыцца растрата скарбовых грошай у суме каля 600 руб. Ёсьць дапушчэньне, што гр-н Ш. сам параніў сябе з тым, каб сімуляваць аграбленьне. Разам з гэтым накіроўваецца адзеньне, у якім, як устаноўлена дазнаньнем, ён быў апрануты ў момант нанясеньня яму параненьня—1) 3 кашулі, 2) рэвальвэр сыстэмы „Наган", 3) дзьве пустых да яго гільзы, 4) рускую 3-х лінейную напалову перарэзаную кулю, невялікі кавалак волава і алавяную кулю, якая выцягнута у яго з рукі пры апэрацыі".

Цэнтр цяжкасьці данае экспэртызы заключаўся ў дасьледваньні зброі і патронаў, што ў сваю чаргу, разам з дасьледваньнем параненага, павінна даць адказ—ці маецца ў даным выпадку напад з мэтаю аграбленьня альбо сымуляцыі,

г. ё. самастрэл. Ідэнтыфікацыя гільз і куль пры стрэлах з „нармальнага“ (непапсаванага) рэвальвэру сыстэмы „Наган“ баявымі патронамі не прадстаўляе асаблівых затрудненьняў, зьяўляючыся па сутнасьці ў тыповых выпадках досыць трафарэтнаю экспэртызаю. У даным выпадку задачы экспэртызы для высненьня пастаўленых дазнаньнем пытаньняў зьяўляюцца больш складанымі па дзьвюх прычынах: а) зброя — старая, ужываная, моцна паржавеўшая і б) патроны самадзельныя. Экспэрымэнтальная стральба з прадстаўленага рэвальвэру звычайнымі баявымі патронамі не магла даць якіх небудзь каштоўных вынікаў у сэнсе параўнальнай экспэртызы, бо у якасьці рэчавых довадаў прадстаўлены асобыя патроны (гл. таб. № 3). У нашай судовай практыцы нам колькі раз прышлося спатыкацца з падобнымі патронамі. Справа ў тым, што з прычыны цяжкасьці, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях, атрымаць баявыя патроны для нагану, асобы, якія маюць гэтую зброю, вырабляюць самадзельныя патроны. У старую гільзу ад рэвальвэра сыстэмы наган насыпаюць звычайны паляўнічы порах і забіваюць кавалкі волаву альбо адрэзаную ў верхавіны кулю рускай 3-х лінейнай вінтоўкі. Неабходна тутака адзначыць, што дастаць вінтовачную кулю ў шмат якіх мясцовасьцях БССР, асабліва ў тых, дзе прайшла паласа грамадзянскай вайны альбо блізка лініі фронту імпэрыялістычнае вайны, не прадстаўляе вялікае цяжкасьці. Сярод насельніцтва захавалася як агнястрэльная зброя ў форме „абрэзаў“, так і значная колькасьць патронаў. Пры стрэле паказанымі імпровізаванымі патронамі з рэвальвэру наган прыходзіцца адзначыць, што прабіваючая дзейнасьць такое кулі малая, значна меншая звычайнае наганавае кулі; самы лёт кулі няправільны, у залежнасьці ад гэтага і ўваходныя параненьні часта маюць няправільную форму з няроўнымі краямі. Як правіла, параненьні, што наносяцца апісанымі кулямі, бываюць сьляпымі.

У разьбіраемым выпадку куля не прабіла мягкіх тканак цела, што сьведчыць аб вельмі нязначнай жывой сіле кулі. Пры стрэлах патронамі, якія набіты часткамі вінтовачных куль, наглядаецца спаўзаньне і разрыў мэльхіоравае абалонкі і, як паказвае экспэрымэнт, мы часамі можам бачыць, што алавянае ядро знаходзіцца у адным мейсцы ватнага паглынача, а яе дэфармаваная альбо разарваўшаяся абалонка ў другім. Падобнае зьявішча мы шмат разоў адзначалі пры стрэлах з абрэзаў рускай 3-х лінейнай вінтоўкі. Асабліва часта яно мае мейсца ў тых выпадках, калі ў дасьледваемым абрэзе ёсьць шарахаватасьці, ракавіны, выбаіны і іншыя

дэфэкты ў канале ствала, а таксама няроўнасьці і заусеніцы на дульным зрэзе. У падобных выпадках разрыў абалонкі кулі зьяўляецца амаль правілам, а ў некаторых выпадках можна адзначыць і разрыў алавянага ядра кулі. Гэтую асаблівасьць, па нашай думцы, трэба заўсёды мець на ўвазе пры аналізе крымінальных спраў, у якіх мы бачым параненьні вінтовачнымі кулямі. Нашаму дасьледваньню ў данай справе было прадстаўлена адзеньне, у якое быў апрануты гр-н Ш. у момант стрэлу, а менавіта: а) паўшарсьцяны сьвітэр цёмна-бурага колеру, б) чорнага колеру сатынавая кашуля, якая знаходзілася пад сьвітэрам і в) бязевая нацельная кашуля белага колеру.

Пры аглядзе і дасьледваньні сьвітэра выяўлена: на левым рукаве сьвітэра на пярэдняй паверхні апошняга, на адлегласьці 7 сант. ад плечавага шва маецца ў тканіне 3 адтуліны: першая з гэтых адтулін няправільная 4-х кутнае формы з рванымі краямі разьмерамі 1,7×1,2 сант.; другая адтуліна разьмеркавана данізу і данутры ад першае, круглае формы велічынёю з невялікую гарошыну, з разлахмачанымі няроўнымі краямі; трэцяя адтуліна, разьмеркавана беспасрэдна пад першаю, авальнае формы, даўжынёю 0,9 і шырынёю 0,4 сант. На тканіне сьвітэра навакол вышэйапісаных адтулін, наглядаецца рэзка выяўлены пояс цёмнага колеру абкапчваньня тканіны, які пашыраецца галоўным чынам уніз, радыусам мейсцамі ў 2,5, мейсцамі ў 3,5 сант. Пры аглядзе фуфайкі навакол адтулін наглядаецца паблядненьне колеру тканіны ў параўнаньні з вучасткамі, разьмеркаванымі далей ад адтулін. Пры мікраскапічным дасьледваньні валокан тканіны блізка да адтулін наглядаюцца зьмены гэтых валокан, характэрныя для апаленьня тканіны.

Пры аглядзе чорнае сатынавае кашулі выяўлена: на левым рукаве на 11 сант. ніжэй ад плечавага шву на вучастку, адпавядаючым ўнутранай паверхні пляча, маецца ў тканіне кашулі няправільна круглай формы адтуліна з досыць роўнымі краямі ў дыямэтры каля 1 сант. Аглядам бязевае нацельнае кашулі ўстаноўлена: на 10 сант. ніжэй ад плечавага шву ў тканіне маецца круглаватай формы адтуліна з няроўнымі разлахмачанымі краямі ў дыямэтры каля 0,8 сант. Унутраны і надворны бакі рукава на ўсёй працяжнасьці пляча і перадплечча запэцканы цёмна-чырвонаю высахшаю крывёю. На насякнутай крывёю тканіне беспасрэдна навакол вышэйпамянутае адтуліны відаць цемны паясок афарбаваньня тканіны, якая разьмяркоўваецца кальцавідна навакол адтуліны; папярэчнік гэтага пояску да 1 сант.

Неабходна таксама адзначыць, што тканіна левага рукаву сьвітэру і сацінавае кашулі запэцканы цёмна-чырвонаю засохшаю крывёю.

Кавалак волава (гл. таб. № 3), вынуты пры апэрацыі з мягкіх тканак левага пляча гр-на Ш., па форме і разьмерах мае падабенства да самадзельных куль, адабраных прадстаўніком крымінальнага вышуку пры обшуку ў доме гр на Ш.

Пры аглядзе гр-на Ш. у габінэце экспэртызы апошні заявіў, што у яго невядомыя яму бандыты зрабілі стрэл, пасьля якога ён ўпаў, выцяўшыся галавою аб падлогу і згубіў прытомнасьць. Стрэл быў зроблены калі ён стаяў у дзьвярах крамкі, прычым, паводле заявы Ш., парог крамкі вышэй ўзроўню зямлі прыблізна на 1 аршын, такім чынам стрэл быў зроблены зьнізу. Ш. дадаткова паказаў, што лёваю рукою ён паднімаў крук дзьвярэй, і ў момант стрэлу яна была трохі прыпаднятаю. На якой адлегласьці невядомымі быў зроблены стрэл ён дакладна не памятуе, але па яго думцы стралялі на адлегласьці 1-2 крокаў. Пасьля параненьня яму была на фэльчарскім пункце накладзена павязка, пасьля чаго яго накіравалі ў хірургічную клініку ў Менск. У клініцы гр-н Ш. знаходзіўся 7 дзён; 28/III яму зроблена апэрацыя, у час якой з мягкіх тканак пляча выцягнут кавалак волава. Пры апытаньні гр-на Ш. у габінэце экспэртызы адзначаецца зьбіўчывасьць у паказаньнях, супярэчаньні самому сабе. Коракта прыводжу даныя агляду гр. Ш. — Аглядаемы сярэдняга росту, правільнага складу цела, добрага кармленьня. На левым плячы знаходзіцца марлявая павязка, пасьля зьняцьця якой адзначаецца: па ніжняму краю ўнутраное паверхні левага пляча амаль на яго сярэдзіне маецца круглаватае формы параненьне велічынёю з гарошыну. У глыбіні раны відна белавата-чырвонага колеру вадкасьць з прымесьсю гною. Скура навакол параненьня афарбована ў цёмны колер ёднай настойкі. На верхняй паверхні таго-ж пляча да нізу ад вышэйапісанай ранкі на $1^1/_2$ сант. маецца стромка ідучая рана лінейнай формы з чуць разышоўшыміся краямі даўжынёю ў 3 сант. У глыбіні раны відаць гнойна-крывяністае аддзяляемае. У тоўшчы двухгаловае цягліцы пляча абмацваецца хваравіты інфільтрат.

Вышэйпрыведзеныя даныя нашых дасьледваньняў і асабліва наяўнасьць сьлядоў апаленьня сьведчыць з бясспрэчнасьцю аб тым, што стрэл быў зроблены з вельмі блізкае адлегласьці. Напрамак, кулявага каналу, а таксама акалічнасьці, высьветленыя папярэднім дазнаньнем, даюць нам

поўную падставу прызнаць, што ў даным выпадку мы маем самастрэл і, такім чынам, досыць няўдачную інсцэніроўку нападу з мэтаю аграбленьня.

Выпадак 5-ты. Дыфэрэнцыяльная дыягностыка стрэлу з старое папсаванае зброі, якою, напрыклад, зьяўляецца вінтовачны абрэз, прадстаўляе часта вялікія цяжкасьці. Хадзячую думку аб тым, што абрэз па сваёй дзейнасьці зьяўляецца зброяю ідэнтычнаю са звычайнаю кондыцыйнаю вінтоўкаю, даўно пара здаць у архіў. На падставе нашых экспэрымэнтальных нагляданьняў і цэлага шэрагу выпадкаў з нашае судова-мэдыцынскае практыкі мы пераканаліся, што і ў дынаміцы стрэлу і ў характары цялесных пашкоджаньняў паміж абрэзам і вінтоўкай наглядаецца грунтоўная розьніца. Выпадзеньне дзейнасьці сьпіральных абрэзаў перш за ўсё спрыяе няправільнаму лёту кулі. Куля ня мае правільнага кручальнага руху, ляціць куляючыся, часта стукаючыся ў цэль плахам. Амаль як правіла пры стрэлах з абрэзаў, якія маюць дэфэкты дульнага зрэзу і каналу ствала, наглядаецца дэфармацыя куль. Гэтая дэфармацыя можа быць выражана ў большай альбо меншай ступені. Дэфармацыі куль пры стрэлах з аднаго абрэзу адрозьніваюцца адноснаю сталасьцю. Гэтая акалічнасьць дала Мацьвееву повад выказаць думку, што дэфармацыя куль у выніку іх сталасьці прадстаўляе надзвычайна падыходны спосаб для ідэнтыфікацыі абрэзу па кулях.

Трэба сказаць, што вывучэньне абрэзу мае вялікае практычнае значэньне ў судова-мэдыцынскіх адносінах. Абрэз улюбёная зброя бандытызму. Абрэз, як вядома, быў нязьменнаю зброяю ў руках кулака ў вылазках апошняга супроць калгасаў і сельскага савецкага актыву. Найчасьцей абрэз ужываецца, як гэта паказвае практыка, у мэтах забойства, але з другога боку, мы маем некалькі выпадкаў самагубства з абрэзу.

Абрэз—зброя новая, і дзеяньне абрэзу, а таксама морфолёгія пашкоджаньняў з абрэзу вывучаны далёка ня поўнасьцю.

Прапанова, выказаная Мацьвеевым — ідэнтыфікаваць абрэз па кулях, не зьяўляецца новаю. За апошнія тры гады ў габінэце судовай экспэртызы мы правялі шэраг падобных экспэртыз, шырока ўжываючы мэтодыку параўнальнай экспэртызы. У тых выпадках, асабліва з дэўгаствольнымі абрэзамі, дзе няма грубых папсаваньняў канала ствала вінтоўкі і дульнага зрэзу, ідэнтыфікацыя абрэзу можа быць зроблена з большаю дакладнасьцю.

Да жалю гэта не заўсёды можна выканаць, бо ў вялікім процанце выпадкаў мы сустракаемся з другою адзначальнаю асаблівасьцю абрэзу — з яго разрыўною дзейнасьцю. У нашай калекцыі мы маем абрэзы, пры стрэлах з якіх, як правіла, мае мейсца разрыў мэльхіоравае абалонкі кулі. Нярэдка, побач з разрывам абалонкі, мы наглядаем самыя рознастайныя дэфармацыі, а таксама разрывы алавянага ядра кулі. Як паказваюць нашы нагляданьні, разрывы абалонкі могуць адбывацца альбо адразу пасьля вылету кулі з дульнага зрэзу, альбо ў паветры да пападаньня ў цела. У паасобных выпадках абалонка спаўзае цалкам, і мы можам наглядаць два параненьні, якія маюць падобную форму.

Неабходна зьвярнуць увагу на той факт, што алавянае ядро кулі, маючае больш высокую адносную вагу, дае больш глыбокія параненьні, у той час, як мэльхіоравая абалонка альбо застравае ў паверхні цела, альбо губіцца не даляцеўшы да апошняга. У такіх выпадках, дзе ў наяўнасьці маецца толькі алавянае ядро кулі альбо толькі паасобныя яго часткі, ідэнтыфікацыя абрэзу прадстаўляецца вельмі затрудняльнаю, а часамі нават немажліваю. Нельга цалкам далучыцца да думкі, выказанае Мацьвеевым: „Гэтая акалічнасьць (разрыў абалонкі) не павінна ўтрымліваць нас ад далейшых экспэрымэнтальных стрэлаў, бо ў канцы канцоў заўсёды ўдаецца атрымаць сэрыю не разарваўшыхся куль“. Мы на падставе нашых вопытаў павінны канстатаваць, што ў шэрагу абрэзаў менавіта не заўсёды можна атрымаць цэлыя кулі. Ня трэба забываць, што пры разрыве кулі адыгрывае ролю апроч абрэзу і характар патронаў. Вялікая розьніца паміж патронам, выпушчаным нядаўна з заводу, і патронам вырабу 1914-1915 году, які захоўваўся злачынцаю закопаным у зямлю альбо гной, ня кажучы ўжо аб розьніцы ў складзе пораху. У час нашых вопытаў мы мелі магчымасьць пераканацца ў гэтай істотнай розьніцы як на патронах рускай 3-х лінейнай вінтоўкі, так і на сталяпанцырных патронах аўстрыяцкае вінтоўкі сыстэмы Манліхэра. Ніжэй мы прыводзім выпадак, калі нам прышлося выказаць суджэньне аб падобнай разрыўнай дзейнасьці абрэзу.

13/XII-1929 г. у сэкцыйны пакой судова-мэдыцынскае экспэртызы быў дастаўлены труп гр-на Б., 30 год, для судова-мэдыцынскага агляду і ўскрыцьця. Гр. Б. — сакратар сельсавету, актывіст, быў паранены ў ноч на 10/XII стрэлам у сьпіну праз вакно. Безадкладна быў дастаўлены для апэрацыйнае дапамогі ў хірургічную клініку БДУ. Пры аглядзе ў клініцы ў Б. было дыагнасцыравана параненьне печаней

і кішэчніка. Пацярпеўшаму была зроблена апэрацыя ляпаратаміі, тампонада параненьняў печаней сальнікам і накладаньне швоў на папярэчна-абадочную кішку. Пры дасьледваньні печаней ў час апэрацыі праходная рана печаней выяўлена—уваходная адтуліна на ніжняй паверхні ў задняга краю, выходная адтуліна на самай пукатай паверхні зорчатай формы. Colon transversum паранена ў мейсцы прымацаваньня вялікага сальніка. З прычыны цяжкога стану пацярпеўшага ад далейшага апэрацыйнага ўмяшаньня ўстрымаліся. Брушная рана зашыта паслойна. Агульны стан хворага хутка пагаршаўся. 11/XII хворы загінуў пры зьявішчах упаду сэрдэчнае дзейнасьці. Перад судова-мэдыцынскім аглядам было зроблена рэнтгэнаўскае дасьледваньне грудзей і верхняе палавіны жывата. На рэнтгэнаўскіх здымках у паказаных вобласьцях трупа чужародных цел ня выяўлена.

Прыводзім вытрымкі найбольш важных аддзелаў акту судова-мэдыцынскага дасьледваньня трупу (акт № 706—227).

Знадворны агляд. Труп мужчыны трохі вышэй сярэдняга росту, правільнага моцнага складу цела, здавальняючага кармленьня. На жываце знаходзіцца марлевая павязка. Трупнае адубеньне выяўлена рэзка. На задняй старонцы трупу разьліты сінявата-барвяныя трупныя плямы. У правай паясьнічнай вобласьці на роўню 2-3 паясьнічных хрыбетак, на $3^1/_2$ сант. да надворку ад сярэдняй лініі, маецца ранавая адтуліна, няправільнай 3-х кутнай формы, з няроўнымі дробназубчатымі берагамі, даўжынёю 0,7 сант. Скура навакол раны мае цёмна-чырвоную афарбоўку ў форме кола, прычым з унутранога боку адтуліны гэтае кола шырынёю да 1 сант., а з другіх бакоў—2—4 мілім. Пасьля зьняцьця павязкі з жывата выясьняецца:—Скура ў ніжняй палове жывата з гразназеленаватым адценьнем. На жываце маецца апэрацыйны разрэз па сярэдняй лініі ад мечавіднага адростку да пупка, даўжынёй 17 сант.; гэты разрэз цягнецца справа амаль пад простым кутам, даўжыня папярэдняга разрэзу 14 сант. Паказаныя разрэзы зашыты часткова мэталёвымі скобкамі, часткова швамі. У верхні аддзел стромкага разрэзу ўстаўлены марлявы тампон, насякнуты цёмна-чырвонаю крывёю.

Унутраны агляд. Пасьля зьняцьця мяккіх пакрыцьцяў чэрапу, пашкоджаньняў апошніх, а таксама касьцей сводаў чэрапу ня знойдзена. Косьці чэрапу памернае таўшчыні. Цьвердная мазгавая абалонка вельмі паўнакроўная. Мяккая мазгавая абалонка таксама паўнакроўная і мейсцамі мутнаватая. Мазгавая матэрыя мяккаватай консыстэнцыі; на разрэзах мазгоў відны шматлікія цёмна-чырвоныя кропкі, якія

лёгка замываюцца вадою. Косьці асновы чэрапу без відочных зьмен і пашкоджаньняў. Пры адпрэпароўцы мяккіх тканін грудзей з правага боку ў 7-м міжрэберры, трохі да знадворку ад сасковае лініі, у тоўшчы цягліц, знойдзен асяродак крывавыліву няправільна авальнай формы, разьмерамі 2-х$\times$1$^{1}/_{2}$ с. Тутака ў гэтым вучастку цягліц знойдзена чужароднае цела, якое пры аглядзе аказалася кавалкам волава цыліндрычнай формы, разьмерамі 1,1 сант. даўжынёю і 0,6 сант. таўшчынёю. Пры ўскрыцьці поласьці роту у апошняй знойдзена шмат буравата-шэрай сьлізі. Язык густа абкладзены, з бураватым адценьнем. Міндалкавыя залозы невялічкіх разьмераў, на разрэзах іх відны дробныя асяродкі жоўта-белага гною. Сьлізьніца глоткі і страваходу цёмна-чырвонага колеру, рыхлая. У прасьвеце гэтых органаў шмат шэра-бурай сьлізевіднай вадкасьці і адзін рабак. Шчытковая залоза значна павялічана у аб'еме, шчыльнай кансыстэнцыі, на разрэзах жоўта-буравата колеру, багатая калёідам. Вілаватая залоза цалкам замешчана тлушчавым целам. Абодвы лёгкія вольныя. У правай плеўральнай поласьці да 600 куб. сант. цёмна-чырвонай вадкай крыві. У левай плеўральнай поласьці 3 сталовых лыжкі жаўтаватай сярознай крыху крывяністай вадкасьці. Тканка лёгкіх на разрэзах малакроўная; на ніжняй паверхні правага лёгкага знойдзена шчылінавідна-авальнай формы неглыбокае параненьне лёгачнай тканкі, разьмерамі 1,8$\times$1,5 сант. Левае лёгкае без пашкоджаньняў. У насэрцавай торбачцы 2 сталовых лыжкі жаўтаватай сярознай вадкасьці. Сэрца роўна з правым кулаком трупа. У сэрца-камерах у нязначнай колькасьці чырвоныя і белыя крывяныя згусткі. Клапаны сэрца без відочных зьмен. Аорта каля клапанаў 7,6 сант. Унутраная абалонка сэрца, аорты і буйных артэрый з чырвонаватым адценьнем. Пры аглядзе дыяфрагмы ў правай палове апошняй знойдзена праходнае параненьне шчылінавіднай формы, даўжынёю 1,4 сант., якое ідзе ззаду наперад і трохі да знадворку. Брушная поласьць зьмяшчае да 800 куб. сант. цёмна-чырвонае крыві. Брухавіна мутная, асабліва ў правай палове жывата. Паміж петлямі тонкіх кішок і часткова ў малым лагве ў нязначнай колькасьці брудная густая жоўта-бурая маса, якая мае выгляд і пах вадкага калу. Страўнічна-кішэчны тракт узьдзьмуты газамі. Сьлізьніца страўніку бледна-шэрага колеру, рыхлая, складчатасьць яе выяўлена дрэнна. У тонкіх кішкох памерная колькасьць жоўта-буравата колеру вадкай масы. Сьлізьніца тонкіх кішок без асаблівых зьмен. Пры аглядзе і ўскрыцьці тоўстых кішок на папярэчна-абадочнай амаль у самага пераходу ўвасходзячай кішкі ў абадочную (flexura

colica dextra) знойдзена стромка ідучая ранка даўжынёю 2 сант., зашытая наглуха швамі. У таўстых кішках палувадкія брудна-бурыя калавыя масы. На верхняй паверхні печаней у правай палове апошніх маецца ўшытая чапцом і кэтгутавым швом рванага тыпу параненьне, якое ідзе сьпераду назад, даўжынёю да $2^1/_2$ сант. На ніжняй паверхні тае правае долі печаней маецца другая рана няправільна-рванае формы, разьмерамі некалькі меншымі за першую. Ранка гэтая адчынена, швы вылезьлі. Пры аглядзе правай ныркі відаць вялікі крывавыліў у ваколанырачнай каморніцы. На ніжняй палове ныркі—рванае параненьне з разбуранымі берагамі. Рана мае касы напрамак, прычым ніжні полюс ныркі раздроблены на дзьве няроўныя часткі. Даўжыня раны—3,4 сант.

Куля, вынутая з трупа гр. Б., была дасьледвана намі да яе перадачы прадстаўніку сьледзтва (гл. таб. № 3). Перад экспэртызаю было пастаўлена пытаньне аб зброі. Маючы на ўвазе разрыўную дзейнасьць абрэзу, мы ўжо апрыорна можам дапусьціць, што ў даным выпадку меў мейсца стрэл з абрэзу звычайным баявым патронам. У выніку разрыву абалонка спаўзла поўнасьцю і, як гэта часамі наглядаецца ў практыцы, адляцела ў бок і загубілася на мейсцы здарэньня. Адсутнасьць у трупе абалонкі кулі такім чынам ня можа сьведчыць супроць магчымасьці стрэлу з абрэзу. Побач на гэтай-жа табліцы № 3 мы далучаем здымак з аднаго з нашых экспэрымэнтаў, дзе быў зроблены стрэл у сьпіну трупа з каротка-ствольнага абрэзу рускае 3-х лінейнае вінтоўкі. Як відаць на здымку, абалонка спаўзла поўнасьцю, утварыўшы дзівосную фігуру. Гэтая абалонка была знойдзена пад трупам, у той час, як дэфармаванае алавянае ядро выяўлена у брушной поласьці. Такія прыклады мы мелі і пры нашых экспэрымэнтальных стрэлах у паглынальнікі. У той час, як абалонка застравае ў ваце пярэдняе часткі паглынальніка, алавянае ядро звычайна знаходзіцца ў самым канцы паглынальніка альбо нават прабівае апошні. Што датычыць магчымасьці стрэлу з нагану, то такую магчымасьць, як гэта паказвае нам выпадак № 4, поўнасьцю адкінуць нельга, але яна прадстаўляецца менш праўдападобнаю — таму, што спаўзаньне абалонкі і разрыў кулі пры стрэле з спраўнага нагана бывае значна радзей. Аднак трэба дапусьціць, што пры стрэлах саманабіўнымі патронамі гэтакае растрэскваньне абалонкі і разрыў набою можа мець мейсца.

